НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут гісторыі

Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт
імя Максіма Танка

І. Л. Калечыц

# ЭПІГРАФІКА
## Беларусі X–XIV стст.


Мінск
«Беларуская навука»
2011

УДК 930.2:003.71(476)«9/13»
ББК 63.2(4Беи)
К17

Рэцэнзенты:

доктар гістарычных навук Г. Я. Галенчанка,
кандыдат гістарычных навук А. І. Груша,
кандыдат гістарычных навук А. І. Сянькевіч

**Калечыц, І. Л.**

Эпіграфіка Беларусі X–XIV стст. / І. Л. Калечыц. – Мінск : Беларус.
К17 навука, 2011. – 271 с.

ISBN 978-985-08-1327-5.

У манаграфіі падрабязна вывучаюцца эпіграфічныя помнікі X–XIV стст., знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, а таксама ўпершыню публікуюцца алтарныя графіці XII–XVII стст. Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка. Помнікі эпіграфікі разглядаюцца як важныя гістарычныя крыніцы, якія даюць звесткі пра пісьменства, вераванні, мову, антрапанімію тагачаснай Беларусі.

**УДК 930.2:003.71(476)«9/13»**
**ББК 63.2(4Беи)**

**ISBN 978-985-08-1327-5**

# УВОДЗІНЫ

Эпіграфічныя помнікі X–XIV стст., знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, – надзвычай цікавая і маладаследаваная старонка айчыннага крыніцазнаўства. Пісьмовыя крыніцы па гісторыі Беларусі гэтага перыяду прадстаўлены летапісамі і эпіграфічнымі помнікамі. Асноўнымі з іх з'яўляюцца летапісы, якія змяшчаюць шмат каштоўнай інфармацыі. Але эпіграфічныя помнікі ўвасабляюць унікальную фактычную інфармацыю, якая не павінна заставацца па-за межамі вывучэння.

У дадзенай манаграфіі рамкі вывучаемага перыяду абмежаваны X–XIV стст., што абумоўлена з'яўленнем першых чытабельных надпісаў на тэрыторыі Беларусі і звязана з прыняццем і распаўсюджваннем хрысціянства і кірылічнай пісьменнасці[1]. Безумоўна, існуе пэўная колькасць эпіграфічных помнікаў дахрысціянскай эпохі з нечытабельнымі надпісамі, складанасць вывучэння якіх абумоўлена адсутнасцю агульнага зводу гэтых помнікаў, іх класіфікацыі і навуковага падыходу да іх вывучэння. У выніку з'явілася вялікая колькасць псеўданавуковых спроб чытання такіх надпісаў. Першыя, бясспрэчна датуемыя і амаль бясспрэчна чытабельныя, надпісы адносяцца да X–XI стст. Верхняя мяжа даследуемага перыяду – XIV ст. – даволі ўмоўная, паколькі характарызуецца скарачэннем колькасці эпіграфічных помнікаў. Частка з іх зусім выходзіць з ужытку, што звязана са знікненнем некаторых помнікаў як відаў (амфары, прасліцы і г. д.). Вытворчасць іншых відаў помнікаў стала масавай, што, магчыма, абумовіла іх таннасць і, як вынік, знізіла каштоўнасць у вачах гаспадароў і жаданне падпісваннем адрозніць прадметы ад іншых, падобных на іх. Адной з прычын пісання на прадметах было жаданне выкарыстаць «пісьмо дзеля пісьма» як доказ пісьменнасці або практыкаванне ў ёй, а таксама для перадачы нейкіх звестак. Што немагчыма было пісаць на пергаменце з прычыны яго дарагоўлі, стала магчымым пасля з'яўлення і распаўсюджвання таннага матэрыялу – паперы. Такім чынам, адпала неабходнасць у пісанні на не прызначаных для пісьма прадметах. Эпіграфічныя помнікі,

---

[1] Шырэй за дадзеныя межы вывучаюцца кірылічныя алтарныя графіці Спаса-Праабражэнскай царквы, «разрыванне» якіх у часавай прасторы прывядзе да перарыўнасці вывучэння, страты комплекснага падыходу да іх даследавання. Таму кірылічныя графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы разглядаюцца ў храналагічных рамках XII–XVIII стст.

якія датуюцца больш познім часам, прадстаўлены прадметамі культу і побыту, надмагільнымі камянямі і пэўнай колькасцю графіці на сценах будынкаў.

Да цяперашняга часу на тэрыторыі Беларусі знойдзена больш за 150 надпісаў X–XIV стст., трэцюю частку якіх складаюць графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы. Усе яны з'яўляюцца аб'ектам даследавання эпіграфікі – дапаможнай гістарычнай і філалагічнай дысцыпліны, якая вывучае змест і формы старадаўніх надпісаў, нанесеных на рэчы (пячаткі, абразкі, прасліцы, манеты, званы, мячы, клінкі і інш.) або натуральныя ці штучныя паверхні (камяні, скалы, каменныя крыжы, сцены пабудоў і інш.)[2]. Задачы эпіграфікі звычайна абмяжоўваюцца рамкамі датавання надпісаў, аднаўлення тэксту ў выпадку частковай згубы, вызначэння сапраўднасці надпісу, сістэматызацыі ўсяго шматлікага эпіграфічнага матэрыялу[3]. Трэба адзначыць, што матэрыялы з беларускіх зямель у кантэксце даследавання эпіграфікі раней вывучаліся эпізадычна.

На наш погляд, задачы эпіграфікі патрабуюць удакладнення. Згодна з вызначэннем прадмета палеаграфіі, роднаснай эпіграфіцы дысцыпліны, якая вывучае змяненні ў графіцы літар, трэба вывучаць не толькі і не проста знакі пісьма і іх формы, а змены ў грамадстве, якія праяўляюцца ў гэтых знаках і формах[4]. Аналагічны падыход да даследавання эпіграфічных помнікаў дае магчымасць вывучэння і выкарыстання «крыніц дзеля вывучэння гісторыі», а не «крыніцазнаўства дзеля крыніцазнаўства». Эпіграфічныя помнікі трэба разглядаць не толькі як крыніцы для вывучэння пісьма або стану пісьменства, але і як крыніцы, якія адлюстроўваюць розныя аспекты гістарычных працэсаў, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі.

Складанасць даследавання эпіграфічных помнікаў заключаецца ў тым, што яны вельмі разнастайныя па сваіх памерах, матэрыяле, змесце надпісаў. Іх інфарматыўнасць не заўсёды аднолькавая, але выкарыстанне ў якасці гістарычных крыніц правамерна і апраўдана. Трэба адзначыць, што шматлікія эпіграфічныя помнікі даследаваліся як археалагічныя знаходкі або як помнікі пісьменнасці, шэраг знаходак патрабуе перагляду палажэнняў, якія традыцыйна існавалі да нашага часу, некаторыя помнікі не вывучаліся зусім.

Для вывучэння эпіграфічных помнікаў як гістарычных крыніц неабходна методыка даследавання, якая б улічвала метады даследавання помнікаў эпіграфікі, распрацаваныя раней, і сучасныя дасягненні навукі, уключала ў сябе методыку якаснай фіксацыі помніка, палеаграфічны аналіз графікі надпісаў, тэксталагічны аналіз зместу надпісаў, рэчазнаўчы аналіз прадметаў, на якія нанесены эпіграфемы. Асновы такой методыкі былі распрацаваны вучонымі-палеографамі і эпіграфістамі, але яе выкарыстоўвалі толькі для вывучэння

---

[2] Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. / Беларус. энцыкл.; рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1993. – С. 666.

[3] Медынцева, А. А. Грамотность в Древней Руси (По памятникам эпиграфики X – первой половины XIII века) / А. А. Медынцева. – М.: Наука, 1998. – С. 5.

[4] Груша, А. І. Беларуская кірылічная палеаграфія: вучэб. дапам. для студэнтаў гіст. фак. / А. І. Груша. – Мінск: БДУ, 2006. – С. 3.

адзінкавых помнікаў ці груп помнікаў як гістарычных крыніц, якія сведчаць аб стане развіцця пісьменства на пэўнай тэрыторыі. Яны амаль не выкарыстоўваліся для разгляду складаных працэсаў палітычных падзей, пытанняў сацыяльнага, эканамічнага і культурнага развіцця рэгіёна, выяўлення асаблівасцей нацыянальнага і рэлігійнага складу насельніцтва Беларусі і не разглядаліся ў параўнанні з эпіграфічнымі помнікамі з іншых усходнеславянскіх тэрыторый.

У той жа час эпіграфічныя помнікі ў комплексе з іншымі крыніцамі даюць больш аб'ектыўную карціну мінулага нашага народа. Даныя, атрыманыя ў выніку вывучэння, не заўсёды з'яўляюцца асноўнымі і вызначальнымі. У большасці выпадкаў яны дадатковыя, але з прычыны таго, што кожны эпіграфічны помнік – гэта самастойная крыніца, ён можа быць выкарыстаны для ўдакладнення і дапаўнення звестак аб развіцці беларускіх зямель у вызначаны перыяд.

Трэба адзначыць, што ў параўнанні з помнікамі з іншых усходнеславянскіх тэрыторый, эпіграфічныя помнікі X–XIV стст., знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, даследаваны вельмі слаба, а эпіграфіка Беларусі як дапаможная гістарычная дысцыпліна знаходзіцца ў зародкавым стане.

Дадзеная манаграфія з'яўляецца першай працай, у якой праводзіцца аналіз, класіфікацыя і комплекснае вывучэнне сукупнасці эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі і датуемых X–XIV стст., а таксама кірылічных алтарных графіці XII–XVIII стст. Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка. Распрацаваная методыка фіксацыі эпіграфічных помнікаў з дапамогай лічбавай фота- і відэаздымкі з наступнай камп'ютарнай апрацоўкай узводзіць вывучэнне эпіграфічных помнікаў на новы якасны ўзровень. Уведзены ў навуковы ўжытак даступныя ў наш час для даследавання кірылічныя алтарныя графіці XII–XVIII стст. Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка і некаторыя неапублікаваныя помнікі з фондаў музеяў Беларусі. Помнікі эпіграфікі, якія выяўлены на тэрыторыі Беларусі, параўноўваюцца з аналагічнымі, знойдзенымі на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Вызначаецца, як змены ў грамадскім жыцці на беларускіх землях паўплывалі на форму і змест эпіграфічных помнікаў. Дадзеная манаграфія не толькі садзейнічае пашырэнню кола крыніц, але і кладзе пачатак існаванню айчыннай эпіграфікі як дапаможнай гістарычнай дысцыпліны.

Аўтар шчыра дзякуе І. Марзалюку, Т. Бубенька, С. Тарасаву, Л. Калядзінскаму, А. Макушнікаву, Л. Дучыц, А. Мяцельскаму, А. Башкову за дазвол выкарыстання матэрыялаў у манаграфіі, а таксама ігуменні Еўдакіі, Д. Дуку, А. Грушы, М. Плавінскаму, А. Калечыц, К. Калечыц, І. Бухаўцову, супрацоўнікам Гродзенскага, Віцебскага, Пінскага, Полацкага і Мінскага нацыянальнага гістарычнага музеяў за падтрымку і дапамогу.

Асабіста аўтар дзякуе сваім родным, якія ніколі не пакідалі яе без падтрымкі.

## *Глава 1*

# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ ДАСЛЕДАВАННЯ ЭПІГРАФІЧНЫХ ПОМНІКАЎ БЕЛАРУСІ X–XIV стст.

**Пачатак вывучэння эпіграфічных помнікаў Беларусі**. Імкненне даследаваць помнікі пісьменнасці павялічылася з пачаткам развіцця гістарычнага краязнаўства. У першую чаргу ўвагу да сябе прыцягнулі неардынарныя манументальныя помнікі. Так, першымі эпіграфічнымі помнікамі, прыгаданымі ў якасці гістарычных крыніц, варта лічыць Барысавы камяні, якія апісаны М. Стрыйкоўскім у выданні «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая»[5]. Адзін з камянёў быў асабіста агледжаны М. Стрыйкоўскім, але надпіс быў перададзены ім недакладна. Да XVI ст. адносяцца звесткі аб крыжы Ефрасінні Полацкай, змешчаныя ў Ніканаўскім летапісе, дзе гаворыцца аб перамяшчэнні крыжа з Полацка ў Маскву і прыводзіцца даволі дакладная частка надпісу[6]. Менавіта Барысавы і Рагвалодаў камяні, а таксама крыж Ефрасінні Полацкай часцей за астатнія помнікі ўзгадваюцца ў літаратуры, прысвечанай усходнеславянскай эпіграфіцы.

У 1773 г. экспедыцыяй Расійскай акадэміі навук пад кіраўніцтвам акадэміка І. І. Ляпёхіна ў ліку іншых помнікаў быў апісаны дзісненскі Барысаў камень[7]. Новы ўсплёск цікавасці да эпіграфічных помнікаў пачынаецца з апублікавання ў 1797 г. надпісу на Тмутараканскім камені, знойдзеным у 1792 г. Рагвалодаў камень, звесткі аб якім таксама былі апублікаваны, на пэўны час стаў прадметам дыскусіі. Аднак першае навуковае даследаванне было прадстаўлена ў газеце «Северная почта» перапіскай Я. Ф. Канкрына з графам М. П. Румянцавым[8]. Адносна прызначэння Барысавых камянёў Я. Ф. Канкрын вельмі блізка падышоў да вывадаў сучасных вучоных. Ён даў характарыстыку мясцовасці, апісанне каменя, падрабязнае апісанне і характарыстыку надпісу, гіпотэзу аб прызначэнні каменя, гістарычны экскурс-даследаванне аб тым, хто

---

[5] Stryikowski, M. Kronika Polska, Litewska, Zmódzka I wszystkiej Rusi: in 2 t. / M. Stryikowski. – Warszawa: Nakl. Gustawa Leona Glucksberga, 1846. – T. 2. – 572 s.

[6] Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью (Полное собрание русских летописей. Том XIII). – М.: Языки рус. культуры, 2000. – С. 347.

[7] Таранович, В. П. Экспедиция академика И. И. Лепёхина в Белоруссию и Лифляндию в 1773 году / В. П. Таранович // Труды Ин-та истории науки и техники АН СССР. Сер. А. – М., 1935. – Вып. 5. – С. 558.

[8] Орлов, А. С. Библиография русских надписей XI–XV вв. / А. С. Орлов. – М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1936. – С. 41–44.

мог быць Рагвалод і заключэнне аб аўтэнтычнасці каменя[9]. Валуны – гэта помнікі, якія ўяўляюць сабой каштоўнейшыя крыніцы па вывучэнні духоўнай культуры, палеаграфіі і мастацтва ў шырокім храналагічным дыяпазоне – ад неаліту да сённяшняга дня[10], таму іх даследаванне працягвалася далей. У 1890 г. у «Белорусских древностях», у главе V «Камни с древними надписями» А. М. Семянтоўскі адзначыў старажытнасць надпісаў на камянях і пры гэтым крытычна ставіўся да каментарыя М. Стрыйкоўскага наконт мэты нанясення надпісу. На аснове даных П. І. Кепена, Я. П. Тышкевіча, М. Ф. Кусцінскага, А. П. Сапунова А. М. Семянтоўскі зрабіў спробу аналізу надпісаў на камянях (іх чытанне і прызначэнне)[11]. Е. Р. Раманаў у 1911 г. абагульніў звесткі аб Барысавых камянях, падзяліў іх па форме на два віды і паспрабаваў вызначыць мэту нанясення надпісаў[12].

Нягледзячы на даволі добрую вывучанасць, да цяперашняга часу мэта нанясення надпісаў на Барысавы камяні застаецца аб'ектам дыскусій. Гэта звязана, па-першае, з тым, што частка з камянёў знішчана і вывучэнне можа весціся толькі па наяўных зарысоўках. Па-другое, надпісы на захаваўшыхся камянях не заўсёды добра чытаюцца. Навукоўцы вылучаюць некалькі версій узнікнення надпісаў. М. Стрыйкоўскі лічыў, што надпіс высечаны ў гонар паспяховай дастаўкі з Лівоніі будаўнічага матэрыялу[13] для пабудовы храма Барыса і Глеба. Аднак гэта меркаванне не можа растлумачыць мэту нанясення надпісаў, таму што М. Стрыйкоўскаму быў вядомы толькі адзіны камень. Па меркаванні Я. Ф. Канкрына, камяні служылі знакамі ўладанняў або для барацьбы супраць язычніцтва[14], А. Плятэр і А. Кіркор лічылі, што надпісы – увекавечанне імя князя Барыса, а Я. П. Тышкевіч – што камяні з'яўляюцца памежнымі знакамі. А. М. Семянтоўскі прыйшоў да высновы, што выявы на камянях мелі ў свой час нейкае ўмоўнае значэнне, асабліва калі дапусціць адначасовасць іх напісання[15].

Е. Р. Раманаў падкрэслівае прысутнасць Барысавых камянёў у межах Полацкага княства[16]. Ён таксама падзяляе гэтыя помнікі на два віды: першы – плоскія масівы, на верхняй плошчы якіх высечаны крыжы, а вакол іх, па кра-

---

[9] Алексеев, Л. В. Археология и краеведение Белоруссии XVI – 30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев; под ред. Б. А. Рыбакова. – Минск: Беларус. навука, 1996. – С. 29–32.

[10] Дучыц, Л. У. Культавыя камяні Беларусі як гістарычная крыніца / Л. У. Дучыц // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрэсаваных археолагаў: Тэзісы дакладаў міжнар. канф., Мінск 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Беларус. асацыяцыя ахвяраў паліт. рэпрэсій; адк. рэд. В. Вяргей [і інш.]. – Минск, 1993. – С. 34.

[11] Белорусские древности: (Сведения о памятниках старины) / А. М. Сементовский. – Вып. 1. – СПб.: Типолитогр. Н. Стефанова, 1980. – С. 92–98.

[12] Романов, Е. Р. К археологии северо-западного края России / Е. Р. Романов. – Вильна: Изд-во Северо-Зап. отдела Императ. рус. географич. общества, 1911. – 18 с.

[13] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е ў IX–XIV стст. / Л. У. Дучыц. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – С. 82.

[14] Там жа.

[15] Белорусские древности… С. 98.

[16] Романов, Е. Р. К археологии… С. 2.

ях масіваў, зроблены надпісы, і другі, дзе надпісы зроблены па абодвух баках вертыкальнага стрыжня крыжа[17]. Навуковец прапануе некалькі версій прычын нанясення надпісаў на камяні. Першая звязана з распаўсюджваннем хрысціянства: надпісы наносіліся на «каменныя громады, которые своими размерами поражали воображение дикаря или, находясь в русле реки Западной Двины, причиняли... вред при плавании и вызвали к себе почти религиозное почитание»[18]. З прычыны пакланення гэтым камяням і «во избежание крупной ломки вековых народных верований, князья освящали эти камни изображением символов христианства и почитанию камней придавалось уже христианское значение»[19]. Па другой версіі мяркуецца, што «кресты и надписи делались в память пребывания в данном месте какого-либо лица – князя, вождя и т. п.»[20].

Н. Н. Варонін, які развівае думку А. П. Сапунова аб тым, што камяні перашкаджалі суднаходству і былі абясшкоджаны малітоўнымі надпісамі, мяркуе, што падпісаныя камяні – лоцманскія знакі на небяспечных месцах рачных шляхоў[21]. Паводле Б. А. Рыбакова, надпісы нанесены з мэтай барацьбы супраць язычніцтва ў дні Барысаглебскіх аграрных свят вясной 1128 г.[22], што было звязана з голадам і неўраджаем, а таксама мела на мэце ўзвышэнне імёнаў рускіх святых Барыса і Глеба, а разам з імі хацеў увекавечыць сваё імя[23] і князь Барыс. Асноўныя звесткі аб Барысавых камянях былі абагульнены ў артыкулах В. П. Тарановіча «К вопросу о лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР»[24] і Л. У. Дучыц «Барысавы камяні (гістарыягрыяфічны агляд)»[25]. У гэтых працах зроблены агляд усёй літаратуры па пытаннях даследавання Барысавых камянёў.

**Эпіграфіка ў складзе палеаграфіі. Вылучэнне эпіграфікі як дысцыпліны**. Цікавасць да кірылічнай палеаграфіі абумоўлена вывучэннем усходнеславянскіх эпіграфічных помнікаў, а менавіта Тмутараканскага каменя. У вывучэнні ўсходнеславянскай эпіграфікі назіралася некаторая дваістасць, якая была звязана з відавочным вылучэннем эпіграфічных помнікаў у асобную катэгорыю і, у той жа час, працягам іх вывучэння ў якасці палеаграфічных помнікаў. Так, у 1822 г. П. І. Кеппенам быў створаны «Список русским памятникам, служащим к составлению истории художеств и отечественной палео-

[17] Романов, Е. Р. К археологии… С. 2.

[18] Там жа.

[19] Там жа.

[20] Там жа. – С. 3.

[21] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 83.

[22] Там жа. – С. 84.

[23] Там жа.

[24] Таранович, В. П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР / В. П. Таранович // Сов. археология. – 1946. – № 8. – С. 249–260.

[25] Дучыц, Л. У. Барысавы камяні (гістарыяграфічны агляд) / Л. У. Дучыц // Вес. акад. навук БССР. Сер. грамад. навук. – 1985. – № 4. – С. 69–73.

графии»[26], куды трапілі Барысавы камяні, крыж Ефрасінні Полацкай, надпіс у Спаса-Праабражэнскай царкве г. Полацка. І. П. Сахараў выказваў думку аб вылучэнні эпіграфічных помнікаў у раздзел «археологической палеографии»[27]. І. І. Сразнеўскі ў працу «Древние памятники русского письма и языка X–XIV вв.»[28] і «Славяно-русская палеография»[29] уключыў не толькі рукапісныя помнікі, але і помнікі матэрыяльнай культуры з надпісамі, разглядаў змест надпісаў і іх графіку. Аднак усё часцей з'яўлялася думка, што надпісы на прадметах маюць свае спецыфічныя рысы і адрозніваюцца ад рукапісаў, таму не можа быць адзінай іх палеаграфіі. Гэтую думку ў пачатку XX ст. развіваў І. А. Шляпкін, які вылучыў так званую «рэчавую палеаграфію» (па сутнасці, тую ж эпіграфіку)[30]. Але працяглы час эпіграфічны матэрыял так і заставаўся толькі ілюстрацыйным[31].

Пры абмеркаванні дадзенай праблемы заслугоўваюць ўвагі падручнікі А. М. Бальшакова «Вспомогательные исторические дисциплины»[32], у якіх аўтар вылучыў эпіграфіку ў асобны раздзел, а таксама зрабіў спробу сістэматызаваць веды па эпіграфіцы і прапанаваў методыку фіксацыі эпіграфічных помнікаў.

**Вывучэнне эпіграфічных помнікаў Беларусі ў кантэксце помнікаў з усходнеславянскіх тэрыторый**. У далейшым вывучэнне эпіграфічнага матэрыялу Беларусі робіцца ў кантэксце яго разгляду на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Толькі з 1936 г. пачынаецца сістэматычнае вывучэнне помнікаў эпіграфікі А. С. Арловым. У яго працы «Библиография русских надписей»[33] былі апублікаваны і растлумачаны 303 надпісы XI–XV стст. на розных прадметах, дадзена гістарыяграфія вывучэння гэтых помнікаў, аднак без публікацыі арыгіналаў саміх помнікаў і надпісаў на іх. Некаторыя з помнікаў, такія, як крыж Ефрасінні Полацкай, надпіс-дыпінта ў Спаса-Праабражэнскай царкве г. Полацка, Барысавы камяні, знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Як паўнацэнная гістарычная крыніца даследаваліся эпіграфічныя помнікі ў працы

---

[26] Кеппен, П. И. Список русским памятникам, служащим к составлению истории художеств и отечественной палеографии / П. И. Кеппен. – М.: Изд. Ф. А. Толстого. – разд. паг.

[27] Сахаров, И. П. Записка для обозрения русских древностей / И. П. Сахаров. - [б. м.]. – 1851. – разд. паг.

[28] Срезневский, И. И. Древние памятники русского письма и языка X–XIV вв. Лекции, читанные в императорском Санкт-Петербургском университете в 1865–1880 гг. / И. И. Срезневский. – СПб.: Типогр. В. С. Балашова. – 1882. – 299 с.

[29] Срезневский, И. И. Славяно-русская палеография X–XIV вв. / И. И. Срезневский. – СПб.: Типогр. Императ. акад. наук, 1885. – 299 с.

[30] Шляпкин, И. А. Палеография: лекции, читанные в Санкт-Петербургском археологическом институте и стенографически записанные / И. А. Шляпкин. – СПб.: Изд-во гг. слушателей ин-та, 1905. – 28 с.; Шляпкин, И. А. Современные задачи изучения древнерусской вещевой и книжной письменности / И. А. Шляпкин. – [б. м.]. – 1909. – 23 с.

[31] Карский, Е. Ф. Славянская кирилловская палеография / Е. Ф. Карский. – М.: Наука, 1979. – 494 с.; Соболевский, А. И. Славяно-русская палеография / А. И. Соболевский. – СПб., 1908.

[32] Большаков, А. М. Вспомогательные исторические дисциплины / А. М. Большаков. – Тверь: Октябрь, 1923. – 244 с.; Большаков, А. М. Вспомогательные исторические дисциплины / А. М. Большаков. – Л.: Изд-во И. П. Сойкина, 1924. – 244 с.

[33] Орлов, А. С. Библиография… С. 1–239.

Б. А. Рыбакова «Ремесло Древней Руси»[34]. Павелічэнне колькасці эпіграфічнага матэрыялу дало пачатак некалькім напрамкам у вывучэнні гэтых гістарычных крыніц. Так, у 60–70-я гг. XX ст. былі апублікаваны даследаванні С. А. Высоцкага «Древнерусские надписи Софии Киевской»[35] і «Средневековые надписи Софии Киевской»[36], А. А. Мядынцавай «Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора»[37], прысвечаныя вывучэнню надпісаў-графіці на сценах кіеўскага і наўгародскага Сафійскіх храмаў. Публікуецца ўся сукупнасць надпісаў, даецца іх чытанне, робіцца палеаграфічны і гістарычны аналіз, а таксама прапануецца методыка фіксацыі графіці шляхам прарысоўкі і фотаздымкі.

Значны крок у развіцці даследавання эпіграфічных помнікаў быў зроблены Б. А. Рыбаковым, які на V Міжнародным кангрэсе славістаў вызначыў асноўныя праблемы эпіграфікі: даследаванне ранніх этапаў пісьменнасці, адмежаванне эпіграфікі ад палеаграфіі, прынцыпы датавання эпіграфічных крыніц і прывядзенне саміх крыніц у сістэму[38]. Вынікам такога падыходу з'явіўся звод «Русские датированные надписи X–XV вв.», складзены Б. А. Рыбаковым[39]. Гэты звод стаў своеасаблівай азбукай, якой да сённяшняга дня карыстаюцца пры датаванні надпісаў вучоныя. Новым словам у эпіграфіцы стала распрацаваная Б. А. Рыбаковым на аснове даследавання крыжа Ефрасінні Полацкай методыка вызначэння датавання помніка не па найноўшых ці пазнейшых прыкметах, а па тых, што маюць найбольшую колькасць аналогій[40].

**Эпіграфічныя помнікі Беларусі ў кантэксце археалагічных даследаванняў.** Павелічэнне колькасці эпіграфічных крыніц цесна звязана з планамерным археалагічным вывучэннем сярэдневяковых гарадоў супрацоўнікамі сектара археалогіі, створанага ў 1944 г. у Інстытуце гісторыі АН БССР. На працягу доўгага часу археолагамі вывучаліся лакалізацыя, тапаграфія і матэрыяльная культура старажытных гарадоў Беларусі IX–XIII стст. Праблему помнікаў пісьменнасці ў той ці іншай ступені закраналі тыя даследчыкі, якія займаліся вывучэннем сярэдневяковых гарадоў Беларусі. Прыгадванне адзінкавых эпіграфічных помнікаў часта сустракаецца ў працах, прысвечаных археалагічным даследаванням у тым ці іншым рэгіёне ці ў асобна ўзятым горадзе,

[34] Рыбаков, Б. А. Ремесло Древней Руси / Б. А. Рыбаков. – М.: 2-я типогр. изд-ва АН СССР, 1948. – 792 с.

[35] Высоцкий, С. А. Древнерусские надписи Софии Киевской / С. А. Высоцкий. – Киев: Наук. думка, 1966. – 239 с.

[36] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи Софии Киевской (по материалам граффити XI–XVII вв.) / С. А. Высоцкий. – Киев: Наук. думка, 1976. – 455 с.

[37] Медынцева, А. А. Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора XI–XVI веков / А. А. Медынцева. – М.: Наука, 1978. – 311 с.

[38] Рыбаков, Б. А. Русская эпиграфика X–XIV вв. (состояние, возможности, задачи) / Б. А. Рыбаков // История, фольклор, искусство славянских народов: докл. V междунар. съезда славистов, София, сент. 1963 г. / Акад. наук СССР, Сов. ком. славистов; ред. Б. Н. Путилов [и др.]. – М., 1963. – С. 54–55.

[39] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи XI–XIV веков / Б. А. Рыбаков. – М.: Наука, 1964. – 48 с. (САИ Е 1–44).

[40] Рыбаков, Б. А. Русская эпиграфика X–XIV вв… С. 54–55.

дзе эпіграфічныя помнікі ўпамінаюцца як знаходкі з таго ці іншага пласта ці квадрата ў агульным пераліку знаходак, або проста як знаходкі, якія адносяцца да пэўнай катэгорыі рэчаў. Часам робяцца высновы аб іх прызначэнні ці аб стане пісьменнасці ў гэтым рэгіёне. Сярод такіх прац – манаграфіі Ф. Д. Гурэвіч «Древний Новогрудок»[41], Э. М. Загарульскага «Вищинский замок XII–XIII вв.» (глава 7 «Социально-историческая характеристика поселения»)[42], гісторыка-краязнаўчы нарыс А. А. Макушнікава «Гомель с древнейших времён до конца XVIII века» (глава «В составе Киевской Руси», § 3 «Под пером летописца и лопатой археолога»)[43].

Упамінанне адзінкавых эпіграфічных помнікаў сустракаецца ў артыкулах В. Р. Тарасенкі «Древний Минск»[44], «Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г.»[45], Л. В. Аляксеева «Старажытны Друцк»[46], Т. В. Раўдзінай «Раскопки в Пинске»[47], Ф. Д. Гурэвіч, К. В. Паўлавай, Т. С. Панамаровай, Е. В. Шолахавай «Итоги работ Новогрудской экспедиции»[48], А. А. Мельнікавай, М. В. Сядовай, Г. В. Штыхава «Новые находки скандинавских рунических надписей на территории СССР»[49], Г. Ф. Салаўёвай «Радимичская экспедиция»[50].

У шматлікіх працах археолагаў эпіграфічныя знаходкі разглядаліся ў асобных главах ці параграфах, прысвечаных даследаванню пісьменства ці ўвогуле культуры ў адпаведным рэгіёне. Так, у манаграфіях П. Ф. Лысенкі «Берестье» (глава 6, § 3 «Городская культура»)[51], «Открытие Берестья» (глава «Культура Берестья»)[52], «Туровская земля» (глава 3 «Распространение письменности»)[53],

---

[41] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад – окольный город / Ф. Д. Гуревич. – Л.: Наука, 1981. – 159 с.

[42] Загорульский, Э. М. Вищинский замок XII–XIII вв. / Э. М. Загорульский. – Минск: БГУ, 2004. – 159 с.

[43] Макушников, О. А. Гомель с древнейших времён до конца XVIII века. Историко-краевед. очерк / О. А. Макушников. – Гомель: РУП «Центр науч.-техн. и делов. информ.», 2002. – 244 с.

[44] Тарасенко, В. Р. Древний Минск / В. Р. Тарасенко // Сб. ст. / Акад. наук БССР, Ин-т истории. – Минск, 1957. – Материалы по археологии БССР. – т. 1. – С. 182–257.

[45] Тарасенко, В. Р. Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г. / В. Р. Тарасенко // Сб. ст. / Акад. наук БССР, Ин-т истории; ред. Е. И. Корнейчик [и др.]. – Минск, 1957. – Материалы по археологии БССР. – Т. 1. – С. 182–257.

[46] Аляксееў, Л. В. Старажытны Друцк / Л. В. Аляксееў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1973. – № 3. – С. 16–23.

[47] Равдина, Т. В. Раскопки в Пинске / Т. В. Равдина // Сов. археология. – 1966. – № 1. – С. 285–290.

[48] Гуревич, Ф. Д. Итоги работ Новогрудской экспедиции / Ф. Д. Гуревич [и др.] // Сб. статей / АН СССР, Ин-т археологии. – М., 1971. – Археол. открытия 1970 года. – С. 311–312.

[49] Мельникова, Е. А. Новые находки скандинавских рунических надписей на территории СССР / Е. А. Мельникова, М. В. Седова, Г. В. Штыхов // Сб. науч. ст. – М., 1983. – Древнейшие государства на территории СССР. 1981. – С. 182–188.

[50] Соловьёва, Г. Ф. Радимичская экспедиция / Г. Ф. Соловьёва // Сб. статей / Академия наук СССР, Ин-т археологии. – М., 1968. – Археологические открытия 1967 года. – С. 250–251.

[51] Лысенко, П. Ф. Берестье / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1985. – С. 386–392.

[52] Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1989. – С. 149–156.

[53] Лысенко, П. Ф. Туровская земля IX–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – М., 2001. – С. 226–235.

«Древний Пинск XI–XIII вв.» (глава III «Археология», § 12 «Культура древнего Пинска»)[54], Я. Г. Звяругі «Древний Волковыск» (глава «Грамотность»)[55], «Верхнее Понеманье в IX–XIII вв.» (глава 4 «Культура и верования», § 3 «Грамотность»)[56], Г. В. Штыхава «Древний Полоцк» (глава VI «Памятники торговых и культурных связей», § 2 «Прикладное искусство, мелкая пластика, эпиграфика»)[57], Т. М. Каробушкінай «Насельніцтва Беларускага Пабужжа X–XIII стст.» (глава «Культура»)[58], Л. У. Дучыц «Браслаўскае паазер'е ў IX–XIV стст.» (глава IV «Сацыяльна-культурнае жыццё і этнічны склад насельніцтва», § 2 «Духоўная культура. Помнікі эпіграфікі») [59] асвятляліся пытанні культуры насельніцтва. Адзначым, што на падставе археалагічных знаходак з надпісамі і прылад для пісьма рабіліся высновы аб стане пісьменнасці ў дадзеных гарадах.

Агляд эпіграфічных помнікаў рабіўся таксама ў абагульняючых артыкулах, прысвечаных распаўсюджванню пісьменнасці на тэрыторыі канкрэтных княстваў, або эпіграфіі акрэсленай тэрыторыі, г. зн. сукупнасці эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на канкрэтнай тэрыторыі ці на тэрыторыі Беларусі. Да іх адносяцца «Тураўскае пісьменства» Т. М. Каробушкінай[60], «Полацкая эпіграфія X–XV стст.» С. У. Тарасава[61], «Пісьменнасць у гарадах Беларусі X–XIII стст.» Л. У. Калядзінскага[62], «Письменность Полоцка и Полоцкой земли XI–XV вв. по эпиграфическим данным» Т. В. Раждзественскай[63], «Грамотность горожан древнерусского Понеманья» Ф. Д. Гурэвіч[64].

---

[54] Лысенко, П. Ф. Древний Пинск XI–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – Минск: БелАДИ, 1997. – С. 178–183.

[55] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск (X–XIV вв.) / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1975. – С. 122–127.

[56] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в XI–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1989. – С. 188–193.

[57] Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – С. 110–117.

[58] Каробушкіна, Т. М. Насельніцтва Беларускага Пабужжа X–XIII стст. / Т. М. Каробушкіна. – Мінск: Беларус. навука, 1999. – С. 109–114.

[59] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е ў IX–XIV стст. / Л. У. Дучыц. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – С. 77–85.

[60] Каробушкіна, Т. М. Тураўскае пісьменства / Т. М. Каробушкіна // Беларус. мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 76–78.

[61] Тарасаў, С. Полацкая эпіграфія X–XV стст. / С. Тарасаў // Полацак / Беларус. культ.-асвет. цэнтр. – Кліўленд, 1993. – № 5 (25). – С. 4–11.

[62] Калядзінскі, Л. У. Пісьменнасць у гарадах Беларусі X –XIII стст. / Л. У. Калядзінскі // Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя: матэрыялы міжнар. кангрэса, Мінск, 20–21 кастр. 1998 г. / М-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь, Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; адк. рэд. У. А. Васілевіч [і інш.]. – Мінск, 1998. – С. 108–111.

[63] Рождественская, Т. В. Письменность Полоцка и Полоцкой земли XI–XV вв. по эпиграфическим данным / Т. В. Рождественская // История и археология Полоцка и Полоцкой земли: к 1125-летию Полоцка: докл. конф. / Ин-т истории АН БССР, Полоц. ист.-археол. заповедник; сост. Т. А. Джумантаева. – Полоцк, 1987. – С. 48–49.

[64] Гуревич, Ф. Д. Грамотность горожан древнерусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич // Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М., 1973. – Вып. 135: Славяно-русские древности. – С. 28–35.

Кожная знаходка з надпісам з'яўляецца рэдкай і цікавай, таму ёсць шмат артыкулаў, у якіх вывучаюцца адзінкавыя знаходкі, у тым ліку і нававыяўленыя. Так, даследаванню прасліцаў як эпіграфічных помнікаў прысвечаны артыкулы П. Ф. Лысенкі «Шиферное пряслице с надписью из Пинска»[65], «Раскопки древнего Берестья»[66], Л. У. Калядзінскага «Мар'іна праселка»[67]. Іншыя помнікі разглядаюцца ў артыкулах Т. В. Раўдзінай «Надпись на корчаге из Пинска»[68], М. В. Малеўскай «Амфора с надписью из Новогрудка»[69], Ф. Д. Гурэвіч «Каму належаў абразок-літык?»[70]. Знаходцы каменя з запісам татарскага ліку кірылічнымі літарамі прысвечаны артыкулы Г. В. Штыхава «Письмена на камне из Полоцка»[71] з характарыстыкай каменя і Б. А. Рыбакова «Татарская кириллическая надпись из Полоцка»[72] з чытаннем і тлумачэннем надпісу. Вычарпальны матэрыял пра крыж Ефрасінні Полацкай даецца ў артыкуле Л. В. Аляксеева «Лазарь Богша – мастер-ювелир XII в.»[73].

Эпіграфічныя помнікі таксама прыгадваюцца сярод іншых падобных прадметаў. Гэта датычыцца драўлянай місы з Гомеля, падрабязнае апісанне якой даецца ў артыкуле А. А. Макушнікава «Памятники эпиграфики и сфрагистики из летописного Гомия»[74].

Прасочваецца таксама зварот да вывучаных раней помнікаў, з'яўляюцца інтэрпрэтацыі чытання, даследавання надпісаў з мэтай больш паглыбленага вывучэння помніка ці перагляду традыцыйна існаваўшага пункту гледжання. Да такіх прац можна аднесці артыкулы К. Шыдлоўскага «Друйскі Барысаў камень. З гісторыі адкрыцця і даследавання»[75], В. А. Вароніна «Звесткі пра

---

[65] Лысенко, П. Ф. Шиферное пряслице с надписью из Пинска / П. Ф. Лысенко // Сов. археология. – 1966. – № 3. – С. 248–251.

[66] Лысенко, П. Ф. Раскопки древнего Берестья / П. Ф. Лысенко // Сб. статей / АН СССР, Ин-т археологии. – М., 1971. – Археологические открытия 1970 года. – С. 315–316.

[67] Калядзінскі, Л. У. Мар'іна праселка / Л. У. Калядзінскі // Беларусь. – 1986. – № 8. – С. 32.

[68] Равдина, Т. В. Надпись на корчаге из Пинска / Т. В. Равдина // Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М., 1957. – Вып. 70. – С. 150–153.

[69] Малевская, М. В. Амфора с надписью из Новогрудка / М. В. Малевская // Сов. археология. – 1962. – № 4. – С. 238–241.

[70] Гурэвіч, Ф. Д. Каму належыў абразок-літык? / Ф. Д. Гурэвіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1982. – № 3 (51). – С. 42–43.

[71] Штыхов, Г. В. Письмена на камне из Полоцка / Г. В. Штыхов // Сов. археология. – 1963. – № 4. – С. 246–248.

[72] Рыбаков, Б. А. Татарская кириллическая надпись из Полоцка / Б. А. Рыбаков // Сов. археология. – 1963. – № 4. – С. 228–232.

[73] Алексеев, Л. В. Лазарь Богша – мастер-ювелир XII в. / Л. В. Алексеев // Сов. археология. – 1957. – № 3. – С. 218–244.

[74] Макушников. О. А. Памятники эпиграфики и сфрагистики из летописного Гомия / О. А. Макушников // Гіст.-археал. зб. – 2000. – № 5. – С. 73 –75.

[75] Шыдлоўскі, К. Друйскі Барысаў камень. З гісторыі адкрыцця і даследавання / К. Шыдлоўскі // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы VI навук.-краязн. канф., 7–8 мая 2003 г. / Брасл. музейн. аб'яднанне, Брасл. краязн. таварыства імя О. Гедэмана; гал. рэд. К. Шыдлоўскі [і інш.]. – Браслаў, 2003. – С. 109–112.

Барысаў камень з першай паловы XVI ст.»[76], В. Л. Яніна «К чтению надписи на пряслице из Гродно»[77], Г. В. Штыхава «Полацкі шэдэўр XII стагоддзя»[78].

Такім чынам, падрабязнае даследаванне эпіграфічных помнікаў, кожны з якіх уяўляе сабой рэдкую і цікавую знаходку, спрыяла ўзнікненню абагульняючых артыкулаў па групах помнікаў. Сярод іх можна прыгадаць артыкулы Л. В. Аляксеева «Три пряслица с надписями из Белоруссии»[79], «Ещё три шиферных пряслица с надписями»[80], прысвечаныя праслiцам.

Рунічныя надпісы з гарадзішча Маскавічы падрабязна разглядаюцца ў працах Л. В. Дучыц, А. А. Мельнікавай «Надписи и знаки на костях с городища Масковичи»[81], А. А. Мельнікавай «Скандинавские рунические надписи: Новые находки и интерпретации»[82], дзе «восточноевропейские находки, не имевшие ранее скандинавских аналогий и поэтому казавшиеся странными и недостоверными, оказались включёнными в широкий контекст памятников бытового письма»[83]. У манаграфіі даследуюцца 47 костак і фрагментаў костак, а таксама каменнае грузіла з рунічнымі надпісамі з гарадзішча Маскавічы. Даецца іх прачытанне і тлумачэнне чытальных надпісаў[84].

Абагульняючыя артыкулы па эпіграфічных помніках, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, даюцца ў «Очерках по археологии Белоруссии» (Г. В. Штыхаў, глава «Культура древних земель Белоруссии», § 1 «Памятники сфрагистики и эпиграфики»). У асобныя катэгорыі тут вылучаюцца лапідарныя помнікі, надпісы на вырабах, графіці[85]. Упамінанне эпіграфічных помнікаў ёсць у выданні «Историческое краеведение Белоруссии» (глава 5, Рябцевич В. Н. «Использование данных вспомогательных исторических наук в изучении края», § 1 «Палеографические источники»)[86]. Абагульняючая праца «Археология. Древняя Русь. Быт и культура» (А. А. Мядынцава, глава 8 «Эпиграфика, писала (стили)

---

[76] Варонін, В. А. Звесткі пра Барысаў камень з першай паловы XVI ст. / В. А. Варонін // Гіст.-археал. зборнік. – 2000. – № 15. – С. 126–127.

[77] Янин, В. Л. К чтению надписи на пряслице из Гродно / В. Л. Янин // Сов. археология. – 1958. – № 1. – С. 243–245.

[78] Штыхаў, Г. В. Полацкі шэдэўр XII стагоддзя / Г. В. Штыхаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1973. – № 2. – С. 28–31.

[79] Алексеев, Л. В. Три пряслица с надписями из Белоруссии / Л. В. Алексеев / Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М.; Л., 1955. – Вып. 57. – С. 129–132.

[80] Алексеев, Л. В. Ещё три шиферных пряслица с надписями / Л. В. Алексеев // Сов. археология. – 1959. – № 2. – С. 242–245.

[81] Дучиц, Л. В. Надписи и знаки на костях с городища Масковичи / Л. В. Дучиц, Е. А. Мельникова // Сб. ст. / АН СССР, Ин-т истории. – М., 1981. – Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования. – С. 185–216.

[82] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи: Новые находки и интерпретации. Тексты, перевод, комментарий / Е. А. Мельникова. – М.: Вост. литература РАН, 2001. – 496 с.

[83] Там жа. С. 5.

[84] Там жа.

[85] Очерки по археологии Белоруссии: в 2 ч. / под ред. Г. В. Штыхова, Л. Д. Поболя. – Минск: Наука и техника, 1972. – Ч. 2. – С. 172–177.

[86] Историческое краеведение Белорусии: учеб. пособие / А. Н. Ваганова [и др.]; под общ. ред. Э. М. Загорульского. – Минск: Изд-во БГУ, 1980. – С. 133–152.

и церы»)[87] прысвечана эпіграфічным помнікам пісьменства і прыладам для пісьма, сярод якіх ёсць і помнікі пісьменства з тэрыторыі сучаснай Беларусі. У 8-й главе даецца гістарыяграфія пытання, прыводзіцца пералік найбольш вядомых помнікаў і іх аналіз, методыка датавання надпісаў на эпіграфічных помніках[88].

Найбольш поўнай працай па старажытнарускай кірылічнай эпіграфіцы на сённяшні дзень з'яўляецца манаграфія А. А. Мядынцавай «Грамотность в Древней Руси (по памятникам эпиграфики X – первой половины XIII века)»[89], дзе абагульняюцца і даследуюцца эпіграфічныя помнікі X–XIII стст., а таксама даецца методыка датавання надпісаў. Аднак эпіграфічныя помнікі Беларусі ў ёй амаль што не даследаваны, за выключэннем тых, што былі апублікаваны ў савецкі час. Што датычыцца методыкі датавання надпісаў, прапанаванай ў манаграфіі[90], то яна з'яўляецца толькі часткай методыкі даследавання эпіграфічных помнікаў.

Эпіграфічныя помнікі ўзгадваюцца таксама ў гістарычнай і негістарычнай літаратуры. Прыкладам гэтага з'яўляюцца падручнікі і хрэстаматыі па гісторыі, старажытнарускай мове, а таксама па гісторыі культуры[91]. Выкарыстанне эпіграфічных помнікаў у вышэйпералічаных кнігах носіць ілюстрацыйны характар: гэтыя крыніцы выкарыстоўваюцца як звесткі аб існаванні пісьменнасці ў азначаны час.

Такім чынам, можна адзначыць, што эпіграфічныя помнікі разглядаліся паасобку ці ў групах як археалагічныя помнікі, як помнікі пісьменства ці як адлюстраванне асобных з'яў сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця сярэдневяковай Беларусі. У даследчай літаратуры рабіліся спробы разгляду эпіграфічных помнікаў у сукупнасці, але толькі з мэтай доказу існавання пісьменнасці на тэрыторыі сярэдневяковай Беларусі.

---

[87] Археология СССР. Древняя Русь. Быт и культура. – М.: Наука, 1997. – 368 с.

[88] Там жа. – С. 140–152.

[89] Медынцева, А. А. Грамотность в Древней Руси (По памятникам эпиграфики X – первой половины XIII века) / А. А. Медынцева. – М.: Наука, 1998. – 290 с.

[90] Там жа. – С. 16–20.

[91] Можейко, Н. С. Древнерусский язык: учеб. пособие для ист. фак. ун-тов и пед. ин-тов. – 3-е изд., доп. / Н. С. Можейко, А. П. Игнатенко. – Минск: Высш. школа, 1988. – С. 34–37; Смятаннікаў, В. С. Беларусазнаўства: вучэбна-метад. дапам. для выкладчыкаў сярэд. спец. навуч. устаноў / В. С. Смятаннікаў. – Мінск: Беларус. навука, 2000. – С. 90.

*Глава 2*

# МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ ЭПІГРАФІЧНЫХ ПОМНІКАЎ

**Метады даследавання эпіграфічных помнікаў з усходнеславянскіх тэрыторый.** Методыка даследавання эпіграфічных помнікаў прадстаўлена ў працах Б. А. Рыбакова[92] і А. А. Мядынцавай[93]. У цэлым яна зводзіцца да вызначэння даты нанясення надпісу, хаця мяркуецца, што помнік неабходна даследаваць цалкам палеаграфічна і гістарычна[94]. Да мэты вызначэння даты напісання «прывязваліся» ўсе астатнія метады.

Так, у А. А. Мядынцавай методыка датавання надпісу выглядае наступным чынам: «1) прежде всего надпись нужно датировать палеографически; 2) палеографическая датировка должна быть проверена данными по истории русского языка; 3) стратиграфически; 4) типологически и стилистически; 5) исторически»[95]. Адзначаецца, што паўнацэннае выкарыстанне эпіграфічных крыніц для агульных гістарычных пабудоў немагчыма без прыцягнення матэрыялу сумежных гістарычных дысцыплін[96]. Пералічваюцца таксама спецыфічныя задачы эпіграфікі: прачытанне і датаванне надпісаў, аднаўленне тэксту ў выпадку частковай згубы, у некаторых выпадках вызначэнне сапраўднасці надпісу, сістэматызацыя ўсяго аднастайнага эпіграфічнага матэрыялу[97].

Аднак методыка даследавання эпіграфічных помнікаў толькі з мэтай датавання надпісу падаецца нам аднабаковай і не можа задаволіць сучасныя патрэбы гістарычнай навукі. Гэта звязана з тым, што помнікі эпіграфікі могуць выкарыстоўвацца не толькі для вывучэння працэсу распаўсюджання пісьменнасці, але і ў якасці крыніц, якія адлюстроўваюць разнастайныя гістарычныя працэсы, што адбываліся ў вызначаны перыяд на тэрыторыі Беларусі. У прыватнасці, гэтая думка выказвалася І. А. Шляпкіным, які сцвярджаў, што «вещевые надписи… устанавливают или подтверждают точную хронологию… лиц или событий, выясняют русскую генеалогию, дают понятие об изменении русского письма и языка, сообщают новые любопытные сведения из истории нашего прошлого»[98].

[92] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 7.

[93] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 20.

[94] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 5.

[95] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 20.

[96] Там жа. С. 5.

[97] Там жа.

[98] Шляпкин, И. А. Современные задачи изучения древнерусской вещевой и книжной письменности / И. А. Шляпкин. – [б. м.]. – 1909. – С. 4.

Пытанне аб неабходнасці якаснай фіксацыі эпіграфічных і палеаграфічных помнікаў паўстала ў пачатку іх вывучэння. Так, ужо ў «Записке для обозрения русских древностей»[99] рэкамендуецца замаляваць помнік, зрабіць металічны ці папяровы адбітак надпісу. Методыка фіксацыі эпіграфічных помнікаў на гэты час была даволі добра распрацавана ў краінах Заходняй Еўропы. Трэба адзначыць, што метады ўдасканальваліся адпаведна навуковаму і тэхнічнаму прагрэсу. Напрыклад, у працы Я. Ф. Карскага «Славянская кирилловская палеография» сустракаецца шмат метадаў фіксацыі пісьмовых помнікаў, у тым ліку і эпіграфічных. Сярод іх – «автотипические (фотомеханические), цинкографические, гуттаперчевые, гипсовые, гальванопластические и под.»[100] спосабы фіксацыі помнікаў. Вядома, для свайго часу выкарыстанне такіх спосабаў было апошнім словам тэхнікі, але нас яны цікавяць толькі з пункту гледжання гісторыі спроб якаснага фіксавання пісьмовых помнікаў. Аднак у той жа час, у прыватнасці, у лекцыях І. А. Шляпкіна змешчана методыка даследавання менавіта эпіграфічных помнікаў шляхам фатаграфавання, якое на той час з'яўлялася самым прагрэсіўным метадам фіксавання. Там жа дадзена методыка падрыхтоўкі помніка да фіксацыі[101]. Трэба адзначыць, што некаторыя прапановы па арганізацыі працэсу фотаздымкі засталіся актуальнымі да нашых дзён. Так, па меры магчымасці трэба здымаць надпіс пры розных напрамках асвятлення (з бакоў, зверху, знізу), пры надпісу па акружнасці – здымак, па меншай меры, з чатырох бакоў, дыяметральна супрацьлеглых[102]. Пры фатаграфаванні дробных прадметаў выкарыстоўваўся метад маштабнасці. Прапанавалася папяровы сантыметр прыляпіць воскам над або пад здымаемым надпісам[103]. Адначасова з выкарыстаннем фатаграфіі прапануецца зняцце гіпсавых злепкаў і эстампажаў пры вывучэнні пукатых і ўрэзаных надпісаў. Я. Ф. Карскім таксама прапанаваўся шэраг метадаў фіксацыі пісьмовых помнікаў, і у тым ліку эпіграфічных[104]. Так, металічны выраб перад фотаздымкай рэкамендуецца прыпудрыць парашком каменнага вугалю[105], магчыма для таго, каб вылучыць надпіс і пазбегнуць водбліскаў.

Методыцы фіксацыі эпіграфічных помнікаў прысвечаны даволі вялікі раздзел «Способы механического восстановления надписей» главы «Эпиграфика» ў кнізе А. М. Бальшакова «Вспомогательные исторические дисциплины»[106].

---

[99] Записка для обозрения русских древностей. – СПб.: Типогр. Якова Трея. – 1851. – С. 5.

[100] Карский, Е. Ф. Славянская кирилловская палеография / Е. Ф. Карский. – М.: Наука, 1979. – С. 7.

[101] Шляпкин, И. А. Палеография: лекции, читанные в Санкт-Петербургском археологическом институте и стенографически записанные / И. А. Шляпкин. – СПб.: Изд-во гг. слушателей ин-та, 1905. – С. 6.

[102] Там жа.

[103] Там жа.

[104] Карский, Е. Ф. Славянская… С. 7.

[105] Шляпкин, И. А. Палеография… С. 6.

[106] Большаков, А. М. Вспомогательные исторические дисциплины / А. М. Большаков. – Л.: Изд-во И. П. Сойкина, 1924. – 244 с.

Аўтар слушна заўважае, што не ўсякі надпіс можа быць прачытаны зараз жа, калі даследчык натрапіў на той ці іншы помнік… і не ўсякі помнік можна, па знаходжанні яго, узяць з сабою дадому ці ў музей[107]. Таму «для эпиграфики чрезвычайно важное значение имеют способы точного воспроизведения текста новооткрытых надписей, чтобы можно было, даже находясь и на почтенном расстоянии от памятника, спокойно изучать надпись»[108]. Напрыклад, вывучэнне надпісаў на крыжы Ефрасінні Полацкай стала магчымым толькі пры наяўнасці негатываў, «снятых в Полоцке фотографом И. Ф. Чистяковым в 1896 г.»[109] па заказу І. А. Шляпкіна. Сярод метадаў капіравання надпісаў А. М. Бальшакоў пералічваў наступныя: «гипсовый, фотография, бумажный оттиск, оттиск из станиола, натирание, прорись»[110].

Нараўне з фотаздымкамі пры вывучэнні палеаграфічных і эпіграфічных помнікаў прапанавалася таксама выкарыстанне малюнкавай фіксацыі, якую добры мастак можа зрабіць і ад рукі – вокамерна[111]. Аднак у таго ж Я. Ф. Карскага сустракаюцца нараканні на дрэнна выкананыя малюнкі, якія шмат у чым з'яўляюцца вынікам фантазіі мастака і не дазваляюць выкарыстоўваць помнік як паўнацэнную гістарычную крыніцу. Методыка фіксавання надпісаў-графіці Сафійскага сабора г. Кіева і далейшай іх публікацыі даецца С. А. Высоцкім[112]. Фіксаванне праводзілася наступным чынам: надпісы фатаграфаваліся пры бакавым асвятленні, затым выраблялiся фотаадбіткі на глянцавай і матавай паперы, потым яны прарысоўваліся алоўкам і наводзіліся тушшу для атрымання дакладных прарысовак[113]. Трэба дадаць, што пры выданні кнігі з прарысовак рабіліся «вываракі» – белыя контуры надпісаў на чорным фоне[114].

Праблема фіксавання і чытання графіці ўзнікае з-за вялікай колькасці драпін на сценах. Нават узнікла пытанне аб даручэнні выканання прарысоўкі надпісаў такому мастаку, які не павінен ведаць той алфавіт, што выкарыстаны ў надпісе. Але такі падыход – не выхад з сітуацыі, паколькі рысунак атрымліваецца запоўненым мноствам выпадковых элементаў, якіх вока чытача, што разумее тэкст, проста не заўважае і, наадварот, змяшчае раскрытыя пустоты ў месцах, дзе вока такога чытача лёгка дабудоўвае нястаючыя або слаба праведзеныя штрыхі[115]. Такім чынам, сучаснымі вучонымі прызнаецца выкарыстанне прарысовак, якія змяшчаюць элементы інтэрпрэтацыі[116]. Гэту праблему

[107] Большаков, А. М. Вспомогательные исторические дисциплины... С. 120.

[108] Там жа. – С. 120–121.

[109] Алексеев, Л. В. Лазарь Богша… С. 227.

[110] Большаков, А. М. Вспомогательные… С. 121.

[111] Карский, Е. Ф. Славянская… С. 7.

[112] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 7.

[113] Там жа.

[114] Там жа.

[115] Новгородские грамоты на бересте / В. Л. Янин, А. А. Зализняк, А. А. Гиппиус // Рос. акад. наук, отд-ние истории. – М., 2004. – 286 с. – Т. 11: Из раскопок 1997–2000 гг. – С. 235.

[116] Там жа.

спрабаваў абгрунтаваць У. Ракіцкі, які доўгі час займаўся рэстаўрацыяй Спаса-Праабражэнскай царквы, але яго парады аб пераводзе слоў на «графічны язык»[117] маюць хутчэй філасофска-развважальны, чым практычны характар. Мабыць, гэта выклікана тым, што вывучэнне надпісаў не з'яўлялася задачай даследчыка.

У наш час складанасці фіксавання эпіграфічных помнікаў, асабліва графіці на сценах будынкаў, таксама разглядаюцца даследчыкамі, што звязана ў асноўным з пераглядам некаторых надпісаў, апублікаваных раней, і новым чытаннем і тлумачэннем сэнсу гэтых надпісаў, якія часам вельмі адрозніваюцца ад раней існаваўшых[118].

Такім чынам, метады даследавання эпіграфічных помнікаў былі накіраваны на датаванне помніка і надпісу на ім, але гэта не давала магчымасці ўсебакова даследаваць эпіграфічныя помнікі як гістарычныя крыніцы. Не выкарыстоўваліся метады сучаснага навуковага даследавання (выкарыстанне лічбавай фатаграфіі).

**Аўтарская методыка даследавання эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі**. Складанасць праблемы вывучэння эпіграфічных помнікаў абумоўлена тым, што аб'ект даследавання з'яўляецца адначасова аб'ектам даследавання археалогіі, палеаграфіі, мовазнаўства і гісторыі культуры. Аднак методыка даследавання гэтага віду крыніц як археалагічных ці пісьмовых помнікаў з мэтай датавання надпісу прадстаўляецца аднабаковай і не можа задаволіць сучасныя патрабаванні гістарычнай навукі.

На наш погляд, такі традыцыйны падыход да вывучэння эпіграфічных помнікаў з'яўляецца абмежаваным, паколькі атрымліваецца, умоўна мяркуючы, «вывучэнне эпіграфікі дзеля эпіграфікі», а не «эпіграфікі дзеля вывучэння гісторыі». Гэта значыць, што эпіграфічныя помнікі не выкарыстоўваюцца ў поўнай меры як гістарычныя крыніцы. Метадалагічная аснова даследавання эпіграфічных помнікаў як гістарычных крыніц абгрунтоўваецца міждысцыплінарным падыходам да іх вывучэння і выкарыстаннем даных для характарыстыкі сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця краіны. Помнікі эпіграфікі з'яўляюцца каштоўнымі самастойнымі крыніцамі, якія паведамляюць не толькі канкрэтныя факты, але даюць звесткі аб працэсах і з'явах, што адбыліся ў той час.

Каб даследаваць кожны эпіграфічны помнік як паўнацэнную гістарычную крыніцу, трэба выкарыстоўваць прынцыпы комплекснага падыходу, вывучэнне ўнутры- і знешнетэкставых аспектаў, фармальна-тыпалагічны метад, гісторыка-параўнальны, статыстычны, стратыграфічны, палеаграфічны, рэчазнаўчы метад даследавання крыніц, задзейнічаць сучасныя навукова-метадычныя

[117] Ракіцкі, У. В. Спасаўская царква пры староньнім асьвятленьні / У. В. Ракіцкі // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі / Мат-лы III міжнар. навук. канф., Полацк 21–23 крас. 1997 г. / М-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь і інш. ; гал. рэд. Т. А. Джумантаева і інш. – Полацк, 1998. – С. 254.

[118] Новгородские грамоты … С. 233–243.

распрацоўкі, заснаваныя на прымяненні камп'ютарных тэхналогій, лічбавай фатаграфіі і відэаздымкі. Такім чынам, вывучэнне кожнай крыніцы з'явілася своеасаблівым мікрадаследаваннем. Таму метад вывучэння кожнага эпіграфічнага помніка заслугоўвае назву «метад мікрадаследавання».

Галоўнай умовай даследавання эпіграфічных помнікаў з'яўляецца ўзаемнае вывучэнне прадмета і надпісу на ім, што ўключае ў сябе этап якаснай фіксацыі помніка і надпісу, з наступным рэчазнаўчым, палеаграфічным, тэксталагічным аналізам і выкарыстаннем помніка ў якасці паўнацэннай гістарычнай крыніцы і матэрыялу для гістарычных даследаванняў. Таму першы і вельмі важны этап вывучэння эпіграфічных помнікаў – яго якасная фіксацыя, якая абумоўлівае правільнае чытанне, аналіз, інтэрпрэтацыю і пабудову пэўных гістарычных высноў.

Зразумела, што спосабы фіксавання напрамую залежаць ад ступені развіцця тэхнічных магчымасцей фота- і відэатэхнікі. Але і «дзедаўскія» метады таксама не забыты. На сённяшні дзень можна вызначыць тры асноўныя спосабы фіксавання эпіграфічных помнікаў: малюнкавую фіксацыю, фатаграфаванне і відэаздымку.

***Малюнкавая фіксацыя*** – гэта класічная форма дакументавання. Асабліва важнай з'яўляецца функцыя апісання структур і элементаў, што складана падаецца ў іншай форме. Такім чынам, малюнкі самі з'яўляюцца дакументацыяй, а не толькі дадаткам да яе.

Выкананыя мяккім алоўкам з дапамогай гумкі на матавай паперы, часам на міліметровай, малюнкі павінны быць вынікам патрабавання ў фіксаванні факта. Праблема ў тым, што спосаб устаноўкі помніка з наступнай замалёўкай або фатаграфаваннем – рэч адвольная. Якія патрабаванні прад'яўляюцца ў гэтым выпадку да таго, хто робіць замалёўку помніка? Помнік і надпіс на ім павінны быць адлюстраваны на малюнку як мага больш дакладна, хоць «прорись всего лишь показывает, какое решение этой проблемы счёл правильным прорисовщик»[119]. Складанасць прарысоўкі заключаецца яшчэ і ў тым, што паверхня помнікаў не заўсёды роўная, яна можа быць цыліндрычнай, як, напрыклад, у праслiцаў. Асабліва гэта датычыцца надпісаў-графіці, дзе паверхня пакрыта вялікай колькасцю драпін. Пры гэтым чытаецца не сам надпіс, а, фактычна, яго рэканструкцыя. Хоць рысунак не дае ўяўлення, напрыклад, аб колеры, структуры аб'екта, прарысоўка надпісу абавязковая для чытання і палеаграфічнага аналізу надпісаў.

Станоўчыя вынікі чытання надпісу і вывучэння помніка атрымліваюцца пры сумесным выкарыстанні малюнка і фатаграфіі. Меркаванне, што лічбавая фатаграфія цалкам заменіць традыцыйную малюнкавую фіксацыю, залішне катэгарычнае. Гэтыя спосабы фіксавання хутчэй дапаўняюць і ўдакладняюць адзін аднаго. Сукупнасць якаснага лічбавага і малюнкавага фіксавання помніка дае найбольш поўнае яго адлюстраванне, зводзіць да мінімуму магчымасці няправільнага чытання і тлумачэння надпісаў. У прыватнасці, пры вы-

[119] Новгородские грамоты … С. 234.

вучэнні графіці, якія нанесены на больш-менш роўную паверхню, выкарыстоўвалася не прарысоўка ў класічным паняцці гэтага слова, а камп'ютарная прарысоўка. Методыка яе выканання ў рэдактары Photoshop наступная. Паверх фотаздымку ствараецца віртуальная калька (слой, layer), па якой прарысоўваецца надпіс, затым фотаздымак (background) выдаляецца і пад кальку падкладваецца белы слой. Такая прарысоўка больш дакладная за класічную, але яе можна зрабіць толькі для помнікаў з роўнай паверхняй.

У наш час пад фатаграфаваннем маецца на ўвазе, у першую чаргу, ***лічбавае фатаграфаванне***. Існуе відавочны шэраг пераваг лічбавай фотаздымкі адносна класічнай. Сярод гэтых пераваг можна вылучыць наступныя. Па-першае, лічбавую фотаздымку можна выкарыстоўваць у экстрэмальных умовах, калі помніку пагражае знішчэнне. Па-другое, лічбавая фотаздымка выключае цэлы шэраг недакладнасцей, якія могуць узнікнуць пры рабоце з негатыўнай фотаздымкай, і у тым ліку з механізмам перасоўвання плёнкі, з магчымасцю яе пашкоджання, а таксама з залежнасцю ад яе святлоадчувальнасці. Якасць атрыманай выявы не залежыць ад якасці фотапаперы. Няякасная выява лёгка сціраецца. На фотаздымку прысутнічае яго характарыстыка і інфармацыя аб ім. Колькасць здымкаў залежыць толькі ад магчымасцей камеры, камп'ютара і носьбітаў. Выява адразу алюстроўваецца на экране камеры ці камп'ютара, можна павялічваць часткі здымка. Нялішнім з'яўляецца і тое, што выкананне фотаздымкаў не патрабуе спецыяльных ведаў у такой ступені, як пры класічнай фотаздымцы. Вялікая перавага лічбавага здымка перад негатыўным яшчэ і ў тым, што хуткае падключэнне да камп'ютара дае магчымасць зрабіць апрацоўку, друкаванне, перасылку, капіраванне ў кароткі прамежак часу. Яшчэ адзін плюс лічбавых фатаграфій – нагляднасць у прэзентацыях, а таксама выкарыстанне ў класічных і электронных (віртуальных) кніжных публікацыях. Вядома, лёгкасць сцірання ці залежнасць ад крыніц энергіі можна лічыць слабымі месцамі лічбавай фатаграфіі, але перавага яе відавочная. Складана таксама аспрэчваць перавагу лічбавых здымкаў над негатыўнымі з пункту гледжання павелічэння аб'екта і маскіроўкі тэхнічных дэфектаў. Аднак лічбавае фота дае магчымасць інтэрпрэтацыі аб'екта, што выклікае шэраг нюансаў. Па-першае, трэба дакладна адмяжоўваць дэфекты ад сапраўднай выявы. Па-другое, варта рабіць не інтэрпрэтацыю, а апрацоўку, якая зводзіцца да выдалення ценяў і блікаў. Пры гэтым выкарыстоўваюцца праграмы для апрацоўкі лічбавых фатаграфій – розныя версіі Adobe Photoshop, ACDSee і інш.

Працэс дакументавання можа быць дваякім: ці лічбавы здымак – першасная версія, ці ён з'яўляецца дадаткам да малюнкавай дакументацыі[120]. У працэсе даследавання большасці эпіграфічных помнікаў лепш выкарыстоўваць другую версію, таму што надпіс лягчэй чытаецца і інтэрпрэтуецца па прарысоўцы, а здымак з'яўляецца не толькі выявай аб'екта, але і дадатковай аргументацыяй у спрэчных пытаннях чытання надпісу. Такім чынам, рысунак стварае канкрэтны, а лічбавы здымак – віртуальны вобраз.

---

[120] Калечыц, І. Л. Праблемы фіксацыі эпіграфічных помнікаў / І. Л. Калечыц // Гіст.-археал. зб. – 2007. – № 23. – С. 63.

Пэўныя складанасці атрымліваюцца на першым этапе – этапе фіксавання помніка. Гэта амаль не датычыцца эпіграфічных помнікаў вялікіх памераў. Але справа ў тым, што большасць з помнікаў эпіграфікі маюць малыя і вельмі малыя памеры. Адпаведна, і надпіс на іх уяўляе з сябе складаны для чытання і фіксавання аб'ект. Для іх фіксавання патрэбна камера з магчымасцю макраздымкі і добрым вырашэннем (пачынаючы з 5,0 мегапікселяў)[121]. Для здымкі вельмі дробных помнікаў, калі набліжэння камеры не хапае, можна прыкласці да аб'ектыва звычайнае павелічальнае шкло. Гэта дае нядрэнныя вынікі. Для здымкі вызначальную ролю адыгрывае і асвятленне. Яно павінна быць бакавым (а у некаторых выпадках ніжнім) слізготным. Гэта стварае цені, якія дазваляюць лягчэй прачытаць і зафіксаваць надпіс. Такое асвятленне, напрыклад, выкарыстоўвалася пры здымках графіці Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку. Аднак фіксаванне надпісаў на слупах у гэтай царкве ўскладнялася наяўнасцю шкла, з дапамогай якога яны засцерагаліся ад пашкоджанняў. Перашкодай для чытання надпісаў з'яўлялася таксама вялікая колькасць драпін, якія не маюць дачынення да надпісу. У некаторых выпадках паверхню можна падрыхтаваць да здымкі, калі гэта не пашкодзіць помніку. Так, каменныя паверхні можна крыху змачыць вадой. Пры фіксаванні некаторых эпіграфічных помнікаў у музеях краіны было заўважана, што паглыбленні надпісаў запоўнены крэйдай, якая, відаць, засталася ад спроб некаторых даследчыкаў неяк абазначыць, вылучыць надпіс. Аднак, на наш погляд, такое вылучэнне з'яўляецца неправамерным, таму што яно не дапамагае, а, наадварот, перашкаджае чытанню і добраму фіксаванню ўсіх нюансаў надпісу.

Пажадана, калі ёсць магчымасць, зафіксаваць надпіс ***відэаздымкай***, якая прадугледжана ў большасці лічбавых камер. Перасоўванне камеры дае здымку пад рознымі вугламі падзення святла, што садзейнічае прачытанню надпісу. Асабліва гэта мэтазгодна, калі надпіс не з'яўляецца адзінкавым, а накладваецца на іншыя надпісы, або калі чытанне такога надпісу ўскладняецца вялікай колькасцю рысачак і драпін.

Аднак існуюць такія надпісы, фіксаванне якіх магчыма толькі малюнкавым спосабам. Гэта датычыцца, напрыклад, надпісаў на костках, калі яны нанесены тонкімі, ледзь прыкметнымі рысачкамі. Яны сустракаюцца на маскавіцкіх костках. Вядома, нядрэнна зафіксаваць лічбавай здымкай знешні выгляд косткі, аднак рысунак адыгрывае тут вырашальную ролю.

Безумоўна, пры малюнкавым фіксаванні і пры фотаздымцы помніка неабходна маштабаванне для ўяўлення яго канкрэтных памераў.

Такім чынам, пры вывучэнні эпіграфічных помнікаў вялікае значэнне надаецца якаснай фіксацыі помніка і асабліва надпісу на ім. Ад гэтага залежаць правільнасць чытання, інтэрпрэтацыі надпісу і далейшае выкарыстанне помніка як гістарычнай крыніцы. Няякасная фіксацыя надпісу дае падставу для разначытанняў і спрэчак аб змесце надпісу помніка. Нягледзячы на тое, што

[121] Фіксаванне эпіграфічных помнікаў ажыццяўлялася лічбавымі камерамі Olympus і Canon.

малюнкавае фіксаванне па сутнасці з'яўляецца ў некаторай ступені аўтарскай рэканструкцыяй і інтэрпрэтацыяй надпісу, аднак якасна выкананае, яно змяшчае каштоўную інфармацыю аб крыніцы. Карэктна апрацаваны лічбавы здымак дае шмат дадатковай карыснай інфармацыі, якая дапамагае ўсебакова паказаць аб'ект і ў шэрагу выпадкаў зняць спрэчныя пытанні. Такім чынам, аптымальным з'яўляецца спалучэнне лічбавай фотаздымкі і традыцыйнай прарысоўкі помніка, што дае добрыя вынікі пры яго вывучэнні.

Другі этап – рэчазнаўчае вывучэнне помніка, на які нанесены надпіс, дзеля чаго можа быць прыцягнута неабмежаванае кола даных этнаграфіі, археалогіі, мастацтвазнаўства.

Трэці этап – вывучэнне ***эпіграфемы*** – асобнага самастойнага надпісу, які можа ўключаць у сябе як адзіночныя літары, так і разгорнутыя паведамленні, нанесеныя на паверхню прадмета. Ён уключае ў сябе чытанне і датаванне надпісу, якое складаецца з тэксталагічнага аналізу, з выкарыстаннем даных мовазнаўства і антрапанімікі і вызначэння часу нанясення надпісу метадамі палеаграфіі (у прыватнасці, шляхам вызначэння графаў – варыянтаў графічнага напісання літар, якія належаць адпаведнаму часу), а таксама яе пацвярджэння або ўдакладнення данымі гістарычнага мовазнаўства, стратыграфічнымі данымі (калі помнік быў знойдзены ў час археалагічных даследаванняў), тыпалагічнымі (параўнанне з роднаснымі прадметамі). Для паўнацэннага вывучэння крыніцы неабходна таксама даследаванне ўсёй сукупнасці надпісаў і рысункаў, нанесеных на помнік.

У паняцце эпіграфемы ўваходзяць надпісы, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго па спосабе нанясення. Гэта можа быць ***графіта*** (ад італ. graffito – «надрапанае») – спантанна нанесены надпіс, часцей бытавога характару, ***дыпінта*** (італ. dipinto «намаляванае») – надпіс, зроблены пэндзалем па тынкоўцы, і ***інскульпт*** (лац. insculpo – «урэзваць, выразаць, пакрываць пісьмёнамі») – гравіраваны ці выразаны на цвёрдым матэрыяле надпіс.

У выніку такога падыходу эпіграфічны помнік вывучаецца комплексна і ўсебакова, не губляецца ніводная дэталь, важная для даследавання і інтэрпрэтацыі помніка. Крыніцы разглядаюцца ў адзінстве плана выяўлення, зместу і пазнання.

Даныя, атрыманыя ў выніку ўсебаковага даследавання эпіграфічных помнікаў, выкарыстоўваюцца для вывучэння сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных працэсаў, што адбыліся ў вывучаемы перыяд на тэрыторыі Беларусі.

Методыка даследавання эпіграфічных помнікаў, якая будуецца на ***міждысцыплінарным падыходзе*** да іх вывучэння, дазваляе праводзіць ***мікрадаследаванне помнікаў*** як каштоўных самастойных крыніц, не губляючы пры гэтым цэласнасці ўсяго даследавання. Найбольшы эфект дае ***метад мікрадаследавання крыніц*** – гэта значыць комплексны метад даследавання крыніц, калі даныя розных навук спалучаюцца, дапаўняюць і ўдакладняюць адзін аднаго, што дазваляе праводзіць даследаванне помнікаў як каштоўных самастойных крыніц, пры гэтым не губляючы цэласнасці ўсяго даследавання.

*Глава 3*

## КЛАСІФІКАЦЫЯ ЭПІГРАФІЧНЫХ ПОМНІКАЎ

**Класіфікацыі эпіграфічных помнікаў з усходнеславянскіх тэрыторый**. Безумоўна, вывучэнне эпіграфічных помнікаў прыводзіла да стварэння пэўных класіфікацый, у аснову якіх была пакладзена тая ці іншая прыкмета. Найбольш удалымі можна лічыць класіфікацыі Б. А. Рыбакова[122] і А. А. Мядынцавай[123].

Так, у сваёй класіфікацыі ***Б. А. Рыбакоў*** вылучае 11 груп эпіграфічных помнікаў на ***аснове матэрыялу і спосабу нанясення надпісу*** як вызначальных для знешняга віду надпісу і формы літар, якія датуюць помнік[124]. Сярод іх надпісы:

«1. Написанные «писалом» по мягкому материалу (сырая глина, воск, свежая береста).

2. Процарапанные коническим острием (штукатурка, обожженная глина, кирпич, камень, металл, дерево).

3. Резанные (металл, кость, дерево).

4. Гравированные резцом по металлу.

5. Долбленные и чеканные (камень, металл, литейные формы).

6. Врезанные в дерево.

7. Выпукло-резанные (камень, дерево, кость, матрицы для набойки).

8. Выпукло-накладные (восковые модели литых изделий).

9. Шитые.

10. Проволочные напаянные.

11. Писанные золотом по меди»[125].

***А. А. Мядынцава*** прапануе класіфікацыю па ***катэгорыях рэчаў, на якія нанесены надпісы, і спосабах напісання абрысу літар***[126]. Дадзеная класіфікацыя па матэрыялу і тэхніцы выканання найбольш стабільна і важна ў першую чаргу для датавання надпісаў[127], разам з тым для датавання, прачытання і інтэрпрэтацыі надпісаў важна разгледжваць надпісы па катэгорыях рэчаў, на якія яны нанесены[128].

---

[122] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 7.

[123] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 14.

[124] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 7.

[125] Там жа.

[126] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 14.

[127] Там жа.

[128] Там жа.

Сярод іх вылучаюцца наступныя:

«I. Надписи-граффити на твёрдом материале:

1. На амфорах-корчагах.

2. На пряслицах.

3. На серебряных платёжных слитках.

4. На литейных формочках.

5. На стенах зданий.

6. На плинфах и строительной штукатурке.

II. Надписи на предметах прикладного искусства:

1. Светского предназначения:

а. Оружие.

б. Драгоценная утварь.

2. Предметы христианского культа:

а. Ковчеги, оклады икон, церковные сосуды.

б. Кресты, иконки, змеевики.

III. Надписи на дереве.

IV. Монументальные надписи:

1. Мозаики, фрески, каменная резьба.

2. Камни и кресты»[129].

Аднак А. А. Мядынцава падкрэслівае, што ў прапанаванай класіфікацыі не заўсёды атрымліваецца дакладна вытрымаць прынцып злучэння надпісаў па спосабу напісання і катэгорыях рэчаў, на якіх яны сустракаюцца[130], і дадае, што гэтую класіфікацыю можна пашырыць як за кошт дадатку новых раздзелаў, так і за кошт вылучэння груп надпісаў па катэгорыях рэчаў унутры груп, вызначаных па матэрыялу[131].

Асобныя класіфікацыі былі створаны даследчыкамі для графіці, знойдзеных на сценах цэркваў. Сярод іх можна вылучыць класіфікацыю С. А. Высоцкага[132], В. П. Яйленкі[133].

Так, С. А. Высоцкі вылучае для графіці кіеўскага Сафійскага сабора пяць асноўных груп, якія ён разглядае ў часавых прамежках:

«1) памятные надписи;

2) бытовые надписи;

3) благопожелательные надписи;

4) поминальные надписи;

5) надписи, относящиеся к фрескам»[134].

---

[129] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 14.

[130] Там жа.

[131] Там жа. – С. 15.

[132] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 455.

[133] Яйленко, В. П. Древнерусские граффити Нередицы как источник бытовой истории Новгорода XIII–XVII вв. / В. П. Яйленко // Труды междунар. конгресса славян. археологии / Междунар. уния славян. археологии, Ин-т археологии АН СССР [и др.]; гл. ред. Б. А. Рыбаков. – М., 1987. – Т. 3. – Вып. 2б. – Секция 6: Архитектура, искусство, духовная культура. – С. 153.

[134] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 455.

Ад гэтай класіфікацыі адрозніваецца класіфікацыя В. П. Яйленкі, які падзяляе графіці на дзевяць груп па жанравай прыкмеце:

«I. Датированные;

II. Поминальные;

III. Молитвенные;

IV. Записи религиозного содержания;

V. Varia;

VI. Автографы и имена;

VII. Начальное образование;

VIII. Рисунки и приписки к ним;

IX. Künstlersignaturen»[135].

Мы не можам дакладна вылучыць пэўныя катэгорыі графіці ў сувязі з тым, што яны даследаваны не ў такой ступені, як графіці храмаў Ноўгарада і Кіева. Іх вывучэнне толькі пачынаецца ў сувязі з выкананнем рэстаўрацыйных работ у полацкай Спаса-Праабражэнскай царкве.

З вышэйсказанага вынікае, што некаторыя з эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, не знаходзяць адпаведнасцей сярод груп, вылучаных у дадзеных класіфікацыях. Ці наадварот, у прадстаўленых класіфікацыях пэўныя групы не маюць прадстаўнікоў сярод помнікаў з тэрыторыі Беларусі. Пералічаныя вышэй класіфікацыі скіраваны ў першую чаргу на датаванне, чытанне і інтэрпрэтацыю надпісаў, а не на комплекснае вывучэнне эпіграфічных помнікаў.

Такім чынам, эпіграфічныя помнікі вывучаліся як пісьмовыя крыніцы. класіфікацыі гэтых крыніц і методыкі іх вывучэння былі скіраваны на датаванне надпісаў, правільнасць якога пацвярджалася ці абвяргалася з дапамогай прыцягнення палеаграфічных, стратыграфічных і іншых даных. Таму помнікі эпіграфікі выкарыстоўваліся як сведчанне распаўсюджання пісьменнасці. Але актуальным з'яўляецца правядзенне абагульняючага даследавання помнікаў эпіграфікі, у якім неабходна падрабязна прааналізаваць кожную крыніцу і вылучыць яе інфармацыйны патэнцыял. Гэта дасць магчымасць разглядаць эпіграфічныя помнікі ў якасці гістарычных крыніц, якія з'яўляюцца не толькі сведчаннем пісьменнасці насельніцтва, але і адлюстраваннем іншых гістарычных працэсаў на тэрыторыі Беларусі. Для паспяховага правядзення даследавання павінна быць распрацавана методыка і створана класіфікацыя эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Эпіграфічныя помнікі з тэрыторыі Беларусі неабходна параўнаць з аналагічнымі помнікамі з тэрыторый пражывання ўсходніх славян, а вынікі выкарыстаць для вывучэння сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных працэсаў, якія мелі месца ў X–XIV стст. на тэрыторыі Беларусі.

**Аўтарская класіфікацыя эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі**. Пры правядзенні класіфікацыі эпіграфічных помнікаў дослед-

---

[135] Яйленко, В. П. Древнерусские граффити… С. 153.

чыкі сутыкаюцца з пэўнымі цяжкасцямі, якія выкліканы разнастайнасцю матэрыялу, спосабаў і мэт нанясення надпісаў. Да таго ж вышэйзгаданыя класіфікацыі скіраваны на тое, каб лягчэй датаваць надпісы або вывучаць эпіграфічныя помнікі як помнікі пісьменнасці.

Таму намі прапаноўваецца ***класіфікацыя па матэрыялу і катэгорыях рэчаў***, якая дае магчымасць усебаковага вывучэння эпіграфічных помнікаў як гістарычных крыніц. Класіфікацыя па ***матэрыяле*** (як найбольш стабільная) дае цэласную карціну эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Да таго ж паверхня, на якую наносіўся надпіс, абумоўлівае асаблівасці абрысу літар. Адначасова дадзеная класіфікацыя з'яўляецца даволі мабільнай, таму што кожны археалагічны сезон дае новыя адкрыцці, і, такім чынам, папаўненне калекцыі эпіграфічных помнікаў не прывядзе да значных змен у класіфікаванні. Разам з тым класіфікацыя па ***катэгорыях*** рэчаў неабходна для чытання, датавання і інтэрпрэтацыі надпісаў, паколькі пэўныя катэгорыі рэчаў існуюць даволі ўстойлівымі групамі. Іх аднароднасць дазваляе рабіць вывады аб існаванні той ці іншай групы рэчаў у пэўны час на пэўнай тэрыторыі, што дае падставу меркаваць аб працэсах, якія адбываліся на азначанай тэрыторыі ў дадзены час.

Класіфікацыя помнікаў эпіграфікі па матэрыяле і катэгорыях рэчаў:

**1. Каменныя эпіграфічныя помнікі:**

1.1. Манументальныя (лапідарныя) помнікі.

1.2. Камяні.

1.3. Вырабы з каменя:

- 1.3.1. прадметы культу;
- 1.3.2. гаспадарчыя прылады.

**2. Драўляныя эпіграфічныя помнікі:**

2.1. Вырабы з дрэва.

**3. Металічныя эпіграфічныя помнікі:**

3.1. Зброя.

3.2. Посуд.

3.3. Прадметы ўпрыгожвання.

3.4. Прадметы культу.

3.5. Прылады працы.

3.6. Плацёжныя зліткі.

**4. Гліняныя эпіграфічныя помнікі:**

4.1. Амфары.

4.2. Плінфа.

**5. Касцяныя эпіграфічныя помнікі:**

5.1. Косткі.

5.2. Нарыхтоўкі з косці.

5.3. Вырабы з косці.

**6. Скураныя эпіграфічныя помнікі.**

**7. Шкляныя эпіграфічныя помнікі.**

**8. Надпісы на сценах пабудоў:**

8.1. Графіці.

8.2. Дыпінці.

Такім чынам, на наш погляд, класіфікацыя па матэрыяле і катэгорыях рэчаў на дадзены час з'яўляецца найбольш прыдатнай для вывучэння эпіграфічных помнікаў. Яна характарызуецца стабільнасцю, што дае магчымасць вывучаць помнікі ў сукупнасці па матэрыяле і відах помнікаў і мабільнасцю, гэта значыць, што новыя эпіграфічныя помнікі ў неабмежаванай колькасці могуць быць уключаны ў дадзеную класіфікацыю.

Аднак такая класіфікацыя не адлюстроўвае змест надпісаў, якія з'яўляюцца важнай часткай эпіграфічнага помніка. На адным і тым жа матэрыяле надпісы маглі быць выкананы з рознай мэтай. Так, на прасліцах надпіс мог быць нанесены з мэтай азначэння ўласнасці або з заклікам аб дапамозе. Таму можна прапанаваць яшчэ адну класіфікацыю, у якой разглядаюцца менавіта надпісы, незалежна ад матэрыялу, на якім яны выкананы. Вызначальнай прыкметай, якая пакладзена ў яе аснову, з'яўляецца мэта нанясення надпісу. Такім чынам, па ***мэце нанясення*** надпісы можна падзяліць на наступныя катэгорыі:

1) азбука;
2) «спроба пяра»;
3) азначэнне ўласнасці;
4) аўтограф;
5) малітоўнае прашэнне;
6) памінальныя надпісы;
7) надпіс-папярэджанне;
8) умовы і прычыны нанясення (месца, абставіны ці падзеі);
9) літарны надпіс магічнага характару;
10) дзелавыя запісы;
11) добрапажадальныя надпісы;
12) кананічныя або звязаныя з богаслужэннем надпісы.

Да першай групы можна аднесці эпіграфічныя помнікі, на якіх размешчаны літары, нанесеныя ў алфавітным парадку. Другую групу надпісаў складаюць надпісы на нарыхтоўках, якія наносілі рамеснікі. Значна больш надпісаў трэцяй групы. Яны азначаюць уласнасць, і ўмоўна іх можна падзяліць на тры падгрупы. Па-першае, гэта надпісы ў форме прыналежнага прыметніка, якія адказваюць на пытанне «чые?». Другую падгрупу складаюць надпісы, якія змяшчаюць імя ў назоўным склоне. У трэцяй падгрупе – надпісы ў выглядзе склада ці літары, верагодна, першай ад імя ўладальніка. Да чацвёртай групы належаць так званыя «аўтографы», пакінутыя майстрамі. Пятую групу складаюць надпісы-малітоўныя прашэнні, якія змяшчаюць зварот аб дапамозе да Бога. Памінальныя надпісы – гэта часцей за ўсё надпісы-графіці, якія знаходзяцца ў храмах. Іх нанясенне звязана з тагачасным светаўспрыманнем. Пасля смерці душа, якая награшыла ў зямным жыцці, адчувае патрэбу ў пастаянным памінанні, каб палепшыць сваё становішча на тым свеце. Чалавек, які прад-

рапаў надпіс на такім «вечным» матэрыяле, як сцяна храма, заручаўся вечным памінаннем сябе і сваіх родных. Гэта рабілася, нягледзячы на тое, што драпанне на сценах забаранялася і каралася. У надпісах-папярэджаннях, прадстаўніках сёмай групы, – памкненне абараніць рэч ад крадзяжу з дапамогай закляцця. Да восьмай групы належаць надпісы, якія перадаюць абставіны ці ўмовы, пры якіх уладальнік атрымаў рэч або зрабіў надпіс ці пакінуў звесткі, прычыну, па якой быў нанесены надпіс. Дзявятую групу складаюць надпісы магічнага характару, якія наносіліся з мэтай абароны ці шкоды. Да дзясятай групы, надпісаў дзелавога характару, належаць рунічныя надпісы, якія перакладаюцца як «вырашай», «(яны) далажылі», «прыбытак, паступленне ў казну» і нанесены на маскавіцкія косткі. Да такога тыпу надпісаў можна аднесці і частку надпісу на крыжы Ефрасінні Полацкай, дзе пералічваецца матэрыял, які пайшоў на стварэнне крыжа. Добрапажадальныя надпісы прадстаўлены адным графіта і арабскім пісьмом на шкляных пасудзінах з Навагрудка, хаця кірылічныя надпісы з такім зместам сустракаюцца на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Кананічнымі надпісамі з'яўляюцца надпісы каля выяў святых. Гэта імёны святых, Божай Маці і Ісуса Хрыста. Да іх таксама можна далучыць надпісы каля выяў, якія выконваліся па ўзоры або па ўстойлівай традыцыі, як, напрыклад, выявы алегарычных постацей на чашы з рэйнскіх майстэрняў, частка якой была знойдзена на гарадзішчы Збароў. Надпісы, звязаныя з богаслужэннем (фрагменты малітваў, царкоўнай службы, кананічных кніг), знойдзены сярод графіці Спасаўскай царквы.

Такім чынам, спалучэнне гэтых класіфікацый дазваляе пераадолець складанасці вывучэння эпіграфічных помнікаў, якія ўзнікаюць з прычыны іх неаднароднасці, разнастайнасці матэрыялу, спосабаў і мэт нанясення надпісу. Мы будзем разглядаць эпіграфічныя помнікі, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, адпаведна першай класіфікацыі.

*Глава 4*

# ЭПІГРАФІЧНЫЯ ПОМНІКІ

## 4.1. Каменныя эпіграфічныя помнікі

**Манументальныя (лапідарныя) помнікі**. Манументальныя помнікі – гэта прыродныя ледавіковыя неапрацаваныя валуны. На тэрыторыі Беларусі захавалася некалькі такіх камянёў з надпісамі. Менавіта іх мы можам лічыць першымі помнікамі, з якіх пачалося вывучэнне эпіграфікі Беларусі. У сувязі з тым, што цікавасць да Барысавых камянёў праяўлялася яшчэ з XVI ст., а «дыскусіі аб прычынах высякання крыжоў і надпісаў ідуць звыш 200 гадоў»[136], у гістарычнай літаратуры склалася пэўная класіфікацыя гэтых камянёў. Кожны з іх умоўна мае свой нумар згодна з класіфікацыяй В. П. Тарановіча[137].

***Рысунак 1. Карта В. П. Тарановіча, на якой азначана месцазнаходжанне камянёў.***

***Першы Барысаў камень.*** Першым Барысавым камянём, згодна з класіфікацыяй, з'яўляецца камень, які некалі знаходзіўся каля в. Падкасцельцы і меў назву Барыс-Хлебнік ці Барыс-Глеб. А. М. Семянтоўскі звязваў гэту назву з тым, што камень «выходит из воды» – около дня празднования памяти св. князей Бориса и Глеба, т. е. 24 июля»[138], што супадала з пачаткам уборкі ўраджаю. Вышыня каменя – каля 3 м, у акружнасці – каля 8 м. У 1889 г. была ажыццёўлена спроба падняць камень з ракі, але беспаспяхова. У 1981 г. камень быў падняты і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў г. Полацку.

***Фота 1. Фота Барысавага каменя каля полацкага Сафійскага сабора.***

На камені, палявым шпаце чырванаватага колеру, знаходзіцца выява чатырохканцовага крыжа на трохступеньчатай Галгофе і надпіс: **ХС НИ КА ГИПО/ МОЗИ РАБЮСВ/ОЕМУ БОРІСУ** («Хрыстос Ніка Госпадзе, дапамажы рабу свайму Барысу»).

***Рысунак 2. Прарысоўка надпісу на першым Барысавым камені.***

***Другі Барысаў камень*** знаходзіўся каля г. Дзісны (5 км ніжэй, каля былой в. Накоўнікі). Выява на гранітным валуне шэрага колеру вышынёй каля 2 м, акружнасцю каля 11 м уяўляла сабой крыж на аднаступеньчатай Галгофе і надпіс:

---

136 Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 82.

137 Таранович, В. П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР / В. П. Таранович // Сов. археология. – 1946. – № 8. – С. 249.

138 Белорусские древности… С. 95.

НИ КА ГПП(М)ОЗІ/РАБУСВО/ЄМУБО/РИСОУ («Ніка Госпадзе дапамажы рабу свайму Барысу»).

***Рысунак 3. Прарысоўка надпісу на другім Барысавым камені.***

Па сведчанні А. Сапунова, камень быў у народзе «известен под названием «Писаника», а также «Борисоглебского»[139]. Камень спрабавалі ўзарваць у 1818 г. у сувязі з работамі па паляпшэнні суднаходства на Заходняй Дзвіне, але няўдала (аддзялілася некалькі кускоў зверху). Кавалак ад верхняй часткі каменя быў знойдзены М. Ф. Кусцінскім. Канчаткова камень быў знішчаны ў сярэдзіне XX ст.

***Фота 2. Другі Барысаў камень. Фота, зробленае ў XIX ст.***

***Трэці Барысаў камень*** знаходзіўся каля г. Дзісны, в. Балоткі. Гэта самы большы камень з усіх Барысавых камянёў. Менавіта яго ўзгадваў М. Стрыйкоўскі. Гэты камень уяўляў сабою гранітны валун шэрага колеру вышынёй каля 2 м і акружнасцю каля 17 м.

***Фота 3. Трэці Барысаў камень. Фота, зробленае ў XIX ст.***

Выява на ім складалася з шасціканцовага крыжа з манаграмамі Ісуса Хрыста на шлемападобнай ці паўсферычнай Галгофе з рысункам унутры, верагодна, «главы Адама» і надпісу: ІС ХС НИ КА ГИПОМО ЗИ Р..У злева ад крыжа і СВОк.У БОР..У – справа ад крыжа.

***Рысунак 4. Прарысоўка надпісу на трэцім Барысавым камені.***

Такім чынам, надпіс чытаецца, як «Ісус Хрыстос Ніка Госпадзе дапамажы рабу свайму Барысу». Па сведчанні А. П. Сапунова, надпіс зроблены больш умела, чым на астатніх камянях, і, за выключэннем некаторых знішчаных часам літар, лёгка чытаецца[140]. Камень знішчаны ў сярэдзіне XX ст.

***Чацвёрты Барысаў камень*** знаходзіўся каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. Гэта глыба з чырвонага граніту амаль квадратнай формы з няправільнымі вугламі. Сустракаюцца яго назвы «Высокагарадзкі камень», «Кравец», «Сцяпан». Надпіс з трох краёў уяўляе сабой высечаны крыж і словы: «Господи помози рабу своему Борису». У 1898 г. для лепшага захавання каменя была пабудавана капліца. У 1936 г. камень быў узарваны, а яго асколкі былі выкарыстаны для будаўніцтва магістралі Мінск – Масква. В. М. Ляўко лічыць, што дадзены камень – памежны пункт Друцкай воласці на рубяжы Лукомскай, Барысаўскай і Друцкай валасцей[141].

***Пяты Барысаў камень*** (бурага колеру) знаходзіўся каля г. п. Друя, пры ўпадзенні р. Друйкі ў Заходнюю Дзвіну.

***Рысунак 5. Пяты Барысаў камень. Зарысоўка А. Сапунова.***

Спачатку ён размяшчаўся на беразе, насупраць драўлянай Спасаўскай царквы (адсюль і мясцовая назва каменя – Спасаўскі), потым быў скінуты

[139] Сапунов, А. П. Река Западная Двина: историко-географический обзор с картами, планами и рисунками / сост. А. П. Сапунов. – Витебск: Типолитогр. Г. А. Малкина, 1893. – С. 446.

[140] Там жа. – С. 448.

[141] Левко, О. Н. Средневековые территориально-административные центры Северо-Восточной Беларуси: формирование и развитие / О. Н. Левко. – Минск: Беларус. навука, 2004. – С. 55–56.

ў Дзвіну і выцягнуты на паверхню ўжо пашкоджаным (у выглядзе трох кавалкаў) 23 кастрычніка 2002 г.[142] На камені – выява шасціканцовага крыжа з пашыранымі канцамі і надпіс: **ІС ХС НИ КА ГИПОМОЗИ РАБОУ (С)ВОЕМУ** «Ісус Хрыстос Ніка. Госпадзе дапамажы рабу свайму…». Па знешнім выглядзе і змесце надпісу можна дапусціць, што на камень таксама нанесена малітоўнае прашэнне Барыса.

***Рысунак 6. Прарысоўка надпісу на пятым Барысавым камені.***

***Шосты Барысаў камень.*** Адметны эпіграфічны помнік першай трэці XII ст. – Варацішын камень захаваўся да нашых дзён ў цэнтры в. Камена Даўгінаўскага сельсавета Вілейскага раёна. Зараз знаходзіцца на агародзе прыватнага дома за 100 м ад правага берага р. Вілія. Камень чырвонага колеру, мае званападобную форму, у акружнасці – 10,8 м, вышыня – 1,9 м.

***Фота 4. Камень Варацішын хрэст.***

Надпіс дрэнна чытаецца з-за нерасчышчанасці, але добра відаць выяву шасціканцовага крыжа вышынёй 1,72 м. Шырыня верхняй перакладзіны 0,43 м, ніжняй – 0,61 м[143]. На камені высечаны надпіс: **ІС ХС НИКА ВОРОТИШИНЪ ХРЬСТЪ.**

***Рысунак 7. Прарысоўка надпісу на камені паводле Е. Р. Раманава.***

Злева знізу таксама ёсць літары, але зараз прачытаць іх немагчыма. Пры даследаванні крыжа ў XIX ст. А. П. Сапуновым і Е. Р. Раманавым былі выяўлены літары на адваротным баку каменя. Яны былі прачытаны Е. Р. Раманавым як **ГН ПО** з паўночна-заходняга боку каменя і **БЮ СВ О У** з паўднёва-заходняга. Так, Е. Р. Раманаў, улічваючы гэтыя літары, прачытаў надпіс як «Іисус Христосъ Ника Воротишинъ. Христосъ (или Крестъ) святъ. Господи по(ози ра)бю сво... у»[144] і заўважыў, што надпіс, за выключэннем слоў «Воротиши нъ», складае звычайную формулу надпісаў на так званых Барысавых камянях[145]. Е. Р. Раманаў датуе надпіс на камені XI–XII стст. па палеаграфічных даных, паколькі даты на Вілейскім камені знойдзена не было. Што датычыцца сэнсу надпісу, то наконт яго існуюць два меркаванні: у першым выпадку крыж і надпіс маглі быць высечаны Варацішам, Вароцьшам[146], у другім выпадку, калі дапусціць згладжванне штрыха пасля літары **Ж** у слове «Варацішын», «надпись следует читать: «Воротиши ны», тогда надо допустить, что крест иссечён во время далёкого и трудного похода и надпись содержит в себе молитву: «Воротиши ны, Христосъ Святъ. Господи помози рабу своему...»[147]. На сённяшні момант дакладна чытаецца толькі надпіс **ІС ХС НИКА ВОРОТИШИНЪ ХРЬСТЪ**. Зараз увесь надпіс прачытаць нельга з прычыны зацёртасці літар і іх нерасчышчанасці.

---

[142] Шыдлоўскі, К. Друйскі Барысаў камень… С. 111.

[143] Археалогія і нумізматыка Беларусі… С. 114.

[144] Романов, Е. Р. К археологии… С. 7.

[145] Там жа.

[146] Там жа. – С. 8.

[147] Там жа.

***Камень Сулиборъ хрьстъ.*** Камень, які традыцыйна адносяць да Барысавых, адрозніваецца па змесце надпісу на ім. Гэта самы маленькі з Барысавых камянёў. Ён размяшчаўся каля трэцяга Барысавага каменя, пры ўпадзенні ў Заходнюю Дзвіну р. Павянушкі. Але зімой 1887–1888 гг., па ініцыятыве М. Ф. Кусцінскага і графа Уварава, быў падняты з ракі і перавезены ў маскоўскі музей-запаведнік «Каломенскае», дзякуючы чаму захаваўся да нашых дзён. Выява на камені з чырвонага граніту складаецца з крыжа з некалькі пашыранымі канцамі на шлемападобнай Галгофе і надпісу ў два радкі: СꙋЛИ БОРЪ з левага боку ад крыжа і ХРЬ СТЪ з правага боку.

***Рысунак 8. Прарысоўка надпісу на камені паводле М. Ф. Кусцінскага.***

А. М. Семянтоўскі тлумачыў сэнс надпісу як «благословение Божие на Бориса»[148], М. Ф. Кусцінскі як «Сильный, храбрый Борис свят»[149], «проф. Петров как «Сулибор крест свят»[150]. У сучаснай гістарычнай літаратуры надпіс чытаецца як «Сулібор хрэст». Што датычыцца мэты нанясення надпісу на камень, то тут можна прыняць версію І. А. Шляпкіна, які лічыў камень межавым знакам нейкага Сулібора[151]. Але пакуль не знойдзены аналагічныя камяні, канчатковыя высновы рабіць рана.

***Рагвалодаў камень.*** Прымыкае да вышэйзгаданых камянёў так званы Рагвалодаў, які знаходзіўся каля в. Дзятлаўка Аршанскага раёна, што ў 18 км ад Оршы. Гэта валун чырванаватага колеру, які меў мясцовую назву Барысаглебскі ці Аршанскі. З мэтай захавання каменя ад пашкоджання ў 1807 г. над ім была пабудавана Барысаглебская царква, знішчаная ў 1812 г. французамі. У 1830 г. зноў была пабудавана капліца, але пасля 1913 г. лёс каменя невядомы. Па сведчанні Л. В. Аляксеева, камень быў знішчаны пры будоўлі шашы Масква – Мінск[152]. Ён меў выяву шасціканцовага крыжа на двухступеньчатай Галгофе і кругавы надпіс: **ІС ХС НИ КА ВЪ ЛЬ ЅХОѲ МЦА МАИА ВЪ З ДНЬ ДОСПЕНЪ КРЪ СИІ ГИ ПОМОЗИ ..БꙊ СВОЕМꙊ ВАСИЛИЮ В КЦЕНІІ ІМЕНЕМЬ РОГВОЛОДꙊ СНꙊ БОРИСОВꙊ**, што можна прачытаць як «У год 6679 (1171) мая ў 7 дзень пастаўлены крыж гэты. Госпадзе, дапамажы рабу свайму Васілію ў хрышчэнні імем Рагволоду сыну Барысаву».

***Рысунак 9. Прарысоўка надпісу на Рагвалодавым камені.***

Аўтарства гэтага надпісу належыць друцкаму князю Васілію Барысавічу. Існуе некалькі меркаванняў наконт таго, для чаго быў пастаўлены камень. Э. М. Загарульскі лічыць, што Васілій-Рагвалод у галодную зіму 1170–1171 гг. па прыкладу свайго бацькі здзейсніў абрад асвячэння язычніцкіх камянёў з надзеяй на ўраджай[153]. Існуе таксама іншы погляд на гэты эпіграфічны помнік як межавы знак паміж Друцкай і Аршанскай валасцямі, устаноўлены ў 1171 г.

---

148 Белорусские древности… С. 97.
149 Сапунов, А. П. Река Западная Двина… С. 449.
150 Там жа.
151 Таранович, В. П. К вопросу… С. 255.
152 Историческое краеведение Белоруссии… С. 137.
153 Там жа. – С. 136.

Рагвалодам па прыкладзе яго бацькі. В. Ляўко лічыць, што, верагодна, Расціслаў Глебавіч саступіў Рагвалоду Барысавічу левабярэжную частку воласці[154]. А. А. Мяцельскі лічыць Рагвалодаў камень своеасаблівым памежным знакам[155] у шэрагу іншых знакаў (тапонімаў), якія адмяжоўваюць Оршу і Копысь ад Полацкай зямлі, што пацвярджае іх прыналежнасць Смаленску[156] і з'яўляецца вынікам барацьбы паміж Полацкам і Кіевам за днепра-дзвінскія волакі. Несумненным з'яўляецца адно – у з'яўленні Рагвалодавага каменя вырашальную ролю адыграла існаванне Барысавых камянёў і пераемнасць традыцыі іх з'яўлення.

***Камень Святаполк-Аляксандр*** быў узарваны ў 1818 г. пры расчыстцы рэчышча Заходняй Дзвіны[157]. Ён знаходзіўся каля мястэчка Крэслаўкі. Дакладна аб надпісе на гэтым камені амаль нічога невядома. Ён быў зафіксаваны падпаручыкам Дэбаналем перад узрывам наступным чынам: «Да не убоится душа моя врага моего якос твердою рукою десницы отросль Святополка Александр»[158]. Здаецца слушным, што надпіс скапіраваны недакладна, а магчыма, ён з'яўляецца вельмі вольным пераказам напісанага на камені.

Калі падагульніць мноства версій наконт нанясення надпісаў на Барысавы камяні, атрымліваецца некалькі напрамкаў.

Па-першае, камяні маглі перашкаджаць суднаходству і таму былі абясшкоджаны ці служылі ў якасці лоцманскіх знакаў. Але супраць гэтай версіі сведчыць правядзенне гідраархеалагічных даследаванняў месцаў, дзе знаходзіліся Барысавы камяні, якія паказалі, што перашкаджаць суднаходству такія камяні наўрад ці маглі[159]. Таму гэтую версію можна адхіліць.

Па-другое, надпісы наносіліся з мэтай абясшкодзіць язычніцкія святыні. Безумоўна, валуны са старажытнейшых часоў былі аб'ектам пакланення. З моманту высячэння на іх крыжоў яны пераўтварыліся з язычніцкай у хрысціянскую святыню. Прыкладна ў гэтым аспекце разглядае Барысавы камяні Е. Р. Раманаў, які лічыць, што яны з'яўляюцца старажытнейшым помнікам хрысціянскай даўніны ў Паўночна-Заходнім краі і другой стадыяй распаўсюджання тут хрысціянства[160]. Але для чаго тады было высякаць прашэнне аб дапамозе? Каб абясшкодзіць камяні як язычніцкія святыні, дастаткова было выявы крыжа.

Па-трэцяе, найбольш верагоднай мэтай нанясення надпісаў быў зварот князя Барыса з просьбай аб дапамозе. Перадумовай для гэтага сапраўды мог стаць голад 1128 г.

---

[154] Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Экаперспектыва, 2000–2005. – Т. 1: Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / М. Чарняўскі [і інш.]. – 2000. – С. 188.

[155] Там жа. – С. 204.

[156] Там жа.

[157] Историческое краеведение Белоруссии … С. 137.

[158] Таранович, В. П. К вопросу… С. 256.

[159] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 83.

[160] Романов, Е. Р. К археологии… С. 1–2.

Па-чацвёртае, Барысавы камяні маглі вызначаць тэрытарыяльныя межы. Аднак, на думку В. П. Тарановіча, замяніць памежныя знакі могуць толькі Барысавы камяні, якія знаходзяцца каля в. Каменкі і ў г. Друі, якія вызначалі межы Полацкага княства на захадзе[161]. В. М. Ляўко і А. А. Мяцельскі лічаць памежнымі знакамі Высокагарадзецкі і Рагвалодаў камяні.

Барысавы камяні – гэта эпіграфічныя помнікі, кожны з якіх – не толькі сведчанне ранняга перыяду хрысціянства на беларускіх землях, але і гістарычны сведка станаўлення беларускай дзяржаўнасці[162]. Па змесце і форме надпісаў магчыма меркаваць, што яны былі выкананы рознымі майстрамі, але сінхроннае іх выкананне служыць на карысць існавання цэнтралізаванай, у дадзеным выпадку княжацкай улады і адносіць іх з'яўленне да дзейнасці княжацкай адміністрацыі[163]. Барысавы камяні, надпісы на якіх датуюцца XII ст., па меркаванні Л. У. Дучыц, служаць ускоснымі сведкамі ў сувязі з пытаннем адносна часу ўзнікнення падзвінскіх гарадоў[164] Дзісны і Друі раней, чым з'явіліся пісьмовыя ўпамінанні.

Манументальныя помнікі займаюць важнае месца сярод эпіграфічных помнікаў. Па сведчанні А. А. Мядынцавай, яны ў старажытнасці з'ўляліся адзінымі магчымымі публікацыямі важных падзей, якія былі разлічаны на пісьменную публіку[165], да таго ж гэтыя надпісы як правіла, дакладна датуюцца або датай у тэксце або гістарычнымі данымі[166].

Такім чынам, да нашага часу няма адназначнага меркавання аб мэце нанясення надпісу на Барысавы камяні. Найбольш прывабнымі з'яўляюцца версіі аб камянях як межавых знаках і аб надпісах-маленнях у галодны 1128 год. Пры ўсёй спрэчнасці гэтых версій магчыма зрабіць дакладныя высновы аб спробе пераўтварэння язычніцкіх святыняў у хрысціянскія, а таксама аб існаванні княжацкай адміністрацыі, наяўнасць якой дазволіла ажыццявіць сінхроннае нанясенне надпісаў.

**Камяні**. Да гэтай катэгорыі адносяцца надпісы, нанесеныя на камяні з мінімальнай апрацоўкай. У прыватнасці, такія камяні выкарыстоўваліся для будоўлі. Камень з падмурка полацкага Сафійскага сабора сведчыць аб тым, што архітэктурныя помнікі нясуць гістарычную інфармацыю не толькі ў архітэктурных формах і будаўнічай тэхніцы, але і ў надпісах, якія былі пакінуты ў працэсе будаўніцтва або пасля ўзвядзення храма.

Так, у 1977 г. у ходзе работ архітэктурна-археалагічнай экспедыцыі ў Сафіі Полацкай на вапняковым камені белага колеру з падмурка ў праёме паўднёвага партала[167] памерамі 82×62×20 см і вагой каля 600 кг быў знойдзены надпіс,

---

161 Таранович, В. П. К вопросу… С. 257.

162 Шыдлоўскі, К. Друйскі Барысаў камень… С. 109.

163 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 228.

164 Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 34.

165 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 264.

166 Там жа.

167 Булкин, В. А. Надписи на камне из храма Софии в Полоцке / В. А. Булкин, Т. В. Рождественская // Памятники культуры. Новые открытия 1982 г. – Л., 1984. – С. 9.

ахарактарызаваны В. А. Булкіным і П. А. Рапапортам як надпіс, напэўна, дамангольскага часу[168].

***Фота 5. Камень з падмурка полацкага Сафійскага сабора.***

Падобныя камяні выкарыстоўваліся замест чэсаных блокаў[169] і чаргаваліся з радамі тонкай плінфы[170].

***Фота 6. Кладка полацкага Сафійскага сабора.***

Такая кладка, па сведчанні Л. В. Аляксеева, характэрна для збудаванняў XI ст.[171] Надпісы сканцэнтраваны, у асноўным, на ніжняй правай частцы каменя і павернуты адзін да аднаго пад вуглаімі 180° і 45°.

***Рысунак 10. Распалажэнне надпісаў на камені з падмурка полацкага Сафійскага сабора.***

Традыцыйна надпісы лічацца імёнамі людзей, якія будавалі гэты сабор. Але не ўсе надпісы былі апублікаваны. Так, найбольш вядомымі з'яўляюцца чатыры імі, якія напісаны ў выглядзе доўгага радка, аддзеленыя адзін ад аднаго вялікімі кропкамі пасярэдзіне радка і складаюць графіта **ДАВЫДЪ· ТОѴМА·МИКОѴЛА·КЪПЬСЬ** («Давыд, Тума, Мікула, Копесь») (рыс.11.1-4, фота 7.1-4 ).

Пад вуглом 45° да іх напісана графіта – імя **ВОРИШЬКО** («Варышка») (рыс. 11.5, фота 7.5) і пад вуглом 180° да іх графіта – **ВОРИШЪ/КОѰЪ** («Варышка пісаў») (рыс. 11.6, фота 7.6) у два радкі. Паралельна першаму надпісу, над словамі **МИКОѴЛА·КЪПЬСЬ** напісана графіта – імя **ПЄТЪРЪ**, пад якім напісаны склад **МА** і дагары нагамі слова **ПИЗЪДА** (рыс.11.7, фота 7.7). Паміж словамі **ТОѴМА·МИКОѴЛА** – графіта **ОН ѱ** («ён пісаў») (рыс. 11.8, фота 7.8). Знізу пад тымі ж словамі **МИКОѴЛА·КЪПЬСЬ** напісана графіта **ТОѴМА ѰАЛ** (рыс. 11.9, фота 7.9), прычым літара **ѱ** напісана ў выглядзе крыжа з адагнутымі ўніз штрышкамі, а літара **Λ** вынесена над радком. У верхнім правым вугле на супрацьлеглым ад астатніх надпісаў баку выразана манаграма з дзвюх літар: у вялікую літару **Ѳ** пад перакладзіну ўнізе ўпісана літара **М**. Можна дапусціць, што гэта манаграма Божай Маці «Θεού Μητηρ» у адваротным парадку, г. зн. не Маці Бога, а Божая Маці (рыс. 11.10, фота 7.10). Такая манаграма, толькі ў некалькі іншым напісанні, сустракаецца ў графіта № 141 Сафіі Кіеўскай[172] (рыс.11.11). Побач з гэтай манаграмай прарэзаны трохвугольнік, які складаецца з двух іншых трохвугольнікаў.

***Рысунак 11. 1-11. Надпісы на камені з падмурка полацкага Сафійскага сабора.***

***Фота 7. 1-10. Надпісы на камені з падмурка полацкага Сафійскага сабора.***

---

[168] Булкин, В. А. Надписи на камне из храма Софии в Полоцке... С. 9.

[169] Алексеев, Л. В. Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии в IX–XIII вв.) / Л. В. Алексеев. – М.: Наука, 1966. – С. 37.

[170] Там жа.

[171] Там жа.

[172] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 55.

Т. В. Раждзественская характарызуе камень як закладны камень з надпісамі другой паловы XI ст. і першай паловы XII ст.[173] Так, па палеаграфічных прыкметах Т. В. Раждзественская датуе надпіс **ДАВЫДЪ·ТОУМА·МИКОУЛА·КЪПЬСЬ** часам будаўніцтва сабора – сярэдзінай XI ст. і сцвярджае, што імёны належалі членам будаўнічай арцелі і, улічваючы іх фанетычны выгляд, людзям мясцовага паходжання[174]. Так, Т. В. Раждзественская лічыць імя Тума дыялектнай формай хрысціянскага імя Фама. А. А. Мядынцава выказвае меркаванне, што, магчыма, яно з'яўляецца язычніцкім імем[175], тады не выключана, што перад намі запіс аб двух людзях: Давыдзе-Туме і Мікуле-Копосе, падпісаная бытавым імем Тума[176]. Імя Давыд пішацца праз літару **Ы**, што сведчыць аб тым, што гэта імя абрусеўшае[177]. Імя Тума сустракаецца ў пісьмовых помніках, пачынаючы з XIII ст. у форме «Томаш, Тумаш»[178], яно характэрна як для Ноўгарада, так і для заходніх зямель. Імя Мікула з'яўляецца пераўтварэннем хрысціянскага імя Мікалай. Што датычыцца імя Копесь, то гэта магло быць як хатняе імя, так і імя, утворанае ад назвы горада Копысь. Такая з'ява была вельмі распаўсюджанай у тыя часы. Чалавек меў імя і дадатак да яго па месцы свайго паходжання. І, такім чынам, імя можа чытацца як Мікула Копысец (Мікула з Копыся). Прыкладам таму з'яўляецца імя Гавко Полоцанін, зафіксаванае ў граматах і летапісах. Што датычыцца датавання, то тут можна пагадзіцца з Т. В. Раждзественскай, якая датуе надпіс 2-й паловай XI ст.[179].

Знізу пад гэтым надпісам знаходзіцца графіта ТѸМА ѰА, датаванне якога таксама не выклікае супярэчнасцей. Яно напісана ў той жа час, што і папярэдняе графіта, і тым жа чалавекам. Гэты надпіс з'яўляецца як бы подпісам да чатырох імён, напісаных вышэй.

Складанасці ўзнікаюць з датаваннем астатніх надпісаў. Так, надпіс **ПЄТЪРЪ** датуецца Т. В. Раждзественскай 1-й паловай XII ст.[180], а надпісы **ВОРИШЬКО** і **ВОРИШЪ/КОѰЪ** – пачаткам XIII ст.[181] Папярэднія надпісы былі нанесены або да таго, як камень папаў у кладку, г. зн. на будаўнічай пляцоўцы, або ў той момант, калі была ўзведзена надфундаментная частка, а наземнай сцяны яшчэ не існавала[182]. Але нават калі аўтографы будаўнікоў былі нанесены і камень пакладзены ў фундамент, частка астатніх надпісаў не магла быць нанесена таму, што гэтыя надпісы знаходзяцца не толькі прама, але і перакулены. Таму

---

[173] Рождественская, Т. В. Письменность Полоцка… С. 48.

[174] Там жа.

[175] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 91.

[176] Там жа.

[177] Булкин, В. А. Отчет о работе архитектурно-археологической экспедиции в 1977 г. / В. А. Булкин, П. А. Раппопорт // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 574. – С. 11.

[178] Там жа.

[179] Булкин, В. А. Надписи на камне из храма Софии в Полоцке... С. 9.

[180] Там жа. – С. 10.

[181] Там жа.

[182] Там жа.

можна выказаць меркаванне, што ўсе гэтыя надпісы былі нанесены ў другой палове XI ст., а іх адрозненне абумоўлена дастаткова «кніжным» напісаннем графіці **ДАВЫДЪ ·ТОУМА·МИКОУЛА·КЪПЬСЬ** і **ТОУМА ѰА** і надзвычай павольным напісаннем астатніх графіці. Па мэце нанясення надпісаў – гэта надпісы-аўтографы, нанесеныя з мэтай пакінуць інфармацыю пра сябе.

Трэба таксама звярнуць увагу на графіта, якое было прачытана Т. В. Раждзественскай як некалькі літар і знакаў, якія не паддаюцца прачытанню[183]. На самай справе гэтае слова вельмі добра чытаецца, але з-за таго, што яно ўваходзіць у абсцэнную лексіку, раней яно не публікавалася. Слова **ПИЗЪДА** напісана роўна пад словам **ПЄТЪРЪ**, з паваротам на 180° да яго, прычым хвост літары **Р** з'яўляецца адначасова хвастом літары **З**. Існаванне гэтага надпісу абвяргае распаўсюджанае ненавуковае меркаванне аб тым, што словы ненарматыўнай лексікі былі запазычаны з цюркскіх моў. Словы абсцэннай лексікі былі знойдзены ў наўгародскіх берасцяных граматах дамангольскага часу, у прыватнасці, у грамаце № 955, датуемай XII ст.[184] Вышэйзгаданае слова паходзіць з праславянскага *pisьda («вульва»)[185] ад праіндаеўрапейскага *pisd-eH□ («мочаспускальны орган»)[186].

Такім чынам, нанясенне надпісаў-аўтографаў на камень у падмурку выклікана жаданнем пакінуць запісы аб сябе для нашчадкаў. Надпісы сведчаць пра адукаванасць будаўнікоў. З якой прычыны на камень было нанесена слова ненарматыўнай лексікі, зараз сказаць цяжка: магчыма, яно адносіцца да аднаго з імён ці напісана само па сабе, безадносна да імя.

**Вырабы з каменя**. Вырабы з каменя, якія маюць надпісы, адрозніваюцца ад вышэйзгадных груп помнікаў тым, што яны апрацаваныя. Гэта рэчы, прызначаныя для продажу, культавых дзеянняў ці гаспадарчых спраў. Такая катэгорыя дае больш нагляднае ўяўленне аб тых людзях, якія наносілі надпіс.

**Прадметы культу**. Да прадметаў культу з надпісамі адносяцца іконкі. Нягледзячы на тое, што іканічная выява прадугледжвае не толькі выяву, але і надпіс, шмат якія з ікон іх не маюць. Але надпіс з'яўляўся важнай часткай іконы, таму што напісанне ўсталёўвае адзінства імя і выявы[187], а значэнне надпісу з сакральным імем столь вялікае, што без надпісання ікона не сапраўдная, яна перастае быць іконай ва ўласным сэнсе і перад ёй нельга маліцца[188]. Нягледзячы на тое, што большасць надпісаў на творах дробнай каменнай

---

[183] Булкин, В. А. Надписи на камне из храма Софии в Полоцке... С. 9.

[184] Грамота из Новгорода № 955 (XII в.) [Электронный ресурс] / Обсценная лексика в берестяных грамотах / Википедия. – Режим доступа: http://ru. wikipedia. org/wiki/. – Дата доступа: 23.10.2007; Доклад академика А. А. Зализняка о новгородских грамотах 2005 г. [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://mitrius. livejornal. com/380809. html. – Дата доступа: 23.10.2007.

[185] Происхождение русской обсценной лексики [Электронный ресурс] / Обсценная лексика / Википедия. – Режим доступа: http://ru. wikipedia. org/wiki/. – Дата доступа: 23.10.2007.

[186] Список праиндоевропейских корней [Электронный ресурс] / Википедия. – Режим доступа: http://ru. wikipedia. org/wiki/. – Дата доступа: 23.10.2007.

[187] Лепахин, В. В. Икона и иконичность / В. В. Лепахин. – 2-е изд., перераб. и доп. – СПб.: Б. и., 2002. – С. 332.

[188] Там жа.

пластыкі прадстаўляюць сабою толькі кароткія тлумачэнні да выяў і называюць імёны святых[189], надпісы маюць значную каштоўнасць, яны дапамагаюць вызначыць іканаграфію выявы і датаваць твор, сведчаць пра пісьменнасць рамеснікаў, якія яго зрабілі[190].

Іконкі з надпісамі з'яўляюцца як імпартнымі, так і вырабамі мясцовых майстроў. Іконкі з каменя вырабляліся ў спецыяльных майстэрнях, якія доўгі час захоўвалі і перадавалі ў спадчыну свае мастацкія прыёмы[191]. Каменныя іконкі былі даволі каштоўнымі ў параўнанні з такімі ж вырабамі з абпаленай гліны, а таксама з літымі з металу абразкамі і крыжамі. Таму паўстае пытанне аб высокакваліфікаваных майстрах-рэзчыках, якія павінны былі добра ведаць іканаграфію, дасканала валодаць разцом, быць пісьменным у падпісванні выяў[192]. На падставе археалагічных даных вядома, што спецыяльных майстэрняў па вырабе каменных іконак у старажытнарускіх гарадах не існавала і вытворчасць не была масавай[193], таму не выключана, што іконкі вырабляліся майстрамі пры манастырах па індывідуальных заказах. На карысць гэтага сведчыць і доступ у манастырах да царкоўнай літаратуры і кананічных выяў святых, на якія неабходна было арыентавацца ў рабоце. Па меркаванні А. А. Мядынцавай, майстры не слепа капіравалі надпісы з узораў. На карысць гэтага сведчыць тое, што яны павольна размяшчалі надпісы, вар'іравалі розныя дублетныя літары, адвольна мянялі арфаграфію грэчаскіх імёнаў на ўласцівае ім дыялектнае вымаўленне, што сведчыць на карысць цалкам свядомых адносін да пісьма[194].

***Ікона «Узвіжанне крыжа».*** У выніку раскопак Г. В. Штыхава на Верхнім замку ў Полацку ў 1967 г. была знойдзенааднабаковая прамавугольная ікона, зробленая са светлага каменя, па краі якой ідзе вузкая, у многіх месцах збітая рамачка, верхні правы вугал адбіты. На паверхні іконы захаваліся рэшткі пазалоты. Памеры іконы 6,2×4,4 см. Даволі дакладна вызначаецца стратыграфічнае датаванне іконкі: 11-ы будаўнічы гарызонт або 13-ы пласт, на глыбіні 240–160 см ад дзённай паверхні. Такім чынам, «дата пласта – 20-е годы XIII в.»[195]. Кампазіцыя на іконе звязана з хрысціянскім святам «Узвіжанне крыжа».

***Рысунак 12. Ікона «Узвіжанне крыжа».***

На іконе – выява ў поўны рост імператара-святога Канстанціна (злева) і яго маці Алены (справа), якія трымаюць у руках васьміканцовы крыж, амаль з іх велічынёй. На святых адзенне візантыйскіх імператараў. На іконе ў манументальнай і строгай трактоўцы фігур яшчэ ясна прагледжваюцца рысы ра-

---

189 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 170.

190 Там жа.

191 Николаева, Т. В. Древнерусская мелкая пластика из камня XI–XV вв. / Т. В. Николаева. – М.: Наука, 1983. – (САИ, Е1–60). – С. 12.

192 Там жа. С. 16.

193 Там жа.

194 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 170.

195 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк (IX–XIII вв.) / Г. В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – С. 111.

манскага мастацтва[196]. Злева бачны фрагмент амаль згубленага надпісу **А КОСТНЪ Н**– «святы Канстанцін».

Нягледзячы на дакладнае датаванне Г. В. Штыхава, Т. В. Нікалаева датуе іконку канцом XII ст., таму што яна стылістычна бліжэй да канца XII ст.[197] Т. В. Нікалаева лічыць дадзеную ікону творам полацкага майстра, які быў знаёмы з візантыйскай і рускай іканаграфіяй і, у той жа час, знаходзіўся пад уздзеяннем заходнееўрапейскага мастацтва[198]. На карысць гэтага служаць выявы карон не візантыйскага тыпу, а заходнегерманскага[199] на галовах святых і, у той жа час, выява псеўдафаракія на адзенні Алены, які сустракаецца на выявах адзення да XII ст. уключна, характэрны для візантыйскай іканаграфіі. А вось васьміканцовы крыж з касой ніжняй перакладзінай часцей сустракаецца не на візантыйскіх, а на рускіх помніках XII ст.[200] Палеаграфічнае датаванне паказвае на XII ст., якім і можна датаваць іконку, улічваючы, што да таго, як апынуцца ў культурным слоі, яна пэўны час знаходзілася ў карыстанні.

***Іконка з выявай крыжа.*** Каменная іконка памерамі 5×6 см з выявай крыжа была знойдзена ў Горах А. А. Мяцельскім[201].

***Рысунак 13. Ікона з выявай крыжа.***

На правым баку рэльефная выява шасціканцовага крыжа і частка надпісу **IС Х(С) НІКА**. На рабрыне ў нізе крыжа – надпіс **ГИ П(ОМО)ЗИ Р(А)/БУ СВ(ОЕ)МУ С(И)/НАПИ(СА)ВШЕМ(У)** – «Госпадзе, дапамажы рабу свайму, напісаўшаму гэта». Па палеаграфічным і стратыграфічным датаванні помнік належыць да XII ст. Надпіс змяшчае малітоўнае прашэнне аб дараванні Божай ласкі чалавеку, які зрабіў надпіс, а магчыма і іконку цалкам.

***Ікона з выявай Маці Божай і св. Пятра.*** Двухбаковая, амаль квадратная ікона 4,6×3,5 см з вушкам для падвешвання і выявамі, з аднаго боку – Божай Маці, а з другога – апостала Пятра, была знойдзена ў Мінску ў час археалагічных работ на Замчышчы, якія праводзіў Э. М. Загарульскі. Дакладнае месца знаходжання іконкі – у кв. 82-м пад шчыльным бярвенчатым насцілам восьмага гарызонту, такім чынам, найбольш верагоднай датай трапляння іконкі ў культурны слой варта лічыць 30-я гады XII ст.[202] Выява Багародзіцы пагрудная, з разваротам у тры чвэрці направа, галава нахілена ўлева, правая рука прыціснута да сэрца, левая – паднята і разгорнута далонню ў жэсце прасіцелькі. Надпіс на гэтым баку іконы адсутнічае. Выява апостала Пятра таксама пагрудная. Ён апрануты ў хітон і гіматый, правая рука паднята для благаславення, левая – проста да пляча. З абодвух бакоў ад выявы надпіс **ПЕ/ТРЪ**.

---

[196] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 142.

[197] Там жа. – С. 42.

[198] Там жа.

[199] Там жа.

[200] Там жа.

[201] Левко О. Н. Средневековые территориально-административные центры Северо-Восточной Беларуси. – Минск: Беларус. навука, 2004. – 280 с.

[202] Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Минск: Изд-во БГУ, 1982. – С. 229.

***Рысунак 14. Адваротны бок іконы з выявай святога Пятра.***

Па знешнім выглядзе іконкі можна зрабіць вывад, што яна была зроблена высокапрафесійным мастаком, які пазбег сухой правільнасці ліній, рэзаў павольна, добра ведаў іканапісную трактоўку ліній і ў той жа час дасягнуў выразнай скульптурнай лепкі твараў[203]. Палеаграфічныя даныя надпісу сведчаць на карысць XII ст., такім чынам, палеаграфічнае датаванне пацвярджае стратыграфічнае.

***Ікона Спас Эмануіл (Пінск).*** Іконка з выявай Спаса Эмануіла ў форме кіёта з прамавугольнымі ніжнімі канцамі і паўкруглым навершшам па лініі німба і адтулінай для шнура была знойдзена ў час раскопак у Пінску, у слоі рубяжа XI–XII стст. у раскопе 1964 г. (раскоп 11)[204]. Аднабаковая серпентынавая іконка мае памеры 3,5×2,1 см. Выява Спаса пагрудная. Твар круглы, вочы міндалепадобныя, валасы зачэсаны назад. Галава трошкі нахілена да левага пляча, што надае выяве некаторую жывасць[205]. Адзенне – хітон з клавам, арнаментаваным крыжамі. Надпіс прадстаўлены ў выглядзе манаграм **IС/ХС** па абодва бакі ад выявы.

***Рысунак 15. Ікона Спас Эмануіл (Пінск).***

Т. В. Нікалаева лічыць, што гэта работа мясцовага майстра, які пераймае візантыйскія ўзоры[206]. Па сукупнасці палеаграфічных і стратыграфічных даных іконка датуецца XII ст.

***Ікона Спас Эмануіл (Ваўкавыск).*** У Ваўкавыску, у час раскопак 1956 г. на Замчышчы ў слоі канца XII–XIII ст.[207], быў знойдзены фрагмент аднабаковай вапняковай іконы з верхняй часткай у выглядзе паўкруглай аркі з плячукамі і прамавугольнай ніжняй часткай. Ад выявы Спаса Эмануіла захавалася толькі галава.

***Рысунак 16. Ікона Спас Эмануіл (Ваўкавыск) паводле Я. Г. Звяругі.***

Ад рэзанага ўглыб надпісу – літары **ХС** каля левага пляча. Палеаграфічных прыкмет для датавання недастаткова, таму вызначальнымі з'яўляюцца стратыграфічныя даныя.

Трэба адзначыць, што іконкі былі як прывазнымі, так і зробленымі мясцовымі майстрамі. Так, да кіеўскага імпарту трэба прылічыць шыферную іконку з постаццю Хрыста і надпісам **С ХС**[208], знойдзеную ў Навагрудку.

Нараўне з імпартнымі існавалі іконкі, якія выраблялiся простымі гарадскімі рамеснікамі, але іх вырабы як правіла, адрозніваюцца грубасцю разьбы,

---

[203] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 144.

[204] Лысенко, П. Ф. Древний Пинск XI–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – Минск: БелАДИ, 1997. – С. 168.

[205] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 145.

[206] Там жа. – С. 43.

[207] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск (X–XIV вв.) / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1975. – С. 129.

[208] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад – окольный город / Ф. Д. Гуревич. – Л.: Наука, 1981. – С. 115.

некананічнасцю іканаграфічных выяў, непісьменнасцю або поўнай адсутнасцю надпісаў[209].

Да гэтага тыпу можна аднесці іконку ***«Хрыстос Эмануіл благаслаўляе Міколу і Стэфана»***, якая была знойдзена ў час археалагічных даследаванняў Э. М. Загарульскага ў Мінску ў 1957 г. пад 5-м пластом 3-й вуліцы і якая стратыграфічна датуецца 17-м гарызонтам (канец XIII – пачатак XIV ст.)[210]. Аднабаковая ікона ўяўляе сабой прамавугольнік са светла-шэрага сланцу памерамі 6×4×0,7 см. У верхняй частцы іконы знаходзіцца выява Хрыста Эмануіла, які абедзвюма рукамі благаслаўляе Міколу (злева) і Стэфана (справа). Мікола ў святарскім адзенні, правая рука сагнута ў благаслаўляючым жэсце, левая трымае Евангелле, на якім выява чатырохканцовага крыжа з пашыранымі канцамі. Стэфан, які быў архідыяканам, трымае на левай руцэ накінуты арар, у руцэ – каўчэжац, а ў правай руцэ, магчыма, кадзільніцу (выява ў гэтым месцы пашкоджана). Твар Міколы шыракалобы, з шырокім унізе носам, невялікай шырокай барадой, вялікімі вачыма, якія вылучаны падвоенай акантоўкай; Стэфан безбароды, кучаравы. Абедзве постаці прыземістыя, выразныя, з прастанароднымі рысамі.

***Рысунак 17. Ікона Хрыстос Эмануіл благаслаўляе Міколу і Стэфана.***

Гэтая ікона, па меркаванні Т. В. Нікалаевай, з'яўляецца адным з найбольш выразных узораў дробнай пластыкі з каменя, магчыма, мясцовай вытворчасці[211]. На іконе – тры прарэзаныя ўглыб надпісы: **ІС ХС** каля німба Хрыста, **НИ/КО/ЛА** злева зверху над выявай Міколы и **С ТѲ**(Є?) зверху справа над выявай Стэфана. Т. В. Нікалаева датуе іконку першай паловай XIII ст., таму што ў прапорцыях фігур, у абліччах з тыпова народнымі рысамі няма адзнак прафесійнага выяўленчага мастацтва XII ст.[212] Палеаграфічны аналіз пацвярджае гэтае датаванне.

***Ікона з выявай св. Мікалая (Мінск).*** Выпадковай знаходкай з г. Мінска з'яўляецца ікона з ружовага сланцу, памерамі 4,3×4 см. На аднабаковай іконе – паясная выява Міколы ў адзенні святара з крыжчатым амафорам на плячах. Правая рука ў благаслаўляючым жэсце перад грудзьмі, левай рукой Мікола трымае Евангелле з касым крыжам і накладкамі на вуглах. Складкі на яго вопратцы маюць выгляд частых і бессістэмных рыс, накіраваных у розныя бакі, яны не перадаюць сапраўдную постаць святцеля. Твар таксама выкананы груба і схематычна: нос шырокі, вочы асіметрычныя, на лбе складка, барада шырокая і раздвоеная. У сукупнасці выяўленчых прыёмаў адчуваецца адыход ад традыцый, а, мабыць, слабае валоданне імі.

***Рысунак 18. Ікона з выявай святога Мікалая (Мінск).***

---

[209] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 16.

[210] Загорульский, Э. М. Возникновение Минска… С. 228.

[211] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 143.

[212] Нікалаева, Т. В. Скарбы мастацтва / Т. В. Нікалаева // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1972. – № 1. – С. 60.

Т. В. Нікалаева лічыць, што ў даволі прымітыўным і простанародным вобразе Міколы адчуваецца рука мясцовага майстра[213]. Па палеаграфічных даных надпіс **NНКО** можна аднесці да XIII ст. і, з-за адсутнасці стратыграфічных даных, датаваць іконку гэтым часам.

***Ікона з выявай св. Мікалая (Навагрудак).*** Яшчэ адна каменная аднабаковая разная іконка памерамі 5,1×4,2 см з паясной выявай святога Ніколы знойдзена пры археалагічным даследаванні Навагрудка Ф. Д. Гурэвіч у 1970 г. Ікона прамавугольная, з шырокім кантам. Адбіты правы ніжні вугал, пашкоджаны выявы твару і правай рукі, сагнутай перад грудзьмі. Левая рука, плячо якой прыкрыта амафорам з крыжамі, трымае Евангелле з выявай чатырохканцовага крыжа. Барада і валасы пазначаны разыходзячыміся рысамі.

***Рысунак 19. Ікона з выявай святога Мікалая (Навагрудак).***

Надпіс **НИ/КО/ЛА/Є АГИО/СЪ** («святы Мікалай») прарэзаны на рамцы: **НИ/КО/ЛА/Є** – злева, зверху ўніз у чатыры радкі. **АГИО** – зверху і **СЪ** – справа, пад літарамі **ИО**. Па меркаванні Т. В. Нікалаевай, іконка зроблена хутчэй рукой пісьменнага рамесніка, чым майстра-прафесіянала, аб чым можна меркаваць па даволі прымітыўнай, але дастаткова выразнай трактоўцы вобраза[214]. Па сведчанні Ф. Д. Гурэвіч, рэчы, знойдзеныя ў квадраце Е17 пабудовы № 20 на глыбіні 1,9–2,10 м, сярод якіх знаходзілася іконка, не выходзяць за межы XII ст.[215] Аднак пазней Ф. Д. Гурэвіч датуе гэтую іконку XIII ст., на карысць чаго сведчаць і палеаграфічныя прыкметы.

Падпісныя іконкі з выявай святога Мікалая можна аб'яднаць у комплекс, што дазваляе зрабіць выснову: у тыя часы паўсюдным было зацвярджэнне культа Міколы, найбольш яскрава адлюстраваным менавіта ў каменнай пластыцы, дзе яму надавалася значэнне заступніка ва ўсіх чалавечых бедах[216]. Здаецца слушным, што менавіта попытам на выявы гэтага святога абумоўлена іх вытворчасць не толькі прафесійнымі рэзчыкамі ікон, але і простымі рамеснікамі, аб чым сведчыць прымітывізм выяў і памылкі або недапісанасць у інскульптах.

***Ікона «Архангел Гаўрыіл».*** Акрамя падпісных іконак з выявай святога Мікалая, знойдзены падпісныя іконкі з іншымі выявамі. Да іх адносіцца фрагмент шыфернай іконкі, а, дакладней, яе правы верхні вугал з цёмна-шэрага сланцу. Іконка ўяўляе сабой прамавугольнік, з арачным выступам і адтулінай для падвешвання.

***Рысунак 20. Ікона з выявай архангела Гаўрыіла.***

Фрагмент быў знойдзены пры раскопках Шведскай гары ў Ваўкавыску ў 1954 г. у слоі XIII ст.[217] Іконка аднабаковая, на захаваўшымся фрагменце –

---

[213] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 144.

[214] Там жа. – С. 145.

[215] Гуревич, Ф. Д. Отчет о работе Новогрудской экспедиции в 1970 г. / Ф. Д. Гуревич // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 370. – С. 22.

[216] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 15.

[217] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 129.

выява часткі двайной акантоўкі німба і часткі левага крыла плоскім рэльефам. Выява становіцца зразумелай, дзякуючы надпісу **ГВРИ/ЛЪ** – «Гаўрыіл» (архангел Гаўрыіл), выразанаму ў два радкі. Іконка датуецца XIII ст. Эпіграфічныя даныя, нягледзячы на іх фрагментарнасць, пацвярджаюць стратыграфічныя.

***Ікона «Барыс і Глеб».*** Фрагмент аднабаковай круглай рэльефнай іконкі з чорнага каменя[218], дыяметрам каля 13 см, знойдзены ў завале будаўнічага смецця[219] ў 1977 г. пры раскопках царквы на Ніжнім замку ў Полацку П. А. Рапапортам, мае памеры 8,5×4,4 см. З краю іконкі ідзе рэльефная рамка шырынёй 1,2 см, зверху знаходзіцца адтуліна для падвешвання дыяметрам 2 мм. Вызначыць, якому святому належала выява, магчыма па ледзь бачным злева надпісе: **АГИІ/БОРИ/СЪ/І.**

Нягледзячы на тое, што ад выявы Барыса засталіся толькі правае плячо з сагнутай перад грудзьмі правай рукой, частка галавы і німба з чатырох радоў канцэнтрычных ліній, Т. В. Нікалаева лічыць, што для адной фігуры Барыса плоскасць іконы была бы залішне вялікай, на іконе былі выявы Барыса і Глеба[220]. Т. В. Нікалаева датуе іконку пешай паловай XIII ст.[221] па эпіграфічных даных.

На пытанне аб тым, ці з'яўлялася большасць іконак мясцовымі вырабамі, Т. В. Нікалаева адказвае, што гэтыя рэчы былі мясцовай вытворчасці, таму што іх рамесны характар сведчыць аб адарванасці ад буйных цэнтраў старажытнай культуры[222]. Гэта пацвярджаецца яшчэ і тым, што шматлікія іконкі адрозніваюцца адметным стылем, што дазваляе гаварыць аб іх мясцовай вытворчасці[223]. Аб гэтым сведчаць прымітыўная выява Міколы з Навагрудка[224], мінскі вобраз Ніколы, які адметны рамесным прымітывам[225]. На прыкладзе мінскіх іконак Т. В. Нікалаевай прасочваецца асаблівая мастацкая манера з нейкімі мясцовымі традыцыямі, і, у той жа час, гэтыя вырабы знаходзілі попыт, таму што адпавядалі мясцовым пасадскім густам старажытнага горада[226]. Сярод знаходак з Полацку трэба адзначыць іконку з выявай Барыса, якая дапаўняе шэраг помнікаў, звязаных з культам Барыса і Глеба, характэрнага для Полацка: Барысавы камяні, фрэскі Бельчыцкага манастыра і інш.

Як вынікае з вышэйсказанага, у прыёмах вырабу іконак спачатку, у асноўным, адчуваюцца візантыйскі і заходні ўплывы. Аб тым, што гэта старажытнарускія вырабы, сведчаць кірылічныя надпісы, але яны не заўсёды нанесены ў адпаведнасці з кананічнай традыцыяй. Пазней рынак па вытворчасці іконак задавальняўся мясцовымі вырабамі. Гэта звязана, па-першае, з больш глыбокім

[218] Булкин, В. А. Отчет о работе… С. 28.
[219] Там жа.
[220] Николаева, Т. В. Древнерусская… С. 142.
[221] Там жа.
[222] Там жа. – С. 146.
[223] Там жа. – С. 42.
[224] Там жа. – С. 43.
[225] Там жа.
[226] Там жа.

пранікненнем хрысціянства ў светапогляд тагачаснага насельніцтва, і ў выніку, з'яўленнем большага попыту на прадметы культу, што прывяло да развіцця мясцовых традыцый іх вытворчасці. Па-другое, са спыненнем вытворчасці прадметаў культу на тэрыторыях, захопленых татара-манголамі і адсутнасцю імпарту з гэтых тэрыторый.

**Гаспадарчыя прылады.** Гаспадарчыя прылады з надпісамі, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, прадстаўлены шэрагам падпісных прасліцаў. Яны, у сваю чаргу, уваходзяць у сукупнасць падпісных прасліцаў, выяўленых на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Шматлікія археалагічныя знаходкі тканін, шыферных прасліцаў, верацёнаў і іншых прыстасаванняў для прадзіва і ткацтва сведчаць аб шырокім распаўсюджанні дадзеных рамёстваў у сярэдневяковай Беларусі. Гэта была найбольш масавая і паўсюль распаўсюджаная вытворчасць, непасрэдна звязаная з вытворчасцю вопраткі і іншых прадметаў быта[227]. Ткацтва аддзялілася ад прадзіва наступным чынам: ткач у старажытнарускім горадзе стаў рамеснікам, а прадзіва засталося яшчэ некалькі стагоддзяў у сферы хатняй дзейнасці жанчын горада і вёскі[228].

Як прыстасаванні для прадзіва прасліцы былі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Прасліца (праселка, прасельца) – гліняны або каменны грузік з круглай адтулінай у цэнтры, які надзяваўся на верацяно, каб павялічыць інерцыю і хуткасць яго вярчэння[229]. Прасліцы, якія ўпершыню з'явіліся ў познім неаліце, выраблялліся з гліны. Сярэдневяковыя прасліцы выраблялліся з шыферу (сланцу). Месца масавай іх вытворчасці знаходзілася недалёка ад гарадоў Кіева і Оўруча, што на Валыні, і было звязана з масавай здабычай шыферу ў месцах яго прыродных выхадаў на паверхню, якая пачалася ў пачатку XI ст. Гэта выклікана шырокім будаўніцтвам, якое разгарнулася ў гэты час у Кіеве і Чарнігаве[230], і тлумачыцца попытам на матэрыял, які выкарыстоўваўся пры будаўніцтве каменных храмаў. Адходы ад вытворчасці выкарыстоўваліся для вырабу прасліцаў. Іх выточвалі спецыяльнымі свярдзёлкамі (цэнтральным – адтуліну, а бакавымі – паверхні акружнасцей)[231].

Пры гэтым каменярэзная вытворчасць мела даволі шырокія маштабы. Паводле даследаванняў археолагаў, гэтым рамяством займалася ў вышэйзгаданай мясцовасці насельніцтва не менш як пяці вёсак[232]. Адсюль прасліцы шырока распаўсюджваліся па ўсёй Еўропе, на іх меўся шырокі попыт. У сярэдзіне XIII ст. у выніку нашэсця татара-манголаў майстэрні былі разбураны, іх вытворчасць

---

227 Археология СССР. Древняя Русь. Город, замок, село. – М.: Наука, 1985. – С. 265.

228 Там жа. – С. 269.

229 Археалогія і нумізматыка… С. 515.

230 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 195.

231 Розенфельдт, Р. Л. О производстве и датировке овручских пряслиц / Р. Л. Розенфельдт // Сов. археология. – 1964. – № 4. – С. 220–221.

232 Тарасенко, В. Р. Древний Минск / В. Р. Тарасенко // Сб. ст. / Акад. наук БССР, Ин-т истории. – Минск, 1957. – Материалы по археологии БССР. – Т. 1. – С. 250.

зусім перапынілася і больш не аднаўлялася[233]. У сувязі з гэтым часавым прамежкам існавання, прасліцы маюць датуючае значэнне. І хаця ў 1975 г. Г. В. Штыхавым недалёка ад паўднёвага вала гарадзішча Менкі былі знойдзены рэшткі майстэрняў па вырабе праслíцаў, усё ж такі імпарт значна пераўзыходзіў мясцовую вытворчасць.

Форма і колер праслíцаў надзвычай разнастайныя. Сярод іх вылучаюцца біканічныя, бітрапецападобныя, трапецападобныя, цыліндрычныя, гаршка-, ігруша-, шпулька-, шарападобныя, зонныя праслíцы ружовага, фіялетавага, цёмна- і светла-бэжавага, чырвонага колераў. Чаму ж узнікла неабходнасць падпісваць праслíцы, пазначаць іх знакамі, сімваламі, рысункамі і літарамі? Як было адзначана вышэй, прадзівам займаліся ўсе жанчыны і, па меркаванні Б. А. Рыбакова, яны памячалі праселкі, каб не пераблытаць сваіх верацён[234]. Такім чынам, свае рэчы памячаліся для таго, каб не пераблытаць іх з чужымі. Аднак даследаванні ў форме простага падліку памечаных праслíцаў (графіці ў выглядзе слоў, літар ці малюнкавыя) паказалі, што такія складаюць усяго толькі 8–9 % ад агульнай колькасці. Сапраўды, гэтыя прылады працы даволі лёгка адрозніць адну ад адной па форме і колеры. Падпісванне праслíцаў – гэта, у большай ступені, дэманстраванне пісьменнасці, а ўжо потым азначэнне ўласнасці. Хутчэй за ўсё, малюнкі на праслíцах выконваюць ролю магічных знакаў. Хаця можна дапусціць, што такія працэнтныя суадносіны падпісаных і непадпісаных праслíцаў выкліканы выкарыстаннем гэтых прылад працы ў якасці грошай: як вызначаны эквівалент для дробных плацяжоў[235] у безманетны перыяд.

Праслíцы з надпісамі ўяўляюць сабой цікавы від эпіграфічных помнікаў. Геаграфія іх распаўсюджання ў Беларусі дастаткова вялікая (Вішчын, Пінск, Віцебск, Гродна, Мінск, Полацк, Дрысвяты, Друцк).

***Праслíца з алфавітным надпісам.*** Ружовае зоннае праслíца з Вішчына, знойдзенае на ўчастку 11 у квадраце 20 на глыбіні 187 см, змяшчае азбучны рад, які пачынаецца з літары **И**, далей ідуць у азбучным парадку літары **А Б В Г** (Г спачатку даецца ў люстэркавым адбітку, потым правільна), не хапае літар **Є Ж Ѕ З**, потым паменяны месцамі літары І (замест **И І** даецца **І И**). Літара **К** недапісана. Верагодна, аўтар надпісу ўспомніў пра літару **Д** і ўставіў яе пасля **К**. Потым зноў пропуск літар **Л М**, і далей у алфавітным парадку **Н О П**. Магчыма, такі дзіўны парадак можна растлумачыць напісаннем па памяці алфавіта чалавекам, які толькі пачаў яго вучыць. Э. М. Загарульскі дапускае, што аўтар гэтага надпісу (дзяўчына, якой належала праслíца) была не вельмі пісьменная або пісаць ёй даводзілася не вельмі часта[236].

---

[233] Тарасенко, В. Р. Культура западных земель Древней Руси в IX–XIII вв. / В. Р. Тарасенко // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – С. 3.

[234] Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 202.

[235] Колчин, Б. А. Усадьба новгородского художника XII века / Б. А. Колчин, А. С. Хорошев, В. Л. Янин; под ред. Б. А. Рыбакова – М.: Наука, 1981. – С. 109.

[236] Загорульский, Э. М. Вищинский замок XII–XIII вв. / Э. М. Загорульский. – Минск: БГУ, 2004. – С. 144.

***Рысунак 21. Прасліца з алфавітным надпісам (паводле Э. М. Загарульскага), Вішчын[237].***

Вядома, што ў знаходак Вішчынскага замка вельмі вузкае датаванне: храналагічныя рамкі функцыянавання павінны быць устаноўлены ў межах самага пачатку XII – сярэдзіны XIII ст., г. зн. абмежаваны прыблізна 150 гадамі[238]. Палеаграфічна вызначальнымі ў інскульпце з'яўляюцца літары **Ѧ**, **Б**, **В**, **Г**. Літара **Ѧ**, з наклоннай правай рысай, да якой далучаецца вострая пятля, характэрна для пачатку XII ст. У літары **Б** вуглаваты кузаў дастае да навеса, мачта выступае (як і правая рыса літары **Ѧ**) за мяжу літары. Трохвугольная форма кузава характэрна для XI–XII стст. Форма літары **В** характэрна для канца XII ст.: дзве роўнавялікія паловы далучаюцца да мачты, але не сыходзяцца. Да таго ж літара мае элемент упрыгожвання: рысачкі на канцах трохвугольнічкаў. Літара **Д** вынесена праз тры літары ад свайго месца. Яе верх зрэзаны, ножкі знаходзяцца ў радку. Гэтыя асаблівасці зрэдку, але сустракаюцца ў XII ст. Цікавым з'яўляецца напісанне **И** («іжэ») рознымі спосабамі, у прынцыпе, характэрнымі для XII ст., са скошанай і няскошанай перамычкай. Да таго ж трэба адзначыць, што ў літары **И** не сыходзяцца левая мачта і перакладзіна, што дазваляе меркаваць тут пра наяўнасць дзвюх літар **І** і **Л**. Напісанне **И** з няскошанай перакладзінай пераважае ў XIII ст., хаця яўна скошаная перамычка таксама сустракаецца ў XIII ст. Верагодна, недапісаным засталося **К**, да якога не дададзена верхняя частка. **Н** падаецца ў класічным варыянце са скошанай ад вяршыні левай да нізу правай мачты перакладзінай, што характэрна для XII–XIII стст. Як вядома, эвалюцыя **Н** спазнялася ў графіцы ў параўнанні з кніжнай графікай. У **П** вышыня пераважае над шырынёй, што пачынае быць характэрным для гэтай літары з XII ст. Да асаблівасцей можна аднесці крыху адстаўленую ўбок левую мачту, што можа быць абумоўлена складанасцю прадрапвання літары на невялікім цвёрдым матэрыяле. Адзначым, што палеаграфічнае датаванне ў асноўным пацвярджае стратыграфічнае. Прасліцы з алфавітнымі надпісамі, аналагічныя вішчынскаму, знойдзены ў Ноўгарадзе на Нярэўскім раскопе ў слаях XII ст.[239] і ў феадальным замку Любеча. На паверхні наўгародскага прасліца напісаны пачатак азбукі[240] і на любечскім надрапаны пачатак азбукі ад **Ѧ** да **З**[241].

***Рысунак 22. Прасліца з алфавітным надпісам, Кіеў[242].***

***Мар'іна прасліца.*** Так званае «Мар'іна прасліца» знойдзена ў Віцебску ў 1977 г. у пласце 14, кв. А, на глыбіні 266 см пры археалагічных даследаваннях Верхняга замка Л. У. Калядзінскім. Яно зоннае, цёмна-ружовае, мае памеры 23,8×19 мм, дыяметр адтуліны 6,7 мм, вагу 7,7 гр. На баку прачэрчаны выраз-

---

[237] Загорульский, Э. М. Вищинский замок XII–XIII вв. ... С. 144.
[238] Там жа. – С. 49.
[239] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 64.
[240] Там жа.
[241] Там жа. – С. 56.
[242] Там жа. – С. 55.

ны надпіс **МАРИНО**. На некаторай адлегласці ад гэтага слова ёсць яшчэ дзве літары: **ПС** – верагодна, «прасліца».

***Фота 8. Мар'іна прасліца.***

Л. У. Калядзінскі датуе прасліца XIII–XIV стст. на падставе палеаграфічнага аналізу літар **И** і **Н**[243]. Але, на наш погляд, гэта меркаванне патрабуе перагляду. Палеаграфічны аналіз літар наступны. У літары **М** мачты з нахілам; пятля вострая, адыходзіць адразу ад мачт, не апускаецца ніжэй мачт. Літара можа быць датавана пачаткам – сярэдзінай XII ст. Літара **А** мае нахіленую мачту, якая ўвагнута ўнутр, але выцягнута ўверх за радок; яе пятля закругленая, акуратна прачэрчаная, вузкая, абодва яе бакі паралельныя. Літара мае большасць аналогій у другой палове XII ст. Літара **Р** малафарматная, уся змяшчаецца ў радку, мачта выгнута вонкі; галоўка маленькая, трохвугольная, вастрыём уверх, датуецца таксама XII ст. Перакладзіна літары **Н** касая, адыходзіць амаль ад верху правай мачты, але не даходзіць да нізу левай. Такая форма напісання літары сустракаецца часцей за ўсё ў XII ст. Літары **Н** і **О** нельга назваць датуючымі, можна толькі заўважыць, што **И** мае прамую перакладзіну, характэрную для больш ранняга напісання гэтай літары. Напісанне **О** ў выглядзе дзвюх дужак таксама сведчыць на карысць больш ранняга датавання (пазней літара набывае больш шырокія і круглыя абрысы). Разам з тым складанасцю напісання можна растлумачыць такую асаблівасць: у **Н** перакладзіна не дастае да левай мачты.

***Рысунак 23. Прарысоўка надпісу на Мар'іным прасліцы.***

Такім чынам, надпіс палеаграфічна можна датаваць XII ст., што супадае са стратыграфічным датаваннем. Што датычыцца мовазнаўчага аналізу надпісу, то інскульпт адзначае ўласнасць, ён прадстаўляе сабой прыналежны прыметнік і абазначае, што прасліца належыць Мар'і.

***Бабіна прасліца.*** Бітрапецападобнае ружовае шыфернае прасліца дыяметрам па нізе трапецыі 1,9 см, па версе – 1,45 см, з дыяметрам адтуліны 0,61 см змяшчае надпіс **БАБИНО ПРѦСЛЬНЄ**. Кругавы надпіс, які ідзе па ніжняй рабрыне прасліца, прачэрчаны выразна і лёгка чытаецца. Пачатак і канец надпісу аддзелены адзін ад аднаго крыжападобным значком, верхні і правы канцы якога павернуты адзін да аднаго, ніжні павернуты направа. Гэта або свастыкападобны салярны знак, або крыж, а такое напісанне тлумачыцца цвёрдасцю матэрыялу і слізганнем па ім пішучага прадмета.

***Фота 9. Бабіна прасліца, Віцебск.***

Хутчэй за ўсё, прасліца належала пажылой жанчыне, унучка якой яго падпісала[244]. Такім чынам, надпіс чытаецца як «бабуліна праселка». Слова «баба» мела ў старажытнарускай мове два значэнні: па-першае, гэта «замужняя

[243] Калядзінскі, Л. У. Мар'іна праселка / Л. У. Калядзінскі // Беларусь. – 1986. – № 8. – С. 32.

[244] Алексеев, Л. В. Три пряслица с надписями из Белоруссии / Л. В. Алексеев / Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М.; Л., 1955. – Вып. 57. – С. 130.

жанчына»[245] ўвогуле, па-другое – маці бацькі або маці[246], сталая жанчына, бабуля. Другое значэнне ўяўляецца найбольш правільным, таму што прадзівам займаліся ўсе жанчыны. Пацвярджэннем таму з'яўляецца наўгародскае праслiца № 23 з надпісам «**БАБИНЬ ПРѦСЛЬНЬ**»[247], якое таксама было адрасавана бабулі.

***Рысунак 24. Прарысоўка надпісу на бабіным прасліцы.***

Стратыграфічнае датаванне зрабіць немагчыма, паколькі дакладная дакументацыя адсутнічае. Вядома, што прасліца знойдзена на раскопках у былой Віцебскай губерні. Таму надпіс магчыма датаваць толькі палеаграфічна. Можна пагадзіцца з меркаваннямі Л. В. Аляксеева і А. А. Мядынцавай, якія зыходзяцца ў пункце гледжання на датаванне прасліца: XI – пачатак XII ст., аб чым гавораць выразныя абрысы літар, іх трохвугольнасць, правільнае выкарыстанне літар **Ѧ** і **Ь**[248]. Некаторыя сумненні на карысць гэтага датавання выклікаюць літары **Ѻ** і **Є** на канцы слоў, бо такое іх выкарыстанне замест **Ъ** і **Ь** з'явілася пазней. Але А. А. Мядынцава тлумачыць такое напісанне тым, што яны адлюстроўваюць рэальнае вымаўленне[249]. Справа ў тым, што слова «прасліца» ўжывалася і ў мужчынскім, і ў ніякім родзе: «мар'іна», «настассіна», «бабіна» і «княжы».

***Настассіна прасліца.*** Прасліца з надпісам **НАСТАСИНѺ ПРАСЛЪНЬ** знойдзена ў 1964 г. у Пінску пры раскопках акольнага горада П. Ф. Лысенкам. Яно фіялетавага колеру, бітрапецападобнае, мае дыяметр па рабрыне 20 мм і дыяметр адтуліны 6 мм. Надпіс ідзе па ніжняй бакавой частцы з пераходам на верхнюю над тым месцам, дзе скончылася ніжняя частка надпісу.

***Рысунак 25. Настассіна прасліца (паводле П. Ф. Лысенкі), Пінск.***

Сам надпіс складаецца з 16 выразных, прачэрчаных устаўным пісьмом літар і аднаго знака, што нагадвае трохвугольнік вастрыём уверх, які, улічваючы выкарыстанне слова «прасліца» ў мужчынскім ці ніякім родзе, мог быць літарай **Ь**, а, па меркаванні П. Ф. Лысенкі, **Є**, **Ъ** або, у крайнім выпадку, **Ѧ**[250]. За выключэннем гэтага знака, чытанне выразна прачэрчаных літар не складае цяжкасці і не выклікае разначытанняў[251]. Што датычыцца стратыграфічнага датавання прасліца, знойдзенага ў 3-м пласце раскопа 9, то дэндрахраналагічныя даты, размеркаванне рэчавага матэрыялу і стратыграфічныя назіранні даюць падставу для датавання пінскага шыфернага прасліца з надпісам XII ст. (хутчэй за ўсё – другой паловай або рубяжом XII і XIII стст.[252] А. А. Мядын-

---

[245] Баба // Срезневский, И. И. Словарь древнерусского языка: в 3 т. / И. И. Срезневский. – М., 1989. – Ч. 1. – С. 35–36.

[246] Там жа.

[247] Зализняк, А. А. Древненовгородский диалект / А. А. Зализняк. –2-е изд. – М.: Языки славян. культуры, 2004. – С. 373.

[248] Медынцева, А. А. Грамотность... С. 58.

[249] Там жа.

[250] Лысенко, П. Ф. Шиферное пряслице с надписью из Пинска / П. Ф. Лысенко // Сов. археология. – 1966. – № 3. – С. 249.

[251] Там жа. – С. 248.

[252] Там жа. – С. 249.

цава згаджаецца з датаваннем П. Ф. Лысенкі, але робіць заўвагі наконт апошняй літары другога слова са спасылкай на тое, што радавая недапасаванасць (пры гэтым канцавое О ў імя чытаецца дакладна) прымушае меркаваць, што апошняя літара – Є[253]. Такім чынам, надпіс на прасліцы змяшчае імя жанчыны і назву прадмета – «Настассіна прасліца».

***Прасліца Неданы.*** Найбольш спрэчныя чытанні выклікае зоннае ружовае шыфернае прасліца з Гродна, знойдзенае Зд. Дурчэўскім у час раскопак 1937–1938 гг. на тэрыторыі Старога Замка ў Гродне і згубленае ў часы вайны, а ў 1948 г. знойдзенае Л. В. Аляксеевым. Прасліца дыяметрам 2,2 см, дыяметр адтуліны 0,9 см. Знойдзена ў слоі дрэва 8 і, па сведчанні У. І. Галубовіча і Г. А. Цэгак-Галубовіч, архаічнасцю сваіх літар цалкам адпавядае XII ст., да якога можна аднесці слой дрэва 8[254]. Надпіс **Г҃И ПОМОЗИ РАБЄ/СВОЄИ НЄДАНЄ** прачэрчаны ў два радкі па крузе, ён пачынаецца на ніжняй рабрыне прасліца і пераходзіць на верхнюю пасля слова «рабе», над літарамі О і М. У канцы ніжняга радка стаіць рысачка, якая нагадвае апостраф, а ў канцы сказа знаходзіцца знак, падобны і на літару Ѧ, і на літару Є, але дакладнае яго чытанне ўскладнена з-за вялікай колькасці драпін. Літары ніжняга радка большыя, чым літары верхняга. Даследчыкі згодны ў адным: надпіс змяшчае малітоўнае прашэнне гаспадыні прадмета, таму што частка: «Господи помози рабе своеи» чытаецца бясспрэчна. Зд. Дурчэўскі прачытаў увесь надпіс як: «г(оспод)и помози рабе своей и не дай…»[255], уставіўшы адну літару ў надпіс.

Н. Н. Варонін, які апублікаваў надпіс, працытаваў чытанне Зд. Дурчэўскага[256]. Л. В. Аляксееў трактуе працяг надпісу як: «и не дай ей погибнуть в день судный»[257]. Аднак такое чытанне выклікае (у прыватнасці, у В. Л. Яніна) шэраг супярэчнасцей, і ў тым ліку наступнае: «вряд ли кому-нибудь могло прийти в голову поместить заведомо несоразмерную надпись»[258]. Па меркаванні В. Л. Яніна, пасля слова «своей» павінна быць жаночае імя, якое ён прачытаў як «Іелене» (Елене)»[259]. Б. А. Рыбакоў[260] і М. П. Сотнікава[261] чытаюць спрэчнае слова як «и дай». У сваю чаргу А. А. Мядынцава схіляецца ў бок чытання імя як «Недана» на падставе таго, што пятая літара імя можа

---

[253] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 61.

[254] Голубович, В. И. Новые материалы по истории Гродно в раннефеодальную эпоху / В. И. Голубович, Е. А. Цегак-Голубович // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 44. – С. 47.

[255] Durczewski, Z. Stary zamek w Grodnie w swiete wykopalisk, dokonanych w latach 1937–1938 / Z. Durczewski. – Niemen. – 1939. – № 1. – С. 14.

[256] Воронин, Н. Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932–1949 гг.) / Н. Н. Воронин. – М.: Изд-во акад. наук СССР, 1954. – 239 с. – (МИА СССР. – № 41. – Т. 3). – С. 64–65.

[257] Алексеев, Л. В. Три пряслица… С. 131.

[258] Янин, В. Л. К чтению надписи на пряслице из Гродно / В. Л. Янин // Сов. археология. – 1958. – № 1. – С. 244.

[259] Там жа.

[260] Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 201.

[261] Орлов, А. С. Библиография русских надписей (доп. М. П. Сотниковой) / А. С. Орлов. – М.: Изд-во АН СССР, 1952. – С. 288.

быць прачытана і як Н, а ў дадзенай малітоўнай формуле ў некаторых помніках поруч з хрысціянскімі сустракаюцца і язычніцкія імёны[262]. На наш погляд, розначытанні надпісу былі выкліканы яго няякаснымі прарысоўкамі. Пры пільным вывучэнні прасліца высветлілася, што ў надпісе можна выдзеліць 23 літары і адзін знак, які аддзяляе напісанае ў ніжнім радку ад напісанага ў верхнім.

***Фота 10. Прасліца Неданы, Гродна.***

Нягледзячы на неглыбока прадрапаныя літары верхняга радка, бачна, што папярочная рыса літары 18 больш нахіленая, чым у папярэдняй Н, таму яна можа чытацца як **Н**. 19-я літара, бясспрэчна, **Є**. 20-я літара надпісу захавалася дрэнна, але другая ножка яе мае навершша і трохвугольнік на канцы, што дазваляе аднесці яе да літары **Д**. Літара 21-я, бясспрэчна, **А**. Яна некалькі адрозніваецца ад літары **А** ў ніжнім радку, але ёсць і аднолькавыя рысы: навершша над літарамі, вузкі кузаў. Над літарай **А** ў верхнім радку ёсць дзве коскі. У 22-й літары – **Н** касая рыса не дастае да вяршыняў мачт, што таксама сведчыць на карысць чытання літары як **Н** у пачатку пятага слова. Апошняя літара выклікае супярэчнасці. Аднак у агульным кантэксце яе можна прачытаць як **Є**. Падрабязны і дэталёвы разгляд літар верхняга радка дазваляе згадзіцца з чытаннем надпісу А. А. Мядынцавай і прачытаць імя ўладальніцы прасліца як «Недана». Трэба дадаць, што надпіс зроблены адной і той жа рукой, аб чым сведчаць агульныя рысы ў напісанні літар верхняга і ніжняга радкоў.

Палеаграфічна вызначальнымі з'яўляюцца напісанні літар **А, Б, В, Д, Р, З, М**. Што датычыцца літары **А**, то яна мае моцна нахіленую мачту, да якой прымыкае пятля з навершшам (у трэцім слове) і са зрэзаным верхам (у пятым слове), што характэрна для пачатку XIII ст. **Б** мае трохвугольны кузаў, моцна выцягнуты ўправа, які падымаецца трохі больш за сярэдзіну мачты, невялікую закругленасць кузава знізу і моцна выцягнутае направа навершша, што дазваляе датаваць літару канцом XII – пачаткам XIII ст. Літара **В** мае прыблізна аднолькавыя петлі (верхняя трошкі большая за ніжнюю), якія не прымыкаюць да мачты. Паводле Б. А. Рыбакова, такое напісанне характэрна для сярэдзіны – канца XII ст.[263] Паводле С. А. Высоцкага, для графіці такое напісанне характэрна для XIII ст.[264] Захаваўшаяся частка літары **Д** адзначаецца наяўнасцю навершша і трохвугольнага завяршэння адной з ножак, што характэрна для сярэдзіны XIII ст. Літара **З** мае вялікае гарызантальнае навершша і роўнавялікія галоўку і хвост, які, у сваю чаргу, выходзіць далёка за радок і канец якога павернуты да пачатку радка, што дазваляе датаваць літару XII ст. **Р** з акруглай пятлёй знаходзіцца ў радку, што сведчыць на карысць больш ранняга яе датавання. Літару **М** можна аднесці да XII ст. па наяўнасці навершшаў над літарай, завостраная пятля даходзіць да нізу радка, ножкі адстаўлены ў бакі.

***Рысунак 26. Прарысоўка надпісу на прасліцы Неданы, Гродна.***

---

262 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 60.

263 Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… Зводная табліца літары В.

264 Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 152.

Л. В. Аляксееў датуе прасліца XIII ст. А. А. Мядынцава таксама датуе праселка гэтым стагоддзем на падставе напісання літары **ѧ** з напухлай пятлёй і **И** з прыўзнятай (у дадзеным выпадку амаль гарызантальнай) перакладзінай[265]. Аднак большасць палеаграфічных прыкмет сведчаць на карысць XII ст. Таму нельга адназначна пагадзіцца з датаваннем. На наш погляд, мае сэнс датаваць надпіс канцом XII – пачаткам XIII ст. Тым больш, што гэтыя даныя пацвярджаюцца стратыграфічна. Такім чынам, надпіс на прасліцы чытаецца: «Госпадзе, дапамажы рабе сваёй Недане» і з'яўляецца добрым прыкладам распаўсюджвання хрысціянства на беларускіх землях. Прасліца не з'яўляецца прадметам культу, аднак на яго нанесена малітоўная формула, у дзейснасці якой гаспадыня прадмета ўпэўнена. Да таго ж імя на прасліцы не хрысціянскае, яно хатняе (язычніцкае). Гэта не адзіны прыклад ужывання ў малітоўнай формуле хатніх імёнаў, такое ж назіраецца ў царкоўных графіці і подпісах майстроў. На наш погляд, тут адбываецца змешванне хрысціянскага і язычніцкага жыццеўспрымання, якое характэрна для двуяверства. Гэта пацвярджае думку Б. А. Рыбакова аб тым, што на мяжы XII і XIII стст. усталявалася двуяверства, г. зн. вядомая кампрамісная раўнавага язычніцкіх і праваслаўных элементаў[266].

Таксама як і папярэдняе, у Гродне, у час археалагічных даследаванняў на Замкавай гары, якія праводзіліся Зд. Дурчэўскім, было знойдзена шыфернае зоннае светла-ружовае прасліца. Інскульпт нанесены на бакавую паверхню прылады тлустымі і глыбокімі рысамі з нахілам улева. Дакладна бачны толькі тры літары **НМѦ**, што дазволіла з вялікай нацяжкай прачытаць надпіс як «помилуи мя»[267]. Стратыграфічнае датаванне прасліца невядома. Палеаграфічных прыкмет для датавання няшмат, аднак па абрысах **И**, якая падобна на літары XI–XII стст.[268], і ўжыванні **Ѧ** Л. В. Аляксееў датуе надпіс у межах XI–XV стст.[269] Умоўна надпіс можна датаваць XII ст.

***Рысунак 27. Прасліца "імя" паводле Я. Г. Звяругі[270], Гродна.***

***Прасліца «Пататная».*** Прасліца з надпісам **ПАТАТНАѦ** («скрадзенае») знойдзена ў Полацку С. В. Тарасавым. Яно зоннае, чырвонага колеру, дыяметрам 1,25 см, вышынёй 1,31 см, дыяметр адтуліны 0,8 см. Надпіс нанесены на верхнюю рабрыну прасліца, прычым верхні край служыць умоўна верхняй перакладзінай літар **П** і **Т**, пры гэтым верхняя перакладзіна **Т** абмяжоўваецца невялікімі вертыкальнымі рысачкамі. Літары нарэзаны тонкімі, але добра бачнымі лініямі. Выява **Ѧ** сімвалічная, у выглядзе дзвюх ліній, перакладзіна **Н** дастае да канцоў мачт, **Ѧ** таксама выдрапана добра.

---

265 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 60.

266 Рыбаков, Б. А. Городское язычество Древней Руси / Б. А. Рыбаков // Труды V междунар. конгресса славян. археологии. – Т. 1. – Вып. 1. – Пленарные доклады / Междунар. уния славян. археологии, Ин-т археологии Акад. наук СССР, Ин-т археологии Акад. наук УССР; гл. ред. Б. А. Рыбаков. – М., 1987. – С. 78.

267 Алексеев, Л. В. Три пряслица… С. 132.

268 Там жа.

269 Там жа.

270 Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 191.

***Рысунак 28. Прасліца «пататная», Полацк.***

С. В. Тарасаў тлумачыць надпіс на прасліцы як слова «крадзенае, схаванае»[271], якое паходзіць ад кораня «тать» – «злодзей, рабаўнік» (параўн. – «татьба, татбина»). Сапраўды, слова «татбина» азначае не толькі крадзёж, але і «утрату, убыток, понесённый от воров»[272], таму з чытаннем гэтай эпіграфемы можна пагадзіцца. Палеаграфічна прасліца можна датаваць XII ст. Цікава, што надпіс абазначае працэс таго, як прасліца апынулася ў яго гаспадыні. Паралеллю гэтаму надпісу можа служыць надпіс на прасліцы з Ноўгарада: «**ИВАНОКЕ НАЛЕЗЕ**»[273] («Іванка знайшоў»), у якім адзначаны факт знаходкі прасліца[274].

***Прасліца «Ліла».*** Нанясенне надпісу на прасліцы выклікала пэўныя складанасці, якія былі абумоўлены маленькімі памерамі, складанасцю формы, цвёрдасцю матэрыялу, што прыводзіла да з'яўлення лішніх рысачак, змянення традыцыйных форм літар. Таму некаторыя надпісы і да гэтага часу выклікаюць розныя тлумачэнні, як, напрыклад, прасліца, знойдзенае Л. В. Аляксеевым пры даследаванні дзядзінца старажытнага Друцка ў 1957 г. Яно зоннае, з ружовага шыферу, дыяметрам 1,9 см. Дыяметр адтуліны – 0,8 см. На баку буйнымі літарамі, якія маюць выгляд штрыхоў, прачэрчана графіта, якое складаецца з чатырох літар і значка ў выглядзе «галінкі». Першы знак складаецца з дзвюх ліній: злёгку скрыўленай вертыкальнай, амаль ад сярэдзіны якой адыходзіць направа ўніз крывая рыса, што не дастае да краю прасліца. Другі знак, безумоўна, чытаецца як старажытнарускае **И**. Левая мачта трошкі выгнута, відаць, рука пішучага зварухнулася, што абумоўлена пісаннем на цвёрдым матэрыяле. Перакладзіна **И** трохі нахілена ўлева ўніз. Трэці знак падобны на першы, ён таксама складаецца з вертыкальнай мачты і адыходзячай ад яе сярэдзіны рысы, накіраванай управа зверху ўніз. Чацвёрты знак складаецца з чатырох рысачак: вертыкальнай, злёгку нахіленай уніз управа; нахіленай, адыходзячай ад верху мачты направа ўніз, знізу яе перакрэслівае штрых, паралельна якому, бліжэй да мачты, праходзіць чацвёртая лінія, якая, магчыма, дубліруе ці ўдакладняе трэцюю. Пачатак і канец слова аддзелены адзін ад аднаго галінкападобным знакам.

***Рысунак 29. Прасліца «ЛИЛА», Друцк.***

Па меркаванні Л. В. Аляксеева, надпіс не вельмі добра атрымаўся ў таго, хто яго пісаў. На яго думку, літары графіта трэба мысленна дабудоўваць: першую – вертыкальнай рысай справа ад нахіленай лініі да атрымання літары **Н**, а трэцюю – крывой рысачкай зверху да атрымання **К**. У выніку напісанае слова

---

[271] Тарасаў, С. Полацкая эпіграфія X–XV стст. / С. Тарасаў // Полацак / Беларус. культ.-асвет. цэнтр. – Кліўленд, 1993. – № 5 (25). – С. 9.

[272] Полный церковно-славянский словарь. – М.: Отчий дом, 2000. – 1120 с. (Репринтное воспроизведение издания 1900 г.) – С. 709.

[273] Колчин, Б. А. Усадьба новгородского художника… С. 103.

[274] Медынцева, А. А. Грамотность…. С. 64.

павінна чытацца як НИКА, г. зн. слова, якое азначала тады перамогу праваслаўя над язычніцтвам[275], якое з'яўлялася, магчыма, знакам уласнасці.

***Рысунак 30. Прасліца «ЛИЛА» паводле Л. В. Аляксеева[276], Друцк.***

Аднак супраць гэтага меркавання ёсць сур'ёзныя пярэчанні. А. А. Мядынцава чытае надпіс на прасліцы як ЛИЛА – жаночае імя, невядомае па пісьмовых крыніцах таго часу, але даволі распаўсюджанае да нашых дзён у Балгарыі, і лічыць, што архаічнае напісанне Л у дадзеным выпадку тлумачыцца манернасцю почырка або складанасцю пісьма па цвёрдай акруглай паверхні[277]. У дадзеным выпадку мы згодны з думкай А. А. Мядынцавай. Па-першае, літары прарэзаны на прасліцы дастаткова выразна, і мысленныя дабудоўванні, на наш погляд, не маюць сэнсу. Па-другое, першая і трэцяя літары амаль ідэнтычныя: мачта з адыходзячай ад яе сярэдзіны направа крывой рысай. Па-трэцяе, слова НИКА часцей за ўсё выкарыстоўваецца ў спалучэнні IС ХС НИКА і перакладаецца як «Ісусам Хрыстом перамагай»[278]. Гэты надпіс заўсёды пішацца каля крыжа, але прасліца не прадмет культу, і на ім выява крыжа не сустракаецца, пачатак і канец слова аддзяляюцца галінкападобным знакам. Такім чынам, надпіс на прасліцы чытаецца як жаночае імя «Ліла». Л. В. Аляксееў датуе прасліца XIII ст. на падставе палеаграфічных і стратыграфічных даных: прасліца знойдзена паміж бярвеннямі памоста XIII ст. у 5-м штыку раскопа III..., а першыя 5 пластоў культурного слоя старажытнага Друцка належаць да часу не раней за XIII ст. А. А. Мядынцава адзначае прыўзнятасць перакладзіны И і напісанне А з вялікай акруглай пятлёй і згаджаецца з стратыграфічнай датай як выклікаючай найбольшы давер пры недастатковасці матэрыялу для палеаграфічнага датавання[279]. На падставе стратыграфічных і палеаграфічных даных можна пагадзіцца з датаваннем надпісу XIII ст.

***Прасліца з просьбай аб дапамозе***. У 1956 г. на раскопках Замчышча Ваўкавыска было знойдзена моцна пашкоджанае па ніжняй бакавой паверхні і ніжняй плоскаці ружовае біканічнае прасліца. Дыяметр прасліца па рабрыне – 20 мм, дыяметр адтуліны складае 7 мм. Па верхняй бакавой частцы ідзе вельмі невыразны надпіс з 13 літар у адзін радок: **ГОПОМОЗНРАБ(О)ѴС**.

***Рысунак 31. Прасліца з просьбай аб дапамозе .***

Надпіс з'яўляецца недапісаным. Літары прарэзаны невыразна, на прасліцы шмат драпін, якія ўскладняюць чытанне. Надпіс быў упершыню прачытаны Г. І. Пехам як «Госпадзі дапамажы рабу свайму». Са спасылкай на чытанне Г. І. Пеха, Я. Г. Звяруга робіць палеаграфічны аналіз надпісу на прасліцы і заўважае, што А шырокае з навершшам, М з востравугольнай сярэдзінай

[275] Алексеев, Л. В. Еще три шиферных пряслица с надписями / Л. В. Алексеев // Сов. археология. – 1959. – № 2. – С. 243.

[276] Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 233.

[277] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 58.

[278] Книга о церкви / А. Лоргус [и др.]; под общ. ред. А. Сидорова. – 2-е изд. – М.: Паломник, 2000. – С. 79.

[279] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 58.

і навершшам, Ρ з акруглай пятлёй і вельмі характэрнае Ѵ – аднабаковая несіметрычная, якая сустракаецца ў нешматлікіх рускіх рукапісах XIII ст.[280] Сукупнасць палеаграфічных прыкмет дазволіла датаваць прасліца XIII ст., тым больш, што стратыграфічныя ўмовы не супярэчаць датаванню прасліца XIII ст.[281] Я. Г. Звяруга адзначае, што па змесце ваўкавыскі надпіс вельмі блізкі да надпісу на шыферным прасліцы з раскопак у Гродне[282] («Госпадзе, дапамажы рабе сваёй Недане»). Трэба заўважыць, што акрамя адзначаных раней, прасліцы з малітоўнай формулай больш не сустракаюцца ні ў адным з гарадоў.

***Прасліца «Княжын»*** з'яўляецца цікавым не толькі як падпісная жаночая прылада працы, але і як паказчык складу насельніцтва на гарадзішчы, у сукупнасці з іншымі знаходкамі, сярод якіх «два перстня с княжескими знаками (серебро)», «днище сосуда с княжеским знаком», «шиферное пряслице с процарапанным княжеским знаком»[283], якія даюць магчымасць абазначыць распалажэнне княжацкай рэзідэнцыі. Надпіс **КЪНѦЖИНЪ** («княжы») начэрчаны па верхняй грані цёмна-ружовага бітрапецападобнага прасліца (ніжняя трапецыя адбіта), знойдзенага Л. В. Аляксеевым у Друцку ў раскопу XIII. Щ.4.[284] Дыяметр ніжняй грані – 1,9 см, верхняй грані – 1,7 см, адтуліны – 0,7 см. Прасліца можа быць датавана XII–XIII стст. на падставе стратыграфічных даных[285]. Палеаграфічны аналіз можа толькі ўскосна пацвердзіць стратыграфічны, таму што літары напісаны вельмі цікава, асабліва гэта датычыцца **Ѧ, Ж, И**. **Ѧ** моцна нахілена ўлева, папярочная перакладзіна адсутнічае, таксама ўлева нахілены сярэдні штрышок. **Ж** прачэрчана ў выглядзе літары **Х**, знізу дададзена сярэдняя рысачка. На месцы **И** спачатку спрабавалі напісаць **Н**, але потым выправілі. Датуючымі можна лічыць толькі літары **К** і **Ъ**: верхняя ножка **К** менш, чым ніжняя, трохвугольны кузаў **Ъ** выцягнуты ўверх, амаль дастае да яго, што характэрна для XII ст.

***Рысунак 32. Прасліца «Княжын» .***

Надпіс, па меркаванні А. А. Мядынцавай, паказвае на дарыльшчыка – князя («княжы», а не «княгінін»)[286]. Прасліца з аналагічным надпісам «**КНѠЖѦЄЄ**»[287] было знойдзена ў Старой Разані. Яно таксама абазначае прыналежнасць[288]. А. А. Мядынцава не выключае, што прасліца з надпісам **КЪНѦЖИНЪ** магло быць шлюбным падарункам, таму што прыстасаванні для прадзіва і ткацтва

---

[280] Зверуго, Я. Г. О строительном материале храма XII в. на волковысском Замчище / Я. Г. Зверуго // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии / Ин-т истории АН БССР; под ред. Я. Г. Зверуго, В. Ф. Исаенко. – Минск, 1969. – С. 126.

[281] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 126.

[282] Там жа.

[283] Алексеев, Л. В. Друцк в XII–XVI вв. / Л. В. Алексеев // Рос. археология. – 2002. – № 2. – С. 88–89.

[284] Там жа.

[285] Алексеев, Л. В. Три пряслица с надписями… С. 132.

[286] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 58.

[287] Там жа. – С. 61.

[288] Там жа. – С. 62.

былі ў славян шлюбным падарункам жаніха нявесце, а ў шлюбных абрадавых спевах маладыя часта іменаваліся князем і княгіняй[289]. Аднак знаходкі з княжацкімі знакамі разам з прасліцам сведчаць на карысць версіі княжацкага падарунка.

У канцы 20-х гг. XII ст. Друцк яшчэ не быў значным горадам. Цэнтрам удзельнага княства Друцк становіцца пры сыне Барыса Рагвалодзе (Васілю), які быў сасланы ў Візантыю і вярнуўся ў 1140 г. Дзве выяўленыя Л. В. Аляксеевым пабудовы, у адной з якіх было знойдзена прасліца, з'яўляліся часткай «княжа двара», які, займаючы амаль палову дзяцінца, быў і найбольш умацаваны[290]. Прычым росквіт будаўніцтва прыходзіцца на сярэдзіну XII ст., г. зн. на час пасля вяртання сыноў Барыса Усяславіча з візантыйскай ссылкі, калі знешнепалітычныя абставіны адносна стабілізаваліся[291]. Такім чынам, у дадзеным выпадку эпіграфічны помнік – прасліца з надпісам **КЪНѦЖИНЪ** – дапамагае вызначыць сацыяльна-тапаграфічную структуру старажытнага Друцка – абазначыць месцазнаходжанне княжацкага дзяцінца.

***Прасліца «Депрясл».*** Унікальнай знаходкай з'яўляецца прасліца з селішча Дрысвяты, якое знаходзіцца на востраве Замак. Звычайна падпісаныя прадметы не з'яўляюцца характэрнымі для селішчаў. Але дадзенае прасліца – не адзіны падпісаны прадмет такога кшталту. На селішчы Бароўскім было знойдзена «**ПРѦСЛНЪ ПАРАСИН**»[292]. Пры гэтым вядома, што селішча было буйным гандлёвым цэнтрам, і такая знаходка там апраўдана. У сваю чаргу, селішча Дрысвяты ўшчыльную прымыкае да гарадзішча Дрысвяты з поўначы і паўднёвага ўсходу[293] і, такім чынам, з'яўляецца пасадам горада. Г. М. Семянчук папярэдне датуе гэтае зоннае фіялетавае прасліца XI–XIII стст. паводле стратыграфічных даных (40–45 см ад дзённай паверхні)[294]. Палеаграфічны аналіз кірылічнага надпісу **ДЄПРѦСЛ** («прасліца») пацвярджае гэтае датаванне. Прасліца можна характарызаваць як бясспрэчнае сведчанне славянізацыі рэгіёна[295] і адукаванасці мясцовага насельніцтва. Між тым гэта сапраўды амаль адзінкавая знаходка на перыферыйных землях Беларусі[296], надпіс на якой вы-

---

[289] Археология СССР. Древняя Русь. Быт и культура… С. 144.

[290] Аляксееў, Л. В. Старажытны Друцк / Л. В. Аляксееў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1973. – № 3. – С. 19.

[291] Левко, О. Н. Друцк и друцкая волость / О. Н. Левко // Древнему Друцку 1000 лет: материалы 6-й науч.-практ. конф. / Ин-т истории НАН Беларуси [и др.]; науч. ред. О. Н. Левко. – Витебск, 2001. – С. 12.

[292] Монгайт, А. Л. Рязанская земля / А. Л. Монгайт. – М.: Изд-во АН СССР, 1961. – С. 156–157.

[293] Археалогія і нумізматыка Беларусі… С. 239.

[294] Семянчук, Г. Дрысвяты – памежны горад полацкай зямлі ў раннім сярэднявеччы (XI–XIII стст.) / Г. Семянчук // Труды VI междунар. конгресса славян. археологии, Новгород, 26–31 сент. 1996 г.; отв. ред. В. В. Седов. – М., 1997. – Т. 2 – С. 347.

[295] Ткачоў, М. Парубежныя крэпасці Полацкай зямлі XI–XIII стст. (па матэрыялах Браслава, Дрысвятаў) / М. Ткачоў, Г. Семянчук // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрэсаваных археолагаў. Тэзісы дакладаў міжнар. канф., Мінск 27–30 кастрычніка 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Беларус. асацыяцыя ахвяраў паліт. рэпрэсій; склад. В. Вяргей [і інш.]. – Мінск, 1993. – С. 129.

[296] Семянчук, Г. Дрысвяты – памежны горад… С. 347.

кананы кірыліцай. Аднак на знаходцы не зафіксавана імя ўладальніцы. Наколькі гэта характэрна для эпіграфем, якія наносіліся на такія прылады працы? Пацвярджэннем існавання дадзеных інскульптаў з'яўляецца прасліца з Суздаля з надпісам «ПРѦСТЛ»[297], на якім указваецца толькі назва прадмета, але не змешчана імя ўладальніцы. Дапушчальна і тое, што гэта не вельмі пісьменны надпіс (адсутнічаюць Ъ і Ь), і таму імя не ўвайшло ў яго цалкам, а толькі ў выглядзе двух літар: ДЄ.

***Рысунак 33. Прасліца «Депрясл» паводле Г. М. Семенчука [298].***

***Літарныя надпісы на прасліцах.*** Акрамя прасліцаў з надпісамі існуе пэўная катэгорыя гэтых помнікаў з нанесенымі на іх літарамі. Прасліцы з адзіночнымі літарамі сустракаюцца амаль ва ўсіх буйных тагачасных гарадах. Прасліца з літарай Λ і крыжом знойдзена на тэрыторыі Вішчынскага замка[299]. На прасліцы з Навагрудка прадрапана літара Ж[300], на чырвонашыферным, зонным прасліцы з Ваўкавыска, знойдзеным на Замчышчы ў 1956 г. у слоі канца XI–XII ст.[301], – літара Н. Верагодна, гэтыя літары з'яўляліся першымі літарамі імён. Паводле меркавання Б. А. Рыбакова, сялянкі мецілі свае прасліцы знакамі, тамгамі, зрэдку малюнкамі, а гараджанкі – малюнкамі, ініцыяламі і падпісваннем імён[302].

Як было сказана вышэй, шыферныя прасліцы як археалагічны матэрыял з'яўляюцца важнай датаванай прыметай дзякуючы даволі кароткаму прамежку існавання. З пункту гледжання на іх як на эпіграфічны матэрыял, бачна, што прасліцы з надпісамі адначасова з'яўляюцца і спецыфічнымі прыладамі жаночай працы, і ўнікальным і важным сведчаннем жаночай пісьменнасці. На большасці з прасліцаў можна прачытаць імёны: Ліла, Недана, Настасся, Мар'я, якія належалі сярэдневяковым жанчынам. Магчыма, не ўсе з іх напісаны самімі жанчынамі, а часткова дарыльшчыкамі, але надпіс на такім спецыфічным прадмеце прадугледжваў яго чытанне і разуменне як гаспадыняй, так і іншымі асобамі. Надпісы на прасліцах змяшчаюць цікавую інфармацыю аб імёнах. Сярод іх як царкоўныя, так і «хатнія» (язычніцкія) імёны. Цікава яшчэ і тое, што прасліцы адначасова з прадметамі культу даюць інфармацыю аб распаўсюджванні хрысціянства. Прасліцы, якія з'яўляліся не царкоўнымі, а тыпова бытавымі прадметамі, нараўне з іншымі бытавымі прадметамі змяшчаюць малітоўную формулу: «Госпадзе, дапамажы рабе (рабу) сваёй (імярэк)», якую, безумоўна, не стаў бы пісаць нехрышчоны чалавек, з-за адсутнасці ўпэўненасці ў яе дапамозе. Уладальнікі бытавога прадмета з такім надпісам імкнуліся заручыцца Боскай дапамогай у звычайнай штодзённай працы. Што

[297] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 66.

[298] Археалогія і нумізматыка Беларусі… С. 238.

[299] Загорульский, Э. М. Вищинский замок…. С. 144.

[300] Гурэвіч, Ф. Д. Летапісны Новгородок: Старажытнарускі Наваградак / Ф. Д. Гурэвіч. – СПб.: РДК-прінт; Навагрудак, 2003. – С. 248.

[301] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 126.

[302] Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 201.

датычыцца азбучных надпісаў на прасліцах, то А. А. Мядынцава лічыць іх самым пераканаўчым сведчаннем навучання пісьму[303], прычым з дзяцінства, аб чым сведчыць таксама і віцебскае прасліца – падарунак бабулі. Прасліцы распаўсюджваліся з аднаго цэнтра, што сведчыць аб гандлёвых сувязях, але яны падпісваліся на месцы, інакш іх падпісванне як уладальніцкае не мела сэнсу.

***Шыфернае кола.*** Прадмет з каменя, які, верагодна, таксама з'яўляўся прыладай працы, быў знойдзены ў 1979 г. на мсціслаўскім дзядзінцы ў ярусе Е..., які існаваў у 1260–1270 гг.[304] у час археалагічных даследаванняў Замкавай гары Мсціслаўля Л. В. Аляксеевым. Гэты прадмет уяўляе сабой круг з ружовага шыферу (дыяметрам каля 7 см) з адтулінай у цэнтры.

***Фота 11. Шыфернае кола.***

Дыяметр кальца складае каля 7 см, у сярэдзіне прасвідравана адтуліна. Канцэнтрычныя кругі нанесены на абодва бакі кальца. Загадкавым з'яўляецца як прызначэнне шыфернага кальца, так і надпіс на ім, з якога добра бачны чатыры літары, напісаныя як бы ў люстэркавым адбітку: **ЖАТИ** («націснуць»).

***Рысунак 34. Надпіс на шыферным коле.***

Пры гэтым **Ꙗ** атрымалася напісаным у адваротны бок адносна астатніх літар. Гэта абумоўлена тым, што гэту літару напісаць наадварот было складаней, чым іншыя літары. Акрамя гэтага, бачны рысункі, адзін з якіх нагадвае літару **ѦѦ**. Па сваім знешнім выглядзе мсціслаўскі шыферны круг вельмі нагадвае тачыльны шыферны круг, знойдзены ў Мінску[305]. Але апошні мае квадратную адтуліну пасярэдзіне. Адтуліна мсціслаўскага круга – круглая. Магчыма, яна была сточана за перыяд ужывання. На карысць таго, што круг, верагодна, быў адпрацаваны і выкінуты, сведчыць несупадзенне стратыграфічных дат (канец XIII ст.) і палеаграфічнага датавання. Напісанне **Ж** у выглядзе трох рысак, востравугольнае **А**, а таксама напісанне **И** сведчаць на карысць XI–XII стст. Прызначэнне каменя і надпісу на ім пакуль застаецца гіпатэтычным, таму дакладныя высновы зрабіць пакуль немагчыма.

***Запісная кніжка.*** У Полацку, у 1961 г., пры разборцы броўкі, якая засталася ад раскопа I, закладзенага на Верхнім замку ў 20 м на захад ад Сафійскага сабора ў 1958 г., быў знойдзены невялікі камень з пісьмёнамі[306].

***Рысунак 35. Шыферная запісная кніжка паводле Г. В. Штыхава, Полацк.***

Памеры каменя складаюць 4,5×4,3×2 см. Яго паверхня злёгку ўвагнутая, відаць таму, што гэты мяккі дробназярністы вапняк мясцовага паходжання не аднойчы выкарыстоўваўся для запісаў. На думку Г. В. Штыхава, гэта была

[303] Археология СССР. Древняя Русь. Быт и культура... С. 145.

[304] Алексеев, Л. В. Древний Мстиславль в свете археологии / Л. В. Алексеев // Гіст.-археал. зб. – 1995. – № 6. – С. 147.

[305] Загорульский, Э. М. Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Минск: Изд-во БГУ, 1982. – С. 260, рыс. 164.

[306] Штыхов, Г. В. Письмена на камне из Полоцка / Г. В. Штыхов // Сов. археология. – 1963. – № 4. – С. 246.

свайго роду «запісная кніжка» вучня[307]. На карысць гэтага сведчаць выявы на камені. На адной старонцы каменя надпіс у шэсць радкоў кірылічнымі літарамі : **БИРИАКИ/ОУЧЪТЕРЬТ/БЕШЕАЛТИ/ТИСОКИЗЪТ/ОКУЗУОАТ/К**. На старажытнарускай мове гэты надпіс не мае сэнсу, але графіта было прачытана Б. А. Рыбаковым як пералік татарскіх лічэбнікаў ад аднаго да дзесяці[308]. Паводле палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIV ст. На адваротным баку каменя – выява чалавечай галавы і плечукоў. На галаве добра відаць валасы і рысу вакол іх, магчыма так была намалявана частка німба. На твары бачна адно вока і рот, магчыма, з барадой. Пад выявай гэтага «аблічча» – чатыры першыя літары азбучнага рада: **А Б В Г** перавёрнуты. На бакавых паверхнях: злева – дзве выявы нагі і адна, схематычная, рукі; зверху – выява галавы, валасы паказаны схематычна, тлустымі рысамі, на твары добра відаць бровы, вочы і нос. Б. А. Рыбакоў сцвярджае, што літоўскія татары ўжывалі і арабскую, і рускую графіку[309]. Аднак складана сказаць, ці належаў гэты камень носьбіту татарскай мовы. З аднаго боку, носьбіт татарскай мовы мог практыкавацца ў падліку, а для таго, каб запісаць усё гэта, ён павінен быў ведаць кірылічны алфавіт, на карысць чаго сведчаць надпіс і, у тым ліку, чатыры літары, запісаныя на адваротным баку. З іншага пункту гледжання, вучань, які не ведаў татарскай мовы, мог практыкавацца ў напісанні алфавіта, а потым запісаць на слых лічэбнікі ад аднаго да дзесяці. Ці не з'яўляецца адна з выяў галавы спробай намаляваць нешта падобнае на ікону з характэрным нахілам галавы (малюнкі адрозніваюцца паміж сабой менавіта гэтым)? Увогуле, малюнкі на камянях не з'яўляюцца рэдкасцю. Акрамя малюнкаў-графіці на сценах будынкаў і малюнкаў на іншым матэрыяле (бяроста, дрэва, скура), даволі часта сустракаюцца выявы на каменях, выкананыя як прафесійнымі мастакамі, так і дзецьмі. Прыкладам могуць служыць малюнкі на каменных адшчэпах і рачной гальцы з Уладзіміра і Суздаля: выявы «іконы», чалавека з лукам, цмока, птушкі, карыкатурная выява галавы[310]. Па надпісе на вапняку можна зрабіць выснову аб прысутнасці ў гэты час ў Полацку носьбітаў татарскай мовы.

Такім чынам, даступнасць каменнага матэрыялу абумовіла разнастайнасць помнікаў і шматпланавасць зместу надпісаў. Аднак вылучаюцца некалькі напрамкаў. Надпісы на каменным матэрыяле сведчаць аб даволі глыбокім пранікненні хрысціянства ў светапогляд тагачаснага насельніцтва і, адначасова, захаванні язычніцкіх традыцый. Большасць надпісаў на каменным матэрыяле выканана «на месцы», што сведчыць пра пісьменнасць насельніцтва

---

[307] Штыхов, Г. В. Письмена на камне из Полоцка ... С. 246.

[308] Рыбаков, Б. А. Татарская кириллическая надпись из Полоцка / Б. А. Рыбаков // Сов. археология. – 1963. – № 4. – С. 228.

[309] Там жа. – С. 249.

[310] Седова, М. В. Рисунки на камнях из Владимира и Суздаля / М. В. Седова // Археология и история Пскова и псков. земли: материалы 50-го науч. семинара / Псков. гос. объедин. ист.-архитект. и худож. музей-заповедник; под ред. В. В. Седова. – Псков, 2004. – С. 358–365.

сярэдневяковай Беларусі і, асабліва, пра пісьменнасць рамеснікаў, будаўнікоў, жанчын і дзяцей. Адначасовае нанясенне надпісаў на Барысавы камяні дапускае існаванне княжацкай адміністрацыі. Эпіграфічныя помнікі на каменным матэрыяле даюць прыклад ужывання абсцэннай лексікі, а таксама імён, не зафіксаваных у іншых крыніцах. Вапняк з татарскім лікам і праселка з кірылічным надпісам – своеасаблівыя індыкатары прысутнасці татарскага насельніцтва ў Полацку і славянізацыі Браслаўскага рэгіёна. Сведчаннем перапынення кіеўскага імпарту і пачаткам мясцовай рамеснай вытворчасці іконак з XIII ст. з'яўляюцца не толькі манера іх выканання, але і даволі непісьменныя надпісы. Надпіснoe праселка дае магчымасць удакладніць тапаграфію старажытнага Друцка, а менавіта месцазнаходжанне княжацкага церама.

## 4.2. Драўляныя эпіграфічныя помнікі

**Вырабы з дрэва.** ***Міса з малітоўным пражэннем (Гомель).*** Надпісы наносіліся на прадметы побыту, выразаныя з дрэва. Гэтыя прадметы належалі простым людзям. Прыкладам ужывання надпісаў на прадметах побыту з'яўляецца фрагмент посуду, знойдзены пры правядзенні археалагічных работ. На акольным горадзе старажытнага Гомеля былі знойдзены рэшткі вялікага драўлянага збудавання, якое згарэла ў пачатку XIII ст. (прыкладна ў 1239 г. у час татара-мангольскага нашэсця). Пры вывучэнні ўсяго комплексу знаходак была зроблена выснова аб тым, што ў доме знаходзілася майстэрня, знішчаная падчас мангола-татарскага нашэсця каля 1239 г.[311] Гаспадар майстэрні займаўся зборкай клінковага (кальчугі, панцыры) узбраення[312]. На падлозе жылога памяшкання ў ліку бытавых прадметаў былі знойдзены рэшткі драўлянай місы ў выглядзе вельмі крохкіх абгарэлых абломкаў. Графічная рэканструкцыя пасудзіны з больш чым 40 фрагментаў у 1998 г. дазволіла цалкам аднавіць яе першапачатковы выгляд і вызначыць, што яна належала нізкаму адчыненаму сасуду-місе на вузкім паддоне[313] з дыяметрам паддона 10 см, дыяметрам гарлавіны 18–20 см і агульнай вышынёй 6–8 см[314]. Міса была вытачана на такарным станку, унутраная паверхня выразана лыжкарэзам, а ўся вонкавая паверхня пакрытараслінна-геаметрычным арнаментам.

***Рысунак 36. Драўляная міса з малітоўным пражэннем (паводле А. А. Макушнікава), Гомель.***

А. А. Макушнікаў ахарактарызаваў пасудзіну як такарную місу тыпу III паводле класіфікацыі Б. А. Колчына, якія бытавалі ў сярэдзіне XI – пачатку XIV ст.[315] Надпіс **(ГОСПОД)И ПОМОЗИ РАБꙋ (СВОЕМꙋ ФЕО)ДОРЪВИ** нанесены кірылічнымі літарамі, магчыма, пры дапамозе нажа, на ўнутраную

---

[311] Макушников, О. А. Памятники эпиграфики и сфрагистики из летописного Гомия / О. А. Макушников // Гіст.-археал. зб. – 2000. – № 5. – С. 73.

[312] Там жа.

[313] Там жа.

[314] Там жа.

[315] Там жа.

паверхню паддона місы. Паводле палеаграфічных даных надпіс на місе можна аднесці да XIII ст. Датуючымі з'яўляюцца літары **Ѧ** і **Б** – з трохвугольнай пятлёй (XI–XII стст.); **В**, у якой месца з'яднання петляў не прымыкае да мачты (XIII ст.); **З** – хвост не павернуты да пачатку радка але і не адагнуты моцна направа; **М** датуецца XII ст., у літары **Р** – хвост выступае за радок і галоўка вугламатая – XIII ст. Такім чынам, надпіс можна датаваць канцом XII – пачаткам XIII ст., што адпавядае стратыграфічным даным. Паводле аналогіі з наўгародскімі чашамі, А. А. Макушнікаў вызначае гэты надпіс як аўтограф збройніка Фёдара. Гэты пункт гледжання не выклікае супярэчнасцей.

***Міса з малітоўным прашэннем (Мінск).*** У Мінску, у выніку археалагічных раскопак на Замчышчы (праспект Пераможцаў), дзе быў ускрыты культурны слой таўшчынёй 4–4,3 м, знойдзены рэшткі жытлаў і гаспадарчых пабудоў, а таксама тыповыя для перыяду Старажытнай Русі знаходкі, сярод якіх фрагменты шкляных бранзалетаў і амфар, шыферныя праслiцы, вырабы з дрэва і шкла. Там жа знойдзены фрагменты драўлянай чашы са слоя, папярэдне датаванага XII ст., з выразаным надпісам, у якім чытаецца слова «помози»[316]. Сапраўды, эпіграфема складаецца з дзевяці амаль цэлых літар **ИПОМОЗИРѦ(Б)** і дзвюх ніжніх частак літар, якія немагчыма прачытаць з-за страты часткі місы.

***Рысунак 37. Фрагмент драўлянай місы, Мінск.***

Ад літары **И** захавалася палова, **П** амаль квадратная, **О** – вузкія. Літара **М** востравугольная, яе сярэдзіна выцягнута да краю радка. **Ʒ**, верагодна з-за напісання на валокнах дрэва, мае круглую галоўку і прамы хвост. У літары **Р** не хапае верхняй часткі, да таго ж, яна напісана ў адваротны бок. Літара **Ѧ** прарэзана вельмі слаба, але бачна, што яна мае доўгі, выцягнуты ўлева кузаў. У цэлым, палеаграфічныя даныя пацвярджаюць стратыграфічнае датаванне помніка XII ст. Надпіс можна прачытаць як частку малітоўнай формулы: «Госпадзе, дапамажы рабу свайму (імярэк)», на карысць чаго сведчаць літары **И** перад, і **РѦ** – пасля слова «помози». Аналаг мінскай місы з падобным надпісам знойдзены ў Гомелі і датуецца XIII ст.

***Грабеньчык з алфавітным надпісам.*** З «імпартнага» дрэва – самшыта быў выразаны двухбаковы грабеньчык з Бярэсця. Ён быў знойдзены ў раскопе 1970 г. у пабудове 8, якая датуецца канцом XIII – пачаткам XIV ст.[317] На абодва бакі паяска грабеньчыка нанесена частка кірылічнага алфавіта: літары **Ѧ Б В Г Д Є** – з аднаго боку і **Ж Ѕ З И І К Λ** – з другога.

***Фота 12. Самшытавы грабеньчык з часткай алфавіта паводле П. Ф. Лысенкі, Брэст.***

Алфавітныя надпісы, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, не змяшчаюць азбукі цалкам. Колькасць літар на самшытавым грэбені з Бярэсця – 13, гэта адзін з найвялікшых алфавітных надпісаў, знойдзеных на сённяшні дзень у Бела-

---

[316] Штыхов, Г. В. Охранные раскопки в Белоруссии / Г. В. Штыхов // Сб. статей / Академия наук СССР, Ин-т археологии. – М., 1983. – Археологические открытия 1981 года. – С. 366.

[317] Лысенко, П. Ф. Берестье / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1985. – С. 391.

русі. Грабеньчык добра захаваўся, ім карысталіся доўга і акуратна, аб гэтым сведчыць тое, што ўсе рэдкія зубы захаваліся, а частые акуратна зрэзаны[318]. Большасць літар сведчыць на карысць пачатку XIII ст.: нахіленая рыса і закруглены знізу клін пятлі **Ѧ**; высока падняты кузаў **Б**; павялічаныя верхняя пятля **В**, якая заходзіць на ніжнюю; **Ж**, якая згубіла сіметрыю і разам з **З** набыла зламаную форму. Такім чынам, грабеньчык можна датаваць пачаткам XIII ст. паводле палеаграфічных даных, на карысць гэтага сведчыць знешні выгляд, па якім можна зрабіць выснову аб доўгім выкарыстанні прылады і яе пападанні ў культурны слой пазней, чым яна была зроблена.

***Рысунак 37-1. Алфавіт на драўляным грабеньчыку.***

А. А. Мядынцава сцвярджае, што імпарт самшыту ўзнавіўся адначасова з яго імпартам у Ноўгарад, калі быў вызвалены волжскі гандлёвы шлях, раней зачынены полаўцамі[319], што таксама сведчыць на карысць датавання XIII ст. Калі прытрымлівацца першапачатковай колькасці літар у алфавіце паводле Чарнарызца Храбра, то на грабеньчыку змешчана якраз трэцяя частка алфавіта. Магчыма, да нас не дайшлі яшчэ два грабяні, якія змяшчалі астатнія 2/3 алфавіта. А. А. Мядынцава заўважае, што грабеньчыку на Русі надавалася магічнае значэнне[320]. Цікава, што азбучны надпіс на прасліцы з Любеча, датуемы XI – пачаткам XII ст., таксама змяшчае 1/3 ранняга алфавіта, нанесенага на сцяну Сафіі Кіеўскай (дзевяць з дваццаці сямі літар). Улічваючы гэта, здаецца слушным, што грабеньчык мог выкарыстоўвацца не толькі ў сваім прамым прызначэнні, але і ў якасці дапаможніка для навучання пісьму.

***Бандарная накрыўка.*** Аб знаходках драўляных вырабаў – бандарных накрывак з надпісамі (у прыватнасці, «літарай **И**») сведчыць Л. У. Калядзінскі[321].

***Верацёны.*** Паводле сведчання П. Ф. Лысенкі, у Бярэсці ў пластах XI–XIV стст. знойдзены верацёны, якія маюць даўжыню да 28 см і максімальную таўшчыню да 1,8 см і нічым не адрозніваюцца ад аднайменных вырабаў з іншых гарадоў[322], але на чатырох з іх можна прачытаць выразаны знак – літару К, і на адным – літару Х[323]. На наш погляд, гэтыя літары з'яўляюцца знакамі ўласнасці.

Такім чынам, можна адзначыць, што драўляныя вырабы падпісваліся на месцы, што сведчыць аб распаўсюджанні пісьменнасці сярод мясцовага насельніцтва. Надпісы змяшчаюць як адзінкавыя літары для азначэння ўласнасці, так і малітоўныя формулы, нанесеныя на непрызначаныя для гэтага прадметы, што з'яўляецца паказчыкам распаўсюджання хрысціянства. Сведчаннем навучання пісьменнасці з'яўляецца грабеньчык з алфавітным надпісам.

---

[318] Лысенко, П. Ф. Берестье... С. 317.

[319] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 214.

[320] Там жа. – С. 214–215.

[321] Калядзінскі, Л. У. Пісьменнасць у гарадах Беларусі Х –ХІІІ стст. / Л. У. Калядзінскі // Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя: матэрыялы міжнар. кангрэса, Мінск, 20–21 кастр. 1998 г. / М-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь, Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; адк. рэд. У. А. Васілевіч [і інш.]. – Мінск, 1998. – С. 110.

[322] Лысенко, П. Ф. Берестье… С. 372.

[323] Там жа. – С. 370.

## 4.3. Металічныя эпіграфічныя помнікі

**Зброя**. Паводле сведчання А. А. Мядынцавай, надпісы на прадметах узбраення старажытнарускага воіна – рэдкая з'ява[324]. У якасці прыкладаў можна прывесці надпіс на мячы, знойдзеным недалёка ад Міргарада ў XIX ст. Надпіс быў інкруставаны ў сталёвы клінок дамаскіраваным дротам. Зараз чытаецца толькі частка надпісу: «**ЛЮДО…А КОВАЛЬ**» – «Людоша (або Людота) каваў (ці каваль)».

***Рысунак 38. Меч з надпісам «ЛЮДО…А КОВАЛЬ» паводле А. А. Мядынцавай*[325] .**

Меч датуецца канцом X – першай паловай XI ст.[326] Другі меч з надпісам, які датуецца на 50 год раней за вышэйзгаданы, быў знойдзены ў дружынным пахаванні недалёка ад Кіева. На мячы таксама дамаскіраваным дротам наведзены літары, з якіх добра чытаецца толькі частка слова: «**СЛАВ**», якая з'яўляецца характэрнай часткай славянскіх імёнаў Славамір, Славята, Мірaслаў і г. д.[327] Значэнне знаходкі гэтых надпісаў складана пераацаніць, таму што яны сведчаць аб уласнай вытворчасці мячоў на тэрыторыі Русі ў X-XI стст.

***Рысунак 39. Меч з надпісам «СЛАВ» паводле А. А. Мядынцавай*[328].**

Да цікавых надпісаў на зброі належыць таксама рытуальная сякера, якая ў спецыяльнай літаратуры мае назву «сякерка «Андрэя Багалюбскага». Надпіс змяшчае манаграму Ісуса Хрыста, літары **А**, **Ѧ**. На тэрыторыі Беларусі таксама знойдзена сякера з надпісам, але яна датуецца больш познім часам – XV ст. Сякера, якая ў дадзены час знаходзіцца ў экспазіцыі Музея Беларускага Палесся ў Пінску пад нумарам 9750/24 А-100, была знойдзена Б. В. Міралюбавым падчас раскопак 1976 г. у кантэксце земляных работ у Пінску 1960–1978 гг. Сякера зроблена з жалеза.

***Фота 13. Сякера з надпісам, Пінск.***

Яна мае наступныя памеры: даўжыню – 21 см, шырыню абушка – 3,5 см, лязо роўнае 6,3 см у самай шырокай частцы і 2,6 см – у самай вузкай частцы. З боку ляза сякера заржавела і пашкоджана. З аднаго боку на шырокую частку ляза нанесены круглыя маленькія ямачкі, запоўненыя белым металам. Ямачкі ўтвараюць з аднаго боку кайму, якая аддзяляе надпіс зверху і з бакоў ад астатняй часткі паверхні сякеры. Літары таксама ўтвораны з ямачак, у большасці сваёй запоўненых белым металам (срэбра або волава?) і маючых выгляд кропачак. Але белы метал захаваўся не ва ўсіх ямачках, а паверхня сякеры моцна каразіравана. Асабліва гэта датычыцца сярэдзіны і края ляза сякеры, што выклікала пэўную складанасць пры чытанні і вывучэнні надпісу.

***Рысунак 40. Надпіс на сякеры.***

---

[324] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 92.
[325] Там жа. – С. 93.
[326] Там жа. – С. 92.
[327] Там жа. – С. 94.
[328] Там жа. – С. 94.

Надпіс можна падзяліць на пяць радкоў. Першы радок змяшчае чатыры літары: ѦꙁРИ. Літара Ѧ востравугольная, яе перакладзіна ўвагнута ўніз. Хвост літары ꙁ моцна адагнуты назад, а верх літары прамы са штрышком. Дарэчы, такое напісанне літары ꙁ сустракаецца таксама і ў чацвёртым радку. У другім радку таксама чатыры літары: ВОРЪ. Цікава напісанне літары В. Па сутнасці, напісана толькі правая палова літары, левую палову, мачту, утварае кайма з кропак. Літара О даволі шырокая, але яе верхняя і ніжняя часткі востравугольныя. Літара Р амаль цалкам змешчана ў радок, мае малафарматную востравугольную галоўку з нахілам улева. Літара Ъ моцна пашкоджана, пасярэдзіне яе каразійная пляма, але бачны ніз і верх літары, а таксама хвост, апушчаны злева да нізу радка. Нягледзячы на тое, што ў месцы напісання трэцяга радка паверхня сякеры рэзка пашыраецца ўлева, пачатак радка змяшчаецца роўна пад першымі літарамі папярэдніх радкоў. У трэцім радку тры літары: КꙊꙁ. Літара К шырокая, яе ножкі плаўна выгнутыя. Цікавым з'яўляецца вычварнае напісанне літары Ꙋ. Яе рожкі шырока раздвінутыя і плаўна загнутыя ўнутр, зверху ўтвараюць калечкі. Што датычыцца літары ꙁ, то яна спачатку была нанесена разам з літарамі КꙊ і, напэўна, не вельмі добра атрымалася, таму і была зноў напісана ў чацвёртым радку. Добра чытаецца чацвёрты радок, які складаецца з трох літар: ꙁМИ. Хвост першай літары ꙁ моцна адагнуты назад як і ў першым радку. Літара М востравугольная, але яе ножкі трошкі выгнутыя вонкі. Больш падрабязна трэба сказаць пра літару И, якая з'яўляецца палеаграфічна вызначальнай. Яе перакладзіна скошана па дыяганалі і дасягае канцоў мачтаў. Літара И ў чацвёртым радку больш шырокая за літару И ў першым радку, але графічнае іх напісанне аднолькавае. Апошні, пяты радок моцна пашкоджаны, але сярод літар можна вызначыць верх літары Т. На даволі вялікай адлегласці ад гэтай літары згрупаваны чатыры літары. Літара О знаходзіцца прыкладна на адной лініі з літарай Т. Яна круглая, не выцягнутая наверх. Побач з ёй напаўсцёртая літара Р. Над літарамі ОР знаходзяцца вынасныя літары ПО, якія вельмі дрэнна захаваліся. Літара П скруглена і моцна нахілена ўправа. Сукупнасць палеаграфічных прыкмет сведчыць на карысць датавання надпісу XV ст. Што датычыцца зместу надпісу, то ён чытаецца наступным чынам: **ѦꙁРИ / ВОРЪ / КꙊꙁ / ꙁМИ / ТОПОР** («Я зри воръ Куззми топор»).

Што перакладаецца наступным чынам: «Глядзі злодзей – сякера Кузьмы». Наконт ужывання літары Ѧ могуць быць два меркаванні. Па-першае, гэтая літара магла абазначаць слова «Я». Тады ўвесь выраз набывае новы сэнс, і атрымліваецца выказванне як быццам бы ад імя сякеры: «Я, зри вор, Кузьмы топор». Аднак, слова «Я» ў большасці выпадкаў у гэты час пісалася як ѧзъ («яз) ці азъ («аз»). У дадзеным выпадку Ѧ можа чытацца як літара А, таму што ꙁ належыць слову ꙁРИ («глядзі»). Тады выраз чытаецца: «А зри вор – Кузьмы топор». Якія-небудзь канкрэтныя вывады наконт ужывання гэтай літары зрабіць немагчыма, таму што яна ў гэтым надпісу больш не прысутнічае. Звяртае на сябе ўвагу і слова «топор». Паводле сведчання Ю. Бохана, у Вялікім

Княстве Літоўскім у XVI ст. назіралася ўжыванне тэрміна «сякера» пераважна ў дачыненні да баявых узораў, а «тапор» – у дачыненні да прылад працы[329]. Сякера з надпісам, якая разглядаецца ў дадзеным выпадку, адносіцца да тыпу VIIIa паводле класіфікацыі М. Глосэка[330]. Сякеры, падобныя на пінскую, прадстаўлены знаходкамі на Крычаўскім замчышчы, у Дзісне, в. Васілевічы, в. Семяновічы[331]. Гэтыя сякеры датуюцца XIV–XVI стст. Такім чынам, палеаграфічнае датаванне надпісу пацвярджаецца часовымі рамкамі існавання дадзенага тыпу сякер. У пытанні, з'ўлялася сякера такога тыпу зброяй ці прыладай працы, Ю. Бохан спасылаецца на М. Глосэка, які лічыў, што сякеры тыпу VIIIa маглі выкарыстоўвацца і як прылада працы, і як зброя[332]. У дадзеным выпадку ўжыта слова «топор», гэта сведчыць на карысць таго, што дадзены прадмет быў у першую чаргу прыладай працы.

Нягледзячы на варыянты чытання, сэнс выказвання застаецца нязменным. Гэта папярэджанне злодзеям, якія б захацелі скрасці сякеру. У той жа час, надпіс змяшчае імя ўладальніка. Такім чынам, надпіс ускосна змяшчае і пагрозу: спроба скрасці ў Кузьмы што-небудзь магла скончыцца дрэнна. Акрамя гэтага, валоданне рэччу, якая насіла на сябе чужое імя, таксама не прынесла б злодзею нічога добрага. На пытанне, каму магла належаць гэтая сякера, таксама можа быць два варыянты адказу. Па-першае, сякера магла належаць кавалю, які зрабіў яе для сябе і нанёс для абазначэння ўласнасці дадзены надпіс. Па-другое, сякера і надпіс на ім маглі быць зроблены на заказ. Але ў любым з выпадкаў бясспрэчным застаецца адно – пісьменнасць майстра. Прычым звяртае на сябе ўвагу не толькі дасканаласць выканання, але і моўная прыгажосць выразу, які напісаны ў рыфму і з'яўляецца вельмі кароткім, дакладным і ёмістым. Пры чытанні надпісу атрымліваецца ўражанне, што з глыбіні вякоў да нас дайшоў голас жывога чалавека: працавітага майстра і жартаўніка.

***Меч ULFBERH+T.*** На тэрыторыі Беларусі пакуль не знойдзены мячы з кірылічнымі надпісамі. Меч з надпісам лацінскімі літарамі **ULFBERH+T** і знакам з чатырох слупкоў на адваротным баку знойдзены пры земляных работах 1956 г. на ўсходнім ускрайку г. Полацка, а дакладней, на правым беразе Заходняй Дзвіны, за 2,5 км ад Верхняга замка.

***Рысунак 41. Надпіс на мячы.***

Месцазнаходжанне мяча дало магчымасць Л. Д. Побалю меркаваць аб тым, што на месцы знаходкі мяча размяшчаліся ў IX–XII стст. дружынныя курганы[333]. Па знешнім выглядзе меч адносіцца да тыпу V па тыпалогіі

[329] Бохан, Ю. М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. / Ю. М. Бохан. – Мінск: УП «Экаперспектыва», 2002. – С. 143.

[330] Głosek, M. Miecze środkowoeuropejskie z X–XV w. – Warszawa, 1984. – S. 28.

[331] Бохан, Ю. М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. / Ю. М. Бохан. – Мінск: УП «Экаперспектыва», 2002. – С. 146.

[332] Там жа.

[333] Поболь, Л. Д. Древнерусский меч из Полоцка / Л. Д. Поболь. – Вес. Акад. навук БССР. Сер. грамад. навук. – 1960. – № 1. – С. 150.

Петэрсана і з'яўляецца найбольш характэрным для канца IX – першай паловы X ст. Паводле сведчання С. Д. Дзярновіча, у Еўропе знойдзена каля 190 мячоў з такім надпісам, які, магчыма, прайшоў наступны шлях пераўтварэнняў: першапачаткова пазначаў асабісты подпіс франкскага майстра ... потым ператварыўся ў кляймо майстэрняў, а пасля таго яго маглі выкарыстоўваць і іншыя збройнікі як знак якасці, скажаючы малюнак[334]. Але, як бы то ні было, надпіс сведчыць аб паходжанні мяча з рэйнскіх майстэрняў, а клінкі з клейнамі Ingelred и Ulfberht… з'яўляюцца часткай франкскага экспарту[335]. А. Катлярчук лічыць каралінгскі меч франкскага майстра Ульфбэрта – тыповую зброю шведскіх вікінгаў – адным з вараскіх маркераў, знойдзеных у Полацку[336]. Але, па сведчанні Б. А. Рыбакова, мячы вызначаюцца як агульнаеўрапейская зброя, якая шырока бытавала ва ўсіх еўрапейскіх краінах[337].

**Посуд**. ***Бронзавы келіх***. Эпіграфічныя помнікі з металу гэтага часу прадстаўлены, па-першае, фрагментам бронзавага келіха з часткай надпісу – чатырма літарамі **ACRA** над жаночай постаццю і літарай Т каля постаці, знойдзеным на гарадзішчы Збароў, размешчаным на левым беразе р. Днепр недалёка ад г. Рагачова.

***Рысунак 42. Фрагмент келіха з надпісам, Збароў.***

Як вядома, да эпіграфічных помнікаў адносіцца таксама металічны посуд з гравіраванымі на ім надпісамі. Такія прадметы, датуемыя XII ст., вядомы на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. Гэта, напрыклад, краціры Брацілы і Косты з кірылічнымі эўхарыстычнымі надпісамі і аўтографамі майстроў[338]. Аднак на тэрыторыі Беларусі пакуль не знойдзена металічнага посуду з гравіраванымі на ім кірылічнымі надпісамі. На фрагменце бронзавага келіха ёсць выява жаночай фігуры, якая трымае ў левай руцэ адкрытую кнігу; зверху над фігурай ідзе лацінскі надпіс, ад якога захавалася пяць літар [339]. Культурны слой гарадзішча магутнасцю ад 40 да 70 см паказвае невялікі прамежак існавання, апошнім перыядам якога быў час Кіеўскай Русі[340]. Характар гарадзішча, на якім знойдзена дадзеная чаша, сведчыць на карысць таго, что яно з'яўлялася баярскай або княжацкай сядзібай[341]. Гэта пацвярджаюць невялікія памеры і характар знаходак. Фрагмент келіха быў знойдзены ў паўночна-ўсходняй частцы раскопа 1, 2-гі штык і ахарактарызаваны як абломак меднай чашы заходнееўрапейскай работы канца XII–XIII ст.[342]

---

334 Дзярновіч, С. Д. Сувязі Полацка са Скандынавіяй у эпоху вікінгаў / С. Д. Дзярновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 42.

335 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 224.

336 Катлярчук, А. Шведы ў гісторыі й культуры беларусаў / А. Катлярчук. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. – С. 13.

337 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 224.

338 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 156.

339 Соловьёва, Г. Ф. Радимичская экспедиция / Г. Ф. Соловьёва // Сб. статей / Академия наук СССР, Ин-т археологии. – М., 1968. – Археологические открытия 1967 года. – С. 251.

340 Там жа.

341 Там жа.

342 Там жа.

Келіхі такога тыпу маюць у дыяметры каля 30 см і вышыню каля 5 см. Жаночыя постаці, выявы якіх знаходзяцца на іх, увасабляюць «христианские добродетели и пороки»[343]. Сапраўды, кампазіцыя на чашах часцей за ўсё ўяўляе сабой медальён з фігурай пасярэдзіне чашы і тры, чатыры або пяць паясных постацей вакол цэнтральнага медальёна. Астатні фон звычайна запаўняюць надпісы, якія чатырохкратна паўтараюцца ў групах па тры. Надпісы звычайна адны і тыя ж. Яны азначаюць як парокі, так і дабрачыннасці: HUMILITAS (Пакорлівасць), SPES (Надзея), FIDES (Вера), CARITAS (Любоў), PACIENTIA (Цярплівасць), ODIUM (Нянавісць), PECCA (Грэх), DOLUS (Каварнасць), SUPERBIA (Пагарда), IDOLATRIA (Ідалапаклонства), INVIDIA (Зайздрасць), IRA (Гнеў), LUXURIA (Спешчанасць), LIBIDO (Сладастраснасць), INIRIA (Беззаконнасць). Аднак у гэтых словах няма такога злучэння літар, як на чашы са Збарова. Магчыма, надпіс на збароўскім келіху – гэта не назва выявы, а частка надпісу H**AC RA**DICE BONA NASCITUR OMNE BONUM («Hac radice bona nascitur omne bonum – ад гэтага добрага кораня нараджаецца усякае дабро»), падобнага на надпіс супрацьлеглага значэння, нанесены на келіх з Рыгі[344]. Літара T, відаць, засталася ад цэнтральнай жаночай постаці, якая ўвасабляла пакорлівасць (HUMILITAS).

Пранікненне келіхаў такога тыпу ва ўсходнія рэгіёны звязана з эканамічнымі і сацыяльнымі зрухамі ў Заходняй Еўропе, якія вызначылі росквіт гарадскога рамяства[345], што дало магчымасць пераходу мастацкага рамяства ў рукі свецкіх гарадскіх рамеснікаў[346]. Такім чынам, у Заходняй Еўропе з пачатку XIII ст. становіцца масавай вытворчасць вырабаў з металу[347]. У той жа час гандаль з Захадам узрастае, на карысць чаго сведчаць граматы з Рыгай і Готландам. Наконт шляхоў распаўсюджвання такіх келіхаў на ўсход даследчыкі лічаць, што спосабы пранікнення вельмі разнастайныя[348]. Келіхі маглі пастаўляцца «лацінскімі» манахамі або гасцямі, уваходзілі ў склад пасольскіх або шлюбных тавараў[349], іх маглі пераносіць вандруючыя арцелі майстроў-будаўнікоў, скульптараў і ювеліраў[350]. Што датычыцца выкарыстання келіхаў, то яны маглі ўжывацца ў паўсядзённым ужытку.

**Прадметы ўпрыгожвання**. ***Бранзалет.*** Прадмет упрыгожвання прадстаўлены фрагментам бранзалета, знойдзеным І. А. Марзалюком у слоі XII ст. падчас археалагічных работ у Магілёве[351]. На знешнім баку бранзалета – звязаныя паміж сабой ромбы, на ўнутраным – чатыры літары, выбітыя на метале.

---

343 Даркевич, В. П. Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе (X–XIV вв.) / В. П. Даркевич. – М.: Наука, 1966. – С. 55.

344 Там жа. – С. 99, табл. 12. 1.

345 Там жа. – С. 63.

346 Там жа.

347 Там жа.

348 Там жа. – С. 68.

349 Там жа.

350 Там жа.

351 Аўтар шчыра дзякуе І. А. Марзалюку за дазвол выкарыстання матэрыялаў і фота бранзалета ў дадзенай працы.

***Фота 14. Фрагмент бранзалета, Магілёў.***

Першая, трэцяя і чацвёртая даволі добра чытаюцца, другая выбіта неразборліва. Літары ўтвараюць слова **Ж. ѺД**. Невядома, ці змяшчаліся на бранзалеце яшчэ якія-небудзь словы. Значэнне слова на бранзалеце выклікае пытанні. Найбольш верагоднай версіяй, на наш погляд, можа быць чытанне слова як **ЖЄѺД** – кірылічны варыянт напісання грэчаскага слова geoid, geoides – «земляны, землепадобны». На карысць такога чытання можа сведчыць і арнамент бранзалета: ромб – гэта язычніцкі сімвал зямлі, а таксама жаночай сутнасці.

***Пярсцёнак***. Прадметам заходняга імпарту з'яўляецца пярсцёнак з лацінскімі літарамі, знойдзены ў Навагрудку ў час археалагічных работ Ф. Д. Гурэвіч. Гэта пярсцёнак з чырвоным каменьчыкам, вузкая шынка пярсцёнка падзелена перахватамі на роўныя часткі, у кожнай з якіх выгравіравана лацінская літара[352]. Не ўсе літары магчыма прачытаць. Добра чытаюцца толькі літары: «i, u, s, d, v, n, m, a, v».

***Рысунак 43. Пярсцёнак з лацінскімі літарамі, Навагрудак паводле Ф. Д. Гурэвіч.***

У такім парадку яны нанесены на пярсцёнак. Спасылаючыся на М. А. Дальтона, Ф. Д. Гурэвіч называе аналагічнымі дадзенаму пярсцёнку «средневековые перстни с начертанными на них изречениями или словами молитвы», якія «хранятся в Британском музее»[353].

Такім чынам, вырабы з металу, якія змяшчаюць лацінскія надпісы – прадметы заходнееўрапейскага паходжання і з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ў выніку гандлёвых зносін ці ваенных канфліктаў.

**Прадметы культу.** ***Крыж Ефрасінні Полацкай***. Выдатнейшы помнік прыкладнога мастацтва – крыж Ефрасінні Полацкай быў зроблены ў 1161 г. полацкім майстрам Лазарам Богшам для Спасаўскага манастыра. Шасціканцовы крыж меў даўжыню 51,8 см і ўяўляў сабой кіпарысавую аснову, пакрытую 11 залатымі пласцінамі з эмалямі, каштоўнымі камянямі і жамчужнай абніззю. Крыж з'яўляўся вялікай матэрыяльнай і духоўнай каштоўнасцю, аднак ён быў яшчэ і каштоўнейшым эпіграфічным помнікам, таму што змяшчаў датаваны і разгорнуты надпіс. Гэта давала магчымасць вывучаць палеаграфічныя прыкметы літар, агульнамоўныя з'явы і гістарычныя рэаліі, якія існавалі ў той час.

***Фота 15. Крыж Ефрасінні Полацкай.***

На пласцінах крыжа знаходзіліся эмалевыя выявы, іконы і машчавікі, якія тлумачыліся надпісамі. На вонкавым баку змешчаны надпісы: **IC XC НИ КРОВЬХВА** («Ісус Хрыстос Ніка кроў Хрыстова»), **IC XC МР ѲѴ** («Ісус Хрыстос Божая Маці»), **А IѠ** («святы Іаан»), **А (МАТ)ѲЄОС** («святы Матфей»), **А ЛѴКАС** («святы Лука»), **А МАРКОС** («святы Марк»), **+ДРѢВОЖИВОТНОЄ** («дрэва жыватворчае»), **ИАГІА СОФИА** («святая Сафія»), **А ГЄОРГИОС** («святы Георгій»), **ИАГІА ЄФРОСИН** («святая Ефрасіння»).

---

[352] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 44.

[353] Там жа.

***Рысунак 44. Надпісы на вонкавым баку крыжа.***

На адваротным баку – надпісы **А ВАСИЛИИ** («святы Васілій»), **А IѠЖСТОМ** («святы Іаан»), **А ПЕТРОС** («святы Пётр»), **А ПАВЬЛОС** («святы Павел»), **Ѿ/ГРО/БА/ПРѣ/СВѦ/ТЫ/ѦБО/ГОРО/ДИ/ЦѦ** («Ад гроба Пра-святой Багародзіцы»), **+ГРО/БЪ/ГО/СПО/ДЬ/НЬ** («Гроб Гасподні»), **СТЕ/ФАНЪ +МОЩЕ/СВТ҃ТО/СТЕ/ФАНА** («Стэфан. Мошчы святога Стэфана»), **А/Д/Ь/МИ/Т/Р/Е/О/С/ +КРО/ВЬСТТ҃О/ДЬМИ/ТРИꙗ** («Святы Дзімітрый. Кроў святога Дзімітрыя»), **А/П/А/НТЕ/ЛЕ/И/М/Ѡ/Н/ МОЩѣ/СВ҃ТГО/ПАН-ТЕЛѣИМО/НА** («Святы Панцеляймон. Мошчы святога Панцеляймона»).

***Рысунак 45. Надпісы на адваротным баку крыжа.***

Акрамя надпісу Лазара Богшы, які нанесены ўнізе крыжа, з адваротнага боку, на бакавыя сярэбраныя пласцінкі метадам рэзання ўглыб нанесены надпіс, заказаны Ефрасінняй Полацкай, які традыцыйна падзяляецца на дзве часткі: дзелавую і заклінальную. Фізічна надпіс падзяляецца на 20 частак па колькасці пласцінак. Увогуле тэкст наступны:

**+ВЪЛѣТ · ҂S · И Х҃З҃Ѳ ПОКЛАДАѥТЬѠФРОСИНЬѦЧЬСТЬНЫИКР҃С**
**ТЪ·ВЪМАНАСТЫРИСВОѥМЪ·ВЪЦРКВИ·СТТ҃ОСП҃СА·ЧЬСТЬНОѥДР**
**ѣВОБЕСЦѣНЬНОѥСТЬ · АКОВАНЬѥЕГО · ЗЛОТО·ИСЕРЕБРО·ИКАМѣ**
**НЬЕ·ИЖЬНЧЮГЪ·ВЪ·Р҃·ГРИВНЪ·АМ**(Л?)…**М·ГРИВНЪ·ДАНѣИЗНЕСѣ**
**ТЬСѦИЗМАНАСТЫРѦ · НИКОГДАЖЕꙗКОНИПРОДАТИ·НИѾДАТІ**
**АЩЕСЕКТОПРѣСЛОУШАѥТЬ·ИЗНЕСѣТЬИѾМАНАСТЫРѦДАНЕБ**
**ОУДИѥМОУПОМОЩЬНИКЪ·ЧЬСТЬНЫИКР҃СТЪННВЪСЬВѣКЪНИ(**
**В)ЪБОУДЩИИ·ИДАБОУДТЬПРОКЛѦТЪСТ҃ОЮЖИВОТВОРѦЩЕЮ**
**ТРОИЦЕЮ·ИСТЫ҃МИѠТ҃ЦИ · Т · И · Й҃СЕМИЮСЪБОРЪ ТЫ҃ХЪОТ҃ЦЬ**
**ИБОУДИѥМОУЧАСТЬСЪИЮДОЮ·ИЖЕПРѣДАХ҃СА · КТОЖЕДРЬДЗН**
**ЕТЬСЪТВОРИТИСЕ**…**ВЛАСТЕЛИНЪ·ИЛИКНѦЗЬ · ИЛИПИСКОУПЪ**
**·ИЛИИГОУМѣНЬѦ · ИЛИИНЪКОТОРЫИЛЮБСЧЛ҃ВКЪАБОУДИѥМО**
**УКЛѦТВАСИѠФРОСИНЬꙗЖЕРАБАХ҃ВА · СЪТѦЖАВЪШИКР҃СТЪС**
**ИИ · ПРИИМЕТЬВѣЧНꙊЮЖИЗНЬСЪВСЬ**…[354], г. зн. «У год 6669 (1161) ускладае Ефрасіння пачэсны крыж у манастыры сваім у царкве Святога Спаса. Пачэснае дрэва бясцэннае, а каванье для яго золата і срэбра, і камяні, і жэмчуг у 100 грыўняў, а… 40 грыўняў. Да ніколі жа не знясецца з манастыра, не прададзены будзе, не аддадзены. А калі хто непаслухмяна вынясе яго з манастыра, тады не будзе яму памочнік Святы крыж ні ў гэтым жыцці, ні ў будучым і да будзе пракляты святою жыватворчаю Тройцай і 300 святымі айцамі і сям'ю саборамі святых айцоў і будзе яму доля Іуды, які здрадзіў Хрысту. Хто ж асмеліцца зрабіць гэта: уладар або князь, або епіскап, або ігумення, або іншы які-небудзь чалавек, хай будзе яму праклён гэты. Ефрасіння ж, набыўшая гэты крыж, прыме вечнае жыццё са ўсімі святымі…».

***Рысунак 46. Надпісы на бакавых паверхнях крыжа, паводле Б. А. Рыбакова.***

[354] Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 225; Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… Табл. XXXII.

Такім чынам, у дзелавой частцы Ефрасіння Полацкая заяўляе аб тым, што паклала крыж у царкве Святога Спаса, тым самым замацоўвае прыналежнасць дадзенага крыжа да канкрэтнага месца. Далей пералічваецца матэрыял, які быў выкарыстаны, і яго кошт: золата, срэбра і жэмчуг на 100 грыўняў. Потым ідзе пропуск, таму што пласціна была пашкоджана. Гэта дало падставу для розных тлумачэнняў згубленай часткі надпісу. Дакладна вядомы кошт 40 грыўняў і літара **Л** ці палова літары **М** перад лічбай. Паводле меркавання Б. А. Рыбакова, згубленае месца належыць чытаць так: **а лаженье м гривн**, «понимая под лаженьем украшение эмалью»[355]. Аднак раней Б. А. Рыбакоў лічыў, што 40 грыўняў азначае кошт работы, таму што ў першай палове фразы пералічаны ўвесь матэрыял, які пайшоў на выраб крыжа[356].

На наш погляд, гэтая частка эпіграфемы выразна падзелена на дзве: у першай пералічваецца матэрыял і яго кошт, у другой – плата майстру. Калі ў другой частцы запісан менавіта кошт эмальерных работ, то чаму не пералічаны іншыя віды працы, а толькі адзіны з іх. Паводле сведчання Л. В. Аляксеева, праца над крыжом уключала ў сябе «столярные работы, ювелирные работы, вырубание надписей специальным инструментом на пластинах, эмальерные работы, монтировку всех отдельных частей креста и крепление жемчужной обнизи»[357]. Калі гэтыя віды работ былі выкананы адным майстрам, чаму толькі адзін з іх знайшоў сваё адлюстраванне ў запісе. На наш погляд, у дзелавую частку надпісу ўключаны кошт матэрыялаў і кошт работ, г. зн. плата майстру, што павінна было падкрэсліць каштоўнасць крыжа не толькі ў духоўным, але і ў матэрыяльным плане.

Што датычыцца заклінальнай часткі надпісу, то гэта закляцце павінна было быць вельмі моцным. Так, чалавек пазбаўляецца дапамогі крыжа, г. зн. фактычна ён застаецца цалкам абяззброеным перад цёмнымі сіламі і жыццёвымі бедамі, таксама ён быў бяззбройны і ў замагільным свеце. Чалавек праклінаецца Тройцай і святымі айцамі, г. зн. фактычна адлучаецца ад царквы зямной і нябеснай, у тым ліку чалавек прыраўноўваецца да Іуды, самага вялікага грэшніка, які быў яшчэ і самазабойцам. А ў выпадку, калі чалавек паўтараў гэты грэх, ён не мог спадзявацца на райскае жыццё і па канонах царквы не мог быць успамянуты ў царкоўных памінальных набажэнствах. Такім чынам, мы бачым, што чалавек, які б здзейсніў злачынства, заставаўся бяззбройным у духоўным плане. Гэта датычылася ўсіх: як улады свецкай і духоўнай, так і простых людзей. Дадзены заклінальны надпіс дае магчымасць уявіць светапогляд тагачасных людзей.

Г. В. Штыхаў звярнуў увагу на тое, што па надпісе на крыжы можна меркаваць аб сацыяльным складзе насельніцтва Полацка[358]. Ён лічыць, што пад назвай «**властелинъ**» маецца на ўвазе князь-правіцель, таму што ўвогуле ў Полацку

---

355 Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 33.

356 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 512.

357 Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 127–128.

358 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 15.

было некалькі князёў[359]. З гэтай думкай можна згадзіцца, таму што ў надпісе сапраўды робіцца дзяленне на ўладу свецкую (**«властелинъ»**, **«князь»**) і духоўную (**«пискоупъ»**, **«игоуменья»**), пры гэтым тытулы даюцца як бы ў зыходным парадку. У такім выпадку, сапраўды, **«властелинъ»** большы, чым **«кнзь»**, – гэта князь-правіцель. Такім чынам, эпіграфема на крыжы – адзіная крыніца, якая называе найменне гэтай пасады, бо звестак пра такую пасаду ў Полацку няма больш ні ў якіх іншых крыніцах[360]. Што датычыцца моўных асаблівасцей, у якасці адлюстравання якіх звычайна прыводзіцца слова **«пискоупъ»**, трэба адзначыць, слова «епіскап» менавіта ў такім напісанні сустракаецца і ў наўгародскім дыялекце таго часу, у прыватнасці, у берасцяной грамаце № 831[361]. Але не выключана, што гэтае слова ў грамаце было напісана выхадцам з Полаччыны.

Варта адзначыць, што наяўнасць прадметаў рамяства з кірылічнымі надпісамі служыць своеасаблівым маркерам. Паводле сведчання Б. А. Рыбакова, знаходкі адзінкавых прылад і рэчаў з рускімі надпісамі памяншалі запас аргументаў у гісторыкаў, якія адмаўлялі наяўнасць рускага рамяства[362]. Найбольш яскравым прыкладам дзейнасці адукаваных і высокакваліфікаваных майстроў з'яўляецца надпіс-аўтограф майстра Лазара Богшы на адваротным баку выкананага ім крыжа. Так, Л. В. Аляксееў вылучыў пяць складаных рамесных працэсаў, якія былі прыменены пры вырабе крыжа Ефрасінні[363]. Гэты шэдэўр змяшчаў 21 залатую пласціну з эмалевымі выявамі святых і арнаментамі і 20 сярэбраных пласцін з надпісамі па баках крыжа. Акрамя гэтага, надпісы былі зроблены каля выяў святых і арнаментаў. Пад выявай святога

Панцеляймона знаходзіўся подпіс самога майстра: **+Г҇ИПОМОЗИРА/БОУ/СВО/ѥМѸ/ЛАЗО/РЮ/НАРЕ/ЧЕНО/МОУ/БОГЪ/ШИ/СДЕ/ЛАВЪ/ШЕ/МОУ/КРЬ/СТЪ/СИИ/ЦРЬ/КВИ/СТА/ГОСПАСА·ИѠ/ФРОСИНЬИ,** г. зн. «Госпадзе, дапамажы рабу свайму Лазару нарачонаму Богшай, зрабіўшаму гэты крыж для царквы святага Спаса і Ефрасінні».

***Рысунак 47. Надпіс Лазара Богшы.***

Такім чынам, крыж зроблены па заказу Ефрасінні Полацкай майстрам, мясцовае паходжанне якога даказаў Л. В. Аляксееў, спасылаючыся на хатняе імя майстра – «Богша» (Богуша, Богуслаў, Богъша), і, у прыватнасці, на тое, што прозвішча Богша распаўсюджана ў Беларусі і зараз[364], а раней было распаўсюджана ў заходнеславянскіх краінах у XII і XIII стст., у заможных колах Наўгародскай зямлі ў XIII ст.[365] Сведчаннем аб мясцовым паходжанні

---

359 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 15.

360 Штыхаў, Г. В. Полацкі шэдэўр XII стагоддзя / Г. В. Штыхаў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1973. – № 2. – С. 31.

361 Зализняк, А. А. Древненовгородский диалект… С. 831.

362 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 30–31.

363 Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 128.

364 Там жа. – С. 224.

365 Алексеев, Л. В. Крест – хранитель Всея Вселенныя / Л. В. Алексеев, Т. И. Макарова, Н. П. Кузьмич. – Минск: Вестник Бел. Экзархата, 1996. – С. 111.

майстра можа служыць і перадача асаблівасцей маўлення майстра. Так, замест **БОГОРОДИЦА** ім напісана **БОГОРОДИЦѦ**, што характэрна не толькі для тагачаснага кіеўскага маўлення, але і для полацкага, аб чым сведчаць графіці Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка[366].

Лазар Богша належаў да вышэйшага класа рамеснікаў[367], аб чым сведчыць надпіс пра 40 грыўняў, які, паводле меркавання Б. А. Рыбакова, магчыма, азначае кошт работы, таму што ў першай палове фразы пералічаны ўвесь матэрыял, які пайшоў на выраб крыжа, і нанесены на незахаваўшуюся частку надпісу на крыжы[368]. Пазней Б. А. Рыбакоў чытае гэтае месца як «а лаженье… понимая под лаженьем украшение эмалью»[369]. Аднак, на наш погляд, трэба аддаць перавагу больш ранняму чытанню. Трэба дадаць, што, паводле сведчання Л. В. Аляксеева, ювелірныя работы Богшы каштавалі столькі ж, як і работы па машчэнні 8 тыс. локцяў драўлянай маставой[370], а таксама у два разы больш, чым цэлы горад за год даваў прыбытку князю[371].

Гэты надпіс каштоўны яшчэ і тым, што ў адрозненне ад сціслых і фрагментарных надпісаў майстроў на большай частцы вырабаў, надпіс-аўтограф Лазара Богшы змяшчае хрысціянскае і хатняе імя майстра, імя заказчыцы і месца будучага знаходжання крыжа. З гэтага пункту гледжання аналагамі надпісу Лазара Богшы з'яўляюцца надпісы на наўгародскіх крацірах Брацілы і Косты: «+**ГИ ПОМОЗИ РА/БОѴ СВОЕМОѴ/ѲЛОРОВИ/БРАТИЛО ДѢ/ЛАЛЪ**[372] і **ГИ ПОМОЗИ РАБȢ СВОЕМОѴ КОСТѦНЬТИНȢ КОСТА ДѢЛАЛЪ АМНЪ**+»[373], зробленых у пачатку – першай палове XII ст.[374] Цікава, што ва ўсіх гэтых надпісах у малітоўнай формуле побач са словамі «Госпадзе, дапамажы» выкарыстоўваецца хрысціянскае імя і побач з ім – хатняе або скарочанае імя ў выразе «(імярэк) рабіў». На наш погляд, гэтая з'ява – перажытак двайверства, які сведчыць аб тым, што хатняе імя было для чалавека не менш значным, чым хрысціянскае, сэнс якога не заўсёды быў зразумелым. Нягледзячы на тое, што крыж і чашы для прычашчэння з'яўляюцца прадметамі хрысціянскага культу, імёны майстроў даюцца на іх у двух варыянтах.

***Крыжы-энкалпіёны***. Існуе шэраг знаходак, якія прадстаўлены нацельнымі крыжыкамі, у тым ліку крыжамі-энкалпіёнамі, надпісы на якіх падобныя на вышэйзгаданыя і прадстаўлены манаграмамі Ісуса Хрыста (**ІС ХС**) або Божай Маці (**МР ѲѴ**). Гэтыя крыжыкі з'яўляюцца імпартнымі або мясцовай вытворчасці, аб чым сведчаць знаходкі іх копій. У якасці прыкладу можна прывесці

---

366 Калечыц, І. Л. Графіці XII–XIV стст. у Спаса-Праабражэнскай царкве ў Полацку / І. Л. Калечыц // Беларус. гіст. часопіс. – 2007. – № 3. – С. 45.

367 Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 189.

368 Рыбаков, Б. А. Ремесло… С. 512.

369 Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 33.

370 Алексеев, Л. В. Полоцкая земля… С. 224.

371 Штыхаў, Г. В. Полацкі шэдэўр… С. 31.

372 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 156.

373 Там жа.

374 Там жа. – С. 169.

медны крыж-энкалпіён XII ст. з Гомеля. На ім – выява Божай Маці, а таксама на абодва канцы крыжа захаваўшайся створкі нанесены літары МР ѲѴ (грэчаскае «Мітэрн Феу» – «Маці Бога»). Аб мясцовым паходжанні сведчыць знаходка аналагічнага энкалпіёна з дзвюма захаваўшыміся створкамі, надпіс на якім зацёрты.

У навагрудскай пабудове № 8, у кв. Н–У–14–19 над пабудовай № 21 на глыбіні каля 2 м таксама быў знойдзены бронзавы крыж-цельнік, на адным баку якога нанесены літары ХС, а на другім баку – выява Хрыста[375].

Аднак сустракаюцца помнікі, якія адрозніваюцца ад тыповых. Да іх адносіцца вонкавая створка энкалпіёна памерамі 8,6×6,4 см, знойдзеная ў Бярэсці ў слоі XIV ст.[376] У цэнтры крыжа – выява распятага Ісуса Хрыста, справа і злева, адпаведна, выявы Божай Маці і Іаана Хрысціцеля і літары ІС ХС ОДѴС, выразаныя на гладкай паверхні і запоўненыя чэрню.

***Рысунак 48. Крыжык, Брэст.***

Літары ІС ХС нанесены пад рукамі Ісуса Хрыста, а надпіс ОДѴС – над крыжам, які знаходзіцца над галавой. П. Ф. Лысенка лічыць, што «крайние знаки являются монограммами солнца и луны, символа вселенной, подвластной Богу»[377]. Такім чынам, літара О па аналогіі з кружком лічыцца сонцам, а С па той жа аналогіі – месяцам. Але што абазначаюць у такім выпадку літары ДѴ, якія не маюць аналогій з нябеснымі целамі? Да таго ж і сонца, і месяц у такога кшталту выявах мелі выгляд поўных кругоў[378]. Здаецца слушным, што ў надпісе зашыфравана манаграма Святой Тройцы: Отца, Дѹха, Сына, якія ў іканаграфіі новазапаветнай Тройцы размяшчаюцца менавіта ў такім парадку. П. Ф. Лысенка заўважае, што зробленыя ў аналагічнай тэхніцы крыжы датуюцца XII ст.[379] Ускосным пацвярджэннем такога датавання могуць служыць палеаграфічныя прыкметы: напісанне літар Д з акруглым верхам і кароткі хвосцік Ѵ.

***Фрагмент звона.*** Важнай прыметай гарадоў-цэнтраў удзелаў з'яўляецца наяўнасць на дзядзінцах цэркваў. Некаторыя з эпіграфічных помнікаў разам з іншымі знаходкамі пацвярджаюць існаванне цэркваў на гарадзішчах. Асабліва паказальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца знаходкі з Ніжняй царквы ў Гродне.

Да надпісаў, адлітых у метале, адносіцца фрагмент звона, знойдзенага ў Гродне. Гэта кавалак бронзы з дамешкам серабра. Памеры фрагмента наступныя: найвялікшая даўжыня – 9,1 см, найвялікшая шырыня – 7,6 см, таўшчыня – 1 см, што дазволіла ахарактарызаваць кавалак як фрагмент звона вышынёй да 60 см.

***Фота 16. Фрагмент звона, Гродна.***

---

[375] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 47.

[376] Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1989. – С. 103.

[377] Там жа.

[378] Филатов, В. В. Словарь изографа / В. В. Филатов. – М.: Лествица, 2000. – С. 167.

[379] Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья… С. 103.

У. І. Галубовіч далучыў гэты кавалак да падобных яму і ўсе іх разам – да вялікага 20-кілаграмовага сплаву бронзы. Усе гэтыя фрагменты не маюць пашпарта невыканання пры раскопках 1932–1934 гг. асноўных патрабаванняў стратыграфіі[380]. Таму зыходнай датай можна лічыць дату пажару 1138 г. Ад надпісу захаваліся чатыры літары: верхняя частка **Р**, цалкам **А**, **Б** і амаль што цалкам **Ꙋ**, нанесеныя на «паясок» па акружнасці звона. Такім чынам, надпіс чытаецца як «рабу». Безумоўна, выкарыстанне гэтага слова на прадмеце хрысціянскага культу і асабліва ў форме давальнага склону падразумявае надпіс у форме малітоўнага пращэння: «Госпадзе, дапамажы рабу свайму (імярэк)». Але чыё гэта імя: дарыльшчыка, майстра ці царкоўнага дзеяча? Хутчэй за ўсё, дарыльшчыка, чалавека заможнага, магчыма, князя. Палеаграфічна літары характарызуюцца наступным чынам. Датуючымі з'яўляюцца літары **Р**, **А**, **Б**. **Р** мае малафарматную трохвугольную галоўку, уся літара знаходзіцца ў радку. Літара **А** трохвугольная, з вострым кузавам, кузаў літары **Б** паўкруглы, навершша не выступае за кузаў, **Ꙋ** вельмі вузкае. Усё гэта сведчыць на карысць датавання надпісу рубяжом XI–XII стст.

***Рысунак 49. Надпіс на фрагменце звона.***

У гістарычнай літаратуры захаваліся таксама ўзгадванні аб званах з надпісамі. Гэтыя звесткі прыводзяцца ў рабоце А. С. Арлова «Библиография русских надписей»[381]. Адзін са званоў знаходзіўся ў Віленскім музее старажытнасцей і меў кірылічны надпіс, які датаваўся 1320 г. Звон быў прывезены з с. Няводніцы Гродзенскай губерні Беластоцкага павета[382]. Інфармацыю аб другім звоне А. С. Арлоў дае са спасылкай на Ф. Я. Нарбута і П. М. Бацюшкава. Памятны надпіс аб гэтым звоне змяшчаўся ў рукапісе Трокскага бернардзінскага манастыра[383]. Сам звон меў наступны надпіс: «Се азъ рабъ божий Яковъ Ондреевичъ (т. е. Ягайла, по принятии православия) съ матерею своею Ульяною Александровною… В. К. Л. дали есмо сей колоколъ улить въ церковь св… Еве… Параск… въ Вильни, в вики 6887 (1379 г.)»[384].

***Медальёны з выявамі святых***. Таксама з металу зроблены прадметы, прызначаныя для аздаблення царквы. Да іх адносяцца знойдзеныя ў Гродне «при земляных работах внутри коложской церкви и руинах «Нижнего храма» ў слоі XI–XII стст. эпіграфічныя помнікі, прадстаўленыя серыяй прадметаў на каляровых і каштоўных металах, сярод якіх медныя гравіраваныя пласціны з выявамі святых Феадота і Сімяона, апостала Паўла[385].

***Фота 17. Медальёны з выявамі Феадота, Паўла, Сімяона.***

---

[380] Голубович, В. И. Новые материалы по истории Гродно в раннефеодальную эпоху / В. И. Голубович, Е. А. Цегак-Голубович // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 44. – С. 48.

[381] Орлов, А. С. Библиография…

[382] Там жа. – С. 71.

[383] Там жа. – С. 80.

[384] Там жа.

[385] Тарасенко, В. Р. Культура западных земель Древней Руси в IX–XIII вв. / В. Р. Тарасенко // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 43. – С. 34.

Вядома, што ў гродзенскай Ніжняй царкве перад усходняй парай слупоў праходзіла драўлянае алтарнае перагараджэнне, ад багатага ўбрання якой засталіся пазалочаныя медныя пласціны з гравіраванымі выявамі святых[386]. Гэта паясныя выявы, якія змешчаны ў гладкія круглыя медальёны, абрамленыя сетачкай і раслінная пляцёнкай. Такі ж арнамент знаходзіцца і на серыі абломкаў, на якіх адсутнічаюць выявы святых і надпісы. Медальёны выканаы ў тэхніцы гравіроўкі, маюць залаты фон і чорны, глыбока прачэрчаны разцом контур выяў і арнаменту[387]. Адрозненне ад падобных прадметаў, выканаых у тэхніцы агнявога залачэння ў іншых раёнах Старажытнай Русі, у тым, што яны не маюць цёмнага фону і залатога рысунка, а выканаы наадварот. У якасці бліжэйшых аналогій Н. Н. Варонін прыводзіць выяву Тройцы на меднай пласціне «Цвярскіх врат» сярэдзіны XIV ст. і тлумачыць гэта тым, што пры шчыльных сувязях Цвярскога княства з Літоўскім княствам у Цвер была занесена гэтая старая руская тэхніка, якая і захоўвалася ў яго гарадах[388]. Наконт змяшчэння выявы святога Сімяона ў царкве існуе два меркаванні. Н. Н. Варонін лічыць, што выява сведчыць аб цесных сувязях Панёмання з Валынню: «волынскую кафедру между 1123 и 1136 гг. занимал епископ Симеон, возможно освящавший Нижнюю церковь», або ўзнікае пытанне: «не носил ли Всеволодко христианское имя Симеон»[389]?

У той жа тэхніцы, што і вышэйзгаданыя медальёны, выканана накладка-аздабленне з выявай пляцёнкі, якая мае восемь маленькіх дзірачак, пакінутых цвічкамі, якімі аздабленне было прымацавана. На адваротным баку знаходзіцца дзве літары: **СИ**.

***Фота 18. Накладка.***

Улічваючы тое, што накладка мае падабенства з медальёнамі, яна можа быць датавана тым жа перыядам. Што датычыцца літар, то наконт іх нанясення можа быць два меркаванні. Па-першае, літары могуць быць часткай імя майстра, напрыклад, першымі літарамі імя Сімяон. Падобнае выкарыстанне ёсць на ліцейнай формачцы майстра Максіма, знойдзенай у Серэнску[390]: надпіс **МАСИ**. Яшчэ адзін варыянт узнікнення гэтага надпісу наступны: магчыма, гэтая накладка павінна была быць замацавана непасрэдна каля медальёна з выявай святога Сімяона, а літары былі нанесены дзеля таго, каб пазбегнуць памылкі. Аднак вырашыць, якая з версій з'яўляецца сапраўднай, немагчыма з-за малой колькасці фактычнага матэрыялу.

Таксама з Ніжняй царквы ў Гродне паходзіць медная металічная накладка з часткай надпісу, нанесенай на абодва бакі. На адным з бакоў чытаюцца літары **СѦ** і лігатура **ТЪ**, магчыма, «свят» або «святый».

---

[386] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в XI–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1989. – С. 173.

[387] Там жа. – С. 185.

[388] Воронин, Н. Н. Древнее Гродно… С. 145.

[389] Там жа. – С. 146.

[390] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 72.

***Фота 19. Накладка.***

Над літарай Є знаходзіцца маленькая літара, якая нагадвае В, перад літарай Є – частка папярэдняй літары. Пасля лігатуры таксама мачта нейкай літары. На другім баку зверху літары абмежаваны дзвюма паралельнымі лініямі. Добра чытаюцца літары **Т**, **И**, **Ѥ**. Паміж літарамі **Т И** знаходзіцца літара, чытанне якой немагчыма. Такім чынам, па аналогіі з папярэднімі помнікамі гэты фрагмент металічнай накладкі можна аднесці да прадметаў, звязаных з царкоўным ужыткам.

***Рысунак 50. Прарысоўка надпісу на накладцы.***

Яшчэ адзін эпіграфічны помнік, які паходзіць з Ніжняй царквы г. Гродна, – медны медальён з пагруднай выявай Іаана Хрысціцеля. На медальён нанесены надпіс: злева – **Ѧ** ў коле (О) і трошкі сапсаваныя літары **ИѠ**, справа – **ѦНЪ** («агіас (святы) Іаан»).

***Фота 20. Медальён з выявай святога Иаана Хрысціцеля.***

Невялікі аднабаковы абразок быў знойдзены ў час археалагічных даследаванняў, якія Г. І. Пех праводзіў у 1948 г. на Замчышчы Ваўкавыска. Гэты медальён, гравіраваны ў той жа тэхніцы, што і гродзенскія пласціны[391], мае дыяметр 0,35 см і круглую адтуліну для падвешвання. Па сваёй форме ён амаль круглы і мае гравіраваную разцом выяву «впрямь (en face) воина в древнерусских боевых доспехах: шлеме с вытянутым вверх шишаком, кольчуге, со щитом в руке удлиненной формы (изображена только верхняя часть щита)»[392]. Увогуле, такі воінскі рыштунак тыповы для Русі X–XIII стст.[393] Вакол галавы воіна – німб, за спіной – верагодна, выява зброі (кап'я ці мяча). Надпіс падзелены на дзве часткі: справа – літары **ДИ**, а злева – **МИТРИ** – гэта імя святога **ДИМИТРИ** («Дзімітрый»).

***Рысунак 51. Медальён з выявай святога Дзімітрыя паводле Я. Г. Звяругі.***

Паводле меркавання Я. Г. Звяругі, знаходка медальёна з выявай Дзімітрыя і пячаткі з выявай Дзімітрыя паказвае на сувязі Верхняга Панёмання з Тураўшчынай[394], таму што Дзімітры Салунскі лічыўся заступнікам тураўскага князя Ізяслава Расціславіча[395]. У сваю чаргу В. Р. Тарасенка, са спасылкай на Д. Ліхачова, заўважае, што падобная выява была знойдзена каля Турава на пячатцы, дзе Дзімітры Салунскі паказаны з кап'ём на шчыце, у «кірасе» з круглым шчытом[396].

***Кадзіла***. Эпіграфічны помнік, які выкананы на метале, знойдзены ў старажытным Тураве пры раскопках храма ў 2005 г.[397] На кадзіле знаходзяцца тры медальёны з выявамі святых Фёдара, Георгія і Ахрыма і інскульптамі **ѲЄОДОРЪ**, **ГЄОРЬГ**, **ОХРМИ**.

---

[391] Воронин, Н. Н. Древнее Гродно… С. 146.

[392] Тарасенко, В. Р. Культура… С. 39.

[393] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье… С. 185.

[394] Там жа. – С. 186.

[395] Там жа. – С. 186.

[396] Тарасенко, В. Р. Культура… С. 39.

[397] Лысенко, П. Ф. Сказание о Турове / П. Ф. Лысенко. – Минск: Белорус. наука, 2006. – С. 88.

***Рысунак 52. Надпісы «Георгі» і «Ахрым» на кадзіле , Тураў.***

Знаходка стратыграфічна датуецца XII ст. Палеаграфічныя даныя пацвярджаюць гэта датаванне.

***Абразок з выявай св. Матфея***. Залаты абразок з выявай святога Матфея і надпісам **А МАТОС** быў знойдзены ў 1999 г. на гарадзішчы Капланцы, размешчаным за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад в. Капланцы на глыбіні 35 см[398]. Абразок уяўляе сабой круглую пласціну дыяметрам 1,4 см, на якой у тэхніцы перагародчатай эмалі выканана пагрудная выява апостала Матфея. Правая рука апостала паднята ў жэсце благаславення, левая, схаваная пад гімаціем, трымае Евангелле. Надпіс выкананы эмаллю справа і злева ад выявы апостала. Надпіс скарочаны: **А МА** – справа і **ТОС** – злева.

***Фота 21. Абразок з выявай святога Матфея (паводле В. І. Кошмана).***

Паводле манеры выканання В. І. Кошман аднёс абразок да твораў візантыйскага паходжання[399]. Само гарадзішча Капланцы В. І. Кошман адносіць да тыпу двара сядзібы феадала[400].

Вышэйзгаданыя помнікі з-за адсутнасці прамых звестак пра хрышчэнне беларускіх зямель могуць служыць надзейнымі сведкамі распаўсюджвання хрысціянства. Знаходкі эпіграфічных помнікаў – прадметаў культу пацвярджаюць, што к XII ст. хрысціянская культура і пісьменнасць ахапілі ўсе слаі тагачаснага грамадства.

Аднак на тэрыторыі Беларусі знойдзены не толькі помнікі хрысціянства. У гэты час сустракаюцца помнікі двайверства, сінкрэтызму, для якіх характэрна выкарыстанне як хрысціянскіх, так і язычніцкіх сімвалаў.

***Амулеты-змеевікі***. У якасці абароны ад хвароб ужываліся так званыя амулеты-змеевікі. Змеявік – металічны амулет у выглядзе манетападобнай падвескі ці круглага складня ў Старажытнай Русі XI–XIV стст.[401] Па знешнім выглядзе змеевікі належаць да прадметаў з элементамі антычнай культуры. Часцей за ўсё такія амулеты маюць выяву хрысціянскіх сімвалаў: Божай Маці, архангелаў, Барыса і Глеба, спячых отракаў і г. д. на вонкавым баку, і галавы Мядузы Гаргоны са змеямі на адваротным баку. Ад гэтай выявы і паходзіць агульная назва амулета. Паводле меркавання А. В. Чарняцова, выявы на змеевіках адносяцца да той групы запазычанняў, дзе назіраецца згуба іх першапачатковага значэння, набыццё імі на Русі мясцовай спецыфікі[402]. Такім чынам, мадыфікацыя матыву галавы Гаргоны на амулетах-змеевіках з самага іх з'яўлення на Русі пазбаўлена сувязі з міфам пра Мядузу Гаргону[403]. Парушэн-

---

[398] Кошман, В. І. Гарадзішча Капланцы / В. І. Кошман // Гіст.-археал. зб. – 2002. – № 17. – С. 210.

[399] Там жа.

[400] Там жа.

[401] Археалогія і нумізматыка Беларусі… С. 277.

[402] Чернецов, А. В. Трансформация элементов античной культуры в Древней Руси (по материалам прикладного искусства и миниатюр) / А. В. Чернецов // Труды междунар. конгресса славян. археологии, Новгород, 26–31 авг. 1996 г.: в 5 т. / Рос. акад. наук, Ин-т археологии; отв. ред. В. В. Седов. – М., 1998. – Т. 4: Общество, экономика, культура и искусство славян. – С. 87.

[403] Там жа.

не гэтай сувязі ў дачыненні да дадзенага віду амулетаў адбылося яшчэ ў Візантыі, да распаўсюджання на тэрыторыі Старажытнай Русі. На сённяшні дзень у Беларусі вядомы некалькі змеевікоў з надпісамі. Бронзавы амулет-змеявік знойдзены ў Ваўкавыску.

***Рысунак 53. Змеявік (паводле Я. Г. Звяругі), Ваўкавыск.***

Ён двухбаковы і мае на адным баку выяву архангела Міхаіла на ўвесь рост і кругавы надпіс, які складаецца з літар і літарападобных знакаў[404] па краю. З другога боку – пераплеценыя пачвары: змеі з галавамі барсаў і невыразны надпіс па кругу, верагодна, нейкае заклінанне[405]. Надпіс з'яўляецца нечытабельным.

Яшчэ адзін тып змеевікоў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, змяшчае выяву Божай Маці Асунты на вонкавым баку і Мядузы Гаргоны з васьмю змеямі на адваротным. Каля выявы Божай Маці – яе манаграма ΜР ѲѴ («Маці Бога»). Аналагічны змеявік быў знойдзены ў Чачэрску… у слоі XII ст.[406]

***Фота 22. Змеявік (паводле Т. Дубоўскай), Чачэрск.***

Яшчэ два змеевікі, падобныя адзін на аднаго, знойдзены на тэрыторыі Беларусі: адзін – на Палессі, апублікаваны ў 1926 г. В. Ластоўскім[407], і другі – каля г. Віцебска. Яны змяшчаюць на вонкавым баку выявы святых лекараў Казьмы і Даміяна з пагруднай фігурай Спаса над імі і надпісам: АГЇОСЪАГЇО СЪКСѲСАВАѲСПЛИРИСѸРАНОС. На адваротным баку – выява Мядузы Гаргоны з дванаццацю змяінымі галовамі.

***Фота 23. Змеявік (паводле Т. Дубоўскай), Віцебск.***

У перакладзе з грэчаскай мовы выраз абазначае славаслоўе, якое пяецца хорам на літургіі верных перад вынасам святых дароў: «Свят, свят (свят) господь Саваоф исполнь небо (и земля славы твоея)»[408]. Улічваючы сэнс надпісу і выявы, гэты змеявік павінен быў засцерагаць ад хвароб увогуле.

У гэты час працягваецца выкарыстанне амулетаў-змеевікоў. Так, у 1927 г. на агародзе недалёка ад заслаўскага «Вала» ў паўднёва-заходнім напрамку ад апошняга[409] быў знойдзены змеявік. На шчытку меднага амулета-змеевіка дыяметрам 52 мм змяшчалася выява жаночай галавы, а дакладней, галавы Мядузы Гаргоны. Вакол яе змяшчаюцца чатыры літары: Д Ъ Н Д.

***Фота 24. Змеявік (паводле Ю. А. Зайца), Заслаўе.***

Гэтае слова азначала вантробы чалавека, ад спакойнага стану якога, згодна з уяўленнямі, залежыць здароўе[410]. Адваротны бок (магчыма, гэта быў

---

[404] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье… С. 195.

[405] Там жа.

[406] Дубоўская, Т. Сістэматызацыя культавай дробнай пластыкі са збору Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі / Т. Дубоўская // Музейны веснік. – 2003. – Вып. 1. – С. 12.

[407] Там жа.

[408] Полный православный молитвослов на всякую потребу. – 2-е изд. – СПб.: Общество святителя Василия Великого, 1999. – С. 161.

[409] Заяц, Ю. А. Заславль в эпоху феодализма / Ю. А. Заяц. – Минск: Навука і тэхніка, 1995. – С. 43.

[410] Очерки по археологии Белоруссии: в 2 ч. / под ред. Г. В. Штыхова, Л. Д. Поболя. – Минск: Наука и техника, 1972. – Ч. 2. – С. 179.

складзень) адсутнічае. У дадзены момант месцазнаходжанне змеевіка невядома. Змеевікі такога тыпу датуюцца XIII–XIV стст. Што датычыцца надпісу, то тут можна прывесці аналогіі: грэчаскія надпісы на падобных амулетах чыталіся як «hystera» (міфалагічная дэманічная істота). Увогуле, гэтае слова мела два значэнні – матка, а таксама дэман, які выклікае хваробы гэтай часткі цела, жаночыя хваробы ўвогуле, усялякія хваробы і смерць[411]. На карысць таго, што сэнс надпісу каля выявы быў у некаторых выпадках знаёмы славянскім майстрам, сведчыць славянскі надпіс «дъна» – дакладны пераклад грэчаскага «hystera», які выкарыстоўваўся ў славянскіх магічных формулах, аналагічных візантыйскім[412]. Паводле сведчання А. А. Мядынцавай, змеевікі ў першую чаргу абаранялі ўладальніц і іх нованароджаных дзяцей ад розных хвароб, у асноўным жаночых – «ісцеры», страты малака і г. д.[413] Аднак у Ноўгарадзе захоўваецца змеявік, знойдзены ў 1945 г. пад Кёнігсбергам, на адваротным баку якога – выява, аналагічная выяве на заслаўскім змеевіку, а на вонкавым – выява Фёдара Страцілата, які лічыўся ахоўнікам праваслаўных воінаў. Ён жа, згодна з жыційнай літаратурай, перамог змея і таму можа лічыцца таксама ахоўнікам ад нячыстай сілы. Такім чынам, можна дапусціць, што гэты амулет належаў жанчыне, і надпіс на ім выконваў тлумачальную функцыю: змеявік з надпісам «ДЪНА» абараняў ад жаночых хвароб і нячыстай сілы. Увогуле, «дъна» як частка складанага слова «дьнесловo» або «дънесловo» – «патаемнае, схаванае слова» выкарыстоўвалася на шматлікіх прывесістых пячатках гэтага перыяду для абазначэння схаванага, патаемнага паслання.

***Рысунак 54. Пячатка са словам «дънесловo».***

Такім чынам, амулеты-змеевікі былі сведчаннем існавання дваяверства і, паводле меркавання Б. В. Сапунова, разглядаліся ў Старажытнай Русі як сродак індывідуальнай абароны, які быў звернуты як да хрысціянскіх святых, так і да язычніцкіх багоў, для барацьбы з канкрэтнай немаччу, якой хварэў той ці іншы чалавек[414]. Змеевікі насіліся толькі пры жыцці, ніводнага з іх не знойдзена ў пахаваннях. Яны працягвалі культурную антычную традыцыю і, нягледзячы на некаторую страту сэнсу, былі запатрабаваны як сродак абароны ад канкрэтных хвароб і варожых чалавеку сіл.

**Прылады працы**. Выраб з металу, які прадстаўлены прыладай працы, абломак жалезнага сярпа з выбітай на ім літарай кірылічнага алфавіту[415] Н.

***Рысунак 55. Фрагмент сярпа з літарай Н.***

Літара, нанесеная на серп як прыладу працы, можа лічыцца ўласнай меткай мясцовага вытворцы-каваля, які зрабіў серп для сваіх патрэб ці на продаж. Калі серп з меткай быў зроблены на продаж, то, магчыма, каваль надаваў такому знаку сэнс знака якасці.

---

411 Чернецов, А. В. Трансформация… С. 87.

412 Там жа.

413 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 198.

414 Сапунов, Б. В. Тайна змеевиков / Б. В. Сапунов // Археол. сборник. – 1999. – № 34. – С. 206.

415 Макушников, О. А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII века. Историко-краевед. очерк / О. А. Макушников. – Гомель: РУП Центр науч.-техн. и дел. информ., 2002. – С. 58.

**Плацежныя зліткі**. Наконт надпісаў на плацежных злітках існуе ўстойлівае меркаванне, якое сведчыць на карысць належнасці нанесеных на гэты від графіці майстрам-ліўцам. Імёны, якія складаюць большасць надпісаў на гэтым відзе крыніц, з'яўляюцца імёнамі заказчыкаў. Такі від рабочых паметак дазваляў майстрам беспамылкова размежавацца з кліентамі, якія прадастаўлялі ўласнае серабро для вытворчасці зліткаў.

На тэрыторыі Беларусі зафіксавана некалькі знаходак зліткаў з надпісамі. Адзін з іх паходзіць з тэрыторыі Гродзенскай вобласці. Паводле сведчання А. А. Ільіна, з Гродзенскай губерні без вызначэння месцазнаходжання «Ф. К. Пуласкій доставил в 1904 г. найденный серебряный слиток, весом 45 з. 54 д. (прыблізна 216 г.), на слитке выцарапана надпись **ПРИЛИКОВИЧИ** и имеются нарезки»[416]. Вага сведчыць на карысць прыналежнасці злітка да наўгародскіх грыўняў, а надпіс змяшчае імя заказчыкаў.

***Рысунак 56. Плацежныя зліткі.***

У в. Слабодка былога Мінскага павета ў 1902 г. быў знойдзены скарб з 21 літоўскай і 6 наўгародскіх грыўняў. Частка скарбу, у тым ліку зліткі з графіці **ПТРВА**, знаходзіцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі г. Масквы. Па сведчанні М. П. Сотнікавай, яшчэ на дзесяці злітках, якія паходзяць з розных скарбаў[417], знойдзены аналагічны надпіс. Палеаграфічнае датаванне рубяжом XIII–XIV стст. пацвярджае датаванне па форме і вазе, якая існуе ў наш час[418]. Такім чынам, злітак выйшаў з майстэрні наўгародскага майстра-ліўцы Пятра. Сярэбраны злітак, які таксама змяшчае імя заказчыка **КНѦЗꙗ ВОЛОД**, быў знойдзены ў 1886 г. на паверхні зямлі каля в. Студзянец былога Мсціслаўскага павета. Вага злітка складала 12 лотаў, што складае 153,564 г і па вазе больш адпавядае кіеўскай грыўні. З вышэйсказанага вынікае, што ўсе дадзеныя надпісы паказваюць на імёны заказчыкаў грыўняў.

Такім чынам, сярод эпіграфічных помнікаў – вырабаў з металу прысутнічаюць як імпартныя рэчы, так і вырабы мясцовых майстроў. Вырабы заходнееўрапейскіх майстроў, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ў выніку гандлёвых зносін ці як ваенная здабыча, прадстаўлены прадметамі з лацінскімі надпісамі. Імпартнымі могуць з'яўляцца і амулеты-змеевікі. Надпісы на вырабах мясцовых майстроў прадстаўлены эпіграфемамі розных памераў ад знака-меткі каваля на сярпу да разгорнутага кірылічнага датаванага надпісу Лазара Богшы. Надпісы такога кшталту сведчаць не толькі на карысць пісьменнасці рамеснікаў, як простых, так і высокакваліфікаваных, але і аб мясцовай вытворчасці прадметаў. Эпіграфічныя помнікі з металу з'яўляюцца таксама сведчаннем двайверства з прычыны таго, што яны змяшчаюць адначасова як язычніцкія, так і хрысціянскія сімвалы і імёны.

---

[416] Ильин, А. А. Топография кладов серебряных и золотых слитков / А. А. Ильин. – П.: Гос. изд-во, 1921. – С. 19.

[417] Сотникова, М. П. «Петровы» гривны / М. П. Сотникова // Сообщ. Гос. Эрмитажа. – Л., 1956. – Вып. 10. – С. 50.

[418] Там жа.

## 4.4. Гліняныя эпіграфічныя помнікі

**Амфары**. Узнікненне гарадоў садзейнічала не толькі росквіту рамёстваў, але і актыўнаму гандлю. Няма сумнення ў тым, што купцы былі людзьмі пісьменнымі. Сам род іх дзейнасці сведчыць на карысць гэтага, а знаходкі фрагментаў амфар з надпісамі гэта пацвярджаюць. Увогуле, амфары з'яўляліся тыповым тарным посудам перыяду Старажытнай Русі. У амфарах трымалі і перавозілі віно, алей, мёд, збожжа[419]. Прывазныя амфары маглі называцца таксама і карчагамі, як і гліняныя пасудзіны вялікіх памераў з вузкім горлам і валікападобным завяршэннем, звужанай калядоннай часткай і двума авальнымі вушкамі, што мацаваліся да плечукоў...[420] Яны выкарыстоўваліся для перавозкі вадкасцей і выраблялiся ў вялікай колькасці ў Кіеве.

Прысутнасць фрагментаў амфар у культурным слоі сярэдневяковых гарадоў з'яўляецца паказальнай для XII–XIII стст. Аднак іх пачалі ўвозіць раней. Напрыклад, у Ваўкавыску пачатак увозу амфар – другая палова XI ст.[421] Менавіта на амфары, знойдзенай у Гнёздава, чытаецца самы старажытны рускі надпіс[422]. На амфарах, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, часта сустракаюцца надпісы-графіці. Па меркаванні А. А. Мядынцавай, з'яўленне надпісаў выклікана неабходнасцю абазначыць змесціва сасуда і імя яго ўладальніка, таму што карчагі выкарыстоўваліся не толькі для захавання прадуктаў, але і ў якасці гандлёвай тары[423]. Графіці на амфарах, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, прадстаўлены рысункамі, літарамі, складамі, словамі.

***Амфара з надпісам «ОЛЬКЪСИ».*** Сярод графіці на амфарах асобнае месца займае надпіс на амфары з Навагрудка, знойдзенай у час раскопак 1958 г., калі 88 абломкаў адной амфары, з якіх на трох аказаліся старажытнарускія літары[424], былі знойдзены ў рэштках збудавання № 3 на Вакольным горадзе старажытнага Навагрудка, загінуўшага ў выніку пажару. З захаваўшыхся фрагментаў быў складзены профіль пасудзіны (за выключэннем верхняй часткі, горла і ручак). Ацалелыя часткі, а таксама знаходкі падобных пасудзін пры правядзенні раскопак дазволілі ахарактарызаваць амфару як вялікі грушападобны посуд з моцна пашыраным, як бы раздутым, корпусам, з высока ўзнятымі над краем пасудзіны дугападобнымі масіўнымі ручкамі, акруглымі ў сячэнні[425]. Пасля рэканструкцыі пасудзіна мела 52 см вышынёй і 43 см у дыяметры (у найбольш шырокай частцы)[426]. Састаў гліны, якасць зломаў,

---

[419] Археалогія і нумізматыка Беларусі… С. 36.

[420] Там жа. – С. 313.

[421] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 80.

[422] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 21.

[423] Археология СССР. Древняя Русь. Быт и культура… С. 144.

[424] Малевская, М. В. Амфора с надписью из Новогрудка / М. В. Малевская // Сов. археология. – 1962. – № 4. – С. 238.

[425] Якобсон, А. Л. Средневековые амфоры Северного Причерноморья / А. Л. Якобсон // Сов. археология. – 1951. – № 15. – С. 340.

[426] Малевская, М. В. Амфора с надписью… С. 239.

рыфленне на верхняй частцы пасудзіны, паглыбленне на дне і прыдоннай частцы ставяць гэтую амфару ў адзін шэраг з амфарамі Паўночнага Прычарнамор'я, Ніжняга Дона і гарадоў Старажытнай Русі і, такім чынам, на падставе формы амфару можна датаваць XII–XIII стст.[427]

Па класіфікацыі амфар Навагрудка, распрацаванай М. В. Малеўскай, амфара належыць да тыпу II[428], на якім часцей за ўсё сустракаюцца графіці і які з'яўляецца найбольш характэрным для XII (асабліва 2-й паловы) – XIII ст.

***Фота 25. Амфара з надпісам «ОЛЬКЪСИ».***

Цалкам надпіс быў складзены пры склейванні амфары. Пры гэтым высветлілася, што выдрапаны пасля абпальвання надпіс не мае ні папярэдняга слова, ні працягу. Яно складаецца з аднаго слова, якое чытаецца як **ОЛЬКЪСИ**, г. зн. «Алексій».

***Рысунак 57. Прарысоўка надпісу на амфары.***

Надпіс прачэрчаны выразна, геаметрычным устаўным стылем. На карысць XI–XII стст. сведчаць вузкія О і С у выглядзе дужачак з завостранымі канцамі, сіметрычнае напісанне Л і К, трохвугольныя петлі Ь і Ъ, Ь, якія амаль усе знаходзяцца ў радку. М. В. Малеўская датуе надпіс на амфары першай паловай XII ст. і выключае больш ранняе датаванне на падставе формы амфары, а больш позняе – на падставе палеаграфічнага аналізу надпісу, у прыватнасці, выкарыстання Ъ, і стратыграфічых даных. Аднак А. А. Мядынцава пашырае датаванне надпісу пачаткам – сярэдзінай XII ст. на падставе выгляду петляў літар Ь і Ъ, выцягнутых больш чым на палову вышыні[429]. У дадзеным выпадку трэба згадзіцца з аргументацыяй А. А. Мядынцавай, паколькі ў надпісе адсутнічаюць рысы менавіта першай паловы XII ст., таму вызначальнай будзе стратыграфічная дата пабудовы № 3 – чацвёрты будаўнічы перыяд, г. зн. пачатак – сярэдзіна XII ст.

***Амфара «(Р)ОПОЛЧЕВИНО».*** Часам эпіграфічныя помнікі з'яўляюцца пацвярджэннем летапісных даных. У 1957 г. Т. В. Раўдзінай пры раскопках Замкавай гары ў Пінску быў знойдзены фрагмент амфары з надпісам **(Р)ОПОЛЧЕВИНО** («віно Яраполка»).

***Фота 26. Фрагмент амфары з надпісам «(Р)ОПОЛЧЕВИНО».***

Ён знаходзіўся ў 13-м квадраце, пласце 10 на глыбіні 200 см сярод 13 фрагментаў, якія належалі чырвонагліняным амфарам-карчагам[430]. На адным з фрагментаў быў надпіс **(Р)ОПОЛЧЕВИНО**, які Т. В. Раўдзіна прачытала як «Яраполчае віно» і заўважыла, што карчагу са старажытнарускім надпісам можна датаваць канцом XI – пачаткам XII ст.[431]

---

[427] Малевская, М. В. Амфора с надписью… С. 239.

[428] Малевская, М. В. Амфоры Новогрудка XII–XIII вв. / М. В. Малевская // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии, февр. 1970 г. / АН БССР; под ред. Я. Г. Зверуго, В. Ф. Исаенко. – Минск, 1969. – С. 153–161.

[429] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 42.

[430] Равдина, Т. В. Отчет о раскопках в городе Пинске в 1955 г. / Т. В. Равдина // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 19. – С. 8.

[431] Равдина, Т. В. Надпись на корчаге из Пинска / Т. В. Равдина // Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М., 1957. – Вып. 70. – С. 152.

*Рысунак 58. Прарысоўка надпісу* «(Р)ОПОЛЧЕВИНО».

Датаванне пласта граніцай паміж XI і XII стст., а таксама імя на амфары, якое магло належыць толькі князю, прывяло Т. В. Раўдзіну да высноў наконт прыналежнасці амфары. Яна дапускае, што амфара магла належаць Яраполку Ізяславічу, які разам з Туравам валодаў і Пінскам[432] і быў забіты ў 1086 г. Але Б. А. Рыбакоў робіць перагляд стратыграфічных даных раскопак Т. В. Раўдзінай і лічыць, што час фрагмента з надпісам вызначаецца як канец XII ст.[433] У Іпацьеўскім летапісе ёсць звесткі аб вяселлі пінскага князя Яраполка Юр'евіча, сына Юрыя Яраславіча, унука Яраслава Святаполкавіча, якое адбылося ў 1190 г. у Пінску. Б. А. Рыбакоў звязвае надпіс на амфары і летапіснае ўпамінанне аб вяселлі князя Яраполка, якое адбылося ў Пінску: «В лѣ҃ ҂ѕхчи ...Ростиславъ же пѣха в Торцькый свои съ славою и четью великою победивъ Половци и в борзѣ еха к ѿцю въ Вроучии ѡць бо їего бяше пошелъ на Литву и бы в Пинески оу тещи своея и оу шюрьи своея тогда бо бяше свадба Ꙗрополча»[434]. Гэтае супадзенне асабліва каштоўнае таму, што звестак аб Пінскім княстве як перыферыйным у летапісах няшмат. Палеаграфічных даных для дакладнага датавання надпісу недастаткова. Напісанне літары **Y**, якое можа датаваць надпіс, характэрна і для XI ст., і для XII ст. Аднак, на наш погляд, найбольш слушнай з'яўляецца версія Б. А. Рыбакова, таму што даныя летапісу і эпіграфічнай крыніцы амаль дакладна супадаюць. Такім чынам, летапісныя даныя знаходзяць пацвярджэнне ў помніках эпіграфікі.

***Амфары са складовымі і літарнымі надпісамі.*** Але амфары не заўсёды змяшчаюць імя ўладальніка цалкам. Існуе шэраг амфар, надпісы на якіх прадстаўлены складамі ці групай літар. Здаецца слушным, што імя Аляксей, а больш дакладна, «Алексін (карчаг)» было прачэрчана на амфары з Пінска. Фрагмент амфары знойдзены ў час раскопак Я. І. Бібікава ў 1962 г. На ім чытаюцца літары **ОКЅИ**(?)**Н**(?).

***Фота 27. Амфара* ОКЅИ(?)Н(?), *Пінск.***

Магчыма, надпіс меў пачатак і працяг. Варыянт выкарыстання прыналежнага прыметніка ў мужчынскім родзе не павінен выклікаць сумненняў, таму што назва «карчага» выкарыстоўвалася і ў мужчынскім родзе – «карчаг», прычым варыянт жаночага роду характэрны для старажытнарускай, а мужчынскага – для стараславянскай мовы[435].

У выніку археалагічных даследаванняў, якія праводзіліся на Замкавай гары ў Пінску ў 1955 г., у 8–13-м пластах, г. зн., у дамангольскім слоі былі знойдзены абломкі ад 13 амфар-карчаг, якія рэзка адрозніваліся па тэхніцы вырабу і памерах ад мясцовага посуду[436]. Адзін з фрагментаў амфары зной-

---

[432] Равдина, Т. В. Надпись на корчаге из Пинска... С. 153.

[433] Рыбаков, Б. А. Русские датированные надписи… С. 34.

[434] Ипатьевкая летопись (Полное собрание русских летописей. Том второй.) – 2-е изд. – М.: Языки славян. культуры. – 2001. – С. 362, ст. 672.

[435] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 50.

[436] Равдина, Т. В. Отчет о раскопках… С. 14.

дзены ў слоі VII, які датуецца стратыграфічна другой паловай XI ст.[437], тлустасценны, мае памеры прыблізна 22×20 см і змяшчае рэшткі старажытнарускіх літар, прадрапаных па абпаленай гліне у адзін радок. З трох літар добра захавалася толькі **Д** вышынёй 25 мм і шырынёй не менш за 30 мм, якая заканчвае нейкае слова[438]. Гэта канец нейкага надпісу, апошняй літарай якога было **Д**, літары перад ім, магчыма, **Ь** і **И**.

***Рысунак 59. Прарысоўка фрагмента надпісу на амфары, Пінск .***

Да палеаграфічных асаблівасцей літары можна аднесці навершша і трохвугольную ножку, што пацвярджае стратыграфічнае датаванне XI ст. На жаль, надпіс нечытабельны.

Таксама ў Пінску знойдзены фрагмент ручкі амфары з надпісам. Надпіс складаецца з **Є**-падобнай літары, да якой далучаецца трохвугольнік з навершшам (**Ъ** ці **Ѧ**), гарызантальнай рыскі і добра напісанай літары **И**.

***Фота 28. Надпіс на ручцы амфары, Пінск .***

Графіта з'яўляецца самастойным: ні перад ім, ні пасля яго надпісаў няма. Можна даць дзве версіі чытання: па-першае, гэта можа быць імя **ІѦН** («Ян»). Аднак, па аналогіі з напісаннем літары **Ы** ў графіта № 179 з Сафіі Кіеўскай[439], можна дапусціць, што тут напісана слова «сын».

***Рысунак 60. Прарысоўка графіта № 179, Кіеў .***

Першая літара – **Є**, другая – **Ы**, якая напісана трохвугольнікам ад вяршыні і мачтай якой з'яўляецца левая мачта літары **И**. Дакладнае чытанне надпісу немагчыма з-за яго фрагментарнасці .

Што датычыцца Полацка, то тут амфары існуюць на працягу XI–XII стст. і цалкам знікаюць у канцы 30-х гадоў XIII ст.[440] У Полацку знойдзены падчас раскопак С. В. Тарасава фрагменты амфар з надпісамі ў выглядзе складоў: **ѦН**, **КОЄ**[441].

***Фота 29. Фрагмент амфары з надпісам ѦН .***

***Рысунак 61. Надпіс на фрагменце амфары з надпісам ѦН .***

Надпіс **КОЄ**, магчыма, абазначае імя Канстанцін, якое ў тэкстах берасцяных грамат і графіці часта пісалася як «Коснятин», «Костянтин» або «Костетин»[442]. **ѦН**, верагодна, таксама першыя літары імя. Палеаграфічна надпісы датуюцца XII ст.

***Фота 30. Фрагмент амфары з надпісам КОЄ .***

Існуе цэлы шэраг фрагментаў амфар, у якіх як на сценкі, так і на ручкі амфар нанесены адзіночныя літары. Фрагменты амфар з прачэрчанымі на іх пасля абпальвання літарамі знойдзены ў Слоніме (літара **Н**), Навагрудку (літара **Н**,

---

437 Равдина, Т. В. Раскопки в Пинске / Т. В. Равдина // Сов. археология. – 1966. – № 1. – С. 289.

438 Равдина, Т. В. Отчет о раскопках… С. 15.

439 Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 348–349.

440 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 52.

441 Аўтар шчыра дзякуе С. В. Тарасаву за дазвол выкарыстання матэрыялаў і фотаздымкаў у працы.

442 Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 30, 108.

у якой перакладзіна прачэрчана наадварот)[443], Полацку (літара **И**), Мінску (літара **Б**), Пінску (літары **Д**, **Б**, **К**). Эпіграфічныя помнікі гэтага віду прадстаўлены таксама фрагментам амфары з Ваўкавыска, знойдзеным у 1956 г. на Замчышчы ў слоі XIII ст.[444], на якім бачна літара **Ѧ**, прадрапаная вострым металічным прадметам на ўжо абпаленай пасудзіне[445].

***Фота 31. Фрагменты амфар з літарамі .***

Адзіночныя літары маглі абазначаць аб'ём тары, калі ў гэтым была патрэба. Такія надпісы на карчагах маглі несці інфармацыю пра меру ёмістасці вызначанага прадукта[446]. Прыкладам таму з'яўляецца знаходка ў Балгарыі карчагі з надпісам, прачэрчаным пасля абпальвання «**ѳмѣрны** – девятимерный корчаг»[447]. Але не ўсе з гэтых надпісаў з'яўляюцца абазначэннямі меры. На карысць таго, што гэтыя літары маглі абазначаць першыя літары імёнаў, сведчыць менавіта выкарыстанне літары **Б**, якая ў выглядзе графіта знойдзена на фрагментах амфар з Пінска і Мінска. Як вядома, літара **Б** лічбы не абазначае.

Адсюль вынікае, што і надпісы, і літары наносіліся ўладальнікамі амфар, каб пазначыць сваю ўласнасць або абазначыць ёмістасць тары ці прадукт, які там знаходзіцца.

**Плінфа**. Свае меткі рамеснікі пакідалі і на такім распаўсюджаным матэрыяле, як плінфа. Па сведчанні М. В. Навасёлава, з усіх будаўнічых матэрыялаў плінфа ў раннім сярэдневякоўі з'яўляецца самым масавым і, напэўна, самым інфарматыўным[448]. Сярод выяў на плінфе сустракаюцца літары і літарападобныя, крыжападобныя, стрэлападобныя, хвалепадобныя і іншыя знакі. Лічыцца, што маркіраванне плінфы меткамі абавязана сваім паходжаннем наступнаму звычаю: грэчаскія рамеснікі, якія былі задзейнічаны ў арганізацыі будаўніцтва першых старажытнарускіх каменных будынкаў[449], мелі традыцыю пакідаць на плінфе кляймо з указаннем імя імператара або ахвяравальніка на храм[450], якая сутыкнулася з традыцыяй кляймення ганчарных вырабаў і прыняла да новага спосабу кляймення цэглы пры дапамозе рэльефнага адбітка[451].

***Плінфа з літарнымі меткамі.*** У беларускіх гарадах шмат знакаў сустракаецца на плінфе з Гродна і Ваўкавыска.

***Рысунак 62. Плінфа з літарнымі знакамі (паводле Я. Г. Звяругі і І. Г. Трусава).***

Сярод іх – літарныя, літарападобныя, тамгападобныя, княжацкія знакі і інш. Так, на гродзенскай плінфе знакі знаходзяцца на доўгім баку, на ваўкавыскіх –

---

[443] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье… С. 190.

[444] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 126.

[445] Там жа.

[446] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 51.

[447] Там жа. – С. 52.

[448] Новосёлов, Н. В. От Благовещения до Благовещения: Строительное производство Новгородской земли в период сложения местной архитектурной школы / Н. В. Новосёлов. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2002. – С. 19–20.

[449] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 84.

[450] Там жа.

[451] Там жа.

на тарцы. Іх суадносіны наступныя: калі пры аглядзе некалькіх тысяч цаглін з руін Ніжняй царквы знакі сустрэліся толькі на 17 экзэмплярах, то на паверхнях сцен церама было знойдзена іх некалькі дзясяткаў, пры гэтым асобныя – у некалькіх варыянтах[452]. Сярод знакаў на плінфах, якія з'яўляліся люстэркавымі адбіткамі знакаў, якія выразаліся ўглыб на кароткіх дошках формы[453], ёсць літарныя знакі: А, М, И, Т, Н, Б, В, знакі ўласнасці, якія ў шэрагу выпадкаў нагадваюць бортныя знамёны, руны і знакі Рурыкавічаў.

Найбольш слушным на сённяшні момант з'яўляецца меркаванне, што раменікі пазначалі партыю цэглы асабістымі знакамі ці літарамі. Але яны таксама маглі наносіць на яе знакі заказчыка, для якога выраблялася гэтая плінфа. Побач з такімі знакамі існуюць знакі іншага кшталту. Гэта знакі рамеснікаў, якія знаходзіліся ў залежнасці ад князя і пазначалі плінфы яго знакамі. Такім чынам, літары на плінфе маглі быць ініцыяламі заказчыкаў або майстроў. Гэта значыць, што ў Гродне і Ваўкавыску пражывалі рамеснікі – вытворцы плінфы, якія знаходзіліся ў асабістай залежнасці ад князя[454], а таксама свабодныя рамеснікі-«плинфоделатели»[455], што магчыма ўстанавіць менавіта па знаках на плінфе. Але, на наш погляд, гэта не можа быць дакладна ўстаноўлена. Так, свабодныя рамеснікі таксама маглі рабіць плінфу для князя і ставіць на цэгле яго знакі – знакі заказчыка. Да таго ж, з-за адсутнасці прамых доказаў можна толькі дапусціць, што літарападобныя знакі на плінфах з'яўляюцца менавіта літарамі і ініцыяламі. Такія даследчыкі, як С. Я. Куль-Сяльверстава, І. Г. Трусаў, лічаць, што рунічныя знакі на плінфе гродзенскіх, полацкіх і смаленскіх храмаў… назапасілі дастаткова доказаў таго, што ўсходнія славяне, таксама як і германскія плямёны, маглі карыстацца падобным на рунічны алфавітам для запісу інфармацыі[456]. Не выключаючы гіпатэтычнай магчымасці існавання рунічнага алфавіту, нельга дакладна сцвярджаць, што гэтыя знакі – рунічныя літары. Такія знакі могуць быць знакамі ўласнасці, якія праявіліся, у прыватнасці, ва ўжыванні ў якасці бортных знамёнаў.

***Плінфа «Я – Авфоні».*** Знакі на ўсе вышэйзгаданыя плінфы наносіліся перад абпальваннем. Да абпальвання быў нанесены і наступны надпіс, які адрозніваецца па мэце нанясення ад папярэдніх. На плінфе памерамі 34×2,3×3 см, якая была знойдзена ў час работ у Сафійскім саборы ў 1972 г., добра чытаюцца літары А/АВѴѲНИ/ И.

***Фота 32. Плінфа з літарнымі знакамі, Полацк.***

---

[452] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье… С. 181.

[453] Там жа. – С. 181.

[454] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск... С. 132.

[455] Там жа.

[456] Куль-Сільверстава. С. Я. Беларуская палеаграфія вучэб. дапам. для студэнтаў / С. Я. Куль-Сяльверстава. – Гродна: ГрГу, 1996. – С. 12; Трусаў, І. Г. Спроба класіфікацыі і расшыфроўкі знакаў на гродзенскай плінфе / І. Г. Трусаў // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны: Мат-лы навук.-практ. канф., Гродна 26 ліст. 1991 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі і інш.; гал. рэд. Я. Г. Звяруга і інш. – Гродна, 1992. – С. 61–62.

Яны нанесены па сырой цэгле на шырокую частку плінфы, вугал якой адбіты, але гэта не пашкодзіла надпіс. А. А. Мядынцава і Г. В. Штыхаў разглядаюць надпіс як лічбавыя разлікі, якія, магчыма, дапоўнены ініцыяламі[457]. Знак у апошнім радку лічыцца тамгой рамесніка, якая замяняла яму подпіс[458]. Такое чытанне, у асноўным, выклікана дрэннай якасцю прарысоўкі, якая была ў даследчыкаў. Так, А. А. Мядынцава peралічвае літары на надпісе як «ѦѦВҮѲН(Ѻ)»[459]. Г. В. Штыхаў, са спасылкай на С. А. Высоцкага, лічыў, што ў сярэдзіне надпісу знаходзяцца дзве літары – лічбы пад цітлай ҮѲ, што азначае 99, а сам надпіс чытаецца «а явно»[460]. Але пры дакладным вывучэнні плінфы становіцца ясным, што літары на ёй ідуць у наступным парадку: першы радок – літара Ѧ, другі радок – літары ѦВҮѲНИ, пры гэтым трэцяя і чацвёртая літары напісаны не пад цітлай, зверху над імі знаходзіцца шчыліна, дарэчы, не адзіная на гэтай плінфе, што выключае магчымасць аспрэчвання, у трэцім радку – літара Н, перапраўленая ў И, ці наадварот, да якой злева дапісаны знак, падобны на перакуленую дагары нагамі Ь, або павернутую ў адваротны бок Р. Улічваючы ўсё гэтае, на наш погляд, найбольш правільным з'яўляецца думка У. Караткевіча аб тым, што гэта надпіс: «Я – Авфоній», які выкананы не вельмі пісьменным чалавекам[461]. Сапраўды, першая літара, бясспрэчна, чытаецца як «Я». Літары Ѧ, В спрэчкі таксама не выклікаюць. Літара Ү, якую даследчыкі чытаюць як Ч, зверху з'яднана рысай і сапраўды павінна чытацца як Ч. Яна нагадвае літару з графіта № 47 Наўгародскага Сафійскага сабора[462]. Але для слабапісьменнага чалавека па знешнім выглядзе яна амаль аналагічна літары Ф. Літара О, якая была напісана пасля Ф, магла быць перапраўлена ў Ѳ, каб выправіць папярэднюю памылку. Напісанне літар Н, И з перакладзінамі ў розныя бакі таксама сведчыць на карысць невялікай пісьменнасці аўтара надпісу. Перапраўленая літара ў трэцім радку таксама сведчыць аб гэтым. Такім чынам, надпіс, які чытаецца «Я – Авфоній», датуецца XI ст. па палеаграфічных даных, памерах плінфы, па часе будаўніцтва храма і з'яўляецца адным з самых ранніх надпісаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Што датычыцца пытання аб аўтарстве надпісу, то яго мог нанесці не толькі чалавек, які займаўся вытворчасцю плінфы. Па сведчанні А. А. Мядынцавай, працэс вытворчасці плінфы ствараў умовы для нанясення аўтографаў не толькі самімі плінфавытворцамі, але і іншымі людзьмі, якія ўдзельнічалі ў будаўніцтве царквы[463]. Плінфы з надпісамі, пакладзенымі ў сцяну храма, таксама як надпісы-графіці, прыраўноўваліся да малітвы, якая дзейнічае пастаянна[464], што і стварала жаданне нанесці надпіс.

---

457 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 86.

458 Там жа.

459 Там жа.

460 Там жа.

461 Караткевіч, У. С. Зямля пад белымі крыламі / У. С. Караткевіч. – 2-е выд. – Мінск: Нар. асвета, 1992. – С. 80.

462 Медынцева, А. А. Древнерусские надписи… С. 225.

463 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 90.

464 Там жа. – С. 84.

Такім чынам, надпісы на амфарах і плінфах уводзяць у кола пісьменных людзей купцоў і рамеснікаў-плінфавытворцаў. Першыя пакідаюць знакі ўласнасці на тары для перавозкі тавараў для адзначэння ўласнасці, другія маглі ставіць уласныя меткі ці знакі заказчыка. Адзін з самых ранніх кірылічных надпісаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, – подпіс Авфонія, сведчыць на карысць жадання пакінуць надпіс пры даволі дрэнным валоданні пісьмом. Акрамя гэтага, надпіс на рэштках амфары з Пінска дазволіў удакладніць летапісныя даныя аб вяселлі Яраполка.

### 4.5. Касцяныя эпіграфічныя помнікі

Адным з відаў рамяства, шырока распаўсюджаным у сярэдневяковых гарадах, была кастарэзная вытворчасць. Яна развівалася на падставе старажытнейшых традыцый разьбы[465]. Матэрыялам для кастарэзнай вытворчасці служылі звычайныя косткі жывёл, рогі аленяў і ласёў, косткі птушак, іклы кабаноў. Для апрацоўкі матэрыялу ўжываліся тапары, пілы, свярдзёлкі, такарны станок. Прадметы часта аздабляліся арнаментам. У складзе эпіграфічных помнікаў на касцяным матэрыяле можна вылучыць косткі з надпісамі, нарыхтоўкі з косці з надпісамі і вырабы з косці з надпісамі. Часам кастарэзная вытворчасць існавала побач з іншай рамеснай дзейнасцю. Так, у Навагрудку разьба па косці была адзіным дакладным відам рамяства, якое ў багатым квартале спадарожнічала ювелірнай справе[466].

**Косткі**. Да надпісаў на костках належаць эпіграфемы, якія нанесены на неапрацаваныя косткі. Яны не з'яўляліся ні нарыхтоўкамі кастарэзнай вытворчасці, ні касцянымі вырабамі, што дапускае спантаннае нанясенне надпісу мясцовымі жыхарамі.

***Костка «МОНХЪ».*** У Полацку ў пласце рубяжа XII–XIII стст. знойдзена костка жывёлы з надпісам, прарэзаным тонкімі лініямі. Г. В. Штыхаў прачытаў надпіс як слова «моих»[467], г. зн. «маіх». У сваю чаргу С. В. Тарасаў прачытаў надпіс на костцы як МОНХ, г. зн. «манах»[468]. Аднак падрабязнае вывучэнне надпісу ўнесла яснасць у гэтае спрэчнае пытанне, эпіграфема была прачытана як МОНХЪ.

***Рысунак 63. Костка з надпісам МОНХЪ.***

За літарай Х ішла пятая літара – Ъ, нанесеная вельмі тонкімі, ледзь бачнымі нарэзкамі. Перакладзіна трэцяй літары скошана такім чынам, што больш указвае на літару Н, чым на літару И. Выходзячы з гэтага, надпіс можна чытаць як «манах». Аднак застаецца невядомым, ці быў яшчэ надпіс, які пачынаў ці працягваў напісанае. Па вусным сведчанні В. Мядзведзевай, костка такога тыпу даволі доўгая. Можна меркаваць, што на ёй маглі змяшчацца надпісы акрамя гэтага.

---

465 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 91.

466 Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 142.

467 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 115.

468 Тарасаў, С. Полацкая эпіграфія… С. 10.

***Костка «ѦГБЄВЧЄК».*** З Гродна паходзіць гладкая, адпаліраваная костка, знойдзеная ў 1937–1939 гг. у слоі 11, дзе выяўлены знаходкі, якія даюць магчымасць аднесці яго да XI–XII стст.[469] Надпіс на костцы быў прачытаны У. І. Галубовіч і Г. А. Цэгак-Галубовіч як «ѦГБЄВЧЄК»[470].

***Фота 33. Костка з літарным надпісам, Гродна.***

Увесь надпіс складаецца з дзевяці літар, глыбока прарэзаных ўпоперак косткі нейкай вострай прыладай. Яны размешчаны ў наступным парадку. **Ѧ**, якое можа чытацца і як **Д**, таму што літара мае выразна прарэзаныя ножкі, ці як лігатура гэтых літар. Шырокае **Г** выразана з трохвугольнікам на канцы навершша. **Б**, кузаў якой паўкруглы, дасягае сярэдзіны мачты, а навершша таксама мае трохвугольнік на канцы. **В** мае роўныя палавінкі, таксама паўкруглыя. Літара Ь з напаўзацёртым верхам кубачкам. Наступную літару можна ўмоўна чытаць як **Є**, з канцамі і язычком, накіраваным уверх, таму што верх літары таксама зацёрты. Над ёй прарэзана рыса. Літара **К** здаецца напісанай з літары **Л** шляхам дарэзвання верхняй ножкі ад сярэдзіны мачты. Умоўна надпіс можна падзяліць на чатыры часткі **Д(Ѧ)Г/БЄ/В/ЧЄ(Л)К**. Пры ўмове чытання апошняй літары як лігатуры **ЛК**, тры апошнія словы можна прачытаць як «**бє в чєл҃к**» («быў у чалавеку»). Аднак, што ў гэтым выпадку будуць абазначаць першыя дзве літары **ДГ**, невядома. Можна прапанаваць чытаць іх як «**Дꙋхъ Господень**». Але гэта чытанне выклікае контраргументы, першым з якіх з'яўляецца наступны: для чаго такі ўзнёслы надпіс быў напісаны на такім «нізкім» матэрыяле, як костка. Усе даследчыкі, якія ўпаміналі гэты помнік, лічаць, што надпіс на ім магічны. З такім меркаваннем можна згадзіцца пры захаванні вышэйзгаданага чытання надпісу за выключэннем дзвюх першых літар, г. зн. «(нешта) было ў чалавеку». На карысць таго, што надпіс магічны, сведчыць дзявяты знак у выглядзе крыжа, выразанага, магчыма, для таго, каб прыдаць надпісу большую моц. Трэба адзначыць, што крыж як знак надання моцы выкарыстоўваўся не толькі ў хрысціянскіх малітвах, але і ў язычніцкіх замовах. Паводле палеаграфічных даных, якія пацвярджаюцца стратыграфічнымі, помнік належыць да рубяжу XI–XII стст.

***Рысунак 64. Прарысоўка косткі з літарным надпісам.***

***Косткі з гарадзішча Маскавічы.*** Цікавай знаходкай з «перыферыйных зямель» Полацкага княства з'яўляецца калекцыя костак з рунамі, рунападобнымі знакамі і кірылічнымі літарамі з гарадзішча Маскавічы, якое ўзнікла ў выніку пашырэння межаў Полацкай зямлі ў заходнім напрамку і з'ялялася адным з фарпостаў Полацкага княства на яго паўночна-заходніх межах[471]. У Маскавічах склаўся своеасаблівы этнічны кангламерат. На карысць гэтага сведчыць тое, што акрамя этнавызначальных знаходак упрыгожванняў агульнаславянскага і агульнаўсходнепрыбалтыйскага характару, тут фіксуецца прысутнасць

[469] Голубович, В. И. Новые материалы… С. 77.
[470] Там жа.
[471] Дучиц, Л. В. Надписи и знаки… С. 191.

літоўцаў, фінна-уграў, ліваў, земгалаў, вяцічаў, наўгародцаў, скандынаваў[472]. Асноўнае сведчанне прысутнасці скандынаваў – 86 костак, на якія нанесены 265 рунічных знакаў малодшымі рунамі (язычніцкія замовы і вараскія імёны)[473], з якіх было вылучана 46 граф, колькасць ужывання кожнай з іх вар'іруецца ад 1 да 36 разоў[474], а асноўная большасць граф (41 з 46) супастаўляецца са знакамі скандынаўскіх малодшарунічных алфавітаў[475], і толькі 11 графаў (разнавіднасцей абрысу адной і той жа літары) суадносяцца з літарамі старажытнарускага кірылічнага алфавіта[476]. Увогуле для надпісаў характэрна выкарыстанне рэдкіх, атыповых форм рун і несуадноснасць у частаце ўжывання некаторых знакаў[477]. Акрамя знакаў на костках сустракаюцца малюнкі і рашоткі. Сярод малюнкаў пераважна выявы ўзброеных людзей і лодак[478]. Косткі, знойдзеныя на гарадзішчы, у асноўным належалі авечкам і ласям. На некаторых костках чытаюцца асобныя знакі, іншыя надпісы зусім нечытальныя, нягледзячы на рунападобны характар. Але сярод гэтага матэрыялу ёсць цалкам чытальныя эпіграфемы.

Усю сукупнасць эпіграфічных помнікаў маскавіцкага гарадзішча можна падзяліць на некалькі груп: рунічныя чытабельныя надпісы, рунічныя нечытабельныя надпісы, кірылічныя надпісы і літары, рашоткі, малюнкі. Мы лічым правамерным разглядаць малюнкі ў кантэксце эпіграфікі, таму што яны даюць уяўленне аб культуры, кірунках творчасці і ментальнасці людзей, якія наносілі надпісы.

Першую групу складаюць чытабельныя рунічныя надпісы. Да іх належаць імёны, дзелавыя запісы і магічныя надпісы. Амаль усе гэтыя надпісы былі прачытаны А. А. Мельнікавай.

Сярод імёнаў можна вылучыць наступныя. Некаторыя з графіці – імёны. Так, на прамянёвую костку лася глыбокімі і тонкімі рэзамі нанесены пяць знакаў да 1,5 см вышынёй (рысунак 66.2)[479], якія чытаюцца як «iakil» і інтэрпрэтаваны А. А. Мельнікавай як мужчынскае імя Йокель[480].

Мужчынскае імя Оддзі было прачытана на трох костках. На першы фрагмент косткі нанесены тры знакі вышынёй да 1,4 см, якія былі прачытаны А. А. Мельнікавай як «utti»[481] – варыянт імя Оддзі (рысунак 66.7). На фрагмент

[472] Дучиц, Л. В. Этнический состав населения северо-запада Полоцкого княжества / Л. В. Дучиц // История и археология Полоцка и Полоцкой земли: материалы науч. конф., посв. 1125-летию Полоцка / Ин-т истории АН БССР, Полоц. ист.-археол. заповедник; сост. Т. А. Джумантаева. – Полоцк, 1987. – С. 20.

[473] Катлярчук, А. Швэды ў гісторыі… С. 17.

[474] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 81.

[475] Там жа.

[476] Там жа.

[477] Там жа.

[478] Дучиц, Л. В. Надписи и знаки… С. 192.

[479] У працы былі выкарыстаны рысункі справаздач па гарадзішчы Маскавічы Л. У. Дучыц і рысункі манаграфіі А. А. Мельнікавай. Аўтар шчыра дзякуе Л. У. Дучыц за дазвол выкарыстання матэрыялаў.

[480] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 217.

[481] Там жа. – С. 224.

косткі лася была нанесена рашотка з трыма кропкамі, якая цалкам не захавалася. Справа ад рашоткі нанесены надпіс з пяці знакаў вышынёй да 1,7 см, якія ўяўляюць сабой тры падвоеныя руны – «oottii», што дазволіла А. А. Мельнікавай прачытаць надпіс як антрапонім Oddi – імя чалавека, так ці інакш звязанага з меткамі ў сетцы[482] (рысунак 65.3). Самі рашоткі, нанесеныя на косткі (рысунак 65), інтэрпрэтуюцца як «аднаразовае прыстасаванне, якое імітуе поле гульні»[483]ці «архаічны спосаб лікавага запісу»[484].

***Рысунак 65. Косткі з рашоткамі і нарыхтоўкамі рашотак.***

Таксама імя Оддзі, але ўжо ў выглядзе прыналежнага прыметніка – «Оддзін» нанесена на галёначную костку, якая належала сабаку ці ваўку, і мае даўжыню 18 см (рысунак 66.3). Злева глыбока ўрэзаны 5 знакаў вышынёй да 1,5 см, якія А. А. Мельнікава прачытала як «uttinn», г. зн. «Оддзін»[485]. Справа на гэтай костцы ёсць яшчэ і чатыры нарэзкі – лічыцца, што гэта ў сваім родзе пазыковая распіска. Мабыць, Оддзі быў камусьці нешта павінен, ці яму нехта. Цікава, што, па сведчанні А. А. Мельнікавай, такая форма характэрна для старажытнарускай перадачы гэтага імя ў прыналежнай форме і сустракаецца ў тэксце руска-візантыйскага дагавору 944 г.[486]

***Рысунак 66. Косткі з чытабельнымі рунічнымі надпісамі.***

Таксама імя, але ў форме давальнага склону, прарэзана на фрагменце трубчастай косткі лася сям'ю рэзамі вышынёй да 1,5 см (рысунак 66.1). Руны былі прачытаны А. А. Мельнікавай як «kilioti», г. зн. «Гільётту»[487], а дзве глыбокія кароткія нарэзкі злева ад надпісу інтэрпрэтаваны як лічбавыя паметы, якія могуць паказваць на тое, што Гільётту належыць аддаць або яму належаць два нейкіх прадметы[488]. А. А. Мельнікава характарызуе надпіс як заметку для памяці і чытае яе як «2 – Гільётту»[489].

Нейкія справы вырашалі і тыя, хто напісаў на костках графіта, якое складаецца з чатырох рунападобных знакаў, выявы чалавека з мячом і яшчэ аднаго рунападобнага знака (рысунак 66.8). Руны былі прачытаны А. А. Мельнікавай як «tiaþu», а найбольш верагоднай інтэрпрэтацыяй гэтага надпісу з'явілася форма дзеяслова «(яны) далажылі»[490].

Фрагмент косткі, знойдзены ў раскопе II, пласце 5 таксама мае тры знакі, нанесеныя тонкімі рэзамі (рысунак 66.6). Яны былі прачытаны А. А. Мельнікавай як «ratu» («réttu») – імператыў ад дзеяслова rétta («вырашаць, судзіць») – «вырашай» ці «судзі»[491].

---

[482] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 225.
[483] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С.82.
[484] Там жа.
[485] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 223.
[486] Там жа.
[487] Там жа. – С. 218.
[488] Там жа. – С. 218–219.
[489] Там жа.
[490] Там жа. – С. 231.
[491] Там жа.

Графіта на адным з фрагментаў косткі складаецца з чатырох знакаў вышынёй да 1,7 см, выкананых глыбокімі рэзамі, над якімі зверху вертыкальна нанесена выява трохзубца (рысунак 66.9). Трохзубец нагадвае літару «шта» кірылічнага алфавіта, павернутую направа. Сукупнасць знакаў дала А. А. Мельнікавай магчымасць прачытаць графіта як «takia» ад старажытна-ісландскага «tekja» – «даход, паступленне ў казну». Ужыванне трохзубца тлумачыцца выкарыстаннем косткі як біркі, якая паказвае на паходжанне або прызначэнне нейкага прадмета[492]. Адсутнасць індывідуальных асабіста-радавых прыкмет на выявы трохзубца, паводле меркавання А. А. Мельнікавай, абумоўлена магчымасцю выкарыстання прымітыўнай формы трохзубца як абагульненага сімвала княжацкай улады[493].

На фрагмент метаподзіі лася надпісы нанесены з чатырох бакоў. На баку А – надпіс «taitu» – «радуйся»[494], нанесены рунападобнымі знакамі вышынёй да 1 см (рысунак 66.11А). З боку Б на костку нанесены на ўсю шырыню адзіночная, падвоеныя і патроеная руны «oottunnn», якія ствараюць магічны надпіс (рысунак 66.11Б). Па сведчанні А. А. Мельнікавай, падваенне або патраенне кожнага знака вядомы ў надпісах, як правіла, магічнага зместу[495]. На баку В таксама рунападобныя знакі, вышынёй па 0,9 см, але яны нечытабельныя (рысунак 66.11В). На баку Г па ўсёй шырыні паверхні змяшчаюцца шэсць нарэзак дзвюма групамі: дзве – злева і чатыры – справа (рысунак 66.11Г).

Аналаг надпісу «taitu» рунамі, але на лацінскай мове нанесены на фрагмент вырабу з косткі авечкі (рысунак 66.10). А. А. Мельнікава дапускае, што надпіс мог чытацца як «ave»[496] – пачатковае слова малітвы.

Таксама як магічны чытаецца надпіс на прамянёвай костцы лася, дзе шасцю знакамі з тройчы паўтораных рун напісана слова «kk k u uu þ þþ» (рысунак 66.5), якое адпавядае старажытна-ісландскаму «бог»[497].

Неабходна згадаць і костку з цікавым надпісам «kuratio» – «пастырства, нагляд»[498], якое мела важнае значэнне ў мове хрысціянскіх місіянераў і абазначала сукупнасць пастырскіх абавязкаў святара (рысунак 66.4). Існуе пацвярджэнне таму, што нейкі святар сапраўды мог выконваць тут свае абавязкі. На карысць гэтага сведчыць «Сага аб хрышчэнні» (епіскапская сага канца XIII ст.), у якой расказваецца пра жыўшага ў канцы Х ст. ісландца Торвальда, сына Кадрана, а таксама ёсць спасылка на месца яго пахавання. У час вяртання з Іерусаліма ў Скандынавію ён памёр «в Руссии (Русі) недалеко от Паллтескьи (Полацка)»[499], «там он похоронен в высокой горе вверх по течению Дрёвна

---

492 Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 232.
493 Там жа.
494 Там жа. – С. 228.
495 Там жа. – С. 219.
496 Там жа. – С. 246.
497 Там жа. – С. 219.
498 Там жа. – С. 245.
499 Древнерусские города в древнескандинавской письменности: Тексты, перевод, комментарий / Г. В. Глазырина, Т. Н. Джаксон. – М.: Наука, 1987. – С. 102.

у церкви Иоанна»[500]. Гідроніму «Дрёвн» сугучна назва «Друя», таксама каля Браслава акрамя возера Дрывяты, паблізу знаходзіцца возера Дрысвяты, а ў наваколлі – цэлы гідранімічны вузел з падобнымі назвамі[501]. Аўтар сагі спасылаецца на скальда Бранда Вандроўніка (ні па якіх больш крыніцах не вядомага)[502]. Такім чынам, можна дапусціць месцазнаходжанне царквы Іаана не толькі каля Полацка, дзе калісьці існаваў манастыр Іаана Прадцечы, але і недалёка ад Браслава.

***Рысунак 67. Косткі з рунічнымі магічнымі надпісамі.***

Надпіс, які не мае яўнага лексічнага значэння[503], але, відавочна, мае магічнае, нанесены на фрагмент косткі і ўяўляе сабой дзве групы рун, аддзеленых адна ад адной стрэлкай, накіраванай направа. Левая група змяшчае руны «і t t», правая «þ þ u u t (або ll)». Надпіс злева пачынаецца з нядобразычлівай руны iss і падтрымліваецца наступнай рунай «Цюр», усё гэта адрасуецца падвоеным рунам Þ, u, і t (або ll), на якія ўказвае стрэлка (рысунак 67.1). Такім чынам, левая частка можа служыць пажаданнем зла, для ажыццяўлення якога заклікаецца бог Цюр[504] у адносінах да сказанага ў правай частцы.

Надпіс на фрагменце рабрыны авечкі, выкананы глыбокімі і высокімі рэзамі, якія дасягаюць 2,3 см, з'яўляецца закляццем, змест якога вызначаецца сімвалічным значэннем рун, якія яго складаюць[505] «t t aa l a k k t t x (крыж)» (рысунак 67.3). Руна l мае значэнне «laukr» – лук. Крыж у канцы надпісу з'яўляецца ці рунай g (gebō – «дар, даваць»), ці сапраўдным крыжам, які часта ставіўся, каб пацвердзіць сказанае.

Амулетам з'яўляецца костка – фрагмент рабрыны авечкі, на якую ад краю да краю нанесены глыбокімі рэзамі падвоеныя руны «uu kk t t nn aa ii» (рысунак 67.2), якія маюць негатыўныя значэнні, адпаведна: úrr – бык, kaun – язва, Tý́r – Цюр, nauđ – нястача, áss – ас, iss – лёд[506]. Гэтыя сімвалы маглі мець як ахоўнае, так і шкоднае прызначэнне, але якое менавіта, сказаць цяжка.

Такім чынам, з агульнай калекцыі знаходак з гарадзішча Маскавічы, на якія нанесены рунічныя надпісы, толькі 15 змяшчаюць чытальныя надпісы, частка з графіці з'яўляецца магічнымі надпісамі. На іншых костках чытаюцца адзіночныя руны, або знаходзяцца рунападобныя знакі.

***Рысунак 68-69. Косткі з адзінкавымі чытабельнымі рунамі.***

Так, напрыклад, добра чытаецца руна t, l (рысункі 68.1, 3, 4, 13, 14, 16, 17, 178, 19, 26; 69.2, 3, 6,9, 10, 11, 14, 21, 26, 27, 28, 29, 31, 32; 73.3, 5, 7, 10). На

---

500 Древнерусские города в древнескандинавской письменности... С.103.

501 Там жа. – С.105.

502 Джаксон, Т. Н. Полоцк в древнескандинавской письменности // История и археология Полоцка и Полоцкой земли: к 1125-летию Полоцка: докл. конф. / Ин-т истории АН БССР, Полоц. ист.-археол. заповедник; сост. Т. А. Джумантаева. – Полоцк, 1987. – С. 17.

503 Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 222.

504 Там жа.

505 Там жа. – С. 221.

506 Там жа. – С. 221.

некаторых костках вылучаюцца руны u, n, m. Але нават калі чытаецца ўсё слова, як, напрыклад, тры руны iui на фрагменце косткі (рысункі 65.1, 4), сэнс застаецца незразумелым.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне стрэлак, паралельных радку і накіраваных улева ці ўправа (рысункі 68.13, 14, 17, 28, 29; 69.27; 70.2; 71.8, 10; 72.7, 11), якія звязваюць паміж сабой два выказванні або выказванне і выяву. Можна дапусціць, што адно выказванне дадае другое ці паяснае яго. На рысунку 71.8 чатыры знакі, тры з якіх чытаюцца як o, u, n[507] і, у асноўным, адпавядаюць рунам на магічным надпісу 66.11Б, паказваюць на чалавека ў лодцы. Магчыма, яму прызначаюцца гэтыя ахоўныя або, наадварот, шкодныя знакі.

Таксама прыцягвае ўвагу знак, які сустракаецца ў шэрагу надпісаў (рысункі 93.7, 12, 16, 25; 95.7) і нагадвае «грыбок» – трохвугольнік, з вяршыні якога ўніз праведзена лінія. Гэты знак інтэрпрэтуецца А. А. Мельнікавай у надпісу (рысунак 90.1, 4) як ***e***, аднак пад пытаннем, таму што адназначнай фанетычнай інтэрпрэтацыі не паддаецца[508].

Некаторыя з костак з надпісамі маюць насечкі (рысункі 66.11Г; 68.4; 69.28; 72.1). Па аналогіі з чытабельнымі надпісамі «2 – Гільётту» (рысунак 66.1) і «Оддзін – 4» можна дапусціць, што гэта таксама пазыковыя распіскі. Тым больш, што на невялікім па памерах гарадзішчы знойдзена пэўная колькасць гірак-разнаваг[509]. Гандлёвыя адносіны, і ў тым ліку пазыкі, безумоўна, мелі месца ў той час.

Што тычыцца кірылічных літар, то яны прадстаўлены на некалькіх костках (рысункі 70.11–15; 71.1, 5).

***Рысунак 70. Косткі з малюнкамі і кірылічнымі літарамі.***

Літары на костцы 70.11 могуць прадстаўляць сабой як руны, так і літары І, Ж. Літары на костцы 70.12 могуць чытацца як Б, О, М(?), N, І, аднак больш-менш чытабельнага слова яны не складаюць. Сярод кірылічных літар на костцы 70.13 чытаюцца Д, О, Х, А (калі гэта не знак, аналагічны першаму на костцы, – двум аб'яднаным трохвугольнікам), Т(?), Ж(?), У(?). Літары таксама не складаюць чытабельнага надпісу. На костцы 70.14 – літары П, Е, Т(Р у адваротны бок?). Можна дапусціць напісанне імя Пётр, але недакладна. Костка 70.15 змяшчае літару А. На адваротным баку сківічнай косткі (рысунак 71.1), якая змяшчае выяву крыжа і лодкі, можна ўбачыць літару Б. Усе папярэднія кірылічныя надпісы не маюць для нас акрэсленага сэнсу. Адзіны надпіс, які амаль бясспрэчна чытаецца – гэта надпіс на костцы 71.5. На гэтай костцы ёсць

---

507 Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 235.

508 Там жа. – С. 226.

509 Дучиц, Л. В. Отчет о полевом сезоне 1986 г. группы по изучению раннего средневековья в среднеем течении бассейна Западной Двины / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1987. – Д. 655; Дучиц, Л. В. Отчет о полевых исследованиях группы по изучению средневековых памятников белорусско-латышского порубежья / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1979. – Д. 696; Дучиц, Л. В. Отчет об археологических раскопках и разведках на северо-западе Витебской области в 1981 г. / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1982. – Д. 757.

схематычная выява чалавека ў шлеме, са шчытом у правай і мячом у левай руцэ. Справа тры літары KNS, якія можна прачытаць як «князь», руна t або падвоенае l, злева ад іх знак крыжа або руна gebo – дар. Дарэчы выкарыстанне слова «князь» не здзіўляе, таму што акрамя гэтага слова назіраецца ўжыванне на костках трохзубцаў (рысункі 66.9; 69.23; 72.3) як княжацкіх знакаў. На костцы 72.3 трохзубец заключаны ў трохвугольнік, які здаўна лічыўся сімвалам чалавека, а менавіта ў такім выглядзе – сімвалам мужчыны[510]. Адзін з іх суправаджае слова, якое абазначае даход у казну (рысунак 66.9). На сувязі з Полацкам паказваюць і знойдзеныя ва ўсіх пластах донцы пасудзін з кляймом, якое нагадвае трохзубец[511], пры гэтым ганчарная кераміка нагадвае кераміку старажытнага Полацка[512]. Як слушна заўважае Л. У. Дучыц, для надпісаў характэрна выкарыстанне рэдкіх, атыповых форм рун і несуадноснасць у частаце ўжывання некаторых знакаў[513]. Так, Л. У. Дучыц лічыць, што надпісы на касцях жывёл маглі быць пакінуты славянізаванымі нашчадкамі выхадцаў са Скандынавіі, воінамі-наёмнікамі, купцамі або скандынавамі, якія ўдзельнічалі ў агрэсіі крыжакоў[514]. Аднак, па сведчанні А. А. Мельнікавай, спецыфіка пісьма на костках з Маскавічаў можа сведчыць аб тым, што мы маем справу з пісьмом, якое ў пэўнай ступені дэградзіравала і навыкі якога былі часткова згублены яго носьбітамі, у выніку чаго графічныя формы былі спрошчаны і ўніфікаваны[515].

Што тычыцца малюнкаў, то звяртаюць на сябе ўвагу выявы людзей у воінскім рыштунку (рысункі 71.1–12), які прадстаўлены востраканечнымі шлемамі, кальчугамі, пазначанымі перакрыжаваннем гарызантальных і вертыкальных (рысункі 71.4, 12) або дыяганальных ліній (рысунак 71.3).

***Рысунак 71. Косткі з выявамі ў воінскім рыштунку.***

У руках (правай ці левай) людзі трымаюць мячы (рысункі 71.1, 4, 5, 6, 9, 10, 11) і круглыя (з умбонамі і без іх) або завостраныя knізу (так званыя «геральдычныя варажскія») шчыты (рысункі 71.2, 4, 5). На некаторых костках ёсць выявы лодак (рысункі 71.4, 8, 12; 73.8) і караблёў з мачтамі (рысунак 71.1) і ветразямі (рысунак 72.3). Звяртае на сябе ўвагу дзіўны галаўны ўбор (княжацкая шапка? карона?) на галаве ўзброенага чалавека (рысунак 71.6). Калі праводзіць паралелі з графіці на арабскім манетным срэбры, можна заўважыць, што на ім назіраюцца амаль тыя ж матывы: зброя, баявыя лодкі, вайсковыя сцягі, рэлігійныя сімвалы і княжацкія знакі[516], што было характэрна для ваенна-гандлёвага і дружынна-адміністрацыйнага соцыуму.

---

[510] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 221, 73.

[511] Дучиц, Л. В. Отчет о полевых исследованиях 1976 г. / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1977. – Д. 543. – С. 4.

[512] Там жа.

[513] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 81.

[514] Там жа. – С. 76.

[515] Дучиц, Л. В. Надписи и знаки… С. 214.

[516] Мусин, А. Е. Milites Christi Древней Руси. Воинская культура средневековья в контексте религиозного менталитета / А. Е. Мусин. – СПб.: Петерб. востоковедение, 2005. – С. 158.

Акрамя выяў воінаў у рыштунку, на костках змешчаны больш схематычныя выявы людзей.

***Рысунак 72. Косткі з выявамі чалавека.***

Але гэтыя выявы не статычныя, яны паказаны ў руху. Часцей за ўсё гэта зноў жа людзі з мячом, які можа быць паказаны авалам (рысунак 72.10) лініяй (рысунак 72.1, 4, 7, 9) ці больш рэалістычна (скрамасакс?) (рысунак 70.1). Так, на костцы 72.1 паказаны паядынак: адна постаць прарэзана цалкам, другая – па плечы, мячы скрыжаваны. На костцы 72.4 чалавек, выразаны справа ад рунічнага надпісу працягвае да яго руку з мячом. На чалавека з мячом паказвае стрэлка, якая ізде ад рунападобных знакаў на костцы 72.7. Вельмі дробны чалавечак, выразаны на костцы 72.10, таксама трымае ў руцэ меч (а можа, меч і шчыт). На костцы 72.9 справа ад рашоткападобнага знака і руны t выразана «працэсія», першы чалавек якой ідзе са ўзнятым мячом. На дзвюх костках 72.5 і 72.8 рука чалавека заканчваецца гібкім прадметам, магчыма, гэта хлыст або пуга. Асобна хацелася б разгледзець выяву людзей на костцы 72.2. Чалавек злева стаіць на прадаўгаватым прадмеце. Можна меркаваць, што гэта лыжы.

Асобна трэба разгледзець костку 72.13 з малюнкам аголенай жанчыны. Л. У Дучыц лічыць, што гэта выява звязана з нейкім культам[517]. Аднак у гэтым пытанні мы згодны з меркаваннем А. Е. Мусіна, які лічыць гэтую выяву банальным малюнкам казарменнага характару[518], а з'яўленне такой выявы – ілюстрацыяй адваротнага боку дружыннага жыцця, дзе замкнуты і працяты дысцыплінай і іерархіях мужчынскі і армейскі калектыў здаўна «грашыў» адной і той жа тэмай – жанчынай як прадметам абажання і пажадлівасці[519]. Акрамя выяў людзей можна адзначыць выявы дрэў (рысункі 73.6, 9, 11), вельмі добра і рэалістычна прарэзаную выяву рыбы (рысунак 73.8).

Звяртае на сябе ўвагу шэраг сімвалічных выяў.

***Рысунак 73. Прасліцы і косткі з малюнкамі і рунічнымі знакамі.***

Акрамя выявы трохзубцаў прыцягвае увагу малюнак (рысунак 72.11) амаль ідэнтычны з кляймом на пасудзіне (рысунак 72.12). Можна меркаваць, што гэта антрапаморфны знак – выява або Жытняй бабы, або Маці-зямлі, які быў прызваны дараваць урадлівасць і дастатак. З сімвалаў можна вылучыць таксама знакі крыжа, трохвугольніка і ромба (магчыма, як сімвалаў мужчыны і жанчыны), перакрыжаванне дзвюх пар паралельных ліній, што ў язычніцкай міфалогіі з'яўлялася сімвалам продка (рысунак 72.1). Сімвал, выразаны на прасліцы (рысунак 73.2), магчыма, з'яўляецца аб'яднаным сімвалам мужчыны і жанчыны.

Такім чынам, эпіграфія гарадзішча Маскавічы цесна звязана з княжацкадружынным асяроддзем, яна пацвярджае тэзіс аб тым, што ў XII–XIII стст. дружынная культура шмат у чым звязаная са скандынаўскім элементам у Ста-

---

517 Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 79.

518 Мусин, А. Е. Milites Christi… С. 255.

519 Там жа. – С. 251.

ражытнай Русі, выціскалася на ўскрайкі старажытнарускай дзяржавы[520]. Графіці, знойдзеныя на гарадзішчы, адлюстроўваюць спецыфіку і рэаліі вайсковай культуры, іх рэлігійныя перавагі. Гэта, безумоўна, ідэалізацыя воінадружынніка, якая адлюстравана ў шматлікіх выявах воінаў і выкарыстанні хрысціянскай сімволікі, на што ўказваюць знаходкі крыжыкаў «скандынаўскага» тыпу і што пацвярджаецца знаходкай рунічнага надпісу «Бог», якая, па сведчанні А. Е. Мусіна, азначае «Бог» менавіта ў значэнні хрысціянскага Бога[521], у адрозненне ад якога персанажы Вальхаллы абазначаліся ў рунічнай пісьменнасці інакш[522]. У той жа час побач з хрысціянствам захоўваюцца элементы язычніцтва, якія праявіліся ў магічных запісах і малюнках. Графіці маскавіцкага гарадзішча даюць магчымасць зазірнуць ва ўнутраны свет тагачаснага чалавека.

На гарадзішчы Рацюнкі, дзе размяшчаўся «двор дружынніка», была знойдзена костка з прадрапанай на вонкавым баку рунічнай літарай «М» або «R»[523].

***Рысунак 74. Костка з рунай (паводле А. А. Егарэйчанкі), Рацюнкі .***

Такім чынам, з агульнай калекцыі знаходак з гарадзішча Маскавічы, на якія нанесены рунічныя надпісы, толькі 11 змяшчаюць чытальныя надпісы, частка з графіці з'яўляецца магічнымі надпісамі. На іншых костках чытаюцца адзіночныя руны або знаходзяцца рунападобныя знакі. Часам яны размешчаны побач з выявамі воінаў, лодак ці рашотак[524]. Чым выклікана такое суседства? Шматлікія археалагічныя знаходкі з Маскавічаў сведчаць аб поліэтнічнасці насельніцтва гарадзішча. Так, Л. У. Дучыц лічыць, што надпісы на касцях жывёл маглі быць пакінуты славянізаванымі нашчадкамі выхадцаў са Скандынавіі, воінамі-наёмнікамі, купцамі або скандынавамі, якія ўдзельнічалі ў агрэсіі крыжакоў[525]. Аднак, па сведчанні А. А. Мельнікавай, спецыфіка пісьма на костках з Маскавічаў можа сведчыць аб тым, што мы маем справу з дэградзіраваўшым у пэўнай ступені пісьмом. Гэта значыць, што графіці не мелі б такі выгляд, калі носьбітамі пісьменнасці былі скандынавы, якія ў поўным аб'ёме з дзяцінства засвоілі культурныя традыцыі, у тым ліку і пісьмо, у саміх Скандынаўскіх краінах[526]. Таму, хутчэй за ўсё, комплекс эпіграфічных помнікаў з гарадзішча Маскавічы ўяўляе сабой свайго роду культурны рэлікт у асяроддзі выхадцаў са Скандынавіі, якія згубілі непасрэдныя жывыя сувязі з радзімай продкаў і таму не маглі пакінуць спецыфічныя адбіткі ў матэрыяльнай культуры гарадзішча, але ў нейкай ступені захавалі мову і пісьменнасць, але ў моцна трансфармаваным і скажоным выглядзе[527]. Гэта не з'яўляецца не-

---

[520] Мусин, А. Е. Milites Christi… С. 203.

[521] Там жа. – С. 159.

[522] Там жа.

[523] Егорейченко, А. А. Раскопки городища Ратюнки / А. А. Егорейченко // Сб. статей / РАН, Ин-т археологии. – М., 2003. – Археологические открытия 2002 года. – С. 461.

[524] Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи… С. 226–227, 229, 232–245.

[525] Дучыц, Л. У. Браслаўскае паазер'е… С. 76.

[526] Там жа. – С. 215.

[527] Дучиц, Л. В. Надписи и знаки… С. 215.

тыповым, таму што, па сведчанні В. Я. Пятрухіна, паўсюль, дзе б ні з'яўляліся нарманы, яны былі раней ці пазней асіміляваны мясцовым насельніцтвам, а скандынаўскія старажытнасці знікаюць паўсюль ва Усходняй Еўропе ў пачатку XI ст.[528] І ў той жа час існаванне комплексу рунічных надпісаў з гарадзішча Маскавічы пацвярджае думку аб тым, што на перыферыі Старажытнарускай дзяржавы невялікія групы нашчадкаў скандынаваў утваралі даволі замкнёныя групы і доўгі час захоўвалі пісьмо, іменаслоў і шэраг іншых культурных традыцый сваіх продкаў[529].

Такім чынам, з дапамогай эпіграфічных помнікаў мы можам уявіць сябе сацыяльны і этнічны склад насельніцтва на гарадзішчы Маскавічы як полацкім фарпосце, будаўніцтва якога выклікана спробай падпарадкавання Усходняй Прыбалтыкі ўладзе Полацка, а таксама ўзнікненнем небяспекі з боку Літвы, дзе пачалася кансалідацыя балцкіх плямёнаў у літоўскую народнасць[530]. Па сведчанні В. Я. Пятрухіна, для дзяржавы, якая феадалізуецца, важна не этнічная або племянная прыналежнасць дружыннікаў, васалаў, падданых, а іх сацыяльная роля[531].

**Нарыхтоўкі з косці**. Наяўнасць нарыхтовак касцянога матэрыялу з надпісамі з'яўляецца вельмі важнай. Гэта было адзначана В. Р. Тарасенкам, які заўважыў, што паколькі кавалак рогу з'яўляўся, безумоўна, паўфабрыкатам, ён не мог быць імпартным, а літары не маглі быць ініцыяламі ўладальніка, іх мог нанесці толькі майстар-кастарэз[532]. Здаецца слушным, што меркаванне аб мясцовым паходжанні надпісаў на касцяным матэрыяле можна перанесці і на неапрацаваныя косткі, а не толькі на паўфабрыкаты з мінімальнай апрацоўкай, якія не з'яўляюцца вырабамі.

У Полацку ў 1959 г. у слоі рубяжа XI–XIII стст.[533] знойдзена нарыхтоўка з рога лася, на папярочным спіле якой – дзве літары: ИЄ.

***Рысунак 75. Літары на спіле косткі.***

Аднак В. Р. Тарасенка прачытаў надпіс як літары ѦѲ[534]. На самай справе гэты надпіс уяўляе сабой дзве літары: **И** (або **Н** з перакладзінай у другі бок) і **Є**. Палеаграфічных даных для датавання надпісу недастаткова, таму помнік можна датаваць толькі стратыграфічна.

У Навагрудку ў ліку прадметаў, якія сведчаць пра апрацоўку рога і косці, ёсць нарыхтоўка ў выглядзе прамавугольнай пласціны з прадрапаным на ёй

---

528 Петрухин, В. Я. Об особенностях славяно-скандинавских отношений в раннефеодальный период / В. Я. Петрухин // Сб. науч. ст. – М., 1983. – Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования. 1981. – С. 177.

529 Мельникова, Е. А. Культурная ассимиляция скандинавов на Руси по данным языка и письменности / Е. А. Мельникова // Труды междунар. конгресса славян. археологии, Новгород, 26–31 августа 1996 г.: в 5 т. / Рос. акад. наук, Ин-т археологии; отв. ред. В. В. Седов. – М., 1998. – Т. 4: Общество, экономика, культура и искусство славян. – С. 143.

530 Дучиц, Л. В. Этнический состав… С. 19.

531 Петрухин, В. Я. Об особенностях… С. 179.

532 Тарасенко, В. Р. Древний Минск… С. 5.

533 Штыхов, Г. В. Древний Полоцк… С. 115.

534 Тарасенко, В. Р. Древний Минск… С. 4.

знакам у выглядзе літары X[535]. Яе месцазнаходжанне – пабудова 18, кв. Н–У–14–19, рэшткі адкрыты над пабудовай 21 на глыбіні каля 2 м[536].

***Рысунак 76. Нарыхтоўка з косці (паводле Ф. Д. Гурэвіч), Навагрудак.***

Такім чынам, надпісы, нанесеныя на неапрацаваныя косткі і нарыхтоўкі з косці, з'яўляюцца аўтографамі майстраў ці спробай пяра. Гэты факт служыць яшчэ адным пацвярджэннем пісьменнасці рамеснікаў.

**Вырабы з косці.** Надпісы на вырабах з косці, у адрозненне ад папярэдніх, выкананых на касцяным матэрыяле, дапускаюць, што надпіс на іх мог нанесці як майстар, які зрабіў рэч, так і ўладальнік прадмета.

***Ручка «Ежкава нажа».*** На заходніх межах Тураўскай зямлі акрамя Берасця ў XII ст. упамінаецца Драгічын Надбужны, які трапляе ў 1142 г. у лік тураўскіх гарадоў, што Усевалад Ольгавіч раздаваў сваім братам. Драгічын Надбужны размяшчаўся на гандлёвым прыпяцка-бугскім шляху і быў яго канечным усходнеславянскім горадам[537]. Эпіграфічны помнік, які пацвярджае пражыванне ўсходніх славян у гэты час на дадзенай тэрыторыі, – касцяная ручка баявога нажа з надпісам у тры радкі: **ЄЖЪКОВЪНО/ЖЪАИЖЄИ҂КРАДЄ/ТЪПРОКЛАТЪ**… (далей пяць літар неразборліва), г. зн. «Ежкаў нож, а хто яго украдзе – пракляты (будзе/пойдзе?)».

***Рысунак 77. Дзяржальна Ежкава нажа (паводле К. Мусяновіч).***

Ручка, якая знойдзена падчас раскопак 1954 г., была ахарактарызавана К. Мусяновіч як прадмет, які належаў дружынніку, і надпіс быў нанесены менавіта ім. Частка паселішча, дзе была знойдзена ручка, датуецца XII – першай паловай XIII ст.[538] Упершыню інскульпт быў прачытаны А. Міровічам[539]. Па палеаграфічных даных яго можна датаваць канцом XI – пачаткам XII ст. На карысць гэтага сведчыць спрошчанае напісанне трохвугольнага **А** (XI ст.), амаль роўныя востравугольныя петлі **В** (XII ст.), архаічнае напісанне **Ж**, і, галоўнае, выкарыстанне **Ѫ** у якасці **Ү**, што з'яўляецца характэрным для першай паловы XII ст.

***Жужалка.*** Сярод эпіграфічных помнікаў існуюць таксама пацвярджэнні дзіцячай пісьменнасці. З Мінска паходзіць добра выгладжаная невялікая трубачка, на якой з'яднаннем трох кропак утворана літара **Л**.

***Рысунак 78. Жужалка.***

Магчыма, гэтая трубачка выкарыстоўвалася для гульні ў «жужалку»: перасоўваючы трубачку па вяровачцы ўверх і ўніз, атрымлівалі своеасаблівы гук.

***Косткі для гульні.*** На ваўкавыскім Замчышчы ў 1956 г. у слоі XII ст.[540]была знойдзена таранная костка з выразанымі на ёй літарамі **КА**. Можна пагадзіцца

---

[535] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 45–46.

[536] Там жа. – С. 44.

[537] Гісторыя Беларусі… С. 198.

[538] Musianowicz, K. Sprawozdanie z prac wykopaliskowych przeprowadzonych w roku 1954 w Drohiczynie, pow. Siemiatysze / K. Musianowicz // Wiadomości archeologiczne. – Warszawa, 1956. – T. 12. – Z 2. – S. 343–344. – Tabl. XLVI.

[539] Там жа.

[540] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 126.

з меркаваннем Я. Г. Звяругі ў тым, што стратыграфічнае датаванне добра ўзгадняецца з эпіграфічным[541] і дазваляе датаваць надпіс на костцы сярэдзінай – канцом XII ст. Костка выкарыстоўвалася для гульні ў «бабкі». Магчыма, літары, якія выразаны на костцы, з'яўляюцца першымі літарамі імя.

***Рысунак 79. Костка для гульні з літарамі КѦ (паводле Я. Г. Звяругі).***

У пачатку XIII ст. не назіраецца рэзкіх адрозненняў у складзе эпіграфічных помнікаў. У гэты час працягваецца выраб рэчаў з костак. Даволі часта пры раскопках сярэдневяковых гарадоў Беларусі сустракаюцца ігральныя косткі-біты. Біта – прадмет для старадаўняй гульні ў косці, зроблены з астрагала (каленная косць) лася, каня, каровы. З боку паглыбленай паверхні ў натуральную выемку косці залівалі свінец, што рабіла біту цяжэйшай у 2–3 разы[542]. Пэўнае месца сярод гэтых прадметаў займаюць косткі з літарамі і складамі. Так, у Полацку была знойдзена костка з літарай Λ, а ў Віцебску – з літарай Ѧ.

***Рысунак 80. Косткі для гульні з літарамі Λ, Ѧ.***

***Фота 35. Костка для гульні з літарай Λ.***

Але на дзядзінцы Полацка, ва ўсходняй частцы Вярхняга замка, у час раскопак 1961–1962 гг. знойдзена біта, якая змяшчае слова, і, разам з ёй, дзве косткі, на якіх прадстаўлены графіці ў выглядзе рашотак і г. д.[543] Надпіс на вельмі добра адпаліраванай костцы мае памеры 7,5×4,5 см.

***Рысунак 81. Костка для гульні, з рунамі.***

А. А. Мельнікавай літары былі ідэнтыфікаваны як скандынаўскія малодшыя руны, а надпіс быў прачытаны як «kaþi», ад ст.-ісл. gæedi – «выгода, преимущество, благо»[544], што з'яўляецца пажаданнем удачы ўладальніку косткі[545]. Стратыграфічныя даныя пацвярджаюць палеаграфічнае датаванне надпісу XIII ст. Па меркаванні А. Катлярчука, рунічны надпіс «kapi», пісаны малодшымі шведскімі рунамі, азначае «карысць»[546]. Аднак пазней А. А. Мельнікава адмаўляецца ад чытання слова як gæedi і чытае яго як gaÞi, пры гэтым інтэрпрэтацыя слова ў якасці «удача, везение»... представляется ныне маловероятной»[547].

***Абразок з выявай св. Матфея.*** З косці вырабляюць не толькі бытавыя, але і культавыя прадметы. Прыкладам таму служыць абразок з выявай святога Матфея, які быў знойдзены ў Віцебску.

***Рысунак 82. Абразок з выявай святога Матфея.***

---

541 Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск... С. 126.

542 Археалогія і нумізматыка Беларусі... С. 90.

543 Мельникова, Е. А. Новые находки скандинавских рунических надписей на территории СССР / Е. А. Мельникова, М. В. Седова, Г. В. Штыхов // Сб. науч. ст. – М., 1983. – Древнейшие государства на территории СССР. 1981. – С. 187.

544 Там жа.

545 Там жа.

546 Катлярчук, А. Швэды ў гісторыі... С. 13.

547 Мельникова, Е. А. Скандинавские рунические надписи... С. 252.

Гэтую касцяную нацельную іконку дыяметрам каля 1,8 см дасталі з слоя канца XIII ст.[548] Абразок выкананы даволі прымітыўна, аб чым сведчаць схематычна выразаныя рука і твар. Аб тым, чыя выява знаходзіцца на абразку, можна меркаваць па трох літарах М/АТ, («Мат(фей)»), нанесеных па абодва бакі ад выявы. Літар для паўнацэннага палеаграфічнага аналізу мала, знешні выгляд літар М і А дазваляе датаваць іх XIII ст. на падставе напісання А з вострай пятлёй, якая далучаецца да нахіленай рысы, канцы якой выходзяць за радок. Завостраная пятля М апускаецца да нізу радка, яе мачты з нахілам. Такім чынам, абразок датуецца XIII ст.

Можна адзначыць, што з-за даступнасці матэрыялу, эпіграфічныя помнікі гэтай катэгорыі вельмі разнастайныя. На касцяны матэрыял нанесены магічныя і кананічныя надпісы, аўтографы, даручэнні. Надпісы выкананы дружыннікамі, рамеснікамі, дзецьмі, што яшчэ больш пашырае межы распаўсюджання пісьменства сярод шырокіх колаў тагачаснага грамадства. Надпісы на костках даюць уяўленне аб сацыяльным і этнічным складзе тагачаснага насельніцтва Беларусі: пражыванні скандынаўскага насельніцтва і межах рассялення славян. Заклінальныя і магічныя надпісы адлюстроўваюць светапогляд людзей, якія жылі ў той час. Касцяны эпіграфічны матэрыял дае таксама звесткі аб сярэдневяковай беларускай антрапаніміі.

### 4.6. Скураныя эпіграфічныя помнікі

**Похвы з алфавітным надпісам.** Пакуль адзіным у Беларусі прадстаўніком скуранога вырабу з надпісам з'яўляюцца похвы з Пінска, выпадкова знойдзеныя ў катлаване, выкапаным каля плошчы Леніна. Похвы выраблены з грубай скуры. Агульная іх даўжыня 18 см. Пры гэтым 10 см прыходзіцца на похвы і, адпаведна, 8 см на скураныя пасачкі, якімі яны прывешваліся да пояса. Самая шырокая частка – 5 см. З боку ляза похвы былі прашыты двума радамі нітак. Усё гэта сведчыць аб тым, што нож быў дастаткова вялікі і цяжкі, з выгнутым лязом. Магчыма, гэта быў паляўнічы нож, а не баявы, таму што похвы не доўгія, але даволі шырокія.

***Рысунак 83. Похвы з алфавітным надпісам.***

Што датычыцца літар, то яны нанесены на вонкавы бок похваў у два радкі. Зверху літары Г, Д, унізе пад імі Б, В, трохі злева літара А. Паміж літарамі А і Б ледзь відаць нарэзы. Дакладна сказаць цяжка, але, магчыма, гэта былі пробныя А і Б. Нарэзы літар прамыя і ўпэўненыя. Відаць, той, хто пісаў, быў напрактыкаваным у гэтай справе. Пра семантыку гэтых літар у поўнай меры гаварыць наўрад ці можна. Але можна зрабіць меркаванне, што гэта звычайная дэманстрацыя пісьменнасці, якая даволі часта сустракаецца ў археала-

[548] Бубенько, Т. С. Исследования в Витебске / Т. С. Бубенько // Сб. статей / Акад. наук СССР, Ин-т археологии. – М., 1985. – Археологические открытия 1983 года. – С. 383.

гічным матэрыяле. Чалавек надрапаў гэтыя літары ад няма чаго рабіць, альбо каму-небудзь паказваў тэхніку напісання літар. Па вызначальных прыкметах літары можна аднесці да першай паловы – сярэдзіны XIII ст., што дазваляе датаваць гэтую рэч па палеаграфічных даных з-за адсутнасці стратыграфічнай даты[549].

### 4.7. Шкляныя эпіграфічныя помнікі

**Келіхі.** Шкляны посуд, які меў назву «стькляніца», выкарыстоўваўся ў сярэдневяковым хатнім побыце разам з драўляным і металічным. Так, навагрудскі шкляны посуд з арабскімі надпісамі знойдзены ў пабудове 8 (кв. Г–Е–20–22)[550]. Гэта жытло было заснавана на культурным пласце ніжняга гарызонту, яго рэшткі знойдзены на глыбіні ад 1,22 м пад пяском, які аддзяляў познасярэдневяковы горад ад пасялення дамангольскага часу[551]. Аднымі з самых цікавых знаходак з'яўляюцца 35 фрагментаў шкла, з якіх былі адноўлены два келіхі з бескаляровага шкла, распісаныя золатам, чырвонай, белай і зялёнай эмаллю[552], акрамя таго, келіхі мелі арабскія надпісы[553]. У пабудове 10 (кв. Х–Ъ–10–15) сярод найбольш цікавых знаходак можна вызначыць фрагмент фаянсавай пасудзіны, які пакрыты цёмна-карычневым люстравым роспісам з арабскім надпісам, нанесеным белай фарбай[554]. Пабудова 10 знаходзіцца на глыбіні 2,2–2,4 м у тых жа квадратах, што і пабудова 12, ад якой яе аддзяляў слой пяску[555]. Фрагмент шкла знойдзены на падлозе або на ўзроўні падлогі паўночна-заходняй часткі пабудовы 10[556].

***Рысунак 84. Келіхі з арабскімі надпісамі.***

Як келіхі апынуліся ў Навагрудку? Посуд, аналагічны адкрытаму ў пабудове 8, знойдзены ў Херсанэсе ў слаях XII–XIII стст., іх радзімай лічыцца Сірыя (Ракка)[557]. Навагрудскія келіхі, якія маюць фрыз з надпісам, выкананым арабскім почыркам «насх», знойдзены ў пабудове 8, і фрагмент посуду з пабудовы 10, з надпісам з тонкіх літар, зробленых у той жа эпіграфічнай манеры, якая характэрна для ранніх вырабаў гэтай групы[558], належаць да так званых «раккскіх» (па назве сярэдневяковага сірыйскага горада, дзе вырабляўся такі посуд). Адметнай рысай посуду з'ўляецца дэкор, што складаецца

---

549 Калечыц, І., Башкоў, А. Похвы з Пінска як эпіграфічны помнік / І. Калечыц // Моладзь Берасцейшчыны: зб. студ. навук. прац / Брэсц. дзярж. ун-т; пад рэд. І. І. Акінчыц. – Брэст, 2003. – С. 145.

550 Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 70.

551 Там жа.

552 Там жа. – С. 71.

553 Там жа.

554 Там жа. – С. 74.

555 Там жа. – С. 71.

556 Там жа. – С. 74.

557 Там жа. – С. 71.

558 Гуревич, Ф. Д. Восточное стекло в Древней Руси / Ф. Д. Гуревич, Р. М. Джанполадян, М. В. Малевская. – Л.: Наука, 1968. – С. 12.

з надпісаў золатам, якія звычайна змяшчаюць добрапажаданні і вельмі рэдка – вершы[559]. Але ў дачыненні да навагрудскіх пасудзін гэта немагчыма праверыць, таму што фрагментарнасць не дае магчымасці аднавіць змест надпісаў[560]. Што датычыцца датавання яго фрагментаў, то посуд з візантыйскіх і мусульманскіх майстэрняў паступіў у Навагрудак не раней пачатку першай паловы XII ст.[561]

Фрагмент шклянога посуду быў знойдзены ў Слоніме падчас раскопак Г. І. Пеха ў пласце шчыльнага вільготнага гумусу цёмна-карычневага колеру[562], дзе былі выяўлены знаходкі, характэрныя для эпохі Кіеўскай Русі[563], і ў тым ліку маленькі асколак шклянога посуду з арабскімі літарамі, для напісання якіх была выкарыстана бела-жоўтая эмаль і золатам абведзены контур[564]. Надпіс быў прачытаны В. А. Крачкоўскай як «Салім… вучоны»[565].

Шкляны посуд візантыйскага ці ўсходняга, старажытнарускага або заходнееўрапейскага паходжання, які належаў да катэгорыі каштоўных рэчаў, выкарыстоўваўся разам, але пры гэтым амаль усе пасудзіны належалі да XII – сярэдзіны XIII ст.[566] Так, у Навагрудку, уся маса шклянога посуду была знойдзена ў вакольным горадзе і належала гарадской знаці[567]. Ф. Д. Гурэвіч дапускае пранікненне шклянога посуду ўсходнім ці заходнім шляхам, магчыма, як здабыча крыжаносцаў. Што датычыцца арабскіх надпісаў на посудзе, то здаецца слушным, што яны ўспрымаліся хутчэй як элемент дэкору, чым як элемент, які мае сэнсавую нагрузку, г. зн. чытальны надпіс.

**Літык.** Невялікая іконка – абразок-літык (ад грэч. Λιτασ – камень) з грэчаскім надпісам, вылітая з чырвона-карычневага шкла, знойдзена на дзядзінцы старажытнага Навагрудка ў 1974 г. На абразку памерамі 4,3×4,7 см знаходзяцца добра бачныя выявы Божай Маці і Іосіфа, немаўляці Хрыста ў яслях, а таксама дзвюх жывёл: асла і быка, якія схіліліся над Хрыстом.

***Фота 36. Абразок-літык.***

Абразкі, адлітыя ў адной форме з навагрудскім, знаходзяцца ў музеях Оксфарда і Ватыкана. Назва шклянога абразка – «літык» тлумачыцца тым, што яны імітавалі каменныя вырабы таго ж характару і, нягледзячы на тое, што з'яўляліся больш таннымі і выраблялiся серыйна, былі каштоўнымі рэчамі – асобымі знакамі паломнікаў. Лічыцца, што абразкі выраблялiся ў адной

---

[559] Гуревич, Ф. Д. Восточное стекло… С. 12.

[560] Там жа.

[561] Гурэвіч, Ф. Д. На дзядзінцы і вакольным горадзе / Ф. Д. Гуревич // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1986. – № 3 (67). – С. 21.

[562] Зверуго, Я. Г. Древний Волковыск… С. 30.

[563] Там жа. – С. 31.

[564] Пех, Г. И. Отчет о работе Слонимской археологической экспедиции с 08.06.1959 г. по 27.07.1959 г. / Г. И. Пех // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 134. – С. 21.

[565] Пех, Г. И. Раскопки древнего Слонима / Г. И. Пех // Древности Белоруссии: мат-лы конф. по археологии Белоруссии и смежных территорий / АН БССР. Отд-ние общественных наук, Ин-т истории; под ред. В. Ф. Исаенко [и др.]. – Минск, 1966. – С. 279.

[566] Гуревич, Ф. Д. Восточное стекло… С. 15.

[567] Там жа.

майстэрні, у краіне, якая знаходзілася ў басейне Міжземнага мора[568]. Каштоўнасць дадзенай знаходкі ў тым, што яна, па меркаванні Ф. Д. Гурэвіч, пацвярджае звесткі аб паломніцтве князя Войшалка на Афон. Абразок мог належаць каму-небудзь з атачэння князя ці самому князю. Нягледзячы на тое, што Войшалк не дайшоў да Святой гары, ён ці набліжаны да яго чалавек маглі набыць абразок-знак паломніка ў іншым месцы, таму што такія абразкі былі распаўсюджаны на Балканах – суседняй з Візантыяй тэрыторыі[569]. Трэба адзначыць, што нягледзячы на мясцовую вытворчасць шкла, эпіграфічныя помнікі гэтага кшталту – імпартныя рэчы. Арабскія надпісы, якія наўрад ці чыталіся ўладальнікамі келіхаў у Навагрудку, маюць сэнс дэкаратыўнай афарбоўкі. Грэчаскі кананічны надпіс нанесены на літык, які з'яўляецца сведчаннем падарожжа на Афон князя Войшалка.

### 4.8. Надпісы на сценах пабудоў

**Дыпінці.** Найбольш даступнымі для нанясення надпісаў матэрыяламі былі камень, косць, цэгла, дрэва. Але надпісы наносіліся не толькі на гэтыя матэрыялы, аб чым сведчыць багаты квартал ювеліраў у Навагрудку, дзе знойдзены эпіграфічныя помнікі і прылады для пісьма. Там жа былі знойдзены ўнікальныя для першай паловы XII ст. фрэскі на сценах жылой пабудовы. Яны выкананы па вапняковай тынкоўцы мінеральнымі фарбамі, пакрытымі зверху слоем пакосту[570]. Літары, якія ўяўляюць сабой надпісы-дыпінці, нанесены чорнай фарбай на белы фон[571]. Сярод літар ёсць як вялікія (вышынёй да 5 см), з якіх чытаюцца **С**, **О**, **Є**, так і малыя, вышыня якіх складае 3 см. Ф. Д. Гурэвіч дапускае таксама напісанне літар «**К**, **Л**, **Ъ** или **Ь**»[572]. Унікальнасць надпісаў і фрэсак у тым, што яны былі змешчаны не ў культавай, а ў жылой пабудове. У сукупнасці з іншымі знаходкамі наяўнасць фрэсак з надпісамі сведчыць на карысць заможнасці жыхароў пабудовы – ювеліраў.

***Рысунак 85. Навагрудскія дыпінці (паводле Ф. Д. Гурэвіч).***

Надпіс-дыпінту: «**домоу твоıємоу подобаıєть святы и въ взъданні похвали в векы пребываєть троудъ чрьнецьтва ни ıєго мало въ**» А. С. Арлоў датуе XIII ст.[573] Варта адзначыць, што надпіс перададзены А. С. Арловым недакладна. На самай справе гэта словы **ДОМОУ ТВОıєМОУ ПОДОБАıєТЪ СВѦТЫНѦ ВЪ ДОЛГОТОУ ДНИ**, якія з'яўляюцца ўрыўкам з псалтыра, а менавіта гэта «кафизма Третинадесять, в день субботний, внегда населися земля, хвала песен Давиду, 92»[574]. Аднак датаванне А. С. Арлова не можа быць бяс-

---

[568] Гурэвіч, Ф. Д. Каму належаў абразок-літык? / Ф. Д. Гурэвіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1982. – № 3 (51). – С. 42.

[569] Там жа. – С. 43.

[570] Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье… С. 182.

[571] Гуревич, Ф. Д. Древний Новогрудок… С. 37.

[572] Там жа.

[573] Орлов, А. С. Библиография русских надписей… С. 71.

[574] Псалтирь. – М.: Междунар. издат. центр правосл. литературы, 1995. – С. 122.

спрэчным. Справа ў тым, што надпіс нанесены масленай фарбай значна пазней. Магчыма, новы надпіс нанесены паверх папярэдняга. Толькі расчыстка фрэсак цалкам можа даць адказ на гэта пытанне.

***Фота 37. Дыпінта Спаса-Ефрасіннеўскай царквы.***

**Графіці гродзенскай Калажанскай, віцебскай Дабравешчанскай і навагрудскай Барысаглебскай царквы**. Цікавую і каштоўную інфармацыю нясуць надпісы на сценах цэркваў. Яны прадстаўлены на тэрыторыі Беларусі надпісамі-графіці. Адзінкавае графіта знойдзена ў гродзенскай Барысаглебскай (Калажанскай) царкве.

***Рысунак 86. Графіта Калажанскай царквы (паводле В. Глінніка).***

Падчас рэстаўрацыйных работ была раскрыта дагэтуль замураваная ніша паўночнай сцяны колішняга нартэксу (месца пад харамі, бабінец)[575]. Графіта ў гэтай нішы прадрапана вострым прадметам па тынкоўцы. Што датычыцца знешняга выгляду графіта, то яно ўяўляе сабой звязаную кампазіцыю, якая складаецца з малюнка (злева) і тэксту (справа). Чытанне ўскладняецца адсутнасцю канчаткаў радкоў. Надпіс захаваўся ў наступным выглядзе: **СТЫСПСЕС(В?)/ СТЫСЕМЬВО/НЕГ(Р)ѢШНОГОМНОГО/С() СГРѢШИВШ**...

Гэта дало магчымасць І. Залілаву і В. Глінніку прачытаць надпіс як :

«СВЯТЫЙ СПАСЕ С(ВЯТЧЕ ХРИСТОВ?)
СВЯТЫЙ СЕМЕВО (НЕ СПАСІ (ПОМІЛУЙ) МЕ
НЕГ(Р)ЕШНОГО МНОГО
(СГР) СГРЕШИВШ(ЕГО)»[576],

а рысунак трактаваць як выявы Божай Маці і Сімяона з немаўляткам Хрыстом на руках, інтэрпрэтуючы, такім чынам, рысунак як евангельскую кампазіцыю «Стрэчанне». На малюнку адсутнічаюць выявы Іосіфа і Анны, аднак І. Залілаў і В. Гліннік лічаць, што Іосіф не галоўны ў гэтым біблейскім сюжэце[577]. Такім чынам, становіцца зразумелым надпіс, у якім чалавек, што прадрапаў графіта, звяртаецца да выяў на малюнку. І. Залілаў чытае першы радок як «Святый Спасе с(вятче Хрыстоў)...» з-за незахаванасці другой часткі радка. Але, калі дапусціць, што аўтар графіта звяртаецца спачатку да Хрыста, а ў апошнюю чаргу да Сімяона Богапрыемца, то ў зацёртай частцы павінен быць зварот да Божай Маці, прыкладна, свꙑтаꙗ бц҃а. У другім радку сапраўды могуць быць словы «спасі мя» або «памілуй мя». Аднак у трэцім радку, прачытаным як «не грешного много», «не» з'яўляецца другой паловай слова «мене» з другога радка (падобныя пераносы характэрныя не толькі для графіці, але і для рукапісных кніг). Чацвёрты радок, які аўтар хацеў пачаць на адным узроўні з іншымі, але напісаў толькі тры літары сгр, закончыў словам сгрешивш(его). Такім чынам, надпіс можа быць прачытаны як: «Святый Спасе, Святая Багародзіца, святый Семевоне помилуй мене грешного, много сгрешившего».

---

[575] Гліньнік, В. Калажанскія графіці з XIII ст. / В. Гліньнік, І. Залілов // Гіст.-археал. зб. – 1996. – № 8. – С. 8.

[576] Там жа. – С. 85.

[577] Там жа. – С. 86.

Палеаграфічны аналіз літар наступны: вызначальнымі з'яўляюцца літары В, Р, Ꙁ, Ь. Форма літары В характэрна для канца XII ст., яе сярэдзіна не датыкаецца да мачты; Р малафарматная, уся ў радку, галоўка трохвугольная, з вострым верхам і выгнутай мачтай, хутчэй датуецца канцом XII ст., хаця падобнае напісанне сустракаецца і ў сярэдзіне XIII ст. Літары Ꙁ, Ь, ЬІ, якія маюць трохвугольныя кузавы і моцна нахіленую мачту, таксама сведчаць на карысць XII ст. Прааналізаваўшы даныя, можна меркаваць, што, калі ўлічыць дату пабудовы царквы, прынятую ў гістарыяграфіі, – 80-я гады XII ст., надпіс можна датаваць пачаткам – сярэдзінай XIII ст. І. Залілаў і В. Глінік датуюць надпіс сярэдзінай або пачаткам другой паловы XIII ст.[578] і, такім чынам, удакладняюць вынікі археалагічных даследаванняў Н. Н. Вароніна наконт разбурэння храма ў XIII–XIV стст. Здаецца слушным іх сцвярджэнне, што да сярэдзіны XIII ст. калажанскі храм быў чынным і яго разбурэнне адбылося пазней – у другой палове XIII – пачатку XIV ст.[579]

Нярэдка для ўпрыгожвання ўнутранай прасторы сярэдневяковых храмаў выкарыстоўваліся шыфер і вапняк. Але часам тынкоўка і абліцоўка станавіліся матэрыялам для напісання малітоўных прашэнняў-графіці. Прыкладам таму служаць храмы наўгародскай і кіеўскай Сафіі, полацкая Спаса-Праабражэнская царква. Дабравешчанская царква XII ст. у г. Віцебску не з'яўляецца выключэннем. У час археалагічных даследаванняў у паўднёвым бабінцы царквы ў 1993 г. Т. С. Бубенькай была знойдзена пліта з графіці памерамі 30×38×12,7 см[580]. Фрагмент абшыўкі, які захаваўся, пакрыты шматлікімі драпінамі, сярод якіх – выявы крыжоў, якіх тут можна налічыць да 31, як простых 4-канцовых, так і стылізаваных[581]. Але з-за драпін бясспрэчна магчыма вылучыць 15 крыжоў.

***Рысунак 87. Прарысоўка выяў на вапняку з Дабравешчанскай царквы.***

Вядома, што ў часы Рымскай імперыі распінанне на крыжы лічылася не толькі самым пакутлівым, але і самым ганебным пакараннем. У хрысціян крыж ператварыўся ў сімвал выратавання і вечнага жыцця. І калі першыя пісьмовыя звесткі аб пакланенні распяццю можна аднесці да канца VII ст., то выявы Галгофскага крыжа з'явіліся толькі ў X ст.[582] На дадзеным фрагменце самай адметнай з'яўляецца выява так званага «праквітнеўшага» шасціканцовага крыжа, з ніжняга канца якога прарастаюць парасткі. Гэта даволі тыповая выява крыжа, у якой кожны від парасткаў мае сваё значэнне: калі з ніжняга канца прарастаюць вінаградныя лозы, гэта сімвалізуе бессмяротнасць Хрыста, калі кіпарысы – адвечнасць жыцця, калі проста парасткі – адраджэнне жыцця, уваскрэсенне Хрыста з мёртвых[583].

---

[578] Глінік, В. Калажанскія графіці… С. 86.

[579] Там жа.

[580] Бубенько, Т. С. Средневековый Витебск: посад – Нижний замок (X–1-я половина XIV в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск: Изд-во Витеб. гос. ун-та, 2004. – С. 129.

[581] Там жа.

[582] Филатов, В. В. Словарь изографа… С. 166.

[583] Там жа. – С. 163.

У дадзенай выяве гэта хутчэй карані з парасткамі, якія выкананы ў форме складанай пляцёнкі патроенымі лініямі. Верхняя частка крыжа не захавалася, бо кавалак каменя з гэтага боку адбіты. Крыж прарэзаны глыбокімі лініямі, такімі ж лініямі прарэзаны злева літары ІС. Хутчэй за ўсё, з другога боку крыжа знаходзіліся літары ХС. Крыж і літары выкананы адной рукой, а вось літары НН КА па абодвух баках крыжа, верагодна, дапісаны пазней. Яны прадрапаны неглыбокімі адзінкавымі лініямі. Што датычыцца палеаграфіі гэтых літар, то можна заўважыць наступнае: у напісанні Н перакладзіна не даходзіць да канцоў мачт, у Н перакладзіна трохі N-падобна скошана, ножкі літары К напісаны S-падобна, літара А мае навершша, выгнутую вонкі спінку, верхняя частка пятлі таксама выгнута вонкі (магчыма, гэта абумоўлена напісаннем на цвёрдым матэрыяле). Палеаграфічныя даныя дазваляюць вельмі ўмоўна датаваць надпіс XIII–XIV стст. Сустракаюцца таксама выявы праквітнеўшых, галгофскіх крыжоў, крыжоў с пашыранымі канцамі, выява святога. Дзе канкрэтна знаходзіліся ў Дабравешчанскай царкве выявы крыжоў, цяпер сказаць складана: як і ў Наўгародскай Сафіі, яны маглі быць на сценах, слупах, харах, купале і алтары[584].

Аднак, чым магло быць выклікана нанясенне такой вялікай колькасці крыжоў на невялікім па сваіх памерах камені? В. Г. Яйленка піша, што сярод графіці часта сустракаюцца крыжы, галгофы – графічны эквівалент памінальных і малітоўных запісаў, нярэдкі твары, паплечныя вобразы[585]. Магчыма, гэтыя выявы былі прадрапаны ў той частцы царквы, дзе вяліся памінальныя службы. Можна дапусціць, што непісьменныя прыхаджане выкарыстоўвалі выявы крыжоў замест памінальных надпісаў, выдрапваючы іх на сценах рознымі прыстасаваннямі, у іх ліку С. А. Высоцкі называе нож і іголку[586]. Ю. І. Нікіціна падзяляе малюнкі-графіці на тры катэгорыі: свецкія, бытавыя і сімвалічныя малюнкі-знакі[587]. Усе выявы на вапняку з Дабравешчанскай царквы належаць да апошняй катэгорыі. Аналагічныя віцебскім крыжам малюнкі з іншых старажытнарускіх храмаў датуюцца XII–XIV стст. На гэты перыяд прыпадае большасць як малюнкаў, так і надпісаў-графіці. Здаецца слушным, што крыжы, надрапаныя ў Дабравешчанскай царкве, належаць да гэтага ж перыяду.

Надпісы-графіці знойдзены і ў Барысаглебскім храме г. Навагрудка. На жаль, засталіся толькі фрагменты тынкоўкі з надпісамі, якія зараз знаходзяцца ў Санкт-Пецярбурзе. Звесткі аб іх можна атрымаць толькі па вельмі няякасных фотаздымках у кнізе Ф. Д. Гурэвіч, а таксама па інтэрпрэтацыі надпісаў Т. В. Раждзественскай, якая прачытала наступныя: «Господи помози рабу

---

[584] Никитина, Ю. И. Рисунки-граффити из Софии Киевской / Ю. И. Никитина // Сов. археология. – 1990. – № 3. – С. 221.

[585] Яйленко, В. П. Древнерусские граффити Нередицы как источник бытовой истории Новгорода XIII–XVII вв. / В. П. Яйленко // Труды междунар. конгресса славян. археологии / Междунар. уния славян. археологии, Ин-т археологии АН СССР [и др.]; гл. ред. Б. А. Рыбаков. – М., 1987. – Т. 3. – Вып. 2б. – Секция 6: Архитектура, искусство, духовная культура. – С. 160.

[586] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 139.

[587] Никитина, Ю. И. Рисунки-граффити… С. 221.

своему», «Господи, помози рабу Макъ(симоу)», «господи помози рабу свому Григо(риеви)», «Господи помози рабу (гр)ешному», «Господи оуслы(ши)», «(Барыс) і Гль(б)»[588], прычым усе гэтыя надпісы палеаграфічна датуюцца канцом XII – першай паловай XIII ст.[589], за выключэннем надпісу пра Максіма, які сведчыць аб XIII – пачатку XIV ст.[590] Па сваім змесце гэтыя графіці адносяцца да малітоўных надпісаў, нанесеных на сцены цэркваў.

### 4.8.1. Графіці полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы

Да XII і пазнейшых стагоддзяў адносяцца надпісы, нанесеныя на сцены Спаса-Праабражэнскага храма ў г. Полацку. Як вядома, гэты храм быў пабудаваны пасля 1133 г. пад кіраваннем дойліда Іаана па заказе Ефрасінні Полацкай. Трэба адзначыць, што надпісы на сценах старажытнарускіх цэркваў пачыналі выразацца адразу пасля заканчэння будоўлі і пачатку набажэнстваў. У гэтым Спасаўская царква не з'яўляецца выключэннем. Графіці зафіксаваны ва ўсіх сярэдневяковых храмах, якія захаваліся да нашых дзён, у тым ліку кіеўскай і наўгародскай Сафіях, наўгародскім храме Спаса Нярэдзіцы і інш. Надпісы-графіці, прачэрчаныя на сценах будынкаў, у большасці сваёй – на сценах цэркваў, складаюць самы вялікі па аб'ёме матэрыял для эпіграфічных даследаванняў. Пераважную большасць гэтых запісаў складаюць малітоўныя і памінальныя запісы, аўтографы і іншыя запісы царкоўна-службовага прызначэння[591]. На сённяшні дзень комплекс графіці Спаса-Праабражэнскай царквы цалкам не раскрыты. Даступны для вывучэння толькі комплекс алтарных графіці.

Алтарныя графіці Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка адкрываюць новую старонку ў вывучэнні эпіграфічных помнікаў сярэдневяковай Беларусі. Кола іншых эпіграфічных помнікаў (каменных, драўляных, касцяных і г. д. прадметаў з надпісамі X–XIV стст.) складае больш за сто крыніц. Алтарныя графіці значна дадаюць гэтую лічбу. Магчымасць іх вывучэння з'явілася пасля рэстаўрацыйных работ у царкве пад кіраўніцтвам Д. У. Сараб'янава.

Матэрыял графіці надзвычай разнастайны, але яго трэба разглядаць у комплексе. Штучнае дзяленне, адрыў ад кантэксту не дадуць стварыць цэласнай карціны вывучэння дадзенага віду помнікаў. Таму ў манаграфіі кірылічныя (і эпізадычна лацінскія) графіці і рысункі XII–XIX стст. разглядаюцца комплексна. Гэта дае магчымасць прасачыць змены ў змесце, манеры, палеаграфіі надпісаў. Папярэдняе прачытанне пераважнай большасці графіці робіцца ў навуковай літаратуры ўпершыню. Магчыма, пазней, у працэсе далейшага вывучэння надпісаў, будуць яшчэ зроблены невялікія ўдакладненні.

Увесь матэрыял графіці ў залежнасці ад часу нанясення можна падзяліць на дзве вялікія групы. Першая з іх – графіці XII – пачатку XVI ст., да прыходу езуітаў у 1580 г. Надпісы зроблены ўстаўным або паўустаўным пісьмом, характарызуюцца «царкоўнасцю» тэкстаў, звязаны з рэаліямі царкоўнага жыцця:

---

588 Гурэвіч, Ф. Д. Летапісны Новгородок… С. 248–249.
589 Там жа.– С. 249.
590 Там жа.
591 Археология СССР. Древняя Русь. Быт и культура… С. 140.

фрагментамі малітваў, памінаннем, сведчаннямі пра смерць пэўных людзей. Часам сустракаюцца таксама фрагменты кірылічнага алфавіта. Такія надпісы наносіліся людзьмі, якім дазвалялася заходзіць у алтар, – святарамі, дыяканамі, алтарнікамі.

Другая група надпісаў, нанесеная лацініцай і кірыліцай, датуецца часам ад канца XVI ст., звязана з перадачай царквы езуітам і змяшчае, у асноўным, імёны людзей, якія пакінулі надпісы. Мэта нанясення такіх графіці кардынальна адрозніваецца ад папярэдняй. «Тут быў NN», – пакінуць надпіс аб наведванні дадзенага «аб'екта» – вось асноўная мэта нанясення такіх графіці. Сярод кірылічных надпісаў у некаторай ступені захоўваецца колькасць малітоўных надпісаў і памінальных запісаў, а таксама надпісы папярэдняга тыпу. Такая магчымасць нанясення графіці захоўвалася да 30-х гг. XIX ст., пакуль царква не дзейнічала і кожны, хто жадаў, мог пакінуць надпіс, у тым ліку і ў алтары. Каля лацінскіх надпісаў сустракаюцца выявы гербаў.

Графіці можна падзяліць на пэўную колькасць груп, якія вызначаюцца мэтамі нанясення надпісаў і ўпісваюцца ў вышэйзгаданую класіфікацыю (алфавітныя, памінальныя надпісы, просьба аб дапамозе, імёны і г. д.). Аднак у сувязі з тым, што графіці наносіліся на сцены алтара, іх змест больш спецыфічны, чым гэта назіраецца ў астатняга комплексу помнікаў.

Так, самую вялікую частку ад усёй колькасці алтарных графіці Спаса-Праабражэнскай царквы складаюць памінальныя надпісы, якія можна падзяліць на ***памінальныя запісы***, ***памінальныя спісы*** і ***аднайменныя надпісы***. Як паказвае вывучэнне старажытнарускіх храмаў, і ў асаблівасці наўгародскага і кіеўскага Сафійскіх сабораў, большасць надпісаў на сценах – памінальныя. Спаса-Праабражэнскі храм не з'яўляецца выключэннем, што звязана з хрысціянскім светапоглядам сярэдневяковага насельніцтва Беларусі. Стан душы памерлага чалавека мог значна палепшыцца, калі яго паміналі. Аднак час быў такі багаты на ваенныя падзеі, што чалавек баяўся застацца без памінання. Багатыя людзі маглі ахвяраваць пэўную колькасць грошай або матэрыяльныя каштоўнасці на адвечнае памінанне, пакуль у манастыры або ў царкве ішлі набажэнствы. У менш заможных людзей такой магчымасці не было. Аднак заможнасць не была вызначальнай пры нанясенні надпісу. Ніштo не ўяўлялася больш трывалым за сцены Божага дома – царквы, таму на сцены храмаў наносіліся надпісы. Надзея на тое, што памінанне будзе ажыццяўляцца доўгі час пасля смерці, была мацнейшая за жах пакарання (прадрапванне надпісаў на сценах прыраўноўвалася да пасячэння крыжа і строга каралася). Таму неправамерным падаецца выказванне Д. Валадзіхіна аб тым, што надпісы за вызначаныя грошы прадрапваліся на сценах з дазволу манахінь[592]. Надпісы наносіліся, у тым ліку, і духоўнымі асобамі, і пра духоўных і свецкіх асоб (сведчаннем таму служаць сцены алтара), аднак наўмыснае псаванне фрэсак

---

[592] Володихин, Д. М. Повесть в камне / Д. М. Володихин // Полоцкий летописец. – 1993. – № 1(2). – С. 65–66.

за грошы наўрад ці мела месца. Хутчэй гэта была «напалову легальная» справа, калі нельга, але ёсць вялікае жаданне і патрэба.

Памінальныя графіці, нанесеныя на сцены алтарнай часткі Спаса-Праабражэнскай царквы, можна падзяліць на тры вялікія групы. Першая і найбольш цікавая група будуецца па адным прынцыпе і мае наступны выгляд: «месяца NN у дзень NN памёр раб Божы NN на памяць святога NN». У гэтай паслядоўнасці памінальнага запісу полацкія графіці знаходзяць аналогіі з памінальнымі надпісамі наўгародскіх і кіеўскай цэркваў[593]. Дадзеную групу можна ўмоўна назваць **памінальныя запісы**.

Другая група памінальных надпісаў уяўляе сабой **памінальныя спісы**, або **сінодыкі**. Яны нагадваюць спісы імён, якія падаюцца ў наш час у царкве за здароўе жывых і супакаенне памерлых людзей. Складана сказаць, былі людзі, імёны якіх заносіліся ў спісы на сцяне царквы, жывымі або мёртвымі на момант напісання. Магчыма, такі спіс быў разлічаны на адвечнае памінанне, нягледзячы на стан чалавека. Дадзеныя спісы ўключаюць ад аднаго да некалькіх імёнаў у вінавальным склоне. Аналагічныя спісы знойдзены ў і кіеўскай Сафіі[594].

Трэцюю групу памінальных надпісаў можна ўмоўна назваць **аднайменныя надпісы**. На карысць таго, што надпісы былі памінальнымі, сведчаць або рысачкі, якія нанесены каля імёнаў, або ўжыванне імя ў вінавальным склоне. Яны адпавядалі колькасці памінанняў у час набажэнства або ў прыватнай малітве.

### Памінальныя запісы

***Графіта № 1***. Паўночную сцяну ахвярніка з поўным правам можа назваць памінальнай сцяной ігуменняў. Прастора сцяны пакрыта графіці XII–XIV стст., на якія накладваюцца больш познія лацінскія. Прысутнічаюць таксама малюнкі ў выглядзе Галгоф, благаслаўляючых рук і г. д. На вышыні 105 см ад падлогі[595] знаходзіцца надпіс памерамі 32×6,1 см пра смерць ігуменні Кацярыны, які можна падзяліць на дзве часткі, якія напісаны рознымі людзьмі: **м҃ца иѹлѧ ѹ д҃ днь ст҃ъ …н/…ѣстависѧ игѹмениѧ/ с҃ … …а҃ Катѣрна//ѧнию г҃и ѹ четь…ръташ зима/… и вѣчньи**. «месяца ліпеня ў 4 дзень свытых… памерла ігуменія С(вятога Спас)а Кацярына // … Госпадзе чацвертая зіма… вечнай». На жаль, частка надпісу канчаткова згублена. І калі сэнс першага фрагмента можна зразумець, то падзеі другой часткі складаны для аднаўлення.

***Фота 39. Графіта №1, памінальны запіс пра смерць ігуменні Кацярыны.***

Першая частка напісана шырокім устаўным почыркам, вышыня літар каля 1 см. Надпіс займае тры роўныя радкі, паміж якімі значная адлегласць. Адлегласць, дарэчы, ёсць і паміж накаторымі словамі. Пад цітла ўзяты лічба чатыры, словы «дзень», «святых» і, магчыма, «Кацярына», калі рыса над словам не вы-

---

593 Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С.112; Медынцева, А. А. Древнерусские надписи… С. 244.

594 Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С.67.

595 Для графіці дыяканніка і ахвярніка вышыня, на якой змяшчаюцца графіці, лічыцца ад каменнай падлогі, для графіці алтара – ад драўлянай, якая на 44 см вышэй за каменную.

падковая. Гук «у» ўсюды перададзены як ȣ, «е» як Є і ѣ, літары М, Л, Д, И, Ѧ, Г аздоблены рысачкамі. Надпіс вельмі прыгожы і ахайны. У трэцім радку з-за выбаіны бачны толькі пачатковая С і канчатковая А, аднак па логіцы надпісу тут могуць быць словы «Святога Спаса», напісаныя для абазначэння манастыра. Гэта ўскосна пацвярджаецца графіта пра смерць ігуменні, напісаным ніжэй.

***Рысунак 88. Прарысоўка графіта №1.***

Другая частка напісана менш ахайным почыркам. Два радкі набліжаны адзін да аднаго. Калі літары Н, И, Ю, В напісаны больш-менш роўна, то Ү, Ч, З напісаны з нахілам, першы радок апускаецца ўніз. Сэнс надпісу складана аднавіць, размова ідзе пра чацвёртую зіму, але якія дакладна падзеі адбыліся, сказаць складана. Па палеаграфічных даных графіта ў сукупнасці датуецца XII ст.

***Графіта № 2.*** На паўночнай сцяне дыяканніка на вышыні 187 см ад падлогі знаходзіцца графіта, спроба прачытання якога рабілася раней, да таго, як надпіс быў расчышчаны цалкам. Прапанаваўся варыянт прачытання пра смерць дыякана па літарах «а…кон», аднак расчыстка надпісу дала іншае прачытанне: «М҃ца мр҃та въ є҃ прѣстав/исѧ рабъ Бж҃и попъ/ Дмитръ на памѧ/ть ст҃аго оца Кона/на огородника», што значыць «Месяца сакавіка ў 5 дзень памёр раб Божы поп Дзімітры на памяць святога айца Конана агародніка».

***Фота 40. Графіта № 2, запіс пра смерць папа Дзімітра.***

Сапраўды, на 5 сакавіка прыходзіцца святкаванне дня памяці Конана Ісаўрыйскага, якога па роду яго занятку называлі Конанам Агароднікам, або Конанам Градарам.

***Фота 41. Ікона Конана Ісаўрыйскага.***

Дакладная спасылка даецца толькі на дзень і месяц, таму датаваць надпіс можна толькі палеаграфічна. Знешнія прыкметы напісу наступныя. Графіта выканана пісьменна, чалавекам, звыклым да пісьма. Пра гэта сведчыць напісанне слоў «месяца», «Божы», «святога», «айца» і нават імя, скарочанае слова «агародніка» пад цітламі, а таксама лігатурнае напісанне спалучэння «ні» ў слове «агародніка» па прыкладу напісання слова «ника» каля крыжа. З графічных прыкмет можна вылучыць некалькі варыянтаў літары А, сярод якіх мае перавагу напісанне са зрэзаным верхам, літара С з засечкай зверху, М з шырокім верхам, якія ў некаторых выпадках, разам з літарамі Н па верху перакрэслены гарызантальнымі рыскамі. Мачта літары Ъ дыяганальая, літара Ж напісана ў пяць прыёмаў, верхняя яе частка менш за ніжнюю. Дзве літары О аздоблены рысачкамі пасярэдзіне. Графіка літар сведчыць на карысць датавання надпісу мяжой XII–XIII стст.

***Рысунак 89. Прарысоўка графіта № 2.***

Агульнае ўражанне ад графіта наступнае: гэта надпіс, даволі глыбока прарэзаны, выкананы рукою пісьменнага чалавека, які не толькі добра валодае прыёмамі пісьма, але і схільны да яго аздаблення. Памеры надпісу 28×16 см, яна запісана ў пяць радкоў, пры гэтым левая мяжа пісьма роўная, а канцы

радкоў трохі прыўзняты, вышыня літар 2 см. Такім чынам, у летапіс манастыра можна запісаць імя святара Дзімітрыя, які служыў у Спаса-Праабражэнскай царкве на мяжы XII–XIII стст.

***Графіта № 3.*** На паўднёвай сцяне алтара на вышыні 124 см ад падлогі знаходзіцца графіта, якое раней ужо разглядалася даследчыкамі[596]. Гэта надпіс пра смерць Саламаніды, які выглядае наступным чынам: Мца аүгүста ү · к · г · на/пама ѡца Каленика/престависа раба бо/жиа Соломонида, г. зн. «Месяца жніўня ў 23 (дзень) на памя(ць) айца Калініка памерла раба божая Саламаніда».

***Фота 42. Графіта № 3, надпіс пра смерць Саламаніды.***

Надпіс акуратны, складаецца з чатырох радкоў, прадстаўляе сабой прамавугольнік, у якім толькі апошні радок трошкі карацей за папярэднія. Параметры надпісу 14,5×4,5 см, вышыня літар 0,9 см. Магчыма, надпіс быў прадрапаны нажом, аб гэтым сведчаць няроўныя краі літар. Такое напісанне магло ўзнікнуць пры напісанні нявострым прадметам. Надпіс змяшчае два скарачэнні: словы «месяца» и «отца», а таксама напісанне пад цітлам лічбы 23 – ·КГ·. Слова «память» недапісана, літара Ѧ ў першым складзе заменена на ѧ. Таксама звяртае на сябе ўвагу ўжыванне літар Ү замест В у прыназоўніку «в» і слове «августа». Верагодна, гэта адлюстраванне мясцовых асаблівасцей вымаўлення. У надпісу ўпамінаюцца два імі: імя памерлай жанчыны Саламаніды (варыянт хрысціянскага імя Саламонія) і імя Каленік – размоўны варыянт імя Каллінік. Дзень памяці гэтага свяціцеля сапраўды святкуецца 23 жніўня.

***Рысунак 90. Прарысоўка графіта № 3.***

Палеаграфічныя асаблівасці графіта наступныя. Літара Ѧ напісана ў некалькіх варыянтах: са зрэзаным верхам, нахіленай і прамой мачтай. Літара Ү мае штрых, адагнуты ўправа, паводле Б. А. Рыбакова такое напісанне характэрна для XII ст. Літара Р змяшчаецца ў радку, бакі літары Ѡ не разведзены ў бакі. У цэлым надпіс можна датаваць мяжой XII–XIII стст.

***Графіта № 4.*** На паўночную сцяну дыяканніка, справа ад праёма, на вышыні 142 см ад пола нанесена графіта з чатырох радкоў. Яго памеры 20×12 см, вышыня літар 2,5 см. Надпіс прадрапаны выразнымі літарамі і з'яўляецца памінальным запісам. Змест надпісу наступны: Мца ѳеврарь на стго / Семѣна Богоприк/мьца престависа/Ка(лен?), г. зн. «Месяца лютага на святога Сімяона Багапрыемца памёр Каллиник (?)».

***Фота 43. Графіта № 4, надпіс пра смерць на дзень Сімяона Багапрыемца.***

У першым радку слова «месяца» напісана скарочана, магчыма, над ім было цітла, – надпіс у гэтым месцы пашкоджаны. Назва месяца запісана як «феврарь», у назоўным склоне. У прыназоўніку «на» перамычка літары Н запісана ў люстэркавым адбітку. Слова «святого» запісана як стого і ўзята пад цітла. У імя «Семена» ў другім радку літара Н таксама запісана няправільна. Гук «е» перадаецца трыма варыянтамі є, ѣ і ҝ. Надпіс пашкоджаны, асабліва гэта

[596] Рождественская, Т. В. Древнерусские надписи на стенах храмов: новые источники XI–XIV вв. / Т. В. Рождественская. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1992. – С. 122.

датычыцца чацвёртага радка. У імя можна разабраць дзве першыя літары **КА** і чацвёртую – **Є**, трэцяя, верагодна, **Л**, пятая можа быць мачтай **Н**. У дадзеным выпадку можна дапусціць імя Каллінік, якое пісалася як Каленік (напрыклад, у графіта пра смерць Саламаніды). На жаль, надпіс не датаваны, можна адна-віць толькі дзень. У надпісы даецца спасылка на дзень Сімяона Богапрыемца, дата памяці гэтага святога 3 лютага.

***Рысунак 91. Прарысоўка графіта № 4.***

Палеаграфічныя даныя надпісу такія. Літары **А** аднастайныя, яны запісваюцца з вострым кузавам, зрэзаны зверху і пакрыты рысачкай. Варыянтаў літары **М** некалькі, можна вылучыць простае востравугольнае напісанне і варыянт са зрэзаным і пакрытым штрыхом верхам. Літара **Н** напісана няправільна, аднак перакладзіна дасягае да канцоў мачт. Кузаў **Б** паўкруглы, мачты **Р** таксама паўкруглыя, у адным выпадку мачта выходзіць за радок. Сукупнае датаванне дае мяжу XII–XIII стст. Надпіс прадрапаны тонкімі лініямі, верагодна, пісалам.

***Графіта № 5***. На паўночнай сцяне дыяканніка, злева ад праёма, на вышыні 161 см ад падлогі нанесена графіта – памінальны запіс. Яго памеры 43×9 см, вышыня літар – 2 см. Графіта запісана ў пяць радкоў: першы і другі пачынаюцца па цэнтры надпісу, іх левая мяжа на адным узроўні, трэці і чацвёрты радкі здвінуты ўлева, пяты здвінуты ўправа, ён пачынаецца на ўзроўні заканчэння першага і другога радка. Трэці, чацвёрты і пяты радок аддзелены прачэрчанай лініяй. Магчыма, першы і другі радок былі дапісаны пазней. У цэлым графіта выглядае наступным чынам: **Мца феврѧ/·д҃· денъ/престависѧ ра/бъ Боже Навумъ на паматъ сто/оца Сидора**, г. зн. «Месяца лютага (у) 4 дзень памёр раб Божы Навум на памяць святога айца Сідара».

***Фота 44. Графіта № 5, надпіс пра смерць Навума.***

Асаблівасці графіта наступныя: слова «месяца» ўзята пад цітла, літара **Ц** павернута ў адваротны бок. Слова «февраля» напісана як «февря», пры гэтым літара **Ѧ** вынесена зверху паміж літарамі **В** і **Р**. Літара, якая абазначае дзень, заключана паміж кропкамі, але цітла над ёй няма. У дадзеным надпісе мае месца ўжыванне аднаеравай графікі: у словах «день» і «память» **Ь** заменена на **Ъ**. У той жа час, у словах «рабъ» і «Навумъ» ужыванне **Ъ** правамерна. З палеаграфічных асаблівасцей можна вылучыць напісанне **Д** у выглядзе трох трохвугольнікаў; **Є** з насечкамі; выгнутую ўлева мачту **Р**, якая знаходзіцца ў радку; элементы літары **В**, выцягнутыя ўправа, якія часам не датыкаюцца да мачты; нахіленую мачту **А**; выгнутую ўправа мачту літары **Ѵ**. Дадзеныя прыкметы сведчаць на карысць датавання XII–XIII стст.

***Рысунак 92. Прарысоўка графіта № 5.***

У дадзеным графіта даецца спасылка на свята «святого отца Сидора», якая ўдакладняецца двума першымі радкамі «месяца февраля в 5 день». На дадзеную лічбу прыходзіцца дзень святкавання памяці прападобнага Ісідора Пелусіота, таму што ўвогуле дзён святкавання памяці розных святых з такім імем – сем. Магчыма, для ўдакладнення дня смерці былі дадданыя зверху пер-

шыя радкі, яны не ўваходзяць у мяжу графіта, абведзеную вакол трох наступных радкоў.

***Графіта 6.*** Ніжэй за графіта № 1 знаходзіцца памінальны запіс, нанесены ў адзін радок невялікімі, у 1 см вышынёй, літарамі. Імя ў надпісе часткова згублена: **Мца мрта престависа Ко(ь?)дат… ки**, што значыць «Месяца сакавіка памёр (Кандрат?) 28».

***Фота 45. Графіта № 6 і 7, надпісы пра смерць Кандрата(?) і ігуменні.***

Дата, 28 сакавіка, запісаная пад цітлам, вызначаецца дакладна, а вось некаторыя літары імя сапсаваны, таму яго можна дапушчальна прачытаць як Кандрат.

***Графіта 7.*** Наступнае графіта таксама прадстаўляе сабой памінальны запіс, у ім упамінаецца ігуменя: **Мца июна въ … днь престависа/игоуменья Стго Спаса/коли цюду творца тоу**, г. зн. «Месяца чэрвеня ў … дзень памерла ігумення Святога Спаса, когда Творца (Бог) здзейсніў цуда тут». У надпісу няма імя ігуменні, але ёсць спасылка на нейкі цуд, які адбыўся ў гэты час. Палеаграфічна папярэдні і дадзены надпісы можна датаваць мяжой XII–XIII стст. на падставе напісання літар **К**, **В**, **Р**. Звяртае на сябе ўвагу таксама фанетычная мяккасць «ц», асаблівасць, якая сустракаецца і ў іншых графіці.

***Рысунак 93. Прарысоўка графіта № 6 і 7.***

Такім чынам, да нас часткова дайшлі звесткі пра ігуменняў Спаса-Праабражэнскага полацкага манастыра. Імя адной з іх – Кацярына, імя другой не напісана, аднак зафіксаваны звесткі пра цуда, якое адбылося аднаčасова са смерцю ігуменні.

***Графіта № 8,9.*** На паўночнай сцяне дыяканніка, на вышыні 142 см ад падлогі даволі вялікімі літарамі (1,4 см) нанесены памінальны запіс, які пачынаецца крыжыкам і чытаецца наступным чынам: **+Месача окотабра/во утъри на десатъ дн/пръставис** (і справа ад сярэдняга радка) – **Моньчиковаа**, што можна прачытаць як «раніцай дзясятага кастрычніка памерла Моньчыкавая» (графіта № 8). Магчыма да гэтага надпісу дапісаны аддзеленыя доўгай рысай словы: злева – **Васи/лиа**, прычым, другі склад напісаны над першым і зверху – **раба Божеа** (графіта № 9).

***Фота 46. Графіта № 8 і 9, надпісы пра смерць Васіліі Мончыкавай.***

Верагодна, размова ідзе пра Васілісу («Васілію») жонку Майсея («Мончыка»). У дадзеным графіта няма спасылак на свята, дакладна ўказаны толькі дзень. У графіта маюць месца некаторыя характэрныя для старажытнарускіх надпісаў з'явы. Першая з іх, замена **Ъ** на **О** («окотября» замест «окътября»), **Ц** на **Ч**, і ўжыванне **А** замест **Я** («месячя» замест «месяца»), а таксама аднаеравая графіка («пръставис» замест «прьставис»). Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць датавання надпісу XII–XIII стст.

***Рысунак 94. Прарысоўка графіта № 8 і 9.***

***Графіта № 10.*** У дадзеным памінальным запісы спасылка на дату робіцца не так, як у графіці дадзенага тыпу. Калі чытаць графіта с пачатку, як яно напісана, атрымліваецца: **кд преста(ви)с Овдотиа/месяцаприл(яна на? Р) адоуници.**

***Фота 47. Графіта № 10, надпіс пра смерць Аўдоцці.***

Графіта змяшчаецца на паўночнай сцяне дыяканніка на вышыні 137 см ад падлогі, параметры надпісу 27×2,5 см, вышыня літар 0,8 см. Надпіс чытаецца як «24 красавіка, на Радуніцу, памерла Аўдоцця». Асаблівасцю дадзенага надпісу з'яўляецца напісанне літары **А** і **Ц** у адваротны бок, а таксама прапушчаныя літары ў словах «Овдотия», спалучэнні «месяцаприля». Па палеаграфічных даных, напісанню літар **Р**, **В**, **Д** надпіс можна датаваць XIII ст.

***Рысунак 95. Прарысоўка графіта № 10.***

Калі паспрабаваць датаваць графіта больш дакладна, бяручы за аснову датаванне XIII ст., можна вызначыць, што ў дадзеным стагоддзі Радуніца прыходзілася на 24 красавіка тройчы на стагоддзе: у 1218, 1229 і 1240 гг. Усе яны прыходзяцца на першую палову стагоддзя.

***Графіта № 11***. Памінальны запіс без дакладных спасылак на дату і дзень памяці святога знаходзіцца на паўночнай сцяне дыяканніка: **М…мца дькабра/ пръставися Ігнати** – «у месяцы снежні памёр Ігнат».

***Фота 48. Графіта № 11, надпіс пра смерць Ігната.***

Графіта змешчана на вышыні 135 см ад падлогі, параметры надпісу 23×3,5 см, вышыня літар 1 см. Надпіс не вельмі пісьменны, што бачна па слову «декабрая», а таксама па напісанні **Н** і **Ц** у адваротны бок. З асаблівасцей можна таксама адзначыць аднаеравую графіку «пръставися» замест «прьставися» і ўжыванне «і дзесяцярычнага» ў імя «Ігнаті». Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIII ст.

***Рысунак 96. Прарысоўка графіта № 11.***

***Графіта № 12.*** Там жа, на паўночнай сцяне дыяканніка, на вышыні 153 см ад падлогі ёсць запіс пра смерць жанчыны, які чытаецца наступным чынам: **Мце іюня преставися/память раба бо/мое Февроние** – «У месяцы чэрвені памерла на памяць… раба Божая мая Февронія».

***Фота 49. Графіта № 12, надпіс пра смерць Февроніі.***

Ніжэй за гэты надпіс маленькімі літарамі напісана **А лета** («а года») і побач дадзены сорак чатыры невялікія рысачкі. Цікава, што надпіс нясе не толькі інфармацыю, але і асабістыя адносіны: «мая Февронія» магла быць жонкай ці дачкой гэтага не вельмі пісьменнага чалавека, але яго сум адчуваецца ў надпісу. Можна дапусціць, калі ніжні надпіс аб колькасці гадоў належыць да папярэдняга надпісу, што Февронія пражыла 44 гады.

***Рысунак 97. Прарысоўка графіта № 12.***

Упамінанне колькасці гадоў сустракаецца ў некаторых позніх помніках, але напэўна сцвярджаць гэта нельга. Магчыма, рысачкі – колькасць памінальных малітваў. Надпіс нанесены тонкімі рысамі, даволі доўгімі, 3 см у даўжыню, літарамі. Параметры надпісу 37×12 см. Надпіс можна датаваць XIII ст.

***Графіта № 13***. Дадзены надпіс ужо публікаваўся і аналізаваўся раней у навуковай літаратуры. Ён быў апублікаваны Т. В. Раждзественскай[597].

[597] Рождественская, Т. В. Древнерусские надписи… С. 123.

Дадзенае графіта знаходзіцца на паўночнай сцяне ахвярніка на вышыні 141 см ад падлогі. Праметры надпісу 10×12 см, вышыня літар знаходзіцца ў межах 1–1,5 см.

***Фота 50. Графіта № 13, надпіс пра смерць жонкі іконнага пісца.***

Графіта займае шэсць радкоў: **Мц҃а авоу/ста во г днь/прьставися/Коузминая/письца ико/ньного**, г. зн. «Другога жніўня памерла Кузьміная (жонка) пісца іконнага».

***Рысунак 98. Прарысоўка графіта № 13.***

Можна згадзіцца з датаваннем Т. В. Раждзественскай, якая адносіць графіта да XIII ст. Цікава, што імя жанчыны не дадзена ў надпісу. Яна запісана «Кузьміная» па мужу – Кузьме.

***Графіта № 14***. На паўднёвай сцяне дыяканніка на вышыні 123 см ад падлогі змешчаны фрагментарны надпіс, які ў вялікай ступені быў сапсаваны познім лацінскім надпісам Stefan Iarocze/Zacharias Piotrowicz.

***Фота 51. Графіта № 14, надпіс пра смерць Марфы.***

Графіта нанесена вельмі тонкімі, ледзь бачнымі рысачкамі. Вышыня літар каля 2,5 см. Ад надпісу захаваліся фрагменты: **Мца …а на памят с…/…вися раба бжя Марфа**, г. зн. «месяца марта на памяць (святога) памерла раба Божая Марфа».

***Рысунак 99. Прарысоўка графіта № 14.***

Нязначныя палеаграфічныя прыкметы і, у прыватнасці, напісанне літар **Б**, **Ф**, **Ѧ** сведчаць на карысць датавання надпісу XIII ст.

***Графіта № 15***. Памінальны запіс, у якім упамінаецца жанчына, знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка, ён займае тры радкі і чытаецца як: **Л мц҃а иоуля въ (ла)/прѣ҃вися Олена/Павловна**, г. зн. «31 ліпеня памерла Алена Паўлаўна».

***Фота 52. Графіта № 15, надпіс пра смерць Алёны Паўлаўны.***

Паўлаўнай Алёна названа па бацьку, магчыма, яна была незамужняй. Па палеаграфічных даных графіта можна датаваць XIII–XIV стст.

***Рысунак 100. Прарысоўка графіта № 15.***

Пад цітла вынесены літары **С** у словах «месяца» і «преставися», літара В, у якой роўнавялікія элементы не датыкаюцца да мачты, **Ъ**, у якой няма вялікіх вынасных элементаў.

***Графіта № 16***. На паўднёвай сцяне алтара, справа, на 10 см ніжэй за надпіс пра смерць Саламаніды знаходзіцца памінальны надпіс. Змест яго наступны: **Помяни г҃и ерѣꙗ Ивана**, г. зн. «Памяні, Госпадзе святара Івана».

***Фота 53. Графіта № 16, надпіс «ерея Івана».***

Надпіс знаходзіцца на вышыні 114 см ад палогі, ён запісаны ў адзін радок. Даўжыня надпісу 33 см, вышыня літар 4,5 см. Літары вельмі выцягнуты ўверх, іх шырыня складае ад 1,5 да 4 см. Слова «Господи» напісана ў скарочанай форме пад цітлам. Слова «иерея» ў апаведнасці з вымаўленнем напісана як «ерея».

***Рысунак 101. Прарысоўка графіта № 16.***

Звяртае на сябе ўвагу напісанне вельмі вузкіх літар **О** і **Д**, язычок літары **ѧ** плаўна выходзіць з мачт, язычок літары **Є** нахілены ўніз. Сукупнасць прыкмет дае датаванне надпісу XV ст. У надпісе ўпамінаецца святар Іван, які, верагодна, служыў у той час у храме. Не выключана, што дадзены надпіс не з'яўляецца памінальным. Ён мог быць напісаны і самім святаром пры жыцці. У дадзеным выпадку слова «помяни» не ўказвае на памінанне пасля смерці, а можа належаць малітве «Помяни нас, Господи, во царствии твоем», што азначае надзею на вечнае жыццё і далучэнне да ліку праведнікаў.

***Графіта 17***. Памінальныя запісы пра смерць таго ці іншага чалавека рабіліся і пазней. Так, графіта, нанесенае на паўднёвую сцяну дыяканніка вышыні 165 см ад падлогі, змяшчае звесткі пра смерць жанчыны і дакладную дату. Надпіс чытаецца наступным чынам: **в лѣт ҂ѕ ѳ҃ сот/ПД҃ индкт҃ъ в/ѳ҃ прєстави/раба бжъ(ѧ) Оксин**.

***Фота 54. Графіта № 17, надпіс пра смерць Аксінні.***

У першым, другім і, часткова, трэцім радку змяшчаецца спасылка на дату. Слова «в лѣтъ» («в лето, у год») запісана чатырма літарамі, літара **Т** вынесена паміж літарамі **в** і **Л**. Своеасабліва запісана лічба года ад стварэння свету. Тысяча гадоў запісаны правільна, літарай **ѕ**, пад якой стаіць знак, які абазначае сотні і запісаны ў выглядзе рысы, перакрэсленай замест дзвюх трыма рыскамі. Сотні гадоў перадаюцца не літарай **Ц** або **ѧ**, як трэба, а запісам «**ѳ҃ сот**», г. зн. «дзевять сот». У слове «сот» літара **Т** вынесена над радком. Другі радок пачынаецца лічбамі дзясяткаў і адзінак, літары **ПД** узяты пад цітла і абазначаюць лічбу 84. Такім чынам, размова ідзе пра 6984 г. або, калі пераводзіць на сучасную сістэму летазлічэння (6984 – 5508), пра 1486 г. Дадзенае датаванне пацвярджаецца таксама індыктам. У графіта ўпамінаецца 9 індыктаў. Сапраўды, 6984 дзеліцца на 15 з астаткам дзевяць.

***Рысунак 102. Прарысоўка графіта № 17.***

У надпісе ўпамінаецца раба Божая Аксіння. Аднак у параўнанні з больш раннімі надпісамі, дзе адсутнічае год, у дадзеным графіта адсутнічае дата смерці, спасылка на свята.

***Графіта № 18***. Практычна аналагічны надпіс знаходзіцца на супрацьлеглай, паўночнай сцяне дыяканніка, яна датуецца і чытаецца як і папярэдняя.

Адрозненне дадзенага надпісу ў тым, што надпіс часткова згублены і выглядае наступным чынам: **в лѣт ѕ ѳ҃ сотПД/ индктъ/ѳ҃ пири /(ρ)аба бжъ Окси.**

Шэраг графіці змяшчаецца на паўночнай сцяне алтара. Усе гэтыя надпісы датуюцца XV ст.

***Графіта № 19 і 20***. На паўночнай сцяне алтара на вышыні 150 см ад падлогі нанесены памінальны надпіс з шасці радкоў (графіта № 19), да якога прымыкае па сэнсу яшчэ адзін надпіс у два радкі: **в лѣт ѕ(*)ПД прєставѝ/раба҃ бжѧ҃ Овдот/ѧ пани Остафь/еваѧ мц҃а августа/въ в҃ напамѧть стг҃о (м) Єтєфа/**

на в лѣт ҂ЅПВ/мц҃ ген/Петра Настаи҃, г. зн. «у год 6(?)84 памерла раба Божая Аўдоцця пані Астафьевая месяца жніўня 2, на памяць святога мучаніка Стэфана. У год 6(*)58 месяца студзеня Пятра, Настассі». Параметры першага надпісу 20×13 см, вышыня літар 2,5 см, другога – 24×5, вышыня літар 2,5 см.

***Фота 55. Графіта № 19, надпіс пра смерць Аўдоцці Астафьевай і № 20 пра смерць Пятра, Настассі.***

Графіта з'яўляецца датаваным, але не змяшчае лічбы соцень, якая была добра вядома пісаўшаму і якую ён, можа аўтаматычна, не паставіў у надпісу.

***Рысунак 103. Прарысоўка графіта № 19–20.***

***Графіта № 21 і 22***. Адказ на пытанне пра датаванне дае наступнае графіта, якое размяшчаецца ніжэй за вышэйзгаданы надпіс і складаецца з дзвюх частак. Графіта чытаецца наступным чынам: **в лѣт Ѕ(*)ПД преставлени раба/ Бж҃е Ѡкулины мца маа/ѹ ӱторы // в лѣт ЅЦПЄ/мц҃а июла оу є҃ почалса/ сороковѹстъ по/Юрьи Ходкович҃**, што значыць «У год 6*84 памерла раба Божая Акуліна месяца мая другога. У год 6985 месяца ліпеня ў 5 (дзень) пачаўся саракавуст па Юр'і Хадковічу». Першы надпіс знаходзіцца на вышыні 124 см ад падлогі, мае параметры 21×11 см, другі – 24×9 см, вышыня літар у абодвух надпісах – 2 см.

***Фота 56. Графіта № 21, надпіс пра смерць Акуліны і № 22 пра саракавуст па Юр'і Хадковічу.***

Гэты надпіс дае нам датаванне ўсіх папярэдніх надпісаў. У іх адсутнічае лічба 900 – **Ц**. Такім чынам, смерць Аўдоцці датуецца 6984 (1476), Пятра і Настассі – 6982 (1474), Акуліны – 6984 (1476) і саракавуст (памінальныя малітвы, якія чыталіся сорак дзён) па Юр'і Хадковічу – 6985 (1477) гадамі.

***Рысунак 104. Прарысоўка графіта № 21–22.***

***Графіта № 23***. Надпісы, якія таксама датуюцца XV ст., змяшчаюцца побач з папярэднімі надпісамі. Па-першае, гэта запіс пра смерць ігуменні Акуліны, які запісаны ў шэсць радкоў (28×22 см) на вышыні 135 см ад падлогі і чытаецца наступным чынам: **в лѣт ҂ЅПЄ мц҃а/декабра во і҃ престави/раба Бжьа инок Ѡкѹли/на игѹменьа Стг҃а/Спс҃а на памать Ѳ.ѳонаса Мины/Єрмогена**, г. зн. «У год 6(9)85 месяца снежня ў 10 (дзень) памерла раба Божья інакіня Акуліна, ігумення Святога Спаса на памяць Міны, Ермагена».

***Фота 57. Графіта № 23, надпіс пра смерць ігуменні Акуліны.***

Зверху, над словам «Міны», находзіцца імя, якое можна прачытаць як **Ѳ.ѳонаса**. Магчыма, той, хто пісаў, пераблытаў імя аднаго са святых. Дзясятае снежня – дзень памяці Міны, Ермагена і Еўграфа, а не Афанасія. Надпіс датуецца 1477 ст. і дае нам яшчэ адно імя ігуменні Спасаўскага манастыра – Акуліна (Акіліна).

***Рысунак 105. Прарысоўка графіта № 23.***

***Графіта № 24***. Пад надпісам пра ігуменню Акуліну знаходзіцца памінальны запіс, датаваны 6948 годам. Яго параметры 26×13 см, яно знаходзіцца на вышыні 106 см ад падлогі.

***Фота 58. Графіта № 24, надпіс пра смерць Андрэя Астафьевіча.***

Графіта займае пяць радкоў і чытаецца наступным чынам: **в лѣт ꙅМИ мца декаврıѧ л/престави҃ рабъ Бжии Андреи/Остаѳьевич на памѧть/с҃тыѧ Ано/сьи,** г. зн. «У год 6(9)48 месяца снежня 30 памёр раб Божы Андрэй Еўстафьевіч на памяць святой Аніссі». Сапраўды, на 30 снежня прыходзіцца дзень памяці святой Анісіі, а год напісання графіта – 1440.

***Рысунак 106. Прарысоўка графіта № 24.***

***Графіта № 25***. Яшчэ адзін памінальны запіс XV ст. тычыцца намесніка ігуменні манастыра і чытаецца наступным чынам: **в лѣт ҂ꙅѢ престави҃/рабъ Бжи/Антонеи наместник/игꙋменьи**. Звяртае на сябе ўвагу абазначэнне года – «у лета 6000-е».

***Фота 59. Графіта № 25, надпіс пра смерць намесніка Антонія.***

Палеаграфія надпісу паказвае на датаванне графіта, як і папярэдніх надпісаў, XV ст. Шасцітысячны год – гэта 492 год, чаго на самай справе, відавочна, быць не можа. Таму, як нам уяўляецца, размова ідзе пра 7000 год. Магчыма, чалавек прывык да напісання лічбы **ꙅ** у пачатку года і пераблытаў яе з наступнай. Калі дапусціць напісанне **З** замест **ꙅ**, атрымліваецца 1492 год, які адпавядае палеаграфіі надпісу.

***Рысунак 107. Прарысоўка графіта № 25.***

У надпісу ідзе размова пра смерць намесніка ігуменні Антонія. Хутчэй за ўсё, размова ідзе пра настаяцеля Спасаўскай царквы.

***Графіта 26***. Свецкія асобы ўзгадваюцца ў датаваным памінальным спісе, якія змешчаны на заходняй сцяне праёма паміж алтаром і дыяканнікам на вышыні 115 см ад падлогі, параметры надпісу 18×18 см. Графіта зроблена ў пяць радкоў, яно чытаецца наступным чынам: **в лѣт ҂ꙅ.ЧД представиша҃/боѧрѣ полоцкїи Василье/вичи Ѡстаѳеи м҃ца декаб҃/а Иѡа҃н Юрьеꙋнцкїи м҃ца апри҃л/а ꙅѣно(в)ѣи м҃ца маиѧ // в лет З тисѧ.**

***Фота 60. Графіта № 26, надпіс пра смерць полацкіх баяр.***

Год зноў, як і ў папярэдніх надпісах, даецца «загадкава», без даты соцень. Па аналогіі з вышэйзгаданымі надпісамі, лічба соцень будзе абазначацца літарай **Ц** – 900. Атрымліваецца 6994 (1486) год. У гэты год памерла некалькі чалавек – полацкіх баяр, сярод іх Астафей Васільевіч, які памёр у снежні, Іаан Юрьеўніцкі – у красавіку і Зіновій – у маі. Наступная падзея, якую хацеў запісаць аўтар, датавалася ўжо наступным, па лічэнні ад стварэння свету, 7000 годам. На жаль, графіта фрагментарнае, незакончанае.

***Рысунак 108. Прарысоўка графіта № 26.***

Што тычыцца асоб, якія ўпамінаюцца ў графіта, асобна трэба сказаць пра Астафія Васільевіча. Гэта Астафій Васільевіч Корсак, полацкі баярын, чацвёртае калена баяр Корсакаў, які ўзгадваецца ў шэрагу грамат, у прыватнасці, граматы да рыжскага бургамістра 1470, жалаванай грамаце вялікага князя

літоўскага і караля польскага Казіміра 1475 года, грамаце рыжскаму гарадскому савету. Апошнім ўзгадваецца Зіновій. Гэта Зіновій Васільевіч Корсак, брат Астафія, які актыўна ўдзельнічаў у гандлі з Рыгай. Вядомы шэраг яго грамат рыжскаму гарадскому савету, датуемых 1480 г. Да XVI ст. усе Корсакі былі прыхільнікамі праваслаўя, фундатарамі Барыса-Глебскага манастыра і, магчыма, таксама Спасаўскага, аб гэтым сведчаць іх імёны, запісаныя ў алтары. Астафій, як лічаць гісторыкі, быў старэйшым братам. Калі ў 1440 г. ён атрымаў ад Казіміра 6 даннікаў, то быў ужо паўналетнім, такім чынам, у 1486 г. яму было больш за шэсцьдзясят гадоў. Магчыма, «Остафьевая», якая ўпамінаецца ў графіта на паўночнай сцяне алтара, жонка Астафія Васільевіча Корсака, якая памерла на дзесяць гадоў раней за мужа. Такім чынам, нам вядома дата смерці полацкіх баяр Астафія і Зіновія Васільевічаў Корсакаў у 1486 г.

Усе вышэйзгаданыя датаваныя памінальныя запісы выкананы размашыстым почыркам, надпісы глыбока прарэзаны ўнутр, вышыня літар вар'іруецца ад 2 да 2,5 см.

***Графіта № 27.*** Датаваны памінальны запіс, які да таго ж змяшчае звесткі аб гістарычнай падзеі, знаходзіцца на паўднёвай сцяне алтара на вышыні 136 см ад падлогі. Памеры надпісу 20×30 см, вышыня літар 2 см. Надпіс раней ужо публікаваўся ў гістарычнай літаратуры Д. Валадзіхіным па прарысоўцы і прачытанні І. Залілава[598].

***Фота 61. Графіта № 27, надпіс пра смерць караля Казіміра.***

***Рысунак 109. Прарысоўка графіта № 27.***

Надпіс мае наступны выгляд: **в лет седмотисѧчное/престависѧ король а сн҃ъ/его Ѡлеѯндръ на кнѧжнье/сѣлъ того ж лѣта мц҃/июлѧ ла҃ дн҃ь а ꙋ Полтскꙋ был на ·єє лет // в лѣт҃ в҃ престависѧ/Митроѳ(а)н/Любве**, што значыць «У 7000 (1492) год памёр кароль, а сын яго Аляксандр на княжанне сеў у той жа год у месяцы ліпені (у) 31 дзень, а ў Полацку быў на 5 (год). «На 5 год» – 7005, ад нараджэння Хрыстова – 1497 год. У гістарычнай літаратуры дата ўвакняжэння Аляксандра 30 ліпеня. Графіта дае нам іншую дату – 31 ліпеня. Каля дадзенага графіта змяшчаецца знак, які ўяўляе сабой вузкі, выцягнуты ў шырыню трохвугольнік. З яго вяршыні выходзіць вертыкальная лінія, якая сягае за межы фігуры, а зверху перакрэслена х-падобна. Такая ж фігура знаходзіцца над надпісам пра Саламаніду, на роўнай адлегласці ад падлогі. Складана адназначна інтэрпрэтаваць гэтыя знакі. Можа, гэта знакі ўласнасці, а можа, сімвалічныя выявы падсвечнікаў.

Не менш значнай для аўтара надпісу былі смерць Мітрафана і Любові ў 7002 (1494) годзе, аб чым і даюцца звесткі ў другой частцы графіта. Ніжэй за дадзены надпіс падпісаны імёны **П҃анаст҃а** – «Анастасіі» (ці «пані Настассі») (графіта 27.1), а яшчэ ніжэй – пакрытыя выбаінамі пяць імён, два з якіх –

---

[598] Володихин, Д. М. Повесть в камне… С. 66.

нечытабельныя, у трэцім – чытаецца канчатак ...**катъ**, чацвёртае можа чытацца як **Машка**, пятае як **Марии** (графіта 27.2).

***Фота 62. Графіта № 27.1.***

***Рысунак 110. Прарысоўка графіта № 27.1.***

***Фота 63. Графіта № 27.2.***

***Рысунак 111. Прарысоўка графіта № 27.2.***

***Графіта 28.*** На паўночнай сцяне алтара, справа ад праёма на вышыні 135 см ад падлогі находзіцца датаваны надпіс памерамі 28×14 см, у якім даюцца звесткі пра смерць дзвюх асоб, духоўнай і свецкай. Графіта чытаецца наступным чынам: **в лѣт҃ ҂зп҃д престависа сщ҃ноинокъ/архимандритъ Диѡн҃сїи по Петров҃/дн҃и в пн҃ед а па҃н Силѧвинаа мц҃а ѡкт҃ є҃і/дн҃ь**, г. зн. «У год 7084 памер свяшчэннаінак архімандрыт Дыянісій пасля Пятрова дня ў панядзелак, а пані Сілявіная – месяца кастрычніка ў 15 дзень».

***Фота 64. Графіта № 28, памінальны запіс архімандрыта Дзіянісія і пані Сілявінай.***

Надпіс датаваны 7084 г. ад стварэння свету, ад нараджэння Хрыстова гэта будзе 1576 г. У дадзеным графіта змешчаны звесткі пра смерць свяшчэннаінака архімандрыта Дзіянісія. Свяшчэннаінак – гэта манашаствуючы святар, у наш час гэтая назва адпавядае сану іераманаха. Чын архімандрыта ў вышэйазначаны час меў ігумен манастыра. Дата смерці архімандрыта прыходзіцца на дзень пасля 29 чэрвеня. У 1576 г. Пятроў дзень прыходзіцца на пятніцу, адпаведна, панядзелак, на які даецца спасылка ў тэксце, будзе прыходзіцца на 2 ліпеня. Дата смерці архімандрыта Дзіянісія 2 ліпеня 1576 г.

***Рысунак 112. Прарысоўка графіта № 28.***

Надпіс пра смерць пані Сілявінай не дае спасылкі на свята, але мае спасылку на дзень – 15 кастрычніка. Надпіс не змяшчае імя памерлай жанчыны. Яна названа па мужу (калі другое **А** ў слове «Силявинаа» трэба чытаць як **ѧ**) або па бацьку, пану Сіляве, або Сяляве (калі **А** – гэта злучнік). Упамінанне на сцяне алтара, хутчэй за ўсё, звязана з высокім палажэнем жанчыны. Верагодна, яна баярыня. Так, у грамаце полацкага намесніка Багдана Андрэевіча рыжскаму гарадскому савету з прычыны гандлёвых непаразуменняў ад 26 лістапада 1480 г. узгадваецца «боярин полоцкий пан Ондреи Селява», які мог быць продкам мужа ці бацькі дадзенай жанчыны.

Што тычыцца палеаграфічных асаблівасцей дадзенага надпісу, трэба адзначыць яго пісьменнасць, паслядоўнае вынясенне пад цітлы дат і скарочаных слоў «священно» і «день», а таксама вынясенне літар са скарачэннем у словах «лет», «Дионисий», «Петров», «понедельник», «пани», «месяца». Графіта напісана каліграфічным паўуставам.

***Графіта № 29.*** На паўночнай сцяне алтара паміж графіці № 20 і 21, на вышыні 129 см ад падлогі, знаходзіцца памінальны запіс, які па палеаграфічных даных можна датаваць XVI ст.

***Фота 65. Графіта № 29, памінальны запіс Кандрація.***

Асноўны тэкст графіта запісаны ў адзін радок, імёны вынесены над радком: **Прѣстави҃ рабъ бж҃ии** (далей некалькі літар неразборліва) **месеца декаврія оу ѳ**, «памер раб Божы … 9 снежня». Вышэй за надпіс – імёны **Ко҃/н/дра/те҃и Иване**. У імя «Кондратеи» **н** і **теи** вынесена над радком.

***Рысунак 113. Прарысоўка графіта № 29.***

Размова ў надпісе ідзе толькі пра аднаго чалавека. Магчыма, яго імя знаходзіцца паміж словамі «Божы» і «месяца», а імёны Кандрата і Івана дапісаны да памінальнага надпісу пазней. Да таго ж, вакол імя «Кандрат» прарысаваны верх і левы канец крыжа, але малюнак не закончаны.

На сценах алтара знаходзіцца пэўная колькасць надпісаў, фрагментарнасць якіх абумоўлена нанясеннем паверх старажытных надпісаў больш позніх, згубай тынкоўкі, наўмыснай ці ненаўмыснай зацертасцю сцен. Здагадацца аб тым, што гэта быў памінальны надпіс, дапамагаюць словы – элементы надпісаў, якія характэрны для такога тыпу графіці: «преставися», «месяца NN», «на память» і г. д.

***Графіта № 30***. Графіта, якое ўяўляе сабой памінальны запіс, знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка. Яно складаецца з пяці радкоў. Надпіс да такой ступені зацерты, што яго аднаўленне не прадстаўляецца магчымым. Пра тое, што гэта памінальны запіс, можна здагадацца па слову **Прѣстави/ся** ў трэцім і чацвёртым радку. Агульны выгляд надпісу, палеаграфія літар **Т**, **Д**, **В** сведчаць на карысць датавання надпісу XIII–XIV стст.

***Фота 66. Графіта № 30, фрагментарнае.***

***Рысунак 114. Прарысоўка графіта № 30.***

***Графіта № 31***. Фрагмент графіта знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка пад выявай птушкі (рыс. 212). Ён чытаецца наступным чынам: **Мца авоуста оу/намять**, г. зн. «Месяца жніўня ў (NN дзень праставіўся NN) на (па)мять (NN)». І хаця большая частка надпісу згублена, можна зрабіць выснову, што гэта быў памінальны запіс. Графіта па літарах, якія захаваліся, можна датаваць XIII ст.

***Фота 179. Птушка і крыжы.***

***Рысунак 212. Прарысоўка графіта № 31.***

***Графіта № 32***. На паўночнай сцяне дыяканніка таксама знаходзяцца два фрагментарныя памінальныя запісы. Першы з іх знаходзіцца пад запісам пра папа Дзімітрыя. Ён запісаны ў тры радкі, два апошнія з іх нечытабельныя. У першым добра чытаюцца два словы: **Месяца номбря**… Па палеаграфічных прыкметах можна датаваць надпіс XII–XIII стст.

***Фота 67. Графіта № 32, фрагментарнае.***

***Рысунак 115. Прарысоўка графіта № 32.***

***Графіта № 33***. Другі надпіс знаходзіцца пад усімі памінальнымі графіці з правага боку паўночнай сцяны дыяканніка. Надпіс таксама складаецца з трох радкоў і пачынаецца словамі: **Мца авгос** – «месяца жніўня». Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць выканання надпісу ў XIII–XIV стст.

***Фота 68. Графіта № 33, фрагментарнае.***
***Рысунак 116. Прарысоўка графіта № 32.***

Аналіз памінальных запісаў XII–XVII стст. паказвае наступнае: памінальныя запісы XII–XIV стст. змяшчаюць у сябе спасылкі на дату і дзень памяці святога, дакладны год не цікавіць аўтара надпісу, для яго важней канстатаваць факт смерці і прывязаць яго да дня святога з мэтай памінання. З XV ст. у надпісах пачынае з'яўляцца год. Аўтару надпісу трэба не толькі памянуць чалавека, але і прывязаць падзею да года. На нашу думку, гэта больш свецкі светапогляд у жыцці чалавека, своеасаблівы антрапацэнтрызм. Чалавек становіцца больш значным у часе і прасторы.

## Памінальныя спісы

Памінальныя спісы змяшчаюць некалькі імён у назоўным або вінавальным склоне. Звычайна імёны змяшчаюцца адно пад адным, яны нагадваюць сучасныя памінальныя спісы, якія аддаюцца ў царкву.

***Графіта № 34.*** На паўночнай сцяне ахвярніка, справа на вышыні 1 м ад падлогі прадрапаны памінальны спіс з трох імён: **Грирорьви Микити Семена**.

***Фота 69. Графіта № 34, памінальны спіс.***

Памеры надпісу 7×4,5 см, вышыня літар 1 см. Формы выкарыстання імён дапускаюць іх ужыванне ў памінальнай малітве: «Памяні, Госпадзе, душы Рыгораву, Мікіты, Сямёна».

***Рысунак 117. Прарысоўка графіта № 34.***

У дадзеным выпадку «Грирорьви» ўжываецца ў форме прыналежнага прыметніка, а літара **Г** у другім складзе памылкова заменена на **Р**. Надпіс прадрапаны не вельмі вострым прадметам, у некаторых месцах пашкоджаны, але, увогуле, чытабельны.

Палеаграфічных прыкмет няшмат, яны могуць сведчыць на карысць датавання надпісу XIII ст. Гэта напісанне трохвугольнага верха літары **Р**, **Є** з язычком, схіленым уніз.

***Графіта № 35.*** Дадзены памінальны спіс знойдзены на паўночнай сцяне ахвярніка. Ён знаходзіцца на вышыні 130 см ад падлогі і ўяўляе сабой графіта памерамі 5×7 см, вышыня літар 0,5 см. Надпіс складаецца з сямі радкоў, у кожным з якіх знаходзіцца імя: **Ивана Марию Варвру Демтрьꙗ Пафноть Гергꙗ Григорьꙗ**, што чытаецца як «Івана, Марыю, Варвару, Дзімітрыя, Пафнуція, Георгія, Рыгора». Спіс з'яўляецца памінальным, пералік імён як бы працягвае малітву: «Памяні, Госпадзе, рабоў тваіх…».

***Фота 70. Графіта № 35, памінальны спіс.***

Графічныя характарыстыкі дадзенага графіта наступныя. Спіс нанесены тонкімі рысамі, левая мяжа якога, хаця і вытрымана, але паступова адхіляецца ўправа. Магчыма, той, хто пісаў, спяшаўся, паколькі літары ў некаторых імёнах прапушчаны, напрыклад, «Варвру», замест «Варвару», «Демтрья» замест «Деметрия» або «Демитрия». Тым жа почыркам, але са здвігам управа запісана

імя «Григорий», магчыма, яно было дапісана пазней. Варыянт «Гергий» замест «Георгий» часта ўжываецца ў сярэдневяковых крыніцах.

***Рысунак 118. Прарысоўка графіта № 35.***

Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць датавання графіта XIV ст. на падставе напісання «якарнага е» ў слове «Гергя». Увогуле почырк пісаўшага даволі размашысты, літары **Г** выходзяць у яго падобнымі на **Т**, хвасты літар **Р** апускаюцца далёка за радок.

Дадзенае графіта нанесена на вышыні 130 см ад падлогі, яго памеры 5×7 см, вышыня літар 0,5 см.

***Графіта № 36.*** Пад памінальным спісам «Ивана Марию…» знаходзіцца жаночае імя ў давальным склоне: **Олєнє**. Верагодна, яно было падпісана для памінання пад вышэйзгаданым спісам. Датаваць графіта можна толькі прыблізна XIV ст. з-за адсутнасці выразных прыкмет. Можна вылучыць толькі **Л** с навершшам і **Є** з засечкамі.

***Фота 71. Графіта № 36, імя пад памінальным надпісам.***

***Рысунак 119. Прарысоўка графіта № 36.***

***Графіта № 37.*** Дадзены памінальны спіс знаходзіцца на паўднёвай сцяне алтара, графіта складаецца з трох імён, якія змяшчаюцца не «класічным» спісам, г. зн. адно пад адным, а раскідана.

***Фота 72. Графіта № 37, памінальны спіс.***

І ўсё ж такі, напісаныя адной рукой, гэтыя надпісы прадстаўляюць сабой спіс, зверху, на вышыні 85 см ад падлогі, напісана імя **Макс** (Максім): тры літары **М**, **А**, **С** змешчаны ў радку, **К** вынесена над радком. Ніжэй запісана імя **Григ** (Рыгор): а ў радку – тры літары **Г**, **Р**, **И**; **Г** вынесена над радком. Імя **Стєп** (Сцяпан) таксама запісана чатырма літарамі: **С**, **Т**, **Є** ў радку, **П** – над радком. Яно знаходзіцца правей і ніжэй за імя Рыгор на вышыні 79 см ад падлогі.

***Рысунак 120. Прарысоўка графіта № 37.***

Характэрнымі прыкметамі, якія датуюць надпіс XVI ст. з'яўляюцца напісанне **К** у выглядзе дзвюх паралельных ліній, а таксама трохногае **Т**. Вышыня літар 1,5 см. Дадзенае графіта павінна чытацца як «Максима, Григория, Степана».

### Аднайменныя надпісы

Аднайменныя надпісы характарызуюцца тым, што змяшчаюць адно імя, каля якога знаходзіцца шэраг рысачак, запісаных у адзін ці некалькі радкоў. Часам такія палачкі нанесены без імя. Што за малітва чыталася ў такім выпадку, зараз мы даведацца не зможам. На карысць таго, што рысачкі абазначалі малітвы, сведчаць іх ужыванне каля галгофскіх крыжоў, а таксама ўжыванне ў дадзеных надпісах імён каля іх у вінавальным склоне. Такім чынам, гэта «(памяні раба) каго?» не, напрыклад, «пазыка каму?», калі меркаваць, што надпісы не малітоўныя, а, напрыклад, пазыковыя.

***Графіта 38***. На паўночнай сцяне алтара пад спісам «Макс, Степ…» знаходзіцца графіта, якое таксама змяшчае імя, запісанае ў форме прыналежнага прыметніка: **Югриеви**, г. зн. «(Госпадзе, памяні душу) **Югриеви**». Надпіс нанесены на вышыні 110 см, яго даўжыня 19 см, вышыня літар 1 см.

***Фота 72. Графіта № 38,* Югриеви.**

«Югрий» – гэта варыянт вымаўлення імя Юрый, якое з'яўляецца адной з форм імя Георгій. Каля імя знаходзяцца дваццаць пяць рысачак. Са знешніх прыкмет надпісу можна вылучыць наступныя: літара **Ю** напісана ў перакуленым выглядзе, спачатку кузаў, потым мачта, перакладзіна выходзіць з сярэдзіны мачты; **Р** з выцягнутай галоўкай, хвост выходзіць за радок; верхняя і ніжняя часткі **В** амаль роўныя, але не датыкаюцца да мачты. Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць ХІІ ст.

***Рысунак 121. Прарысоўка графіта № 38.***

***Графіта 39.*** Імя **АВРА/МИ** («Аўрамі») нанесена на паўднёвую сцяну апсіды на вышыні 2 м ад падлогі. Графіта запісана ў два радкі: апошнія літары **МИ** вынесены над літарамі **ВР**, што звязана, верагодна, з пісьмовай традыцыяй, таму што месца для нанясення надпісу было дастаткова.

***Фота 74. Графіта № 39, Аўрамі.***

Адразу пасля імя без якога-небудзь інтэрвалу нанесены дзевяць рысачак і кропка. Верагодна, Аўрамія паміналі дзевяць дзён пасля смерці, што з'яўляецца традыцыяй у праваслаўным богаслужэнні, аб чым і была зроблена адпаведная колькасць паметак. Магчыма, дзясятую рысу пачалі наносіць, але яна з'явілася лішняй, таму ад яе застаўся толькі пачатак у выглядзе кропкі.

***Рысунак 122. Прарысоўка графіта № 39.***

Палеаграфічных даных няшмат, таму надпіс можна ўмоўна датаваць ХІІІ ст. па напісанні літар **А**, **В**, **Р**. Надпіс прарэзаны глыбокімі, роўнымі лініямі, магчыма, ён быў нанесены пісалам.

***Графіта 40.*** Памінальны надпіс, які складаецца з аднаго імя і дзевяці рысачак, нанесены на паўднёвы бок алтарнай часткі злева ад праёма на вышыні 90 см ад падлогі, вышыня літар 1 см, даўжыня надпісу 10 см.

***Фота 75. Графіта № 40, Міхаіл.***

Графіта выканана арыгінальна: рысачкі прадрапаны адна за адной, надпіс перад імі прадстаўляе сабой трохвугольнік, утвораны трыма радкамі. Ніжні радок – літары **МИЛ**, сярэдні – **ХА**, верхні – **И**. Літара **А** павернута ў адваротны бок. Графіта чытаецца знізу ўверх, затым апускаецца ў ніжні радок да літары **Л**.

***Рысунак 123. Прарысоўка графіта № 40.***

Палеаграфічных прыкмет няшмат, умоўна надпіс можна датаваць ХІІ–ХІІІ стст. Звяртае на сябе ўвагу ўжыванне дзевяці рысачак, як і ў графіта **АВРАМИ**. Паводле надпісу Міхаіла, як і Аўрамія, паміналі дзевяць дзён.

***Графіта 41.*** Фрагментарна запісанае імя знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара, недалёк ад царскай брамы. Гэта, дапушчальна, жаночае імя Кацярына, пачатае як **Катьр** і недапісанае.

***Фота 76. Графіта № 41, Кацярына.***

Аднак каля імя знаходзяцца дзесяць рысак. Памерлая Кацярына паміналася, адпаведна, дзесяць дзён (магчыма, першы дзень – асабліва, а потым яшчэ дзевяць дзён, уключаючы першы). Імя было прадрапана, хутчэй за ўсё, нажом, таму што каля асноўнага абрысу літар шмат вышчарбленых фрагментаў.

***Рысунак 124. Прарысоўка графіта № 41.***

Палеаграфічных даных няшмат і яны могуць даць умоўнае датаванне надпісу мяжой XII–XIII стст. па графіцы літар **К**, **ꙗ**, **Ь**. Надпіс нанесены на вышыні 96 см ад падлогі, памеры надпісу 5,5×3 см, вышыня літар – 1 см.

***Графіта 42.*** На паўднёвай сцяне ахвярніка, на вышыні 127 см ад падлогі знаходзіцца надпіс, выкананы ў адзін радок. Першыя дзве літары, магчыма, належаць не дадзенаму надпісу, гэта склад **Га**. Далей ідзе сам надпіс, які змяшчае імя ў вінавальным склоне – **Глеба**, і пяць рысак.

***Фота 77. Графіта № 42, Глеб.***

З асаблівасцей напісання можна вылучыць графіку напісання літар **Л** і **ꙗ** с навершшам, **Б** з паўкруглым кузавам. Палеаграфічных даных для датавання няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XII–XIII стст.

***Рысунак 125. Прарысоўка графіта № 42.***

***Графіта 43***. Надпіс з сямі літар і дваццаці адной рысачкі знаходзіцца на паўднёвай сцяне апсіды. Ён запісаны ў два радкі. У першым – імя і дванаццаць штрыхоў, у другім – астатнія дзевяць штрыхоў, якія пачынаюцца пад літарай **ꙗ** (**ѧ**). У імя сапсаваны больш познімі надпісамі пятая і палова шостай літары. І калі шостую літару можна прачытаць як **И**, то пятая, дапушчальна, **Ф**. такім чынам, імя чытаецца як **ѳелофиѧ** (Фелофей – «любящий Бога», грэч.).

***Фота 78. Графіта № 43, Фелофій.***

Палеаграфічных даных для датавання няшмат, можна вылучыць напісанне літары **Л**, з перакладзінай зверху, характэрнай як для XII, так і для XIII ст. Такое датаванне надпісу можна і пакінуць. Цікава напісанне літары **ꙗ**, якая ўключае ў сябе элементы як **ꙗ**, так і **ѧ**. Магчыма, гэта **ꙗ**, перароблёная аўтарам надпісу ў адпаведнасці з правільным напісаннем.

***Рысунак 126. Прарысоўка графіта № 43.***

***Графіта 44.*** Памінальны надпіс,запісаны ў два радкі, нанесены на паўночную сцяну алтара каля царскай брамы. У верхнім радку імя **ѳьдос**, у ніжнім – дваццаць дзевять рысачак, некаторыя з якіх аб'яднаны ўнізе агульнай рысай. Палеаграфічных даных няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XII–XIII стст.

***Фота 79. Графіта № 44, Федос.***

***Рысунак 127. Прарысоўка графіта № 44.***

***Графіта 45.*** На паўночнай сцяне ахвярніка, на вышыні 135 см ад падлогі знаходзіцца графіта, якое складаецца з двух радкоў: у першым – імя **Всили**, у другім – дзевяць рысачак.

***Фота 80. Графіта № 45, Васілі.***

Гэта таксама памінальнае графіта з запісам імя чалавека і колькасці дзён памінання. У імя прапушчана літара **ꙗ**, яно можа чытацца як «Васілій». Што датычыцца палеаграфічных даных, то іх няшмат і яны не вельмі яскравыя. Прыблізна надпіс можна датаваць XII–XIII стст. па напісанні літары **В** з вострымі роўнавялікімі петлямі.

***Рысунак 128. Прарысоўка графіта № 45.***

***Графіта 46.*** Фрагментарнае графіта знаходзіцца на паўночнай сцяне ахвярніка. Гэта імя, сапсаванае выбаінамі, захавала пачатковую і канчатковую часткі, сярэдзіна згублена.

***Фота 81. Графіта № 46, Абрам.***

На паўночнай сцяне ахвярніка на вышыні 117 см ад падлогі злева ад графіта № 93 знаходзіцца надпіс – імя **Ӑбра(м)** («Абрам») і дзесяць рысачак. Папярэднія рыскі збіты. Недастатковасць палеаграфічных даных дазваляе толькі ўмоўна датаваць надпіс XIII ст. па напісанні літар **Р** і **Б**. Каля надпісу знаходзіцца склад **Га**, задуманы як пачатак слова, або як склад – практыкаванне ў пісьме.

***Рысунак 129. Прарысоўка графіта № 46.***

***Графіта 47.*** На паўночнай сцяне алтара на вышыні 115 см ад падлогі находзіцца надпіс у адзін радок памерамі 15,5×1 см, які змяшчае імя **Павл**… і дваццаць рысачак.

***Фота 82. Графіта № 47, Павел.***

У дадзеным надпісу памінали Паўла. Графіта нанесена роўнымі, тонкімі рысачкамі, магчыма, іглой. Літары шырокія, **А** і **В** востравугольныя, **Л** і **А** зверху пакрыты рысачкамі, у літары **В** ніжняя частка заходзіць на верхнюю, што дазваляе датаваць надпіс XIII ст.

***Рысунак 130. Прарысоўка графіта № 47.***

***Графіта 48.*** Графіта, якое складаецца з двух радкоў, знаходзіцца на паўночнай сцяне ахвярніка. У першым радку – надпіс з сапсаваным канчаткам, у другім – 43 (20+23) рысачкі, якія адрозніваюцца па велічыні і з якіх не ўсе, магчыма, належаць да дадзенага надпісу.

***Фота 83. Графіта № 48, Кацярына.***

Графіта чытаецца як **К(а)тьрн** («Кацярына»?), таму што апошнія літары, калі яны меліся, сапсаваны. Палеаграфічных даных для датавання няшмат, надпіс можна ўмоўна датаваць XIII–XIV стст.

***Рысунак 131. Прарысоўка графіта № 48.***

***Графіта 49.*** Памінальнае графіта з імем **Ѳьдос** знаходзіцца на паўднёвай сцяне алтара над надпісам пра смерць караля Казіміра. Над дадзеным імем знаходзяцца дванаццаць рысачак. Палеаграфічныя даныя гэтага надпісу наступныя: літары **Ь** и **Д** напісаны без рысачак зверху, усе літары выцягнуты ў вышыню. Надпіс можна ўмоўна датаваць XIV ст.

***Фота 84. Графіта № 49, Фядос.***

***Рысунак 132. Прарысоўка графіта № 49.***

***Графіта 50.*** На паўднёвай сцяне алтара на вышыні 105 см ад падлогі знаходзіцца памінальны надпіс памерамі 7×1,5 см, які складаецца з трох радкоў.

***Фота 85. Графіта № 50, Марк.***

У першым – чатырнаццаць рысак, у другім – літары **Ма**, над якімі вынесены, верагодна, **Р** і **К**. Літары можна вызначыць прыблізна – яны пашкоджаны. На невялікай адлегласці напісана літара **К**, магчыма, яна дапісана з прычыны не вельмі атрымаўшагася над радком **К**. Дапушчальна чытаць

надпіс як «Марк». Даных для вызначэння часу напісання няшмат, умоўна можна датаваць надпіс XIV ст.

***Рысунак 133. Прарысоўка графіта № 50.***

***Графіта 51.*** На паўднёвай сцяне ахвярніка справа ад вялікага страчанага фрагмента на вышыні 91 см ад падлогі знаходзіцца памінальны надпіс з аднаго імя ў вінавальным склоне Аникеѧ («Анікея») – мужчынскага імя Іаннікій. Вышыня літар 1,5 см, надпіс прарэзаны глыбокімі лініямі. Палеаграфічных даных няшмат, надпіс можна ўмоўна датаваць XIV ст.

***Фота 86. Графіта № 51, Анікей.***

***Рысунак 134. Прарысоўка графіта № 51.***

***Графіта 52.*** На паўночнай сцяне алтара, у царскай брамы, над памінальным надпісам Кацярыны, на вышыні 106 см ад падлогі знаходзіцца надпіс у два радкі.

***Фота 87. Графіта № 52, Стефан.***

Яго памеры 6×2 см, вышыня літар – 0,7 см. Дакладней, запіс імя дадзены ў адзін радок, тры літары над ім – вынасныя і да іх далучаюцца рысачкі. Графіта выканана наступным чынам: **СТЬ** – унізе, вынасныя **ФА** (штрых) **Н** і дзевяць штрыхоў – уверху. Магчыма, надпіс датуецца XIV–XV стст. па напісаннях літар **Т** і **Н**. Таксама, як і ў запісе пра Кацярыну, каля імя дзесяць штрыхоў, але першы аддзелены ад астатніх літарай **Н**. Магчыма, чалавек, які напісаў імя і памянуў Сцяпана адзін раз, вырашыў удакладніць напісанне імя і дапісаў літару **Н**.

***Рысунак 135. Прарысоўка графіта № 52.***

***Графіта 53.*** На паўночнай сцяне ахвярніка да праёма, вышэй і правей за памінальны спіс (графіта № 35), на вышыні 146 см ад падлогі знаходзіцца графіта, запісанае ў два радкі, якое ўключае ў сябе імя і рысачкі.

***Фота 88. Графіта № 53, Ніфант.***

Памеры надпісу 6×2,5 см, вышыня літар 1,8 см. Верхні радок змяшчае імя Нифонот (Ніфант). Ніжняя – дзевяць рысачак, г. зн. Ніфанта паміналі дзевяць дзён пасля смерці. Паміж двума радкамі знаходзіцца, дапушчальна, літара **А**, яна недапісана. Такім чынам, імя можа чытацца ў вінавальным склоне як «Ніфанта».

***Рысунак 136. Прарысоўка графіта № 53.***

Звяртае на сябе ўвагу ўжыванне літары **О** замест **Ъ** пасля другой **Н**. такая з'ява мае месца ў іншых графіці, яна характэрна і для наўгародскіх берасцяных грамат. Палеаграфічных прыкмет для датавання недастаткова, дапушчальна, графіта можа датавацца XIV–XV стст. На карысць гэтага сведчыць напісанне літары **Т**, левы штрых якой апускаецца да сярэдзіны, а правы – да нізу радка. Відавочна падобнасць дадзенага надпісу з надпісам «Стефан» на паўночнай сцяне алтара. У абодвух графіта падобнае напісанне літар **Т** і **Ѳ**. Літара **Т** выканана са штрыхамі рознай даўжыні. Авал літары **Ѳ** не перасякаецца гарызантальнай рысай, якая пераўтвараецца ў два вынасныя элементы па абодва бакі ад літары.

***Графіта 54.*** На паўночнай сцяне алтара пад надпісам «Югрееви», на вышыні 85 см ад падлогі знаходзіцца графіта памерамі 9×1 см, запісанае ў адзін радок: **АНТ**, якое, верагодна, прадстаўляе сабой імя Антон, і восем рысачак справа ад імя. Палеаграфічных даных для датавання няшмат. Умоўна, па напісанню літары **Т**, надпіс можно датаваць XIV–XV стст.

***Фота 89. Графіта № 54, Антон.***

***Рысунак 137. Прарысоўка графіта № 54.***

***Графіта 55.*** На паўночную сцяну алтара на вышыні 124 см ад падлогі нанесена графіта памерамі 12×16 см, вышыня літар 3 см. Надпіс складаецца з трох радкоў.

***Фота 90. Графіта № 55, архіепіскап Нафанаіл.***

Верхні змяшчае слова **Архиеп͠па**, прычым літары **АРХ** аб'яднаны ў лігатуру: злева зверху элемент літары **Х** выцягнуты і ўтварае дзве пятлі, верхняя з якіх – галоўка літары **Р**, ніжняя – кузаў літары **А**. Слова таксама змяшчае літару **С**, вынесеную пад цітла над другой літарай **П**. Ніжні радок змяшчае імя **Нафанаила**. У сярэднім радку словы **А ДНЬ** («а дзень») і дваццаць адна рысачка. Такім чынам, архіепіскапа Нафанаіла памінаілі дваццаць адзін дзень. У спісах Полацкай епархіі вядомы два Нафанаілы, адзін з якіх быў архіепіскапам з 1524 па 1533 г., другі – Нафанаіл Седліцкі-Беліцкі – з 1592 па 1595 г.

***Рысунак 138. Прарысоўка графіта № 55.***

Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць нанясення надпісу ў першай палове XVI ст. Акрамя таго, пад графіта змяшчаецца надпіс, які можа належыць да дадзенага: **Иже всєдє(.)ж/є(.)в/ъи**. Восьмая літара надпісу можа чытацца як **Є**, дзявятая сапсавана, дзясятая можа чытацца як **Є** або як **Ж**, адзінаццатая сапсавана і дванаццатая таксама варыятыўна: **Ъ** або **В**. Такім чынам, дакладна чытаецца «іжэ» – «які», «все» можа чытацца як самастойна («все державі»), так і ўваходзіць у склад слова «вседе» – «сядзе».

***Графіта 56.*** Аналагічны памінальны надпіс, які змяшчае імя епіскапа, нанесены пад папярэднім. Графіта запісана ў два радкі, яго параметры 10×14 см, вышыня літар ад 2 да 4 см.

***Фота 91. Графіта № 56, архіепіскап Ефімій.***

У першым – слова **Архиеп͠па**, **С** вынесена пад цітла паміж дзвюма літарамі **П**. Літара **Р** утворана, як і ў папярэднім надпісу, з дапамогай пятлі на левым верхнім элеменце літары **Х**. У другім радку запісана імя **Єфимь**. Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць нанясення надпісу ў першай палове XVI ст. На карысць гэтага датавання сведчыць і сам змест надпісу. Ефімій Акушковіч-Боссі быў архіепіскапам з 1504 па 1512 г. Такім чынам, надпіс можна ўмоўна лічыць датаваным.

***Рысунак 139. Прарысоўка графіта № 56.***

***Графіта 57.*** Таксама ўмоўна датаваны XVI ст. надпіс з двух радкоў знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара на вышыні 157 см ад падлогі. Графіта чытаецца як **Митрополита Иосифа**.

***Фота 92. Графіта № 57, мітрапаліт Иосіф.***

Тут маецца на ўвазе Іосіф III Русін, што перад пастрыжэннем быў жанаты і меў двух сыноў, якія знаходзіліся на службе ў польскага караля. З 1516 г. Іосіф быў полацкім архіепіскапам, з 1522 г. пасля смерці мітрапаліта кіеўскага Іосіфа Солтана быў выбраны на мітраполію, а ў 1523 г. уведзены ў сан мітрапаліта Кіеўскага. Сучаснік Канстанціна Астрожскага, мітрапаліт Іосіф памёр у 1534 г., і надпіс, па ўсёй верагоднасці, нанесены пасля ягонай смерці.

***Рысунак 140. Прарысоўка графіта № 57.***

***Графіта 58.*** На паўночнай сцяне дыяканніка, пад памінальным запісам пра Калініка знаходзіцца надпіс, імя ў якім зацерта. Можна разабраць толькі першую літару Є, ад дзвюх наступных засталіся толькі ніжнія канцы мачт і аднавіць іх немагчыма. Добра захаваліся толькі рысачкі справа ад імя, яны нанесены ў адзін радок, іх колькасць – 15.

***Графіта 59.*** Фрагментарны надпіс, які таксама прадстаўляе імя, знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара. Ён чытаецца як Є/Олє, таму што могуць быць варыянты прачытання першай літары як Є або як О.

***Фота 93. Графіта № 59, фрагментарнае графіта.***

Імя адпаведна можа быць мужчынскім (Алег) або жаночым (Олена або Елена). Дадзенага чалавека паміналі чатыры дні, аб чым сведчыць чатыры рысачкі справа ад імя. Даных для датавання няшмат, па напісанню літар надпіс можна ўмоўна датаваць XIV ст.

***Рысунак 141. Прарысоўка графіта № 59.***

***Графіта 60 і 61.*** У якасці памінальных надпісаў, верагодна, былі нанесены графіці, падобныя па сваім напісанні.

***Фота 94. Графіці № 60 і 61.***

У абодвух выпадках замест імя напісана літара Ѧ. Надпісы нанесены ў розных месцах: на паўночнай сцяне алтара і на паўночнай сцяне ахвярніка, справа ад памінальнага графіта № 35. У алтарным надпісе Ѧ нанесена ў цэнтры, зверху і справа знаходзяцца дваццаць чатыры рысы, знізу і злева – дзевяць. Вызначыць дату напісання немагчыма з-за нешматлікасці даных.

***Рысунак 142. Прарысоўка графіці № 60 і 61.***

***Графіта 62.*** На паўднёвай сцяне алтара, пад графіта № 40, нанесена графіта, якое сапсавана. Яно складаецца са слова і адзінаццаці рысачак. Па аналогіі з папярэднімі надпісамі можна сцвярджаць, што тут запісана імя.

***Фота 95. Графіці № 62.***

Добра чытаецца толькі першая літара **И**, у радку знаходзяцца яшчэ дзве і над радком паміж першай і другой літарамі адна пашкоджаная. Улік колькасці літар дае ўмоўную магчымасць прачытання надпісу як імя **Иван**.

***Рысунак 143. Прарысоўка графіта № 62.***

***Графіта 63.*** Графіта, сапсаванае ў пачатку слова (а таму не паддаецца прачытанню) нанесена на паўночную сцяну ахвярніка на вышыні 116 см ад падлогі, памеры надпісу 4,5×4 см, вышыня літар 1 см.

***Фота 96. Графіці № 63.***

Яно складаецца з трох радкоў: у сярэднім – асноўны надпіс з чатырох літар, першыя дзве з якіх сапсаваны, дзве наступныя – **ВѴ**, зверху – дзве вынасныя –

**ло**, унізе дзевяць рысачак. Вынасныя літары маглі знаходзіцца як ў сярэдзіне, так і ў канцы слова, якое магло чытацца як ****ловү** або ****вүло**. Палеаграфічных даных няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XIV ст.

***Рысунак 144. Прарысоўка графіта № 63.***

**Имёны і запісы тыпу «тут быў»**

Імёны, якія запісаны ў назоўным склоне, выклікаюць пытанні: ці хацеў чалавек запісаць сваё імя для памінання, ці ён проста зрабіў надпіс пра сваё знаходжанне ў дадзеным месцы? Хутчэй, яго мэтай быў другі варыянт. Надпісы такога тыпу больш характэрныя для позняга часу, іх пачынаюць наносіць у алтарнай частцы з XIV ст.

***Графіта 64***. На заходняй сцяне праёма паміж алтаром і ахвярнікам на вышыні 104 см ад падлогі знаходзіцца графіта, памеры якога 31×35 см і якое чытаецца наступным чынам: **Здє былы Сава пономаръ да спотык(ис)ни(м)ъ/ да** …**(а)лекахы Ба** … **просити**. Агульны змест зразумелы. Тут быў панамар Савва, але з кім, дакладна прачытаць нельга. Пасля слова «панамар» ідзе слова «да», верагодна, у значэнні злучніка «і». Лагічна было б ужыванне пасля злучніка імя або мянушкі. Тут узнікаюць пытанні наконт прачытання наступнага фрагмента, які, верагодна, чытаецца як «Спотыкнін». Наступны радок пачынаецца фрагментам «да…», які таксама можа тлумачыцца як злучнік (тады размова ідзе пра трох чалавек), або як імя да мянушкі ў першым радку. Наступнае слова таксама можа быць фрагментарным, а можа чытацца цалкам. «Лекахы» – «лекі», а можа «выздараўленне» маецца на ўвазе ў гэтым слове. Наступнае слова «Бога» скарочана пад цітлам. Апошняе слова надпісу чытаецца дакладна – «прасіць», а вось слова перад ім сапсавана. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што дадзенае графіта з'явілася ў выніку знаходжання тут панамара Савы з нейкімі людзьмі з азначанай мэтай – прасіць Бога аб выздараўленні або леках. Палеаграфічныя прыкметы надпісу сведчаць на карысць датавання XIV ст.

***Фота 97. Графіта № 64, надпіс панамара Савы.***

***Рысунак 145. Прарысоўка графіта № 64.***

***Графіта 65***. Вельмі дробнымі літарамі нанесены на ўсходнюю сцяну праёма паміж алтаром і ахвярнікам фрагментарны надпіс, пачатак якога, верагодна, уяўляў сабой імя і быў згублены.

***Фота 98. Графіта № 65, надпіс Дзімітрыя.***

Наступнае імя чытаецца цалкам, увогуле надпіс гучыць як: …**Димитр писал Єгор здє**, г. зн. «Дзімітры пісаў, Ягор тут». Па палеаграфічных прыкметах надпіс можна датаваць XV ст. Па стылі напісання графіта вельмі блізкае да надпісу пра «слядок».

***Рысунак 146. Прарысоўка графіта № 65.***

***Графіта 66***. Імя **Игнат** нанесена на паўночную сцяну алтара на вышыні 107 см ад падлогі, справа ад памінальнага надпісу Паўла.

***Фота 99. Графіта № 66, Ігнат.***

Памеры надпісу 12×4 см, вышыня літар 2,3 см. Асаблівасцямі надпісу з'яўляецца няправільнае напісанне літары **И**, спачатку як **Н**, а затым перапраўленае на **И**, а таксама вынасная літара **Т**, якая знаходзіцца паміж **Н** і **А**. Палеаграфічных даных няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XIV–XV стст. па напісанні літары **Т** і перакладзіны **И**.

***Рысунак 147. Прарысоўка графіта № 66.***

***Графіта 67.*** На паўночнай сцяне алтара, справа ад праёма на вышыні 107 см ад падлогі знаходзіцца графіта, якое складаецца з двух слоў, першае з якіх фрагментарнае, складаецца з дзвюх літар, **Ѡ** і, дапушчальна, **Г**. Яго значэнне незразумела. Магчыма, гэта спроба напісаць наступнае імя, якое чытаецца як **Євагрко**, г. зн. памяншальная форма ад Евагрый.

***Фота 100. Графіта № 67, Евагрый.***

Надпіс можа не належыць да памінальных, ён мог быць нанесены і самім Еваргыям. Палеаграфічныя асаблівасці, у прыватнасці, напісанне літар **Є**, **К**, **Р**, сведчаць на карысць датавання надпісу XV ст., **Ѡ** – на карысць XVI ст. Сукупна графіта можна датаваць XV ст.

***Рысунак 148. Прарысоўка графіта № 67.***

***Графіта 68***. Графіта, якое складаецца з аднаго слова, нанесена на ўсходнюю сцяну праёма паміж алтаром і ахвярнікам вышэй і правей за графіта № 114. Гэта імя **Милян**. Чатыры літары імя напісаны ў радку, **Н** вынесена над радком паміж літарамі **Л** і **Ѧ**.

***Фота 101. Графіта № 68, Мілян.***

Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XVI ст. Імя Мілян характэрна для заходнеславянскай моўнай групы, а дакладней, для сербскай мовы. Імя і прозвішча Мілян сустракаюцца таксама на Украіне, Польшчы. У дадзеным графіта можа быць запісана як імя, так і прозвішча чалавека, утворанае ад слова «мілы».

***Рысунак 149. Прарысоўка графіта № 68.***

***Графіта 69***. Кірылічны надпіс, які з'яўляецца імем, нанесены на паўднёвую сцяну алтара. Гэта імя **Даниєль**.

***Фота 102. Графіта № 69, Даніель.***

Палеаграфічныя даныя сведчаць на карысць датавання XVI ст. на падставе напісання літар **Д**, **Є**, **Ь**. Хутчэй за ўсё, надпіс быў нанесены пасля перадачы царквы езуітам. Аб гэтым сведчыць напісанне імя: калі б чалавек быў праваслаўны, яго імя пісалася б як «Данііл».

***Рысунак 150. Прарысоўка графіта № 69.***

***Графіта 70.*** Графіта, напісанае ў два радкі і складзенае з імя, імя па бацьку і прозвішча, знойдзена на паўднёвай сцяне алтара пад графіта № 76. Чытаецца яно як **Гавр҃ило Бог҃данович҃ Вол(ч/ц)ин** (Гаўрыла Багданавіч Вол(ч/ц)ын).

***Фота 103. Графіта № 70, Гавріло Богдановіч Волцын.***

Па палеаграфічных даных надпіс можна аднесці да XVII ст. Характэрным з'яўляецца напісанне літар **Б**, **Д** і, асабліва, **В**, якая падобна на **О**, перакрэсленае пасярэдзіне.

***Рысунак 151. Прарысоўка графіта № 70.***

*Графіта 71.* Графіта, якое складаецца з імя і «прозвішча», нанесена на паўночную сцяну алтара ў царскіх брам. Другое слова напісана дастаткова ясна – «Селивонович». Першае слова, імя, пашкоджана.

***Фота 104. Графіта № 71, Селівонавіч.***

Магчыма, яно чытаецца як «Иван», калі апошняя літара, вынесеная пад цітла, **Н**. Аднак магчыма іншае прачытанне імя, калі літара, якой пачынаецца слова, **Ѡ**. Надпіс можна датаваць XVI ст. паводле напісання літар **В**, вынасной **Ч**.

***Рысунак 152. Прарысоўка графіта № 71.***

*Графіта 72.* На паўднёвай сцяне ахвярніка, на вышыні 81 см ад падлогі знаходзіцца надпіс, памеры якога складаюць 19×3,5 см, а вышыня літар 1,3 см. Графіта чытаецца як **(Н)икола (Д)митрович Но/ро** – імя, імя па бацьку і частка прозвішча.

***Фота 105. Графіта № 72, Нікола Мітровіч.***

Графіта можна датаваць XVI ст. на падставе сукупных прыкмет графікі літары **К**, напісанай у выглядзе амаль паралельных ліній, **В** калачыкам, **Ч**.

***Рысунак 153. Прарысоўка графіта № 72.***

*Графіта 73.* На апсідзе храма з левага боку на вышыні 230 см ад падлогі размешчаны надпіс: **ꙗ Маркꙗнови попъ попъ** – «Я – Маркіян-поп». Даўжыня надпісу 10 см.

***Фота 106. Графіта № 73, поп Маркіян.***

Графіта выканана ў два радкі, у другі радок вынесена слова «поп». Палеаграфічныя прыкметы сведчаць на карысць нанясення надпісу ў XVI ст. Гэта Р, якая ляжыць над радком, асаблівасці напісання літар **М**, **А** і **Ъ**.

***Рысунак 154. Прарысоўка графіта № 73.***

*Графіта 74.* Раскошны датаваны надпіс, нанесены ў апсідзе алтарнай частцы на вышыні 3 м ад падлогі, прадстаўляе сабой паўкруглы картуш з аздабленнем унізе, шырынёй 40 см. Вельмі выразна, шырокімі тлустымі, прарэзанымі ўглыб лініямі пасярэдзіне картуша нанесена імя: **Тимофеи Афанасовичъ Наръбутъ**.

***Фота 107. Графіта № 74, Нарбут.***

Унізе тонкімі лініямі дапісана: **року ҂ахві и/юн фі**. Такім чынам, надпіс датаваны 19 чэрвеня 1612 г. Асаблівасцямі напісання з'яўляюцца вынесенае над літарай **М** маленькае **О**, напісанне **Ѳ** замест **Ф** у слове «Афанасовіч», літары **А**, падобныя на **Я** ў гэтым жа слове, маленькія літары **Ъ**, напісаныя каля літар **Р** і **Т**, а таксама ўжыванне **Ъ** пасля **Ч** у слове «Афанасовіч», што, верагодна, звязана з вымаўленнем гэтага слова з цвёрдым канчаткам.

***Рысунак 155. Прарысоўка графіта № 74.***

*Графіта 75.* Надпіс, які датуецца, хутчэй за ўсё, XVII ст., нанесены на паўднёвую сцяну дыяканніка. Гэта імя і імя па бацьку **Ананиꙗ Иванович**.

***Фота 108. Графіта № 75, Ананія Івановіч.***

***Рысунак 156. Прарысоўка графіта № 75.***

*Графіта 76.* На паўднёвую сцяну апсіды вялікімі літарамі даволі нядбайна і размашыста нанесены надпіс – імя **Феѡдосеи** («Феадосій»), якое можна датаваць XVII ст. на падставе напісання літар **Ф** як лацінскага f і **И** як лацінскага n.

***Фота 109. Графіта № 76, Феадосій.***

***Рысунак 157. Прарысоўка графіта № 76.***

***Графіта 77.*** Імя **ГєраΣимъ** выразана ў праёме паміж дыяканнікам і алтаром на адлегласці 128 см ад падлогі, вышыня літар 3 см, даўжыня надпісу – 8 см. Гэта ўласнае імя можна датаваць XVII ст. на падставе напісання грэчаскай літары Σ замест **С**, што часта сустракаецца ў эпіграфіі дадзенага стагоддзя. Да таго ж, пад імем выразана лічба 1688, якая можа належаць гэтаму надпісу.

***Фота 110. Графіта № 77, Герасім.***

***Рысунак 158. Прарысоўка графіта № 77.***

***Графіта 78.*** На паўднёвай сцяне алтара на вышыні 95 см ад падлогі знаходзіцца позні датаваны кірылічны надпіс, які змяшчае імёны, запісаныя ў слупок, і год нанясення надпісу: Юстынъ/Александр/Илья/Доммель/1832 года/11 мая.

***Фота 111. Графіта № 78, Юстын, Аляксандр...***

***Рысунак 159. Прарысоўка графіта № 78.***

## Надпісы-малітоўныя прашэнні

Надпісы-малітоўныя прашэнні запісваліся аднатыпна: «Госпадзе, дапамажы рабу (рабе) свайму (сваей) імя». У некаторых выпадках сустракаюцца адхіленні, аднак большасць малітоўных графіці прытрымліваецца дадзенай формулы.

Трэба адзначыць, што гэтая малітва павінна была дапамагаць жывым людзям. У большасці выпадкаў яна наносілася самім чалавекам, хаця магла наносіцца і за другога чалавека, якому патрэбна была дапамога.

***Графіта 79.*** Таксама на паўночнай сцяне алтара, бліжэй да царскай брамы, злева ад алфавітнага надпісу, на вышыні 84 см ад падлогі знаходзіцца фрагментарны надпіс даўжынёй у адзін радок, памеры якога 20×1 см, вышыня літар 1 см. Графіта нанесена тонкімі лініямі. Надпіс цікавы тым, што нягледзячы на месцазнаходжанне ў алтары, ён напісаны ад імя жанчыны, хаця не змяшчае жаночага імя і мае наступны выгляд: **Помози рабь своки**.

***Фота 112. Графіта № 79, малітоўнае прашэнне.***

Цалкам дапушчальна, што надпіс нанесены не самой жанчынай, а тым, хто за яе маліўся. З асаблівасцей звяртае на сябе ўвагу ўжыванне замест **Ѣ**: **Ь** у слове «рабе» і ётаванага **Є** ў слове «своей», нягледзячы на моцную пазіцыю гэтых літар у словах. Надпіс недатаваны. Па палеаграфічных даных, а менавіта, па напісанні літар **В**, **З**, **Р** можна ўмоўна датаваць графіта мяжой XII–XIII стст.

***Рысунак 160. Прарысоўка графіта № 79.***

Такім чынам, надпісы-імёны ў назоўным склоне не характэрны для ранняга перыяду нанясення іх у алтары. Яны з'яўляюцца ў больш позні час, з XIV ст. і выконваюць ролю маркера «я тут быў», а не наносілася з малітоўнай мэтай.

***Графіта 80.*** Так, дадзенай формуле адпавядае надпіс, нанесены на паўночную сцяну алтара на вышыні 131 см. Памеры надпісу 10,5×2 см, вышыня літар 0,6 см, ён запісаны ў два радкі і мае наступны выгляд: **Гй мози ра/бу своему Сопронови**.

***Фота 113. Графіта № 80, малітоўнае прашэнне Сапрона.***

Дзве літары першага слова **Ги** ўзяты пад цітла. Далей прапушчаны цэлы склад «по», тым не менш, сэнс наступнага слова відавочны, гэта слова «помози». Слова «рабу» запісана з разрывам на двух радках, прычым на першым была зроблена спроба напісання літары **Б**, потым яна была напісана на наступным радку, хаця месца для напісання хапала. Бачна спроба напісання літары **Є** у слове «своему» двойчы. І, напрыканцы, запісана імя пісаўшага і прасіўшага аб дапамозе – «Сапрон».

***Рысунак 161. Прарысоўка графіта № 80.***

Гэта варыянт напісання імя Сафроній. Надпіс недатаваны. Што тычыцца палеаграфічных прыкмет, вызначальным з'яўляецца напісанне літар **М, З, Р, В**, якія сведчаць на карысць датавання графіта XII–XIII стст.

***Графіта 81 і 82.*** Малітоўны зварот, які пісаўшы хацеў нанесці на паўднёвую сцяну ахвярніка, застаўся недапісаным. Ён складаецца з двух аб'яднаных слоў.

***Фота 114. Графіта № 81, фрагмент малітоўнага прашэння.***

Замест звычайнага скарачэння **Ги помози** напісана **Гопоз**, што можна прачытаць як «Господи помози». Гэта не адзіны надпіс, выкананы такім чынам.

***Рысунак 162. Прарысоўка графіта № 81.***

На заходнім баку левага слупа ў дзвяры на невялікай адлегласці ад падлогі ёсць надпіс, аналагічны дадзенаму: **Гопозир** – «Господи, помози рабу (или рабе)». Абодва надпісы можна ўмоўна датаваць XIII ст., таму што датуючых прыкмет няшмат.

***Фота 115. Графіта № 82, фрагмент малітоўнага прашэння.***

***Рысунак 163. Прарысоўка графіта № 82.***

***Графіта 83.*** Надпіс, непісьменна скарочаны, знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка пад выявай чалавечка з дудой (рыс. 227). Надпіс часткова зацёрты, з яго захавалася толькі частка: **Гопомоз**, «Госпадзе, дапамажы». Гэта таксама малітоўны надпіс, у якім не захавалася, а можа, не было запісана імя.

***Фота 181. Комплекс рысункаў і надпісаў.***

***Рысунак 227. Комплекс рысункаў і надпісаў.***

***Графіта 84.*** Пад крыжам з круглымі канцамі на выяве чалавечка знаходзіцца фрагментарны надпіс, выкананы, верагодна, той жа рукою, што і крыж, а магчыма, і той жа рукою, што і папярэдні надпіс. Гэта надпіс-просьба аб дапамозе: **Гопомо**, які таксама, як і папярэдні надпіс, скарочаны непісьменна.

***Фота 116. Графіта № 84, фрагмент малітоўнага прашэння.***

***Рысунак 164. Прарысоўка графіта № 84.***

***Графіта 84а.*** Пад графіта № 42 на паўднёвай сцяне ахвярніка знаходзіцца фрагментарны малітоўны надпіс з двух радкоў: Гопомо/боусв, які таксама прадстаўляе сабой малітоўнае прашэнне.

***Фота 77. Графіта № 42, Глеб.***

***Рысунак 125. Прарысоўка графіта № 42.***

***Графіта 85.*** На заходняй сцяне праёма паміж дыяканнікам і алтаром на вышыні 50 см ад падлогі знаходзіцца малітоўны надпіс-прашэнне, які гучыць

наступным чынам: **Помози рабу своему Осию пономареви**, што значыць «(Госпадзе), дапамажы рабу свайму панамару Осію».

***Фота 117. Графіта № 85, малітоўнае прашэнне Осіі.***

Імя Осія – хрысціянскае, яно перакладаецца са старажытнаяўрэйскага як «спасанне, дапамога». Панамар Осія выконваў свае абавязкі ў храме і напісаў сваё прашэнне да Бога. Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIV ст. па напісанні літар **Д, Б, В**.

***Рысунак 165. Прарысоўка графіта № 85.***

***Графіта 86.*** На паўднёвую сцяну ахвярніка нанесены малітоўны надпіс у чатыры радкі, які моцна пашкоджаны і чытаецца наступным чынам: **Гн помози (раб)у своемоу/Иванови Одравоше/пом(о)зи … Преобра/жини(є)**, што можна прачытаць як зварот Івана Адравошы да Бога і чамусьці менавіта на Перамяненне.

***Фота 118. Графіта № 86, малітоўнае прашэнне Івана.***

Што тычыцца «прозвішча» Івана, гэта можа быць слова Адравонж (польск. Odrowaz), перароблenae ў адпаведнасці з вымаўленнем. На Беларусі герб Адравонж вядомы з XIV ст., у X ст. перанесены з Маравіі. Па летапісах вядомы Каламан Галіцкі, які з канонікам і канцлерам Іванам Адравонжам збеглі пасля разгрому войска Мсціславам у 1219 г. Імя Івана Адравонжа упамінаецца таксама ў 1471 г. у сувязі з бернардзінскім манастыром у Самборы Львоўскай вобласці. Гэта прадстаўнікі каталіцкай канфесіі. Які Іван упамінаецца ў дадзеным надпісе, ці сапраўды ён належыць да Адравонжаў і ці сам ён наносіў гэты надпіс, можна толькі меркаваць. Дакладных звестак аб гэтым у надпісе няма.

***Рысунак 166. Прарысоўка графіта № 86.***

Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIII–XIV стст. Графіта прарэзана глыбокімі, але не вельмі роўнымі і ахайнымі літарамі.

***Графіта 87.*** Малітоўнае прашэнне Сцяпана, напісанае па той жа формуле, знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка. Яно займае чатыры радкі і знаходзіцца на вышыні 81 см ад падлогі, памеры надпісу 21×6 см, вышыня літар 1,5 см. Надпіс прадрапаны глыбокімі, даволі размашыстымі шырокімі літарамі: **Гн помози ра/боу своемоу/Стефанови гре/щному** і аддзелены ад астатніх надпісаў лініямі зверху, злева і знізу, справа вялікі кавалак тынкоўкі адбіты.

***Фота 119. Графіта № 87, малітоўнае прашэнне Сцяпана.***

Асаблівасці надпісу наступныя. Слова «Господи» скарочана пад цітлам, **М** у слове «помози» шырокае, верх літары не востравугольны, хвост **З** вельмі маленькі, уся літара змяшчаецца ў радку. **Р** таксама змяшчаецца ў радку, **Д** востравугольнае, мачта літары нахілена. Такая ж востравугольная **Д** ёсць і ў слове «Стефанови», але яна «зламаная» ў сувязі з напісаннем на цвёрдай паверхні. Кузаў літары **Б** у слове «рабу» востравугольны, ён дастае амаль што да верха мачты. Гук «у» ўсюды запісаны варыянтам **ОУ**, дзе літара **У** ў адным выпадку нагадвае **Ч**, у другім запісана ў адваротны бок. У імя «Стефанови» пасля **С** замест **Ъ** стаіць **О**. Гэта не значыць, што імя трэба чытаць як «Соте-

фану», падобныя выпадкі замены Ъ на О ёсць у наўгародскіх граматах. У слове «грешному» замест Ш напісана Щ. Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIII–XIV стст.

***Рысунак 167. Прарысоўка графіта № 87.***

***Графіта 88.*** На паўночнай сцяне дыяканніка на вышыні 117 см ад падлогі таксама знаходзіцца фрагментарны малітоўны надпіс-прашэнне. Надпіс нанесены ў адзін радок. Яго даўжыня 22 см, вышыня літар 1,8 см. Надпіс пісьменны, але недапісаны: **Гн҃ помози раб**…

***Фота 120. Графіта № 88, фрагмент малітоўнага прашэння.***

Цітла слова «Господи» змешчана над літарай **Г**. Хвост літары **З** выходзіць за радок, літара **Д** з паўкруглым кузавам «стаіць» на мачте, перпендыкулярна радку. Перакладзіна літары **И** ў адным выпадку нахілена ўлева, у другім – управа. Палеаграфічных даных няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XIV–XV стст.

***Рысунак 168. Прарысоўка графіта № 88.***

***Графіта 89.*** На паўночнай сцяне алтара пад графіці № 55, 56 знаходзіцца надпіс, прадрапаны тонкімі, ледзь бачнымі рыскамі скорапісам. Надпіс гучыць як **Спаси мене гн҃ недостоиного раба свово Лазаря** – «Спасі мяне, Госпадзе, нявартага раба свайго, Лазара».

***Фота 121. Графіта № 89, малітоўнае прашэнне Лазара.***

Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XVII ст. на падставе напісання літар **В** у выглядзе літары **Ѳ**, **Є** як двух паўкружжаў, **Д** з вялікімі выцягнутымі нагамі, **Р** у выглядзе дзвюх рысак.

***Рысунак 169. Прарысоўка графіта № 89.***

***Графіта 90.*** Таксама на паўднёвай сцяне алтара знаходзіцца графіта – малітоўнае прашэнне, аналагічнае папярэдняму, запісанае ў адзін радок і маючае такое ж датаванне XVII ст.: **Спасє мене нєдостонаго Ларика**, г. зн. «Спасі мяне нявартага Ларыка».

***Фота 122. Графіта № 90, малітоўнае прашэнне Іларыёна.***

Ларык, па ўсёй верагоднасці, – гэта Іларыён. У надпісу дапушчаны шэраг памылак, напісана «спасе» замест «спасі», «недостонаго» замест «недостойнаго».

***Рысунак 170. Прарысоўка графіта № 90.***

***Графіта 91.*** Злева ад царскай брамы прарэзаны надпіс, які адразу звяртае на сябе ўвагу, таму што прарэзаны вялікімі літарамі на даволі высокай адлегласці ад падлогі. Позні надпіс, які можна датаваць XVII ст., запісаны ў пяць радкоў і чытаецца наступным чынам: **Ѡ царꙋ Хрїстє Спасє/даж ми Филіпꙋ ра/зꙋмъ циломꙋдъ/риє творити волю/твѡю** – «О царю Хрысце Спасе дай мне Філіпу розум, цнатлівасць каб тварыць волю тваю».

***Фота 123. Графіта № 91, малітоўнае прашэнне Філіпа.***

Для графіта характэрны надрадковыя знакі – «оковавы» – дзве паралельныя нахіленыя рыскі. У надпісу адлюстраваны рысы мясцовага вымаўлення: цвёрды «р» – «цару» і цвёрды «ж» – «даж», а ў напісанні – ужыванне «дзеся-

цярычнага і» ў словах разам з «васьмярычным і»: «Хрісте», «Филіпу». Па палеаграфічных прыкметах надпіс можна датаваць XVII ст.

***Рысунак 171. Прарысоўка графіта № 91.***

Такім чынам, малітоўныя надпісы застаюцца амаль у нязменным выглядзе з XII да XVII ст. Нават калі царква не дзейнічала па сваім прамым прызначэнні, людзі працягвалі пакідаць у ёй свае малітоўныя прашэнні. У гэтым кардынальнае адрозненне кірылічных надпісаў такога тыпу ад агульнай колькасці лацінскіх надпісаў. Царква ва ўспрыманні праваслаўных вернікаў працягвала сваё існаванне як Божы дом, нягледзячы на адсутнасць у ёй набажэнстваў.

## Надпісы, звязаныя з набажэнствам

Надпісы, звязаныя з набажэнствам, – неад'емная частка графіці алтара Спаса-Праабражэнскай царквы. Веданне малітваў, тэкстаў набажэнстваў – неабходная ўмова службы святара. Малітвы і богаслужэбныя тэксты заўсёды былі ў памяці, але часам патрабаваліся пісьмовыя памяткі. Рэаліі царкоўнага жыцця таксама знаходзілі адлюстраванне ў надпісах.

***Графіта 92.*** Царкоўнага жыцця тычыцца графіта, нанесенае на паўночную сцяну дыяканніка. Яно знаходзіцца на вышыні 134 см ад падлогі, напісана ў адзін радок даўжынёй 36 см. Вышыня літар надпісу 0,8 см. Графіта чытаецца наступным чынам: **Проскоүры о(ү) соүбътоү мѧсопоүсетъноюсетною** – «Проскуры у субботу мясопусьтъную (сьтъную)» – «Просвіры ў суботу посную».

***Фота 124. Графіта № 92, надпіс аб праскурах.***

У дадзеным графіта ўзгадваюцца просвіры – маленькія круглыя баханачкі, з якіх на праскамідыі (частцы праваслаўнага богаслужэння) вымаюцца часцінкі з малітвамі за жывых і памерлых. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе памінанне памерлых, таму што ўпамінаецца посная субота. Праваслаўнай царквой устаноўлены спецыяльныя дні памінання – «вселенские родительские субботы», у якія людзі моляцца за ўсіх памерлых праваслаўных людзей і асабліва за тых, хто памёр без пакаяння. Посная субота з'яўляецца адной з такіх субот, таму што посны тыдзень служыць пераднапамінам Страшэннага суда, за ім ідзе Вялікі пост.

***Рысунак 172. Прарысоўка графіта № 92.***

Трэба вылучыць некаторыя асаблівасці надпісу. Першае, што звяртае на сябе ўвагу, гэта паўтарэнне часткі апошняга слова. Складваецца ўражанне: графіта было настолькі старанна запісана, што гэта прывяло да паўтарэння апошняга слова. Надпіс выкананы акуратна, хаця, улічваючы матэрыял, на якім ён выкананы, радок атрымаўся не роўным, а хвалепадобным. Палеаграфічна графіта можна датаваць канцом XII – пачаткам XIII ст. У надпісу мае месца замена **Ь** на **Є**.

***Графіта 93.*** Даволі пашыранае графіта, якое ўключае ў сябе фрагменты богаслужэбных тэкстаў, размешчана на паўночнай сцяне ахвярніка на вышыні 117 см ад падлогі. Яно складаецца з дзвюх частак. Памеры правай 9×6 см, левай – 9×7 см, вышыня літар 0,5 см. Нягледзячы на тое, што надпіс моцна пашкоджаны глыбокімі вертыкальнымі лініямі, ён даволі добра бачны. Левы бок надпісу чытаецца наступным чынам: **чт҃ъ ф҃ты/ȣразȣми/избави мѧ.**

***Фота 125. Графіта № 93, «час 6,9», «услышы».***

Далей пад рысай знаходзяцца літары, якія даволі складана інтэрпрэтаваць у тэкст. Першае слова «час» – частка богаслужэння. Часы бываюць першы, трэці, шосты і дзявяты. У дадзеным выпадку пасля слова «час» напісана літара **Ф**, якая абазначала лічбу 500. Справа ў тым, што той, хто пісаў, пераблытаў літары. **Ф**, як і **Ѳ**, абазначала гук «ф», але розныя лічбы – 500 і 9 адпаведна. Такім чынам, быў запісаны той жа гук, але іншая лічба. Словы, якія запісаны ў другім і трэцім радку, змяшчаюцца ў сціхе першым і другім, якія чытаюцца пасля трапара гласа восьмага: «Стих 1. Да приближится моление мое пред тя, Господи, по словеси твоему **вразѵми** мя. Стих 2. Да внидет прошение мое пред Тя, Господи, по словеси Твоему **избави мя**». Такім чынам, надпіс чытаецца як «час 9-ты вразуми, избави мя».

***Рысунак 173. Прарысоўка графіта № 93, 94.***

Справа запісаны фрагменты іншага часу, шостага. Аднак у лічбе зноў дапушчана памылка: літара **Ѕ** павернута ў адваротны бок. У цэлым правая частка чытаецца наступным чынам: **Ѕ҃ ча҃ъ/ѹслышит/гла҃съ мои**. Апошні радок запісаны пад вялікай рысай, хаця дадзеная рыса можа аказацца не працягам левай часткі графіта, а цітлам над скарочаным словам «глас». Надпіс чытаецца як «6 час услышит глас мой». Гэта словы з псалма 54, які чытаецца ў шосты час: «Вечер и заутра, и полудне повем и возвещу и **ѵслышит глас мой**».

***Графіта 94.*** Ніжэй за дадзенае графіта, пад правай яго часткай, напісаны тры словы, яны займаюць два радкі: **Ѵослоши/и въразоѹ**, г. зн. «услышы і ўразумі». Гэтыя словы спісаны з папярэдніх іншым почыркам. Аднак напісаны яны, нягледзячы на перайманне, напісьменна. Замест **Оѵ**, якая перадавала гук «у», напісана **Ѵо**, замест **Ы – о**, у слове «вразуми» замест **Оѵ** напісана **Оѹ**, якія не пісаліся разам, таму што **ѹ** і ёсць аб'яднанне **о** і **ѵ** і абазначала гук «у». хаця аўтары графіці часам блыталі дадзеныя літары і не ўспрымалі **ѹ** як лігатуру. Прыкладам таму могуць служыць графіці № 25 і № 129 Кіеўскага Сафійскага сабора[599].

Надпісы можна датаваць XII ст. па палеаграфічных даных на падставе графікі літары **Ч** з шырока, пад вуглом пастаўленым кубачкам; **В** з вострай верхняй і больш акруглай ніжняй часткай; **З** з хвастом, адведзеным у бок і ўніз; **М** са зрэзаным верхам і акруглай перакладзінай да нізу радка.

***Графіта 95.*** Яшчэ ніжэй за дадзенае графіта знаходзіцца надпіс, які падобны на папярэдні і змяшчае малітоўны зварот да Бога, але ў яго складзе чатыры словы, кожнае з якіх запісана ў новым радку: (**Ги**?). **єли/въразоѵ/изъбави/оѵслыши**.

***Фота 126. Графіта № 95, «вразумі, ізбаві».***

Першае слова складанае для чытання, яго канчатак чытаецца як «ели», магчыма, «исцели». Наступныя словы добра чытаюцца, іх сэнс зразумелы, нягледзячы на тое, што другое слова не дапісана. Гэта «уразумі, пазбаў, услыш».

---

[599] Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 47.

***Рысунак 174. Прарысоўка графіта № 95.***

Такім чынам, перад намі малітоўнае прашэнне да Бога пачуць малітву пісаўшага чалавека, наставіць яго на правільны шлях, пазбавіць ад смутку і нягод. Усе гэтыя словы ўваходзяць у склад кананічных малітваў, яны заўсёды былі на слыху чалавека, таму ён з лёгкасцю скарыстаў іх у малітоўным надпісу. Аднак уяўляецца магчымым, што ўзорам для напісання гэтай малітвы сталі папярэднія надпісы. Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XIII ст.

***Графіта 96.*** Яшчэ адзін надпіс, які складаецца з дзвюх частак і таксама ўяўляе фрагмент царкоўнага тэксту, знаходзіцца на паўночнай сцяне дыяканніка. Ніжняя яго частка прадстаўляе паўтарэнне фрагмента верхняй часткі надпісу. Верхняя частка надпісу знаходзіцца на вышыні 85 см ад падлогі, ніжняя на вышыні 78 см, даўжыня верхняга надпісу – 28 см, ніжняга – 14 см, вышыня літар – 1,5 см. Пачатак абодвух надпісаў згублены, у гэтым месцы адбіты значны кавалак тынкоўкі. Частка надпісу, якая захавалася, мае наступны выгляд: **ввомъ преданъ быст/мъ преданъ бъ**.

***Фота 127. Графіта № 96, «предан бысть».***

Што тычыцца зместу надпісу, дакладна можна прачытаць толькі два словы: «предан бысть» – «адданы быў». Магчыма, гэта напісанне па памяці фрагмента з 53-й главы кнігі прарока Ісайі: «Сего ради той наследит многих и крепких разделит корысти, зане **предана бысть** на смерть душа его, и со беззаконными вменися, и той грехи многих вознесе и за беззакония их **предан бысть**». Надпіс можа быць датаваны XIII–XIV стст.

***Рысунак 175. Прарысоўка графіта № 96.***

***Графіта 97.*** На паўночнай сцяне алтара, побач з памінальным надпісам пра Паўла, змяшчаецца надпіс з двух слоў, якія змяшчаюць, як нам уяўляецца, фрагмент богаслужэбнага тэксту. Першае слова пашкоджана, яно можа чытацца як **възва(χ)а**. Другое недапісана, яно чытаецца як **Погы**, што можа азначаць «погибель», «погибнуть» і вытворныя ад гэтых слоў.

***Фота 128. Графіта № 97.***

На паўночнай сцяне алтара пад графіта № 47 запісана фрагментарнае графіта. Дапушчальна, гэта мог быць запісаны глас чацвёрты, сціх Вялікага пакаяннага канона, які чытаецца ў сераду першага тыдня Вялікага посту: «Воззвах к тебе, Господи... Господи, прежде даже до конца погибну, спаси мя» або сціхіра на «Господи, воззвах» (якія называюцца таксама «Воззвахи») на псалом 141: «Гласом моим ко Господу **воззвах**, гласом моим ко Господу помолихся. Пролию пред Ним моление мое, печаль мою пред Ним возвещу. Внегда исчезати от мене духу моему, и Ты познал еси стези моя. На пути сем, по немуже хождах, скрыша сеть мне. Смотрях одесную и возглядах, и не бе знаяй мене. **Погибе** бегство от мене, и несть взыскаяй душу мою. Воззвах к Тебе, Господи, рех: Ты еси упование мое, часть моя еси на земли живых. Вонми молению моему, яко смирихся зело: избави мя от гонящих мя, яко укрепишася паче мене».

***Рысунак 176. Прарысоўка графіта № 97.***

Надпіс прарэзаны даволі глыбока вострым прадметам, па напісанні літар **Ъ**, **В**, **З** ён можа быць датаваны XIII–XIV стст.

***Графіта 98.*** Спрэчныя чытанні выклікае таксама графіта, якое знаходзіцца вышэй, злева ад графіта № 80 і складаецца з двух радкоў: **Нѣтъ пальи**.

***Фота 129. Графіта № 98, «нет палеі».***

З аднаго боку, можна патлумачыць надпіс адсутнасцю палёў, аднак надпіс можна патлумачыць і ў сувязі з царкоўным бытам. Магчыма, мелася на ўвазе Палея – тлумачальнік або зборнік кароткіх тэкстаў Старога Запавету, якога чамусьці не было. Гэты факт знайшоў адлюстраванне ў графіта. Палеаграфічных прыкмет у дадзеным надпісу няшмат, умоўна надпіс можна датаваць XIII–XIV стст.

***Рысунак 177. Прарысоўка графіта № 98.***

***Графіта 99.*** Злева ад надпісу пра пакаранне папа на паўднёвай сцяне дыяканніка на вышыні 123 см ад падлогі знаходзіцца графіта даўжынёй 44 см, вышыня літар 2 см, якое прадстаўляе сабой фрагмент богаслужэбнага тэксту, не дапісанага да канца. Увесь надпіс пашкоджаны, таму сэнс яго аднаўляецца па ацалелых літарах.

***Фота 130. Графіта № 99.***

Графіта мае наступны выгляд: **Бл҃славидш҃(є)(м)оѧ(...)г҃ибжевозвѣ**, што чытаецца як фрагмент Усяночнага дбання, вялікай вячэры, а менавіта псалом 103, перадпачынальны, які чытаецца кананархам і паўтараецца хорам: «Благослови, душе моя, Господа (Благословен еси, Господи). Господи Боже мой, возвеличился зело». У дадзеным выпадку ў надпісу прысутнічаюць некалькі слоў, скарочаных пад цітламі: «благослови», «душе», «Господи», «Боже». Слова «возвеличился», якое заканчвае графіта, не дапісана, на ім надпіс абрываецца.

Унізе, пад дадзеным надпісам, той жа рукою дапісана слова **Стєхи(р)а**. Сціхіра – кароткае песнапенне, якое пяецца на верш псалма. У сціхірах гучыць тэма падзеі, якая ўзгадваецца. Першая палова сціха чытаецца кананархам, другая – пяецца хорам, пасля чаго пяецца сціхіра.

Па палеаграфічных даных можна аднесці да XV ст. на падставе напісання літар **Т**, **ѣ**, **Д**. Цікавае напісанне слова «Боже»: літара **Б** змешчана пад загнутым уніз канцом левай верхняй перакладзіны **Ж**, як бы «павіснуўшы» на ёй.

***Графіта 100.*** На паўночнай сцяне алтара пад алфавітам находзіцца графіта з аднаго слова: **Оүнемли**, «внемли, услышь». Па нешматлікіх палеаграфічных даных на падставе напісання літар **Є** і **Ү** надпіс можна датаваць XV ст.

***Фота 131. Графіта № 100, «унемлі».***

***Рысунак 179. Прарысоўка графіта № 100.***

***Графіта 101.*** На заходняй сцяне паўночнага праёма паміж ахвярнікам і алтаром графіта, якое складаецца з двух радкоў, мае наступны выгляд: **В пон҃ г҃ь бо үслышить мѧ/вторник мл҃ть**, г. зн. «У панядзелак – «Господь бо услышит мя», ва ўторак – «милость». Дадзеныя фрагменты з'яўляюцца памяткай, што і калі трэба чытаць на богаслужэнні, а менавіта на вячэрні. Словы, якія ідуць

пасля слова «понедельник», – частка пракімна пасля псалма 116 – «Господь услышит мя, егда взову к нему», чытаюцца ў панядзелак. Пасля «вторник» ідзе слова «милость». Пасля таго ж псалма на вячэры ў аўторак ідзе пракімен: «Милость Твоя, Господи, поженет мя, во вся дни живота моего».

***Фота 132. Графіта № 101, «у панядзелак, аўторак».***

Графіта знаходзіцца на вышыні 96 см ад падлогі, яго памеры 20×7 см, вышыня літар 1,5 см. Да асаблівасцей напісання належаць скарачэнне слова «понедельник» у выглядзе трох літар **ПОН**, з **Н**, вынесеным пад цітла, якое мае выгляд вугалка.

***Рысунак 180. Прарысоўка графіта № 101.***

Таксама і слова «Господь» – літарамі **Г** і **Ь**, вынесенай пад цітла. У слове «вторник» **К** вынесена над літарамі **НИ**, слова «милость» таксама скарочана **МЛТЬ**, **С** вынесена пад цітла паміж літарамі **ЛТ**. Па палеаграфічных даных надпіс можна датаваць XV–XVI стст. па напісанні літар **В**, **Т**, **К**.

***Графіта 102 і 103.*** Такі надпіс знаходзіцца і на супрацьлеглай, усходняй сцяне. Аднак графіта не было напісана адразу. Вышэй за канчатковае напісанне зроблена спроба нанясення гэтага надпісу, але ён не дапісаны: **в по го б**, г. зн. «у панядзелак Гасподзь бо…».

***Фота 133. Графіта № 102.***

***Фота 134. Графіта № 103.***

І толькі ніжэй нанесены надпіс, аналагічны графіта на паўночнай сцяне: **в пон гь оуслишить мѧ/вт(о)рни(к) млт…**

***Рысунак 181. Прарысоўка графіта № 102.***

***Рысунак 182. Прарысоўка графіта № 103.***

***Графіта 104.*** На паўночнай сцяне алтара каля царскай брамы на вышыні 95 см ад падлогі знаходзіцца графіта з аднаго слова памерамі 8×3 см, якое складаецца з аднаго слова: **Блвеніє**, г. зн. «благаславенне».

***Фота 135. Графіта № 104, «благаславенне».***

Слова запісана пад хвалепадобным цітлам. Літары трошкі памяншаюцца да канца слова. Кузаў першай літары **Б** аздоблены зверху і знізу дзвюма паралельнымі рыскамі. Язычкі **Є** падняты ўверх, перакладзіна **Н** паднята ў верхнюю частку літары і скошана. Над літарай **І** – дзве паралельныя касыя рысачкі. Па палеаграфічных даных надпіс датуецца XVI ст.

***Рысунак 183. Прарысоўка графіта № 104.***

***Графіта 105.*** На заходнюю сцяну праёма паміж алтаром і ахвярнікам нанесена графіта, якое можна прачытаць як: **А до славы** – «а да славы».

***Фота 136. Графіта № 105, «а до славы».***

Гэты надпіс абмяжоўвае багаслужэнне. Вызначаныя малітвы трэба чытаць «да славы», гэта значыць да малітвы «Слава Айцу і Сыну і Святому Духу». Палеаграфічныя асаблівасці – напісанне літар **Л**, **В**, **Ы** – дазваляюць датаваць надпіс XIV–XV стст.

***Рысунак 184. Прарысоўка графіта № 105.***

***Графіта 106.*** Надпіс, які нагадвае малітоўны, нанесены на апсіду алтара злева, пад надпісам папа Маркіана. Графіта займае тры радкі: **Ха Спаса Зба-**

**вител/р͡ша нашиго чекаю совоскресение мертвы(χ) живота вечно непос.../ ного века ами.**

***Фота 137. Графіта № 106, малітоўны надпіс.***

Надпіс уражвае прыгажосцю, а таксама малітоўнасцю асновы і накладзенымі на яе сваімі словамі. Першы радок чытаецца лёгка: «Хрыста Спаса Збавіцеля». Збавіцель – гэта і ёсць Спас («спаситель»), але той, хто пісаў, перадаў гэта слова не толькі ў стараславянскім варыянце, але і ў сучаснай яму форме. Другі радок пачынаецца словам «рша» – «казаўшага» і з гэтага слова пачынаюцца словы не ад імя Бога, якія б лагічна было напісаць як «вашага», а ад імя чалавека, пісаўшага малітву, – «нашага». Пры гэтым слова напісана так, як вымаўлялася з «і» замест «е» пасля літары **Ш**. Далей складваецца ўражанне, што чалавек, які пісаў, спалучыў дзве малітвы: частку малітвы «Верую» – «...чаю воскресения мертвых и жизни будущего века, аминь» і частку прасіцельнай екценні – «христианския кончины живота нашего, безболезнены, непостыдны, мирны и доброго ответа на Страшнем Судищи Христове просим».

***Рысунак 185. Прарысоўка графіта № 106.***

Спачатку малітва нагадвае «Верую», але на слове «жизни», якое абазначаецца ў тым ліку і словам «живот», думка перайшла на фрагмент прасіцельнай екценні і атрымалася не «кончины», а менавіта «живота непос(тыдного мир) ного», пасля гэтага – зноў зварот да малітвы «Верую» і канчатак «века ами(нь)». Так, на аснове фрагментаў завучаных малітваў атрымаўся новы малітоўны надпіс. Што тычыцца палеаграфіі надпісу, паказальным з'яўляецца напісанне літар **Ж**, **Ч**, **Є**, **Б**, **В**, якое дазваляе датаваць надпіс XVII ст.

## Алфавітныя графіці

Часцей азбучныя надпісы наносіліся не цалкам, а часткамі. На карысць таго, што гэты запіс – частка алфавіта, сведчыць больш-менш правільная паслядоўнасць літар у ім. Алфавіт мог быць нанесены вучнямі пачатковай школы пры храме, якія дапамагалі падчас набажэнстваў.

***Графіта 107.*** Алфавітных надпісаў, знойдзеных на сценах алтара, чатыры. Да іх можна аднесці з вялікай нацяжкай літару **А** на заходняй сцяне праёма паміж дыяканнікам і алтаром.

***Фота 138. Графіта № 107, літара А.***

Дадзеная літара знаходзіцца на вышыні 45 см ад падлогі, вышыня літары 25 см, шырыня – 20 см. Канцы літар аздоблены трохвугольнікамі і, магчыма, наўмысна аб'яднаны лініяй так, што літара ўтварае раўнабедраны трохвугольнік.

***Рысунак 186. Прарысоўка графіта № 107.***

***Графіта 108 і 109.*** Увогуле літара **А** як літара, якая пачынае алфавіт, вельмі папулярна ў графіці. Так, на заходняй сцяне праёма паміж алтаром і ахвярнікам гэтая літара нанесена шмат разоў у розных графічных варыянтах, каля літар – фрагментарны надпіс **день є** («дзень пяты»). Пераважае ўсё ж такі варыянт з тлустай мачтай, запісанай у выглядзе прамавугольніка.

***Фота 139. Графіта № 108, літара А.***

***Фота 140. Графіта № 109, літары А.***

***Рысунак 187. Прарысоўка графіта № 108.***

***Рысунак 188. Прарысоўка графіта № 109.***

***Графіта 110.*** Некалькі літар А запар як практыкаванне ў пісьме сустракаюцца пасля алфавіта каля царскай брамы і на паўднёвай сцяне ахвярніка. Прычым на паўднёвай сцяне ахвярніка над практыкаваннем у напісанні літар напісаны нечытабельны фрагментарны надпіс.

***Фота 141. Графіта № 110, практыкаванне.***

***Рысунак 189. Прарысоўка графіта № 110.***

***Графіта 111.*** Частка алфавіта з сямнаццаці літар знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара ў царскай брамы. У надпісу можна вылучыць шэсць радкоў. У першым радку прадрапаны літары **АБВГДЄЖЅЗ**. Меркавалася, што далей напісаны літары **ИІ**, аднак гэта літары **НІ** (магчыма, «і васмярычнае» заменена літарай **Н**). У другім радку – літары **КЛМНО**.

***Фота 142. Графіта № 111, алфавіт.***

Неабходна вылучыць асаблівасці напісання літар. Нягледзячы на пісанне на цвёрдай паверхні, літары «пастаўлены» ў радок. Так, літара **А** стаіць на мачце, яе невялікі кузаў злёгку выгнуты. Кузаў літары **Б** даходзіць да сярэдзіны мачты. Ножкі літары **Д** знаходзяцца ў межах радка. **Є** вузкая, язычок апушчаны ўніз. Літара **Ж** напісана ў тры прыёмы: мачта і бакавыя элементы з засечкамі. Літара **Ѕ** выцягнута ў радку, але сціснута зверху і знізу. Магчыма, прысутнічаюць два варыянты напісання літары **З**. У першым варыянце хвост літары вельмі доўгі, ён як бы адначасова з'яўляецца правай мяжой надпісу. Другі радок літар пашкоджаны. Даволі добра відна літара **К**; **Л** адсутнічае; **М** фрагментарна, але бачна, што яе сярэдзіна апускаецца да нізу радка. Літара **Н** шырокая, перакладзіна дасягае да канцоў мачт. Трэці радок таксама моцна пашкоджаны, у ім можна разабраць літары **Н ИЮ** («июня»?). У чацвёртым радку літара **П**, яе мачты прадрапаны ў выглядзе падвоеных рысачак. Пяты радок займаюць дванаццаць літар **А**, напісаных даволі аднастайна: прамая мачта, перпендыкулярная радку, і маленькі кузаў, які нагадвае сцяг. У шостым радку таксама літара **А** і літара, якую можна інтэрпрэтаваць як **Р** (яна пакрыта драпінамі). Акрамя дадзеных літар, графіта змяшчае таксама загалоўную аздобленую літару **Б**, напісаную злева ад першага радка, фрагмент загалоўнай літары (магчыма, **Г**), аздоблены дыяганальнымі рысачкамі і завіткам знізу, над першым радком, і мачту літары, аздобленую трохвугольнікамі, злева ад трэцяга радка. Па палеаграфічных прыкметах надпіс можна датаваць XIV ст.

***Рысунак 190. Прарысоўка графіта № 111.***

Параметры графіта наступныя. Яно нанесена на вышыні 72 см ад падлогі, памеры надпісу 14×19 см. Улічваючы невялікую вышыню надпісу адносна падлогі, можна выказацца на карысць нанясення надпісу хлопчыкам-служкай, які выконваў свае абавязкі ў час царкоўнай службы ў храме і адначасова навучаўся ў пачатковай школе пры манастыры. З аднаго боку, бачна не вельмі

цвёрдае валоданне пісьмом (блытаніна з літарамі ў канцы першага радка), з другога – відаць знаёмства з аздабленнем загалоўных літар, якія былі ўбачаны ім у кнізе. На карысць таго, што алфавіт напісаны неафітам, сведчаць пяты і шосты радок. Фактычна, дванаццаць літар **Ѧ** у пятым радку – гэта практыкаванне ў пісьме. Літара, якая прачытана як ініцыяльная **Б**, не можа трактавацца адназначна. Магчыма, спачатку была напісана літара **Б**, да яе дадана верхняя пятля – атрымалася літара **В**. Далей, да перакладзіны дадалі яшчэ адзін элемент – і атрымалася **Г**. Такім чынам, чалавек спрабаваў сябе ў напісанні алфавіта, ініцыялаў і практыкаваўся ў напісанні літары **Ѧ**.

***Графіта 112.*** Яшчэ адзін фрагмент алфавіта, які суправаджаецца словам, запісаны на паўночнай сцяне дыяканніка, недалёк ад памінальных надпісаў аб Ігнаціі.

***Фота 143. Графіта № 112, фрагмент алфавіта.***

Графіта змяшчаецца на вышыні 132 см ад падлогі, яно запісана ў адзін радок даўжынёй 9,5 см. Вышыня літар – 1 см. Надпіс пачынаецца алфавітам, літарамі **Ѧ Б В**, прычым **Ѧ** павернута ў адваротны бок. Кузаў **Б** выцягнуты ў шырыню, ён дасягае сярэдзіны мачты. Петлі **В** роўнавялікія, верхняя пятля ўяўляе сабой трохвугольнік, ніжняя – трапецыю. Адлегласць паміж літарамі 2 см. Далей больш шчыльна тым жа почыркам напісана слова **Помани**. Палеаграфічныя асаблівасці напісання дадзенага графіта сведчаць пра яго датаванне XIII ст.

***Рысунак 191. Прарысоўка графіта № 112.***

Што тычыцца мэты нанясення надпісу, можна заўважыць, што надпіс наносіўся чалавекам, які, магчыма, яшчэ нядаўна навучыўся пісаць. Ад алфавіта ён перайшоў да слоў малітвы, у напісанні якой ён таксама мог практыкавацца пры навучанні ў школе.

***Графіта 113.*** На паўднёвай сцяне ахвярніка на вышыні 120 см ад падлогі зроблены надпіс, які прадстаўляе сабой сем літар алфавіта вышынёй 1 см. Надпіс складзены з трох радкоў.

***Фота 144. Графіта № 113, фрагмент алфавіта.***

Графіта часткова згублена ў першым радку, у якім стаяць літары **Ѧ Б В** (**Г** знішчана разам з кавалкам тынкоўкі). Другі радок змяшчае літары **Д Є Ж**, і ў трэцім радку – літара **Ѕ**. Палеаграфічныя прыкметы наступныя: літара **Ѧ** з вострым кузавам, мачта нахілена, **Б** напісана фрагментарна, верхняя частка літары **В** заходзіць на ніжнюю, **Д** напісана ў выглядзе трох трохвугольнікаў. Па дадзеным прыкметам можна датаваць надпіс XIV ст.

***Рысунак 192. Прарысоўка графіта № 113.***

***Графіта 114.*** На ўсходняй сцяне праёма паміж алтаром і ахвярнікам на вышыні 125 см ад падлогі знаходзіцца частка алфавіта, якая складаецца з пяці літар: **Ѧ Б В Г Д**.

***Фота 145. Графіта № 114, пяць літар алфавіта.***

Літары вялікія, вышынёй 8–10 см, даўжыня надпісу складае 38 см. Амаль усе літары аздоблены: па мачтах літар **Ѧ**, **Б** і **Г** праведзены рысы, якія ствараюць

трохвугольнікі, кузаў літары **Б** аздоблены паўкружжамі і дыяганальнай лініяй, ад мачтаў літар **Д**, **В**, **Г** уніз адыходзяць спіралі. Раней надпіс вывучаўся толькі часткова па фотаздымку. Зараз з'явілася магчымасць вывучыць, прарысаваць і змяніць датаванне. Па палеаграфічных даных графіта можна аднесці да XV ст.

***Рысунак 193. Прарысоўка графіта № 114.***

## Надпісы living рознай тэматыкі

Надпісы на розныя тэмы, якія не падлягаюць дакладнай класіфікацыі, – самыя складаныя і, у той жа час, самыя цікавыя для вывучэння. У іх няма прадказальнага працягу думкі, як у малітоўных ці памінальных надпісах. Яны змяшчаюць больш размоўных слоў, не заўсёды знаёмых і адназначна трактуемых. На жаль, у алтарнай частцы не вельмі вялікая колькасць такіх графіці.

***Графіта 115.*** Ад папярэдніх надпісаў адрозніваецца графіта, якое нанесена на паўднёвую сцяну дыяканніка на вышыні 130 см ад падлогі. Памеры надпісу 34×9 см, вышыня літар 1,3 см. Графіта вельмі своеасаблівая па сваім змесце і адрозніваецца ад астатніх надпісаў алтара. Яно напісана ў чатыры радкі гучыць наступным чынам: **По череву по хрепту/(Спирида) попа бите пугами/поелъ проскуры один канунъ/а се писалъ (…) своему.**

***Фота 146. Графіта № 115, надпіс аб пакаранні папа.***

Што перакладаецца як: «Па чэраву (жывату), па храбту (спіне) Спірыда папа бейце пугамі, з'еў прасфоры аднаго кануна (памінання). А гэта пісаў (імя) свайму…». Надпіс перадае ўзрушанасць пісаўшага. Але чым яна выклікана і чаму папа чакае такое жорсткае пакаранне? У тэксце графіта адразу звяртаюць на сябе ўвагу дзве асаблівасці: першая – старанна задрапаныя імёны адрасата і чалавека, які пісаў дадзенае графіта, другая – у вочы адразу кідаецца неадпаведнасць паміж учынкам і пакараннем. Аўтар прапануе пакараць папу, а менавіта біць яго пугамі. У чым правіннасць папа? У трэцім радку ёсць словы «проскуры» і «канун». «Проскурь» або «проскура» – гэта просвіра, круглая маленькая баханачка, якая выкарыстоўваецца ў праваслаўнай літургіі для здзяйснення таінства прычашчэння. На праскамідыі, першай частцы літургіі, з просвір вымаюцца часцінкі за жывых і памерлых. Такім чынам, просвіра аддавалася за жывых або памерлых. За каго менавіта, дае нам уяўленне слова «канун» – куцця за памерлага або стол па памерлым, сняданак, які благаславіў святар; саракавуст, памінальны сняданак. Перад такім сняданкам на памінках было абавязковым ужыванне просвіры. Вось іх, па ўсёй верагоднасці, і з'еў поп. Пазбавіў, такім чынам, сям'ю магчымасці памянуць памерлых. Гэта падзея была пастаўлена ў віну святару. Але мы не можам дакладна прачытаць ні імя «саграшыўшага» папа, ні імя чалавека, які пісаў графіта. Яны старанна зацерты гарызантальнымі і дыяганальнымі лініямі. У імя папа можна прачытаць толькі першую літару **С** і апошнія **ДА**. Паміж імі, дапушчальна, знаходзяцца чатыры літары, якія маюць вертыкальныя мачты. Можна дапусціць у дадзеным напісанні імя Спірыда (Спірыдона). Імя аўтара графіта таксама зацёрта гарызантальнымі і вертыкальнымі рысачкамі. У ім чатыры

літары, апошняя – **ѧ**. Чаму так старанна задрапаны імёны таго, хто пісаў, і папа? Магчыма, атрымалася памылка, і поп не «поедал» просвіры, таму, хто пісаў, стала сорамна за гэтую «пракламацыю». Можа быць, святар сам прачытаў гэты надпіс і задрапаў сваё імя. Аб гэтым мы ўжо ніколі не даведаемся. Тым не менш, да нас дайшоў гэты ўзрушаны прызыў пакараць папа, які выконваў свае абавязкі ў полацкай Спаса-Праабражэнскай царкве ў XIII ст. Каштоўнасць гэтага надпісу, у першую чаргу, у тым, што гэта не кананічны надпіс, а жывая, размоўная мова, якая дайшла да нас з XIII ст.

***Рысунак 194. Прарысоўка графіта № 115.***

Так, напрыклад, слова «пуга» зафіксавана І. І. Сразнеўскім толькі ў помніку XV–XVI стст. «Житие Андрея Юродивого» са значэннем «палка» [1, ст. 1723), а П. Я. Чарных дае слова «пуга» як вытворнае ад індаеўрапейскага кораня *pen – «біць», якое ў старапольскай мове выкарыстоўваецца ў значэнні «бич»[600]. Які менавіта выгляд мела дадзеная прылада пакарання, зараз сцвярджаць немагчыма. Але гэта яго ўзгадванне, верагодна, самае ранняе на ўсходнеславянскіх землях. Цікавы таксама выраз «по череву, по хрепту», магчыма, ён ужыты не выпадкова. Напрыклад, у Апостальскіх пасланнях па спісу 1220 г. ужываецца выраз «чресла с хребтом»[601]. Словы чэрава – жывот знаходзяцца побач і сугучны па вымаўленні, дапушчальна, кніжны варыянт даў магчымасць выкарыстаць некалькі зменены варыянт у надпісу.

***Графіта 116***. У два радкі запісана графіта на заходняй сцяне праёма паміж алтаром і ахвярнікам пад графіта № 64. Надпіс чытаецца як **Масько бажаꙗ/добра**.

***Фота 147. Графіта № 116, «Маско бажая…»***

Першае слова – імя Маско, па ўсёй верагоднасці, гэта жаночае імя, але складана сказаць, хрысцільнае або хатняе. Прыназоўнікі «бажая» і «добра», якія ідуць за імем, жаночага роду. Слова «добра» – зразумелая якасць чалавека, а вось «бажая» – гэта «жаданая». Бажэн ці Бажай – гэта імя жаданага дзіцяці.

***Рысунак 195. Прарысоўка графіта № 116.***

Палеаграфічныя прыкметы надпісу дазваляюць датаваць яго мяжой XIII–XIV стст. на падставе напісання літар **ѧ** з вострым кузавам, **Д** з доўгімі ножкамі, **Р** з невялікай галоўкай, напісаная ў радку.

***Графіта 117.*** Неахайны і не вельмі пісьменны надпіс знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка паміж графіці № 86 і 87. Графіта запісана ў два радкі: **Юрию ѹо Маш(к)и по гривнє до кр**. Гэта можна прачытаць як «Юрыю ў Машы па грыўні да кр».

***Фота 148. Графіта № 117, пазыковы запіс.***

Магчыма, гэта пазыковая распіска і Юрыю трэба забраць грыўню ў Машы. Выраз «па грыўні» мае на ўвазе яшчэ аднаго чалавека. Магчыма, ён і быў

---

[600] Хребет // Черных, П. Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка: в 2 т. / П. Я. Черных. – М., 1994. – Т. 2. – С. 80.

[601] Пуга // Срезневский, И. И. Материалы для словаря древнерусского языка: в 3 т. / И. И. Срезневский. – М., 2003. – Т. 2. – Ст. 1408.

запісаны над Юрыем, якраз там знаходзіцца задрапанае і зацертае слова. Літары «кр» у канцы надпісу, гэта, верагодна, тэрмін аддачы грошай, магчыма, гэта слова «хрышчэнне». Злева ад надпісу прадрапана пляцёнка, сам надпіс аддзелены ад іншых лініямі зверху, знізу і злева. Літары глыбока і неахайна прадрапаныя, надпіс прадстаўляецца незакончаным.

***Рысунак 196. Прарысоўка графіта № 117.***

Яскравых палеграфічных даных няшмат, звяртаюць на сябе ўвагу напісанне **Д** у выглядзе трохвугольніка, замена **Н** на **И** ў слове «гривне», напісанне **Ѵо** замест **Оѵ**, адсутнасць юсаў, напісанне **В** з элементамі, якія заходзяць адзін у адзін. Надпіс можна датаваць XIV–XV стст.

***Графіта 118***. На заходняй сцяне праёма паміж ахвярнікам і алтаром на вышыні 110 см ад падлогі, вышэй за надпіс пра Саву панамара знаходзіцца надпіс, які адрозніваецца ад вышэйназваных надпісаў.

***Фота 149. Графіта № 118, надпіс пра «слядок».***

Вельмі невялікімі, вышынёй 0,3–0,5 см, глыбока ўрэзанымі літарамі на сцяну нанесена графіта з трох літар: **Зри зде следокъ** – «Глядзі тут слядок». Што з'яўляецца гэтым слядком, сам надпіс або яшчэ якое-небудзь тлумачэнне, сказаць цяжка.

***Рысунак 197. Прарысоўка графіта № 118.***

Сцяна літаральна ўсыпана надпісамі ў гэтым месцы. З больш характэрных прыкмет можна назваць доўгія элементы **З** і **Д**, якія выходзяць за радок, выгнутае малафарматнае **Р** у радку, вуглаватае **Є**. Дадзеныя прыкметы сведчаць аб нанясенні надпісу ў XV ст.

***Графіта 119.*** Датаваны надпіс знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара недалёка ад царскай брамы. Змест яе наступны: **Рокѵ ҂ахнз/свщенноинок Калист/совершиҳ сде ρ(є/о)зню**, г. зн. «У год 1657 свяшчэннаінак Каліст здзейсніў тут …».

***Фота 150. Графіта № 119, надпіс пра Каліста.***

Графіта напісана скорапісам у тры радкі. У першым – спасылка на год, які запісаны пад дзвюма цітламі: лічба соцень пад першым і лічбы дзясяткаў і адзінак пад другім. Знак тысячы перадаецца рысай з двума штрыхамі, якая пачынаецца ад мачты літары **А**. У другім радку два словы. Першае – «священноинок», г. зн. святар манаскага сану. Слова пачынаецца з вялікай паўкруглай **С**, **В** напісана калачыкам, **Є** у выглядзе двух паўкружжаў, пад цітла вынесена літара **Н** і над канчаткам слова літара **К**. Імя свяшчэннаінака, па ўсёй верагоднасці, Калліст. Абрысы першай літары імя супадаюць з яе абрысам у канцы папярэдняга слова. Літары **А**, **Л**, **И** малафарматныя. Літары **С** і **Т** вынесены над канчаткам слова. Трэці радок змяшчае тры словы: «соверших», у якім літары **Р** і **Х** – вынасныя, прычым **Р** ляжыць над радком. У слове «сде» вялікае **С**, **Д** вынесена над радком і **Є**, якое апускаецца ў радок.

Увесь надпіс да апошняга слова чытаецца амаль бясспрэчна, сумненні выклікае апошняе слова, а дакладней, чытанне другой літары ў слове. Яна прадстаўляе сабой трохвугольнік і можа чытацца як **Ѣ** («е») або як **О**. Ад гэтага

залежыць прачытанне надпісу «резню» або «розню». Цікава, што такое імя менавіта ў гэты час носіць Каліст Дарафеевіч-Рытарайскі, епіскап полацкі з 1656 па 1662 г., з імем якога звязана разбурэнне касцёла пасля захопу ў ліпені 1656 г. Полацка войскамі Аляксея Міхайлавіча. Магчыма, мела месца не толькі разбурэнне езуіцкага касцёла, але і нейкія больш актыўныя дзеянні, названыя «разнёй». На наш погляд, першы варыянт чытання больш прымальны, таму што «рознь» учыняць не трэба было, яна і так існавала паміж прадстаўнікамі праваслаўнай царквы і езуітамі.

***Рысунак 198. Прарысоўка графіта № 119.***

***Графіці 120, 121, 122.*** Шэраг графіці, якія ўмоўна можна назваць каляндарнымі, былі нанесены на паўднёвую сцяну ахвярніка побач з выявай чалавечка з дудой у роце. Гэтая выява можа адносіцца непасрэдна да надпісаў. Трэба адзначыць вельмі дрэнную захаванасць графіці ў гэтым месцы. Яны напаўзацёртыя, нанесены тонкімі ледзь бачнымі рысамі. Непасрэдна пад праквітнеўшымі крыжамі нанесены надпіс, пачатак і заканчэнне якога нельга аднавіць. У сярэдзіне словы: ...**И тє идолєли/єпъ нє топи... въ**, што можна дапушчальна прачытаць як «І тых ідалаў епіскап не тапіў у». Пад дадзеным надпісам у два радкі запісана спасылка на нейкую падзею: **Кγпальнаѧ нєдєля на ива.../ва нєдѣлѧ**, «купальны, на (Івана) тыдзень». Першае і другое графіці напісаны рознымі почыркамі. Першы надпіс мае вельмі шырокія літары **Т**, **О**, **И**. другі надпіс змяшчае літару **Ѵ** з рыскамі на верхніх канцах літары, **Д** з засечкамі замест ножак, шырокія літары **Ѧ**.

***Фота 181. Комплекс рысункаў і надпісаў.***

***Рысунак 227. Комплекс рысункаў і надпісаў.***

Купальны тыдзень працягваўся ад дня летняга сонцастаяння да поўні або наадварот. Нам уяўляецца, што надпіс і малюнак складаюць адзінае цэлае. Частка надпісу накладваецца на чалавечка, галава якога павернута налева, з рота тырчыць дуда, рукі разведзены ў бакі: левая зацёртая, на правай – пяць пальцаў. Злева зверху ад чалавечка знаходзяцца два колы. Левае перакрэслена крыж накрыж перпендыкулярна, гэта салярны знак. Правае пустое ўнутры. Магчыма, гэта сонца і месяц, сонцастаянне і поўня, якія супадаюць. Такое супадзенне мела назву «моцная Купала». Знізу, паміж знакамі пачынаецца шасціканцовы патрыяршы крыж, які знізу разыходзіцца, а пасярэдзіне аздоблены лініяй. Па абодва бакі верхняй часткі крыжа надпіс **НИ КА** – «перамога». Злева ад дадзенага крыжа трайнымі лініямі прадрапаны крыж у крузе. Справа знізу – крыж, які нагадвае кельцкі. У яго пашыраныя канцы і аздабленне пасярэдзіне, якое ромбападобна злучае канцы крыжа ад сярэдзіны да пашырэння на канцах. Злева ад крыжа арнамент, які адначасова нагадвае полымя.

Трошкі направа ад надпісу пра купальны тыдзень знаходзіцца фрагмент надпісу: ...**Дє...ѧ кюро**, што можа быць прачатана як «декабря». «Кюро», калі гэта не частка слова, можа азначаць «Госпадзе», але ў цэлым патлумачыць сэнс надпісу складана. Знізу нанесены больш дробнымі літарамі фрагмент графіта з трох слоў: **Мсѧч маръта соγхая**, г. зн. «месяца сакавіка сухога», або «месяц

сакавік сухі». Гэта не значыць, што гаворка ішла менавіта пра надвор'е, таму што месяц сакавік у старажытнаславянскім календары меў назву «сухі». Ніжэй за гэты надпіс – таксама фрагмент графіта: …**тровъ дене**…, верагодна, Пятроў дзень, спасылка на падзею, якая адбылася 29 чэрвеня. Па палеаграфічных даных сукупнасць дадзеных графіці можна датаваць мяжой XII–XIII стст.

***Графіта 123.*** Пад надпісам пра Паўла, на паўночнай сцяне алтара на вышыні 101 см ад падлогі знаходзіцца фрагментарны надпіс памерамі 19×2,6 см, запісаны ў два радкі: **Мсца гьнвъра вра в/га.**

***Фота 151. Графіта № 123, месяца студзеня.***

Адразу неабходна падкрэсліць недастатковую пісьменнасць чалавека, які наносіў надпіс, што знайшло адлюстраванне ў некаторых асаблівасцях напісання. Слова «месяца» скарочана, яно складаецца з чатырох літар, у той жа час звычайна дадзенае слова скарачаецца трыма літарамі. Цітла стаіць над літарай **Ц**, якая абернута. Слова «януаря» запісана як **гьнвъра** («генвора»), прычым літара **Н** вынесена над **Ь** без цітла, **Є** перадаецца праз **Ь**, **О** праз **Ъ**, літара **А** павернута кузавам управа. Далей ідзе спалучэнне літар, якое даволі складана інтэрпрэтаваць.

***Рысунак 199. Прарысоўка графіта № 123.***

Калі шукаць аналогіі ў памінальных запісах, то дадзенае графіта павінна было будавацца наступным чынам: спасылка на месяц, спасылка на дзень або свята дня. Калі ўлічваць малапісьменнасць надпісу, можна дапусціць, што спалучэнне «**вра**» пасля назвы месяца – гэта яшчэ адзін раз запісаны канчатак слова. Такі варыянт напісання сустракаецца ў графіта пра «посныя просвіры». Тым больш, што літара **А** зноў напісана няправільна, а потым перапраўлена. Тады апошняя **В** у радку будзе прыназоўнікам перад спасылкай на свята «в NN день». Можна дапусціць, калі рыса над дзвюма апошнімі літарамі з'яўляецца цітлам, а не драпінай, скарачэнне слова «**Господня**», таму што на студзень прыходзяцца святы Багаяўлення і Хрышчэння Гасподня. Палеаграфічныя прыкметы ў сувязі з «нестандартнасцю» надпісу нешматлікія. Сярод іх можна адзначыць напісанне **Р** і **В**, якія могуць паказваць на карысць датавання надпісу XIII–XIV стст.

***Графіта 124.*** Надпіс са спасылкай на сезон года знаходзіцца на паўночнай сцяне ахвярніка, справа ад графіта № 1. Магчыма, ён мае пачатак і працяг, але з-за вялікай колькасці драпін і надпісаў аднавіць іх немагчыма.

***Фота 152. Графіта № 124, трэцяя зіма.***

Фрагмент графіта чытаецца як **Трѣтья зима**, г. зн. «трэцяя зіма», але якія падзеі адбыліся ў гэтую зіму, сказаць зараз немагчыма. Палеаграфічных даных няшмат, але напісанне літар **Р**, **З**, **ѣ** можа сведчыць на карысць датавання XIII–XIV стст.

***Рысунак 200. Прарысоўка графіта № 124.***

***Графіта 125.*** Непасрэдна пад лацінскім надпісам Iosef Wiskow і па выяве галавы дракона праходзіць надпіс, змест якога можна расшыфраваць толькі гіпатэтычна.

***Фота 153. Графіта № 125.***

І лацінскі надпіс, і малюнак праходзяць непасрэдна па кірылічным надпісы. Можна вылучыць толькі фрагмент першага слова і прыблізна літары другога, трэцяга і чацвёртага, паміж першым і другім словам сцяна пашкоджана: погоре (н)(о/є)бе(с/ч)а (с)ния о(г/ч)(є/о)ви. Можна прапанаваць чытанне «погоре небеса сия огневи», аднак гэта чытанне з'яўляецца толькі дапушчальным.

***Рысунак 201. Прарысоўка графіта № 125.***

***Графіта 126.*** На паўднёвай сцяне ахвярніка знаходзіцца таксама фрагментарны надпіс у два радкі. У першым можна разабраць тры літары: …омꙋ, у другім – слова поидим(ъ).

***Фота 154. Графіта № 126, «поідім».***

Нягледзячы на тое, што надпіс даволі добра прарэзаны, ён пашкоджаны ў многіх месцах. Можа, яго трэба чытаць «дому поідім» – «пойдзем ці паедзем дадому». Такое прачытанне можна лічыць дапушчальным, тым больш, што злева ад дадзенага надпісу сапраўды нарысаваны дом (фота 77, рысунак 125). Надпіс можна ўмоўна датаваць XIV ст.

***Рысунак 202. Прарысоўка графіта № 126.***

***Графіта 127.*** Надпіс знаходзіцца на ўсходняй сцяне, у праёме паміж ахвярнікам і алтаром. Чытанне ўскладняецца нанесенымі пазней лацінскімі надпісамі. Добра чытаецца пачатак надпісу: в лет ·п҃· болит.т… – «У год 80 баліць…». Надпіс можна датаваць XV ст. па напісанні літар в, ѣ, т.

***Фота 155. Графіта № 127, «у год 80».***

***Рысунак 203. Прарысоўка графіта № 127.***

***Графіта 128.*** Фрагментарны надпіс знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка, ніжэй за графіта № 84. Яго правая частка згублена вялікай выбаінай на сцяне, і таму сэнс можна аднавіць толькі гіпатэтычна. Да таго ж надпіс неахайны, размашысты. Пра значэнне некаторых літар можна толькі здагадвацца.

***Фота 156. Графіта № 128.***

Першая літара, безумоўна, А, за ёй – К і Р. Чацвёртая літара напісана ў выглядзе двух трохвугольнікаў, аб'яднаных вяршынямі, можа быць в або Ъ. Пятая літара – гэта ꙋ або Ъ. Далей, верагодна, ідзе ОУ. У другім радку першыя дзве літары НЄ, далей ідзе спалучэнне ГО або літара Ю. Апошняя літара – М, перад ёй, магчыма, А. Аднаўленне надпісу прадстаўляецца складаным, таму што частка яго згублена і абрысы некаторых літар выклікаюць пытанні. Магчыма прачытанне «а крву(кроў ці карову) у него ям», аднак такое прачытанне вельмі гіпатэтычнае.

***Рысунак 204. Прарысоўка графіта № 128.***

***Графіта 129.*** На паўночнай сцяне алтара паміж надпісамі аб «дапамозе Сапрону» і памінальным надпісам Паўла, на вышыні 125 см ад падлогі знаходзіцца незакончаны надпіс, які, дапушчальна, мог аказацца памінальным.

***Фота 157. Графіта № 129.***

Надпіс змяшчае спасылку на год: в лѣ҃т ҂з҃ ли҃, г. зн. «у год 7038 (ад стварэння свету, 1530 ад Нараджэння Хрыстова)». У слове «лето» літара Т вынесена

паміж в і л, над ёй стаіць трохвугольнае цітла. Лічба «тысяч» пазначана знакам з адным перакрэсліваннем. Лічба абазначана трохвугольнымі цітламі двойчы: першы раз над літарай З, другі – над ЛИ.

***Рысунак 205. Прарысоўка графіта № 129.***

***Графіта 130.*** На паўднёвай сцяне дыяканніка незакончаны надпіс з пачатковай спасылкай на год: в л…, што значыць «у год».

***Фота 158. Графіта № 130.***

***Рысунак 206. Прарысоўка графіта № 130.***

## Рысункі

Рысункі, якія змяшчаюцца на сценах царквы, арганічна ўпісваюцца ў кантэкст графіці. Можна вылучыць некалькі груп рысункаў. Першая група непасрэдна звязана з царкоўнай тэматыкай. Гэта выявы крыжоў і благаслаўляючых рук. Сярод крыжоў пераважаюць выявы так званых галгофскіх крыжоў, праквітнеўшых крыжоў і крыжоў, канцы якіх аб'яднаны лініямі.

Галгофа, на якой змяшчаюцца крыжы, можа ўяўляць сабою розныя фігуры. Так, яна можа мець выгляд рашоткі (фота 159, рысунак 207) або падковы (фота 160, рысунак 208). Галгофскі крыж можа быць таксама, як і ў графіці віцебскай Дабравешчанскай царквы, аналагам памінальнага надпісу. Каля аднаго з крыжоў змяшчаюцца палачкі, якія адпавядаюць малітвам (фота 161, рысунак 209).

Сустракаюцца таксама чатырохканцовыя крыжы с разнастайнымі аздабленнямі: у выглядзе закругленняў на канцах (фота 162, рысунак 210), з канцамі, аб'яднанымі лініямі (фота 163, 164, 165, рысункі 211, 212, 213). Праквітнеўшыя крыжы, якія сімвалізуюць перамогу жыцця над смерцю, змешчаны на паўднёвай сцяне ахвярніка (фота 166, рысунак 214). Увогуле, сцены ахвярніка – гэта месца, дзе змяшчаецца самая вялікая колькасць прарысаваных крыжоў. Часам выява крыжа спалучаецца з выявай благаслаўляючай рукі (фота 167, рысунак 215), часам такая рука прарысавана адна (фота 168, рысунак 216). А вось вугал паўночнай сцяны ахвярніка літаральна ўвесь пакрыты выявамі рук, якія часам вельмі нагадваюць крылы, але амаль на кожнай з іх – пяць пальцаў і вялікі, адстаўлены ў бок. Пры прарысоўцы гэтага фрагмента сцяны адразу ўсплывае выраз «рукі-крылы», усе яны павернуты на ўсход, можа, за благаслаўленнем (фота 169, 170, 171, рысункі 217, 218, 219). На адным з фрагментаў, побач з гэтымі выявамі рысункі нейкіх прадметаў, адзін з якіх нагадвае плуг або перакуленую сякеру, а другі – дзяржальну мяча, і побач – выявы крыжоў. Трэба адзначыць, што шмат якія з іх выкананы вельмі ўдала з высокім мастацкім уменнем і часам суправаджаюцца традыцыйнымі надпісамі Іс҃ъ Хс҃ъ Ника – «Ісусам Хрыстом перамагай» (фота 172, рысунак 220).

Каля выявы вышэйзгаданага крыжа змешчаны рысунак, які нагадвае жукавіну з аклада Евангелля. Матывы аздаблення, арнаментаў, якія маглі быць убачаны ў кнігах, таксама маюць месца. Гэта, у асноўным, ромбы і квадраты, аздобленыя па вуглах (фота 173, 174, 175, 176, рысункі 221, 222, 223, 224). Арнаментальныя матывы не абмяжоўваюцца толькі ромбамі і квадратамі, прысутнічаюць таксама косы-пляцёнкі і нават элементы тэраталагічнага арна-

менту – «драконччыкі», якія перарастаюць у пляцёнкі (фота 177, рысунак 225). Жывёльны свет рысункаў прадстаўлены таксама і птушкамі. Іх на паўднёвай сцяне ахвярніка дзве (фота 178, 179, рысункі 223, 212). Першая нагадвае пеўня, яна мае грабенчык, хвост з некалькіх пёраў, загнутых уверх, лапы маюць па тры пальцы, пёры на целе паказаны падобнымі на луску рыбы, два крылы невялікія, схематычна пазначаныя. Другая птушка больш нагадвае страуса: у яе няма крылаў, дзюба загнута, як у індыка, доўгія ногі маюць па тры пальцы, а вось пёры пазначаны штрыхоўкай. Частка цела жывёлы – лапа, якая нагадвае геральдычную львіную лапу, прадрапана ў праёме паміж алтаром і ахвярнікам (фота 180, рысунак 226).

Сустракаюцца таксама выявы людзей, як схематычныя, так і дасканала выкананыя. Схематычная выява чалавечка знаходзіцца на паўднёвай сцяне ахвярніка (фота 116, рысунак 164). Больш дасканалая выява чалавека змешчана каля надпісу пра «купальны тыдзень» (фота 181, рысунак 227). Выявы Месяца, якія сустракаюцца ў дадзеным рысунку, маюць аналогіі. Так, напрыклад, у адной з выяў круга з кропкай унутры змешчана яшчэ і лінія, перакрэсленая ў некалькіх месцах. Магчыма, гэта абазначэнне ўзыходу ці заходу Месяца (фота 182, рысунак 228). Самая дасканалая і мастацкі выкананая выява чалавека знаходзіцца на паўночнай сцяне алтара. Гэта выява чалавека ў даспехах, узброенага сякерай, памерамі 32 см у вышыню. Добра нарысаваны твар з вусамі. Даспехі і шапка з пяром паказаны штрыхоўкай. Але фігура непрапарцыянальная, ножкі вельмі малыя і тонкія (фота 183, рысунак 229).

Да выяў, што ўскосна належаць да рысункаў, можна аднесці гербавыя выявы і знакі ўласнасці. Дапушчальна, родавы знак быў нанесены на паўночную сцяну дыяканніка. Ён прадстаўляе сабой трохвугольнік, канцы якога цягнуцца з вяршыні і загнуты паралельна супрацьлеглым бакам. З вяршыні праведзена лінія, якая перпендыкулярна перакрэслівае аснову і працягваецца за ім (фота 184, рысунак 230). Такі знак мог быць родавым знакам полацкага мяшчаніна. Сведчаннем таму могуць служыць знакі на пячатках, апублікаваныя М. Белямуком, а таксама знакі, змешчаныя на партрэце Ф. Скарыны. Дадзеныя сімвалы не з'яўляюцца гербавымі знакамі, аднак яны служылі для адрознення і нават ужываліся на пячатках мяшчан.

Часта каля імёнаў і прозвішчаў, запісаных лацініцай, сустракаюцца выявы гербоў. Так, напрыклад, на паўночнай сцяне дыяканніка знаходзіцца лацінскі надпіс Stanislaus і геральдычны знак Адравонж, які прадстаўляе сабой стралу на нацягнутым луку, абернутую наверх (фота 49, рысунак 97). Знак змешчаны ў полі, якое нагадвае шчыт, аднак зверху не завершана, з бакоў прадстаўляе сабой ці то галінкі, ці то крылы. Геральдычны знак знаходзіцца каля лацінамоўнага надпісу Iohanes Kurek (фота 185, рысунак 231). Герб Ляліва, які належаў Станіславу Сарноўскаму, быў нанесены на ўсходнюю сцяну праёма паміж дыяканнікам і алтаром у 1671 г. (фота 186, рысунак 232).

Лацінскія надпісы, нанесеныя на сцены алтара, у асноўным аднатыпныя. Яны змяшчаюць імя і прозвішча, а часам і год. Адзін з самых ранніх надпісаў

указвае на 1579 год, калі гэта год нанясення надпісу, а не нараджэння таго, хто пісаў (фота 187, 188, рысунак 233 і 234). У адрозненне ад кірылічных надпісаў, лацінскія надпісы часта прадрапваліся непасрэдна па фрэсках: ліках і постацях святых.

Такім чынам, вывучэнне алтарных графіці Спаса-Праабражэнскай царквы г. Полацка дало наступную карціну. Пераважная большасць надпісаў памінальныя і малітоўныя, частка надпісаў змяшчае фрагменты богаслужэбных тэкстаў і малітваў. Што тычыцца раскладкі па стагоддзях, можна адзначыць, што памінальныя надпісы больш характэрны для перыяду з XII па XV ст., прычым форма іх пабудовы змяняецца. У больш позніх запісах з'яўляецца год падзеі, больш раннія надпісы – недатаваныя, ёсць спасылкі толькі на дзень і дзень памяці святога. Магчыма, гэта звязана з некаторай зменай светапогляду. Памінальныя запісы ператвараліся з больш «царкоўных» у больш інфарматыўныя, для якіх характэрна фіксаванне з'явы ў часе і прасторы.

Увогуле для кірылічных надпісаў характэрна некаторая доля «сціпласці» ў месцах нанясення. Яны выразаліся на сценах, але ў адрозненне ад лацінамоўных не закраналі важных элементаў фрэскавага жывапісу: рук, постацяў, лікаў. Лацінскія надпісы нясуць сэнсавую нагрузку: «тут быў». Кірылічныя надпісы па зместу значна багацейшыя, гэта сувязь, зносіны з Богам праз малітву і памінанне.

У графіці змешчаны багацейшы антрапанімічны пласт. Цікава, што ў адрозненне ад іншых пісьмовых помнікаў алтарныя графіці Спаса-Праабражэнскай царквы змяшчаюць, за рэдкім выключэннем, хрысціянскія імёны, хаця і ў размоўным варыянце. Мужчынскіх імёнаў у чатыры разы больш, чым жаночых, якія нават і не пісаліся, калі жанчына пазначалася праз мужа («Кузьміная», «Остафьевая»).

Што тычыцца распалажэння графіці, то вялікая колькасць памінальных надпісаў знаходзіцца на паўночнай сцяне дыяканніка. Больш познія памінальныя надпісы, якія належаць да XV–XVI стст., змяшчаюцца на паўночнай сцяне алтара, у іх запісаны заможныя людзі, святары і епіскапы. Раннія надпісы пра ігуменняў знаходзяцца на паўночнай сцяне ахвярніка. Малітоўныя надпісы, у тым ліку і не вельмі пісьменныя, – у ахвярніку, у тым ліку там знаходзіцца і самая вялікая колькасць рысункаў. Магчыма таму, што там адначасова знаходзілася і панамарка – памяшканне, дзе маладыя служкі ў вольны час маглі займацца нанясеннем рысункаў.

Алтарныя графіці маюць таксама некаторыя моўныя асаблівасці, некаторыя з якіх потым стануць адметнымі рысамі беларускай мовы. Гэта мяккае **Ц**, замена **в** на **Ѵ**, ужыванне дзесяцярычнага І, цвёрдае **Р**. Некаторыя з'явы характэрны для старажытнарускіх пісьмовых помнікаў і, у прыватнасці, для берасцяных грамат. Гэта аднаеравая графіка, ужыванне **Є** і **О** замест **Ь** і **Ъ**. Часам маюць месца непісьменныя надпісы з заменай лічбаў, якія абазначаюць адзін і той жа гук, напісанне літар у люстэркавым адбітку, ѵо замест оѵ для абазначэння гука «у» і г. д.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Падрабязнае вывучэнне эпіграфічных помнікаў дазваляе адзначыць наступнае. ***Эпіграфічныя помнікі з каменя*** вельмі разнастайныя. У іх складзе – вялізныя валуны, на якіх высякаліся малітоўныя і памятныя надпісы, надпісы-аўтографы, прылады працы таксама з малітоўнымі і алфавітнымі надпісамі, з імёнамі ўладальнікаў, дарыльшчыкаў, назвамі прылад. Даступнасць матэрыялу абумовіла яго выкарыстанне для вырабу прадметаў культу з кананічнымі надпісамі.

Вельмі распаўсюджаны і выкарыстоўваемы матэрыял – дрэва – абумовіў яго выкарыстанне для вырабу гаспадарчых прылад і прадметаў паўсядзённага ўжывання. На ***драўляных вырабах*** – малітоўныя, алфавітныя надпісы, азначэнні ўласнасці. Аднак драўлянага матэрыялу няшмат з прычыны дрэннай захаванасці яго ў глебе.

***Металічныя вырабы*** – гэта прадметы імпарту і мясцовай вытворчасці. Імпарт прадстаўлены зброяй, прадметамі ўпрыгожвання і посудам з лацінскімі надпісамі. Металічныя прадметы з кірылічнымі надпісамі – гэта, у асноўным, прадметы культу: крыжы, звон, медальёны з кананічнымі, малітоўнымі надпісамі, надпісамі-закляццямі, а таксама змеевікі з магічнымі і малітоўнымі надпісамі.

Надпісы на ***гліняным матэрыяле*** – гэта амфары і плінфа з меткамі і імёнамі – азначэннем уласнасці і аўтографамі.

Надпісы на ***касцяным матэрыяле*** прадстаўлены неапрацаванымі косткамі, пераважную большасць якіх складаюць знаходкі з рунічнымі надпісамі з гарадзішча Маскавічы. Нарыхтоўкі з касцянога матэрыялу, апрацаваныя рамеснікамі, таксама змяшчаюць фрагментарныя надпісы. Сярод вырабаў з косці – дзяржальна нажа, прылады для гульні, прадметы культу, на іх заклінальныя надпісы, адзінкавыя літары, кананічныя надпісы.

***Вырабы са скуры*** прадстаўлены похвамі з алфавітным надпісам. На шкляных вырабах – арабскія добрапажадальныя надпісы.

***Графіці і дыпінці*** ў асноўным прадстаўлены малітоўнымі і памінальнымі надпісамі з прычыны размяшчэння іх у цэрквах, шэраг з іх адлюстроўвае моўныя асаблівасці, якія не вядомы ні па якіх іншых помніках.

Што тычыцца ***мэт нанясення надпісаў***, то яны вельмі разнастайныя. Як асобная група вылучаюцца алфавітныя надпісы, знойдзеныя на сценах Спаса-

Праабражэнскай царквы г. Полацка, грабеньчыку з Брэста і вішчынскім прасліцы. Азбучныя надпісы, у тым выпадку калі яны не маюць магічнага сэнсу, з'яўляюцца сведчаннем пісьменнасці неафітаў, людзей, якія толькі пачалі навучацца пісьму.

Так званая «проба пяра» ў выглядзе адзінкавых літар і складоў, якія наносіліся для пробы на нарыхтоўкі вырабаў і не змяшчалі вельмі каштоўнай інфармацыі (за выключэннем пацверджання пісьменнасці рамеснікаў), таксама мела месца на тэрыторыі старажытнай Беларусі.

Падпісваннем сваіх імёнаў або сацыяльнага ці сямейнага становішча людзі імкнуліся рознымі спосабамі азначыць уласнасць. У надпісах на амфары «Ярополчае віно», на прасліцах «Настассіна», «Мар'іна», «бабіна», «княжае» спалучаюцца назоўнік і прыметнік, якія адказваюць на пытанне «чые?». Надпісы ў назоўным склоне «Ліла», «Алексій» таксама паказваюць на ўладальніка. Склады і адзінкавыя літары могуць абазначаць пачатак уладальніцкага імя, на карысць гэтага сведчыць выкарыстанне літары «**Б**», якая, як вядома, не абазначала лічбы.

Як аўтографы будаўнікоў можна трактаваць надпісы «Давыд, Тума, Мікула, Копесь» і іншыя, пакінутыя на камяні з падмурку полацкай Сафіі.

Малітоўныя прашэнні «Госпадзе, дапамажы рабу свайму (ці рабе сваёй) імярэк», якія яскрава сведчаць аб распаўсюджанні хрысціянства, шырока прадстаўлены на эпіграфічных помніках з каменя («Барысавы камяні», прасліца Неданы) і дрэва (гомельская і мінская місы), графіці цэркваў. Памінальныя надпісы, нанесеныя на сцены цэркваў, станавіліся залогам бесперапыннага памінання чалавека пасля яго смерці, чым і было выклікана іх нанясенне, нават пад пагрозай пакарання.

Надпісы-папярэджанні, прадстаўленыя часткай надпісу на крыжы Ефрасінні Полацкай і надпісам на дзяржальне Ежкавага нажа, былі нанесены з строга акрэсленай мэтай – папярэдзіць крадзёж пагрозай праклёну, што дасягалася моцнай моўнай формулай.

Цікавым бокам выкарыстання пісьменнасці з'яўляецца нанясенне на прадмет абставін яго набыцця. Так, у якасці аналогіі полацкаму «скрадзенаму» прасліцу можна назваць наўгародскае «Іванкіна знойдзенае» прасліца.

Надпісы магічнага характару блізкія да надпісаў-папярэджанняў, аднак яны адрозніваюцца па «стылі» і мове. Магічныя надпісы, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, прадстаўлены рунічнымі надпісамі з падваеннем або патраеннем рун.

Дзелавыя надпісы «яны данеслі», «вырашай», «паступленне ў казну» таксама прадстаўлены рунічнымі надпісамі. А вось добрапажадальныя – арабскімі, якія хутчэй успрымаліся як дэкор, хаця на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян зафіксаваны і старажытнарускія добрапажадальныя надпісы, як, напрыклад, на келіху Уладзіміра Давыдавіча. Кананічныя надпісы, нанесеныя на прадметы культу, не заўсёды пісьменныя, што залежыць ад ўзроўню выканання як уласна твора, так і надпісу.

Эпіграфічныя помнікі, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, у асноўным маюць аналагі сярод помнікаў, знойдзеных на іншай тэрыторыі пражывання ўсходніх славян.

Так, сярод камянёў з надпісамі, знойдзеных на тэрыторыі пражывання славян, можна назваць найбольш вядомыя: Тмутараканскі камень, Сцержэнскі крыж, пліту ў Васільеўскай царкве Уладзіміра Валынскага, Нерльскі і Аркажскі крыжы. А. А. Мядынцава робіць заўвагу аб перавазе манументальных надпісаў у паўночна-заходніх княствах у больш позні часы і тлумачыць гэта ландшафтнымі ўмовамі[602]. Аднак даследаванні сведчаць, што на тэрыторыі Беларусі камяні, падобныя на вышэйзгаданыя, пакуль не знойдзены. Помнікі больш позняга перыяду прадстаўлены надмагільнымі камянямі[603].

Надпісы на прасліцах знаходзяць аналогіі з надпісамі на гэтых прыладах з іншых старажытных гарадоў. Спалучэнне назвы прадмета «праслень» з імем уладальніцы ў форме прыналежнага прыметніка ці адно імя ў форме прыналежнага прыметніка характэрна для прасліцаў з Бароўскага селішча – «**ПРѦСЛНЪ ПАРАСИИ**»[604], з Растова – «**МИЛЄШИ ПРАЛЄНЬ**»[605] або з Цярабоўля – «**РОМАДИНЪ**»[606], з Ноўгарада – «**ФЄНИЩЄНИ**» і «**НЕДЄЛЄКИНЄ**»[607], з Ізборска – «**(ЄВ)ДОСЄЄНИНЄ**»[608] і г. д. Сустракаюцца таксама прасліцы з алфавітнымі надпісамі.

Вырабы з дрэва і, у прыватнасці, бандарныя вырабы з надпісамі зафіксаваны таксама на іншых тэрыторыях пражывання ўсходніх славян. На Яраслававым гарадзішчы было знойдзена дно бочкі з надпісам **ЮРИЩИНА**, што паказвае на яе прыналежнасць нейкаму Юрыю, датуемае XII–XIII стст. Таксама на Нярэўскім раскопе ў Ноўгарадзе знойдзена накрыўка з надпісам **ОТНѦ** – «бацькаў»[609], якая датуецца XIII ст.

Аналагі збароўскага келіха знойдзены на Паўночным і Паўднёвым гарадзішчах Старой Разані[610], Херсанесе, Рызе, каля в. Кальві (Эстонія).

На амфарах, знойдзеных на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян, таксама сустракаюцца імёны ўладальнікаў амфар-карчаг. Сярод такіх пасудзін – амфары з Кіева з надпісамі **ГАВЬРНЛО** («Гаўрыла») і **ПЄТРО** («Петро»)[611], амфара з с. Чутаўкі з надпісам **К(РО)Ч(А)ГА/ ПРО(К)ОУПОВ(А)** («Пракопава

[602] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 265.

[603] Калечыц, І. Л. Выявы галгофскіх і праквітнеўшых крыжоў на каменных эпіграфічных помніках XII–XVIII стст. / І. Л. Калечыц // Гіст.-археал. зб. – 2006. – № 22. – С. 238–245.

[604] Монгайт, А. Л. Рязанская земля / А. Л. Монгайт. – М.: Изд-во АН СССР, 1961. – С. 156–157.

[605] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 65.

[606] Алексеев, Л. В. Еще три шиферных пряслица… С. 243.

[607] Янин, В. Л. Новгородские грамоты на бересте (Из раскопок 1984–1989 гг.) / В. Л. Янин, А. А. Зализняк. – М.: Наука, 1993. – С. 113.

[608] Медынцева, А. А. Грамотность… С. 66.

[609] Там жа. – С. 213.

[610] Даркевич, В. П. Раскопки на Южном Городище Старой Рязани / В. П. Даркевич // Археология рязанской земли: сб. ст. / Ин-т археологии АН СССР; редкол. – М., 1975. – С. 69–71.

[611] Медынцева, А. А. Грамотность…. С. 50.

карчага»)[612], амфара з Кіева з надпісам МСТСЛВЛ КРЧГЪ («карчага Мсціслава»)[613]. Такім чынам, надпісы на амфарах з Беларусі маюць аналагі сярод надпісаў на амфарах, знойдзеных на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян. І, у той жа час, амфары з надпісамі ўваходзяць ў цэлы комплекс так званай «тарнай эпіграфікі»[614], якая ўключае ў сябе, акрамя амфар старажытнарускіх гарадоў, тарны посуд Паўночнага Прычарнамор'я, Хазарскага каганата і г. д. Надпісы на ўсіх гэтых амфарах былі прадрапаны пасля абпальвання і не з'яўляюцца ганчарнымі клеймамі.

Надпісы на плінфах сустракаюцца таксама ў Дзесяцiннай царкве ў Кіеве, Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры, Успенскіх саборах Кіева і Старой Разані[615].

Крыжы з Дабравешчанскай і Спаса-Праабражэнскай цэркваў, у асноўным, падобныя на малюнкі ў іншых старажытнарускіх храмах, такіх як наўгародская і кіеўская Сафіі[616], царква Спаса ў Нярэдзіцах[617]. Па сведчанні Ю. І. Нікіцінай, малюнкі-графіці з'яўляліся там жа, дзе і надпісы-графіці[618]. Адну і тую ж тэматыку маюць надпісы-графіці ва ўсіх усходнеславянскіх храмах. Гэта памінальныя надпісы, надпісы с просьбай аб дапамозе, азбучныя надпісы. Але маецца і шэраг адрозненняў ад падобных графіці іншых храмаў, у першую чаргу, па змесце. У большасці з іх не ўказваецца канкрэтная дата, а называецца дзень памяці таго ці іншага святога, ці царкоўнае свята, на якое гэты дзень прыходзіцца, што дазваляе даведацца, у які дзень адбылася гэта падзея. Памінальныя надпісы не толькі фіксуюцца на сцяне, але і прывязваюцца да канкрэтнага свята, што можна расцаніць як зварот да канкрэтнага святога з просьбай аб памінанні.

У дачыненні да эпіграфічных помнікаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, хацелася б таксама адзначыць адзін з аспектаў – частотнасць ужывання антрапонімаў (імён людзей), выяўленых на гэтых крыніцах. Праблема антрапаніміі эпіграфічных помнікаў – сукупнасці імёнаў, зафіксаваных на помніках эпіграфікі, да гэтага часу не акрэслена належным чынам, нягледзячы на тое, што некаторыя з антрапонімаў не зафіксаваны, напрыклад, ні ў якіх крыніцах.

Да гэтага часу на тэрыторыі Беларусі знойдзена больш за 200 надпісаў, на якіх зафіксаваны 142 антрапонімы. Гэта значыць, што прыблізна на кожным другім помніку зафіксавана імя. Хаця, на самай справе, шмат якія з помнікаў не змяшчаюць імён, у той час як на другіх зафіксавана іх вялікая колькасць (напрыклад, на крыжы Ефрасінні Полацкай).

---

612 Медынцева, А. А. Грамотность… С. 44.

613 Там жа. – С. 47.

614 Чхаидзе, В. Н. Средневековые амфоры VIII–XIV вв. (история изучения) / В. Н. Чхаидзе // Рос. археология. – 2005. – № 2. – С. 67.

615 Медынцева, А. А. Грамотность…. С. 83–90.

616 Высоцкий, С. А. Древнерусские надписи… С. 1–239; Высоцкий, С. А. Средневековые надписи… С. 1–455; Медынцева, А. А. Грамотность… С. 1–290.

617 Яйленко, В. П. Древнерусские граффити… С. 153–161.

618 Никитина, Ю. И. Рисунки-граффити… С. 221.

Даволі значную групу эпіграфічных антрапонімаў можна падзяліць на дзве падгрупы: язычніцкія (хатнія) і хрысціянскія (хрысцільныя) імёны. Увогуле ўжыванне двайных імёнаў характэрна для сярэдневякоўя. Гэтая тэндэнцыя зафіксавана ў летапісах, сфрагістычных помніках. У аснове ўжывання двайных імёнаў ляжыць традыцыйнае славянскае называнне дзіцяці ў сувязі з нейкай прычынай або з'явай, наданнем нейкіх якасцей, напрыклад Траццяк, Няждан, Дабрыня і г. д. Хрысціянскае імя было абавязковым пры хрышчэнні, але яно было «іншамоўным»: грэчаскім, лацінскім, старажытнаяўрэйскім, і таму яго сэнс не заўсёды быў зразумелым. Гэта прыводзіла да паралельнага існавання двух імён.

На эпіграфічных помніках такія падвоеныя імёны могуць сустракацца разам. Напрыклад, у надпісе на крыжы Ефрасінні Полацкай – надпіс майстра Лазара-Богшы, на Рагвалодавым камяні – імя Васіля-Рагвалода. Аднак у малітоўным надпісы, у якім зафіксаваны гэтыя імёны, можа сустракацца і адно імя як хрысціянскае, так і язычніцкае: «Госпадзе, дапамажы рабу свайму Барысу», «Госпадзе, дапамажы рабу свайму Феодорові», але «Госпадзе, дапамажы рабе сваёй Недане». Аднак, нягледзячы на ўжыванне язычніцкага імя, гэтая формула – хрысціянская, і чалавек, які насіў яе, быў хрышчоны і ўпэўнены ў Божай дапамозе. Да вышэйпералічаных княжацкіх імёнаў Рагвалод, Барыс можна дадаць яшчэ імёны Уладзімір, Яраполк, таксама зафіксаваныя на помніках эпіграфікі. Да шэрагу мужчынскіх імёнаў можна дадаць таксама імёны Вараціша, Сулібор, Давыд, Тума, Мікула, Копесь, Пётр, Варышка, знойдзеныя на каменных эпіграфічных помніках, імя Авфоній, прачытанае на плінфе, а таксама Міхаіл, Проня (Прохар або Проў), Іван, Каленік (Каллінік), Федул, Семевон, Максім, Глеб. З жаночых імёнаў можна назваць вышэйзгаданае імя Недана, а таксама Ліла, Мар'я, Настасся, зафіксаваныя на прасліцах, а таксама Матрона, Саламаніда і імя па мужу (Кузьме) – Кузьміная, зафіксаваныя ў графіці. Два варыянты паходжання могуць быць у імя, якое нанесена на дзяржальну нажа з Драгічына Надбужнага – Ежко. Гэта або язычніцккае імя, або варыянт хрысціянскага імя Юрый.

Безумоўна, толькі хрысціянскія імёны нанесены на культавыя помнікі: іконкі, медальёны, крыжы, кадзіла. Гэтыя імёны могуць быць напісаны з дапамогай грэчаскага, стараславянскага або старажытнарускага («прастамоўнага») вымаўлення. Гэтая з'ява адлюстравана, напрыклад, на крыжы Ефрасінні Полацкай. Імёны святых запісаны як «Матфеос», «Лукос», «Маркос», «Георгиос», «Петрос», «Павлос», «Пантелеимон», «София», «Офросинья», «Ефросин» (Еўфрасіння), «Василии», «Иоанн», «Стефан», «Июда».

Іконкі, зробленыя высокапрафесійна, мелі перадумовай веданне іканаграфіі і пісьменнасць, таму і імёны на такіх вырабах запісаны пісьменна: «Гавриил», «Борис», «Николае» (Мікалай), «Димитри», «Феодор», «Георг», «Охрим», «Иоанн», «Феодот», «Павел», «Симеон». Аднак мясцовая вытворчасць прадметаў культу давала не толькі невысокі мастацкі ўзровень выканання, але і даволі непісьменныя надпісы: Мікалай – «Никола», «Нико», Матфей – «Мат».

Графіці змяшчаюць хрысціянскія імёны, але перарobленыя ў адпаведнасці з размоўнай традыцыяй.

Некаторая колькасць антрапонімаў змяшчаецца на амфарах цалкам і фрагментарна: Алексій, «Кос» – «Коснетин? Костетин?», «Ан» (магчыма, Антон, Андрэй).

На эпіграфіччных помніках Беларусі X–XIV стст. зафіксавана таксама арабскае імя Салім. У комплексе костак з гарадзішча Маскавічы, надпісы на якіх выкананы рунамі, некалькі разоў ужываюцца скандынаўскія імёны Оддзі і Гільётт.

Такім чынам, эпіграфічныя помнікі даюць інфармацыю, якая дапаўняе антрапанімічныя даныя іншых пісьмовых крыніц, а часам з'яўляюцца адзіным носьбітам інфармацыі аб імёнах, нідзе больш не зафіксаваных.

Відавочна, што эпіграфічныя помнікі, якія на сённяшні дзень былі маладаследаваным відам крыніц, дадаюць антрапанімічныя даныя іншых відаў пісьменных крыніц, а таксама часта з'яўляюцца адзіным носьбітам інфармацыі аб імёнах, нідзе больш не зафіксаваных.

Варта адзначыць, што з'яўленне першых чытабельных надпісаў супадае з часам развіцця гарадоў і княстваў-дзяржаў на ўсёй тэрыторыі Старажытнай Русі. Рост колькасці надпісаў: ад адзінкавых у X ст. – да росквіту іх у XII ст., на наш погляд, звязаны з характэрным для ўсіх княстваў перыядам раздробленасці. У перыяд X–XII стст. назіралася тэндэнцыя да ператварэння цэнтраў новых княстваў у багатыя і моцныя гарады, што было абумоўлена развітой рамеснай вытворчасцю, гандлем, наяўнасцю цэркваў як цэнтраў распаўсюджвання хрысціянскай культуры і пісьменнасці. Здаецца слушным, што ўзвышэнне агульнагарадской культуры дало вялікую колькасць эпіграфічных помнікаў менавіта ў XII ст. Помнікі эпіграфікі X ст. прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі, але з XI ст. у існаванні эпіграфічных помнікаў пачынаецца якасна новы этап, які ўмоўна можна падзяліць на два напрамкі. Па-першае, пісьменнасць пачынае распаўсюджвацца ў асяроддзі высокакваліфікаваных рамеснікаў, княжацкай дружыны. Ёсць таксама сведчанні жаночай і дзіцячай пісьменнасці. Па-другое, адначасова з гэтымі працэсамі адбываецца пашырэнне ўжывання пісьменнасці там, дзе яна традыцыйна існавала. Гэта сфера гандлю, дзяржаўных структур, рэлігіі.

Неабходна заўважыць, што амаль усе катэгорыі надпісаў маюць аналогіі сярод ім падобных, распаўсюджаных на тэрыторыі пражывання ўсходніх славян, асабліва па форме і змесце. Але ёсць і адрозненні, адметныя рысы, звязаныя з уплывам з суседніх тэрыторый і лакальнымі асаблівасцямі. Гэта праяўляецца, у прыватнасці, у моўных асаблівасцях графіці Спаса-Праабражэнскай царквы, якія сведчаць аб пачатку зараджэння беларускай мовы, а таксама ў асаблівасцях зместу графіці і форме напісання літар. У гэты час, нягледзячы на лакальныя адрозненні, эпіграфічныя помнікі маюць агульныя рысы з такімі ж помнікамі на ўсёй тэрыторыі Старажытнай Русі.

Параўнанне помнікаў эпіграфікі, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, з аналагічнымі помнікамі з усходнеславянскіх тэрыторый дазваляе зрабіць наступ-

ныя вывады: у перыяд з X да XII ст. назіраецца амаль поўная адпаведнасць як у відах помнікаў, так і ў іх надпісах, а таксама аналогіі ў імпартных рэчах з надпісамі, што сведчыць пра адзінства ўсходнеславянскіх народаў на гэтым этапе гістарычнага развіцця. У той жа час з XIII ст. назіраюцца адрозненні ў знешнім выглядзе, канструкцыях надпісаў і мове помнікаў, адсутнасць адных і наяўнасць іншых відаў помнікаў. Адсутнасць прынцыповых адрозненняў дазваляе меркаваць пра адзінства культур усходнеславянскіх народаў на гэтым этапе.

Такім чынам, эпіграфічныя помнікі як гістарычныя крыніцы не могуць даць вычарпальны адказ на ўсе пытанні гісторыі Беларусі, але з'яўляюцца сведчаннем існавання кірылічнай пісьменнасці ў перыяд з XI ст. і, у шэрагу выпадкаў, адзінымі звесткамі гістарычных падзей, каштоўным матэрыялам, які сведчыць аб распаўсюджанні хрысціянства і дваяверства, этнічным і сацыяльным складзе насельніцтва, дадатковымі звесткамі для разгляду гістарычных падзей, якія мелі месца на тэрыторыі Беларусі, сведчаннем асаблівасцей мовы тагачаснага насельніцтва. Эпіграфічныя помнікі неаднародныя па каштоўнасці і інфарматыўнасці, але іх выкарыстанне ў якасці гістарычных крыніц правамерна і апраўдана.

Падрабязны разгляд эпіграфічных помнікаў дае ўяўленне аб тым, што яны вельмі разнастайныя па сваім знешнім выглядзе, матэрыяле, які быў выкарыстаны для напісання, а таксама па каштоўнасці і інфарматыўнасці. Некаторыя з помнікаў з'яўляюцца адзіным сведчаннем аб падзеі, якая адбывалася ў той час, іншыя помнікі знаходзяцца ў шэрагу аднатыпных. Адны з помнікаў змяшчаюць разгорнуты чытальны надпіс, іншыя – фрагментарны або складана чытальны надпіс. Так, напрыклад, адзінкавыя літары не паведамляюць аб канкрэтнай гістарычнай падзеі, але даюць уяўленне аб стане пісьменнасці сярод пэўных слаёў насельніцтва. Аднак кожны помнік можна разглядаць як самастойную гістарычную крыніцу, якая дае ўяўленне не толькі аб канкрэтных гістарычных падзеях, але і аб працэсах і з'явах, якія мелі месца на тэрыторыі Беларусі ў X–XIV стст. Менавіта гэта ўласцівасць эпіграфічных помнікаў адрознівае іх ад летапісных крыніц.

Эпіграфічныя помнікі з'яўляюцца вельмі неаднароднымі па відах, памерах, матэрыяле, змесце і інфарматыўнасці надпісаў, але падрабязнае іх вывучэнне дало магчымасць зрабіць высновы аб тым, што помнікі эпіграфікі з'яўляюцца каштоўнымі самастойнымі крыніцамі, якія паведамляюць не столькі канкрэтныя факты, колькі звесткі аб працэсах і з'явах, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў X–XIV стст.

Большасць звестак тычацца развіцця культуры. Эпіграфічныя помнікі – гэта ў першую чаргу помнікі пісьменнасці і яны даюць каштоўныя звесткі аб ўзроўні развіцця пісьменнасці ў насельніцтва тагачаснай Беларусі. Пацвярджаецца існаванне пісьменнасці рамеснікаў, купцоў, жанчын і дзяцей. Такім чынам, росквіт гарадской культуры праявіўся, у тым ліку, і ў існаванні пісьменнасці сярод розных слаёў насельніцтва. Сярод іх, безумоўна, прадстаўнікі

ўлады і духавенства, але ў гэты спіс можна ўключыць і рамеснікаў, асабліва высокакваліфікаваных, купцоў. Такім чынам, існаванне пісьменнасці сярод гэтых слаёў насельніцтва было звязана з бытавымі патрэбамі. Аб стане яе распаўсюджання можна меркаваць па наступным: пісьменнасць не мела вельмі шырокага распаўсюджання, і, у той жа час, яна не была прыкметай вузкага абмежаванага кола людзей.

Эпіграфічныя помнікі з'яўляюцца вызначальным індыкатарам працэсу хрысціянізацыі тэрыторыі Беларусі. Малітоўныя надпісы сустракаюцца не толькі на прадметах культу, але і на бытавых прадметах, гаспадарчых прыладах. Сярод прадметаў культу з цягам часу з'яўляецца ўсё больш рэчаў, выкананых мясцовымі рамеснікамі, аб чым сведчыць мастацкі ўзровень выканання і некананічнасць надпісаў. Відавочна, што працэс прыняцця хрысціянства даў штуршок для распаўсюджвання эпіграфічных помнікаў у трох напрамках.

Па-першае, прыняцце хрысціянства дало моцны імпульс для распаўсюджвання пісьменнасці сярод розных слаёў насельніцтва. Да пісьменных сталі далучацца жанчыны і дзеці. Спецыфічныя прылады для прадзіва – прасліцы – сведчаць пра існаванне жаночай пісьменнасці. Нягледзячы на тое, што надпіс на прасліца магла наносіць не сама жанчына, яна павінна была ўмець яго прачытаць. Дзіцячая пісьменнасць пацвярджаецца надпісамі на прасліцах і прыладах для гульні: костках і жужалцы. Катэгорыя азбучных надпісаў сведчыць аб «неафітах», якія вучыліся пісьму і імкнуліся пакінуць на розных паверхнях хаця б пачатак алфавіта, які даволі добра ведалі. Але вызначыць узрост, палавую прыналежнасць таго, хто пісаў, у большасці выпадкаў складана.

Па-другое, працэс хрысціянізацыі знайшоў сваё адлюстраванне ў мясцовай вытворчасці прадметаў культу. Калі ў XII ст. гэта, у асноўным, прывазныя рэчы, то з XIII ст. – прадметы мясцовай рамеснай вытворчасці, на карысць чаго сведчаць «простанароднасць», схематызм вобразаў і не заўсёды пісьменныя надпісы, якія праявіліся, у прыватнасці, на іконах святога Мікалая. Такія яскравыя рысы сведчаць не толькі пра перапыненне імпарту з кіеўскіх тэрыторый, але і пра шырокі попыт на культавыя вырабы, што ўказвае на пашырэнне хрысціянства.

Па-трэцяе, на карысць пранікнення хрысціянскага светапогляду сведчыць з'яўленне малітоўных надпісаў на некультавых, бытавых, прадметах: прасліцах, посудзе. Малітоўныя надпісы на рэчы маглі наносіць толькі людзі, упэўненыя ў іх дзейнасці. Паступовае знікненне малітоўных надпісаў на бытавых прадметах, якія наносіліся для знешняй дэманстрацыі прыналежнасці да хрысціянства, сведчыць на карысць ***евангелізацыі*** грамадства, больш глыбокага ўкаранення хрысціянства.

Адначасова з распаўсюджаннем хрысціянства назіраецца захаванне язычніцкіх вераванняў, што праявілася ў існаванні амулетаў-змеевікоў, а таксама ў выкарыстанні двайных (хрысціянскага і хатняга) імёнаў (Лазар-Богша) і ўжыванні нехрысціянскіх імёнаў (Недана) у хрысціянскіх малітоўных формулах «Госпадзі дапамажы рабе сваёй…». Гэтыя факты з'яўляюцца важным пацвярджэннем існавання дваяверства.

Эпіграфічныя помнікі з'яўляюцца рэчамі, характэрнымі для гарадской культуры. Да нашага часу ў Беларусі ніводнага эпіграфічнага помніка не было знойдзена на сельскім паселішчы. Усе яны былі адкрыты на тэрыторыі гарадоў ці феадальных сядзіб. Прысутнасць помнікаў эпіграфікі на паселішчах гарадскога тыпу і феадальных сядзібах абумоўлена іх сувяззю з гарадской культурай. Такім чынам, эпіграфічныя помнікі могуць з'явіцца ў шэрагу вызначальных знаходак пры спрэчных пытаннях вызначэння тыпу паселішча. Шматлікія з эпіграфічных помнікаў трапляюць на тэрыторыю Беларусі ў выніку гандлёвых сувязей. Эпіграфічныя помнікі з арабскімі, лацінскімі, грэчаскімі надпісамі з'яўляюцца імпартнымі, прывазнымі рэчамі. Сярод іх – зброя, прадметы культу, упрыгажэнні. Надпісы на такіх прадметах маглі ўспрымацца як элемент дэкору ці як гарант якасці. Надпісы на гэтых імпартных прадметах не кірылічныя, у той час як астатнія надпісы (за выключэннем маскавіцкіх), знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі, выкананы на старажытнарускай мове.

Такія эпіграфічныя помнікі, як Барысавы камяні, даюць інфармацыю аб існаванні ў Полацкім княстве цэнтралізаванай улады і дзейнасці княжацкай адміністрацыі. Без яе існавання было б немагчыма адначасовае нанясенне падобных надпісаў на некалькі камянёў разам.

Эпіграфічныя помнікі таксама даюць цікавую інфармацыю аб розных этнічных групах у складзе насельніцтва, якое пражывала на тэрыторыі сярэдневяковай Беларусі. Перыяд X–XIV стст. багаты на ваенныя канфлікты, што вымушала ўмацоўваць свае межы. Прыкладам таму з'яўляецца наяўнасць вараскага гарнізона Маскавічы на перыферыйных землях Полацкага княства, аб чым сведчыць комплекс костак з рунічнымі надпісамі. Прысутнасць усходніх славян на іншых тэрыторыях фіксуецца знаходкамі эпіграфічных помнікаў з кірылічнымі надпісамі (Драгічын Надбужны, Дрысвяты). Ускоснае сведчанне з'яўлення ў Полацку татарскага насельніцтва – камень з татарскім кірылічным надпісам. Такім чынам, прысутнасць таго ці іншага этнасу на пэўнай тэрыторыі пацвярджаецца эпіграфічнымі помнікамі.

Кірылічныя надпісы на прадметах, знойдзеных на перыферыйных месцах пражывання ўсходніх славян, пацвярджаюць межы іх рассялення. Акрамя таго, эпіграфічныя помнікі даюць уяўленне аб розных сацыяльных групах у складзе насельніцтва.

Часам эпіграфічныя помнікі ўдакладняюць розныя звесткі. Так, надпіс на амфары з Пінску ўдакладніў сведчанні летапісу аб вяселлі князя Яраполка. Надпіс на прасліцы, разам з іншымі характэрнымі прадметамі, дазволіў дакладна вызначыць месцазнаходжанне княжацкага церама ў Друцку. Знаходка абразка-літыка ўдакладняе звесткі аб падарожжы Войшалка ў Святую зямлю.

Вышэйадзначаным магчыма растлумачыць такі ўсплёск колькасці эпіграфічных помнікаў, датуемых XII ст., у параўнанні з папярэднімі стагоддзямі. Роскві́т існавання эпіграфічных помнікаў, які мае месца ў XII ст., назіраецца і ў XIII ст., але колькасць эпіграфічных помнікаў памяншаецца, а шмат якія катэгорыі помнікаў з надпісамі знікаюць зусім. На наш погляд, памяншэнне колькасці эпіграфічных помнікаў адбываецца па некалькіх прычынах.

Па-першае, гэта звязана з палітычнымі і эканамічнымі працэсамі, якія маюць месца ў гэты час. Так, у сувязі з татара-мангольскім нашэсцем парываюцца многія эканамічныя сувязі. Назіраецца эканамічны заняпад. Пэўныя катэгорыі ўсходніх імпартных рэчаў, а таксама рэчаў, якія падпісваліся на месцы, але па сваім паходжанні былі імпартнымі, знікаюць. Гэта датычыцца амфар, прасліцаў, некаторых відаў культавых вырабаў. У той жа час імпартныя падпісныя рэчы з Заходняй Еўропы працягваюць паступаць на землі Беларусі. Унутры- і знешнепалітычныя канфлікты аслабляюць становішча ўнутры краіны, што таксама адбіваецца на колькасці эпіграфічных помнікаў у гэты час.

Па-другое, памяншэнне колькасці эпіграфічных помнікаў з добрапажадальнымі надпісамі і павелічэнне мясцовых культавых вырабаў з надпісамі, на наш погляд, было звязана не з дэхрысціянізацыяй светапогляду, а з заменай хрысціянізацыі на евангелізацыю ў светапоглядзе грамадства.

Па-трэцяе, памяншэнне колькасці эпіграфічных помнікаў было абумоўлена з'яўленнем паперы. Яе першыя віды выкарыстоўваліся ў Заходняй Еўропе ўжо ў XII ст. Яна стала шырока ўжывацца з XIV ст. Папера, безумоўна, з'яўлялася больш танным за пергамент матэрыялам. Такім чынам, надпісы, якія наносіліся для дэманстравання пісьменнасці або ў працэсе навучання пісьму, прасцей было наносіць на паперу, а не на прадметы, не прызначаныя для пісьма.

Павелічэнне колькасці эпіграфічных помнікаў характэрна для некаторых іх відаў пасля XIV ст. Гэта датычыцца графіці на сценах Спаса-Праабражэнскай царквы. Іх з'яўленне абумоўлена хутчэй жаданнем пакінуць аўтограф, чым малітоўны надпіс. Безумоўна, эпіграфічныя помнікі існавалі і ў больш позні час. Аднак яны прадстаўлены адзінкавымі знаходкамі, надмагільнымі камянямі і пэўнай колькасцю кірылічных і лацінамоўных графіці ў Спаса-Праабражэнскай царкве г. Полацка.

Такім чынам, эпіграфічныя помнікі з'яўляюцца крыніцамі, якія ўдакладняюць пытанні хрысціянізацыі і існавання дваяверства, этнічнага і сацыяльнага складу насельніцтва, гісторыі эканомікі і гісторыі культуры. Такія крыніцы, як помнікі эпіграфікі, не могуць даць вычарпальны адказ на ўсе пытанні гісторыі Беларусі, але яны з'яўляюцца адлюстраваннем некаторых гістарычных працэсаў, удакладняюць шэраг гістарычных з'яў у жыцці грамадства, а часам з'яўляюцца адзінымі сведкамі пэўных гістарычных падзей.

# ЛІТАРАТУРА


1. *Алексеев, Л. В.* Археология и краеведение Белоруссии XVI – 30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев; под ред. Б. А. Рыбакова. – Минск: Беларус. навука, 1996. – 206 с.

2. *Алексеев, Л. В.* Древний Мстиславль в свете археологии / Л. В. Алексеев // Гіст.-археал. зб. – 1995. – № 6. – С. 118–182.

3. *Алексеев, Л. В.* Друцк в XII–XVI вв. / Л. В. Алексеев // Рос. археология. – 2002. – № 2. – С. 81–98.

4. *Алексеев, Л. В.* Еще три шиферных пряслица с надписями / Л. В. Алексеев // Сов. археология. – 1959. – № 2. – С. 242–245.

5. *Алексеев, Л. В.* Крест – хранитель Всея Вселенныя / Л. В. Алексеев, Т. И. Макарова, Н. П. Кузьмич. – Минск: Вестник Бел. Экзархата, 1996. – 126 с.

6. *Алексеев, Л. В.* Лазарь Богша – мастер-ювелир XII в. / Л. В. Алексеев // Сов. археология. – 1957. – № 3. – С. 218–244.

7. *Алексеев, Л. В.* Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии в IX–XIII вв.) / Л. В. Алексеев. – М.: Наука, 1966. – 295 с.

8. *Алексеев, Л. В.* Три пряслица с надписями из Белоруссии / Л. В. Алексеев / Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М.; Л., 1955 г. – Вып. 57. – С. 129–132.

9. *Аляксееў, Л. В.* Старажытны Друцк / Л. В. Аляксееў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1973. – № 3. – С. 16–23.

10. *Археалогія* і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. / Беларус. энцыкл.; рэдкал.: В. В. Гетаў [і інш.]. – Мінск: БелЭн, 1993. – 702 с.

11. *Археология* СССР. Древняя Русь. Город, замок, село. – М.: Наука, 1985. – 421 с.

12. *Археология* СССР. Древняя Русь. Быт и культура. – М.: Наука, 1997. – 368 с.

13. *Баба* // Срезневский, И. И. Словарь древнерусского языка: в 3 т. / И. И. Срезневский. – М., 1989. – Ч. 1. – С. 35–36.

14. *Белорусские* древности: (Сведения о памятниках старины) / А. М. Сементовский. – Вып. 1. – СПб.: Типолитогр. Н. Стефанова, 1980. – 136 с.

15. *Большаков, А. М.* Вспомогательные исторические дисциплины / А. М. Большаков. – Тверь: Октябрь, 1923. – 244 с.

16. *Большаков, А. М.* Вспомогательные исторические дисциплины / А. М. Большаков. – Л.: Изд-во И. П. Сойкина, 1924. – 244 с.

17. *Бохан Ю. М.* Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. / Ю. М. Бохан. – Мінск: УП «Экаперспектыва», 2002. – 335 с.

18. *Бубенько, Т. С.* Исследования в Витебске / Т. С. Бубенько // Сб. статей / Акад. наук СССР, Ин-т археологии. – М., 1985. – Археологические открытия 1983 года. – С. 382–383.

19. *Бубенько, Т. С.* Средневековый Витебск: посад – Нижний замок (X – 1-я половина XIV в.) / Т. С. Бубенько. – Витебск: Изд-во Витеб. гос. ун-та, 2004. – 276 с.

20. *Булкин, В. А.* Отчет о работе архитектурно-археологической экспедиции в 1977 г. / В. А. Булкин, П. А. Раппопорт // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 574.

21. *Булкин, В. А.* Надписи на камне из храма Софии в Полоцке / В. А. Булкин, Т. В. Рождественская // Памятники культуры. Новые открытия 1982 г. – Л., 1984. – С. 7–12.

22. *Варонін, В. А.* Звесткі пра Барысаў камень з першай паловы XVI ст. / В. А. Варонін // Гіст.-археал. зборнік. – 2000. – № 15. – С. 126–127.

23. *Воронин, Н. Н.* Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932–1949 гг.) / Н. Н. Воронин. – М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1954. – 239 с. – (МИА СССР. – № 41. – Т. 3).

24. *Высоцкий, С. А.* Древнерусские надписи Софии Киевской / С. А. Высоцкий. – Киев: Наук. думка, 1966. – 239 с.

25. *Высоцкий, С. А.* Средневековые надписи Софии Киевской (по материалам граффити XI–XVII вв.) / С. А. Высоцкий. – Киев: Наук. думка, 1976. – 455 с.

26. *Гісторыя* Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.). – Мінск: Экаперспектыва, 2000–2005. – Т. 1: Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / М. Чарняўскі [і інш.). – 2000. – 351 с.

27. *Гліньнік, В.* Калажанскія графіці з XIII ст. / В. Гліньнік, І. Залілов // Гіст.-археал. зб. – 1996. – № 8. – С. 85–88.

28. *Голубович, В. И.* Новые материалы по истории Гродно в раннефеодальную эпоху / В. И. Голубович, Е. А. Цегак-Голубович // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 44.

29. *Груша, А. І.* Беларуская кірылічная палеаграфія: вучэб. дапам. для студэнтаў гіст. фак. / А. І. Груша. – Мінск: БДУ, 2006. – 142 с.

30. *Грамота* из Новгорода № 955 (XII в.) [Электронный ресурс] / Обсценная лексика в берестяных грамотах / Википедия. – Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/. – Дата доступа: 23.10.2007.

31. *Гуревич, Ф. Д.* Восточное стекло в Древней Руси / Ф. Д. Гуревич, Р. М. Джанполадян, М. В. Малевская. – Л.: Наука, 1968. – 26 с.

32. *Гуревич, Ф. Д.* Грамотность горожан древнерусского Понеманья / Ф. Д. Гуревич // Крат. сообщ. Ин-та исслед. матер. культуры. – М., 1973. – Вып. 135: Славяно-русские древности. – С. 28–35.

33. *Гуревич, Ф. Д.* Древний Новогрудок: Посад – окольный город / Ф. Д. Гуревич. – Л.: Наука, 1981. – 159 с.

34. *Гуревич, Ф. Д.* Итоги работ Новогрудской экспедиции / Ф. Д. Гуревич [и др.] // Сб. ст. / АН СССР, Ин-т археологии. – М., 1971. – Археол. открытия 1970 года. – С. 311–312.

35. *Гуревич, Ф. Д.* Отчет о работе Новогрудской экспедиции в 1970 г. / Ф. Д. Гуревич // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 370.

36. *Гурэвіч, Ф. Д.* Каму належаў абразок-літык? / Ф. Д. Гурэвіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1982. – № 3 (51). – С. 42–43.

37. *Гурэвіч, Ф. Д.* Летапісны Новгородок: Старажытнарускі Наваградак / Ф. Д. Гурэвіч. – СПб.: РДК-принт; Навагрудак, 2003. – 323 с.

38. *Гурэвіч, Ф. Д.* На дзядзінцы і вакольным горадзе / Ф. Д. Гуревич // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1986. – № 3 (67). – С. 20–21.

39. *Даркевич, В. П.* Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе (X–XIV вв.) / В. П. Даркевич. – М.: Наука, 1966. – 148 с.

40. *Даркевич, В. П.* Раскопки на Южном Городище Старой Рязани / В. П. Даркевич // Археология рязанской земли: сб. ст. / Ин-т археологии АН СССР; редкол. – М., 1975. – С. 19–72.

41. *Джаксон, Т. Н.* Полоцк в древнескандинавской письменности // История и археология Полоцка и полоцкой земли: к 1125-летию Полоцка: докл. конф. / Ин-т истории АН БССР, Полоц. ист.-археол. заповедник; сост. Т. А. Джумантаева. – Полоцк, 1987. – С. 17–18.

42. *Дзярновіч, С. Д.* Сувязі Полацка са Скандынавіяй у эпоху вікінгаў / С. Д. Дзярновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 38–43.

43. *Древнерусские* города в древнескандинавской письменности: Тексты, перевод, комментарий / Г. В. Глазырина, Т. Н. Джаксон. – М.: Наука, 1987. – 206 с.

44. *Дубоўская, Т.* Сістэматызацыя культавай дробнай пластыкі са збору Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі / Т. Дубоўская // Музейны веснік. – 2003. – Вып. 1. – С. 11–17.

45. *Дучиц, Л. В.* Надписи и знаки на костях с городища Масковичи / Л. В. Дучиц, Е. А. Мельникова // Сб. ст. / АН СССР, Ин-т истории. – М., 1981. – Древнейшие государства на территории СССР. Мат-лы и исследования. – С. 185–216.

46. *Дучиц, Л. В.* Отчет о полевом сезоне 1986 г. группы по изучению раннего средневековья в среднем течении бассейна Западной Двины / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1987. – Д. 655.

47. *Дучиц, Л. В.* Отчет о полевых исследованиях 1976 г. / Л. В. Дучиц // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – 1977. – Д. 543.

48. *Дучиц, Л. В.* Этнический состав населения северо-запада полоцкого княжества / Л. В. Дучиц // История и археология Полоцка и Полоцкой земли: материалы науч. конф., посв. 1125-летию Полоцка / Ин-т истории АН БССР, Полоц. ист.-археол. заповедник; сост. Т. А. Джумантаева. – Полоцк, 1987. – С. 19–20.

49. *Дучыц, Л. У.* Барысавы камяні (гістарыяграфічны агляд) / Л. У. Дучыц // Вес. акад. навук БССР. Сер. грамад. навук. – 1985. – № 4. – С. 69–73.

50. *Дучыц, Л. У.* Браслаўскае паазер'е ў IX–XIV стст. / Л. У. Дучыц. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 120 с.

51. *Дучыц, Л. У.* Культавыя камяні Беларусі як гістарычная крыніца / Л. У. Дучыц // Час, помнікі, людзі. Памяці рэпрэсаваных археолагаў: Тэзісы дакладаў міжнар. канф., Мінск 27–30 кастр. 1993 г. / Ін-т гісторыі АН Беларусі, Беларус. асацыяцыя ахвяраў паліт. рэпрэсій; адк. рэд. В. Вяргей [і інш.]. – Минск, 1993. – С. 33–36.

52. *Егорейченко, А. А.* Раскопки городища Ратюнки / А. А. Егорейченко // Сб. ст. / РАН, Ин-т археологии. – М., 2003. – Археологические открытия 2002 года. – С. 460–461.

53. *Загорульский, Э. М.* Вищинский замок XII–XIII вв. / Э. М. Загорульский. – Минск: БГУ, 2004. – 159 с.

54. *Загорульский, Э. М.* Возникновение Минска / Э. М. Загорульский. – Минск: Изд-во БГУ, 1982. – 358 с.

55. *Зализняк, А. А.* Древненовгородский диалект / А. А. Зализняк. –2-е изд. – М.: Языки славян. культуры, 2004. – 720 с.

56. *Записка* для обозрения русских древностей. – СПб.: Типогр. Якова Трея. – 1851. – 80 с.

57. *Заяц, Ю. А.* Заславль в эпоху феодализма / Ю. А. Заяц. – Минск: Навука і тэхніка, 1995. – 207 с.

58. *Зверуго, Я. Г.* Верхнее Понеманье в XI–XIII вв. / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1989. – 208 с.

59. *Зверуго, Я. Г.* Древний Волковыск (X–XIV вв.) / Я. Г. Зверуго. – Минск: Наука и техника, 1975. – 144 с.

60. *Зверуго, Я. Г.* О строительном материале храма XII в. на волковысском Замчище / Я. Г. Зверуго // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии / Ин-т истории АН БССР; под ред. Я. Г. Зверуго, В. Ф. Исаенко. – Минск, 1969. – С. 153–161.

61. *Ильин, А. А.* Топография кладов серебряных и золотых слитков / А. А. Ильин. – П.: Гос. изд-во, 1921. – 62 с.

62. *Ипатьевская* летопись (Полн. собр. русских летописей. Т. 2). – 2-е изд. – М.: Языки славян. культуры? 2001. – 648 с., разд. паг.

63. *Историческое* краеведение Белорусии: учеб. пособие / А. Н. Ваганова [и др.]; под общ. ред. Э. М. Загорульского. – Минск: Изд-во БГУ, 1980. – 264 с.

64. *Калечыц, І., Башкоў, А.* Похвы з Пінска як эпіграфічны помнік / І. Калечыц // Моладзь Берасцейшчыны: зб. студ. навук. прац / Брэсц. дзярж. ун-т; пад рэд. І. І. Акінчыц. – Брэст, 2003. – С. 144–145.

65. *Калечыц, И. Л.* Выявы галгофскіх і праквітнеўшых крыжоў на каменных эпіграфічных помніках XII–XVIII стст. / І. Л. Калечыц // Гіст.-археал. зб. – 2006. – № 22 – С. 238–245.

66. *Калечыц, І. Л.* Графіці X–XIV стст. у Спаса-Праабражэнскай царкве ў Полацку / І. Л. Калечыц // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 3. – С. 37–45.

67. *Калечыц, І. Л.* Праблемы фіксацыі эпіграфічных помнікаў / І. Л. Калечыц // Гіст.-археал. зб. – 2007. – № 23. – С. 61–65.

68. *Калядзінскі, Л. У.* Пісьменнасць у гарадах Беларусі X–XIII стст. / Л. У. Калядзінскі // Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя: матэрыялы міжнар. кангрэса, Мінск, 20–21 кастр.

1998 г. / М-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь, Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; адк. рэд. У. А. Васілевіч [і інш.). – Мінск, 1998. – С. 108–111.

69. *Калядзінскі, Л. У.* Мар'іна праселка / Л. У. Калядзінскі // Беларусь. – 1986. – № 8. – С. 32.

70. *Караткевіч, У. С.* Зямля пад белымі крыламі / У. С. Караткевіч. – 2-е выд. – Мінск: Нар. асвета, 1992. – 192 с.

71. *Каробушкіна, Т. М.* Тураўскае пісьменства / Т. М. Каробушкіна // Беларус. мінуўшчына. – 1996. – № 4. – С. 76–78.

72. *Каробушкіна, Т. М.* Насельніцтва Беларускага Пабужжа X–XIII стст. / Т. М. Каробушкіна. – Мінск: Беларус. навука, 1999. – 128 с.

73. *Карский, Е. Ф.* Славянская кирилловская палеография / Е. Ф. Карский. – М.: Наука, 1979. – 494 с.

74. *Катлярчук, А.* Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў / А. Катлярчук. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. – 272 с.

75. *Кеппен, П. И.* Список русским памятникам, служащим к составлению истории художеств и отечественной палеографии / П. И. Кеппен. – М.: Изд. Ф. А. Толстого. – разд. паг.

76. *Книга* о церкви / А. Лоргус [и др.]; под общ. ред. А. Сидорова. – 2-е изд. – М.: Паломник, 2000. – 380 с.

77. *Колчин, Б. А.* Усадьба новгородского художника XII века / Б. А. Колчин, А. С. Хорошев, В. Л. Янин; под ред. Б. А. Рыбакова – М.: Наука, 1981. – 168 с.

78. *Кошман, В. І.* Гарадзішча Капланцы / В. І. Кошман // Гіст.-археал. зб. – 2002. – № 17. – С. 201–211.

79. *Куль-Сільверстава, С. Я.* Беларуская палеаграфія вучэб. дапам. для студэнтаў / С. Я. Куль-Сяльверстава. – Гродна: ГрГу, 1996. – 104 с.

80. *Левко, О. Н.* Друцк и друцкая волость / О. Н. Левко // Древнему Друцку 1000 лет: материалы 6-й науч.-практ. конф. / Ин-т истории НАН Беларуси [и др.]; науч. ред. О. Н. Левко. – Витебск, 2001. – С. 5–13.

81. *Левко, О. Н.* Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: формирование и развитие / О. Н. Левко. – Минск: Беларус. навука, 2004. – 280 с.

82. *Лепахин, В. В.* Икона и иконичность / В. В. Лепахин. – 2-е изд. перераб. и доп. – СПб.: Б. и., 2002. – 399 с.

83. *Летописный* сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью (Полн. собр. русских летописей. Том XIII). – М.: Языки рус. культуры, 2000. – 544 с., разд. паг.

84. *Лысенко, П. Ф.* Берестье / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1985. – 399 с.

85. *Лысенко, П. Ф.* Древний Пинск XI–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – Минск: БелАДИ, 1997. – 192 с.

86. *Лысенко, П. Ф.* Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. – Минск: Наука и техника, 1989. – 159 с.

87. *Лысенко, П. Ф.* Раскопки древнего Берестья / П. Ф. Лысенко // Сб. ст. / АН СССР, Ин-т археологии. – М., 1971. – Археологические открытия 1970 года. – С. 315–316.

88. *Лысенко, П. Ф.* Сказание о Турове / П. Ф. Лысенко. – Минск: Белорус. наука, 2006. – 118 с.

89. *Лысенко, П. Ф.* Туровская земля IX–XIII вв. / П. Ф. Лысенко. – М., 2001. – 266 с.

90. *Лысенко, П. Ф.* Шиферное пряслице с надписью из Пинска / П. Ф. Лысенко // Сов. археология. – 1966. – № 3. – С. 248–251.

91. *Макушников, О. А.* Гомель с древнейших времен до конца XVIII века. Историко-краевед. очерк / О. А. Макушников. – Гомель: РУП Центр науч.-техн. и делов. информ., 2002. – 244 с.

92. *Макушников, О. А.* Памятники эпиграфики и сфрагистики из летописного Гомия / О. А. Макушников // Гіст.-археал. зб. – 2000. – № 5. – С. 73 –75.

93. *Малевская, М. В.* Амфоры Новогрудка XII–XIII вв. / М. В. Малевская // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии, февр. 1970 г. / АН БССР; под ред. Я. Г. Зверуго, В. Ф. Исаенко. – Минск, 1969. – С. 153–161.

94. *Малевская, М. В.* Амфора с надписью из Новогрудка / М. В. Малевская // Сов. археология. – 1962. – № 4. – С. 238–241.

95. *Медынцева, А. А.* Грамотность в Древней Руси (По памятникам эпиграфики X – первой половины XIII века) / А. А. Медынцева. – М.: Наука, 1998. – 290 с.

96. *Медынцева, А. А.* Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора XI–XVI веков / А. А. Медынцева. – М.: Наука, 1978. – 311 с.

97. *Мельникова, Е. А.* Культурная ассимиляция скандинавов на Руси по данным языка и письменности / Е. А. Мельникова // Труды междунар. конгресса славян. археологии, Новгород, 26–31 августа 1996 г.: в 5 т. / Рос. акад. наук, Ин-т археологии; отв. ред. В. В. Седов. – М., 1998. – Т. 4: Общество, экономика, культура и искусство славян. – С. 135–143.

98. *Мельникова, Е. А.* Скандинавские рунические надписи: Новые находки и интерпретации. Тексты, перевод, комментарий / Е. А. Мельникова. – М.: Вост. лит. РАН, 2001. – 496 с.

99. *Мельникова, Е. А.* Новые находки скандинавских рунических надписей на территории СССР / Е. А. Мельникова, М. В. Седова, Г. В. Штыхов // Сб. науч. ст. – М., 1983. – Древнейшие государства на территории СССР. 1981. – С. 182–188.

100. *Можейко, Н. С.* Древнерусский язык: учеб. пособие для ист. фак. ун-тов и пед. ин-тов. – 3-е изд., доп. / Н. С. Можейко, А. П. Игнатенко. – Минск: Высш. школа, 1988. – 254 с.

101. *Монгайт, А. Л.* Рязанская земля / А. Л. Монгайт. – М.: Изд-во АН СССР, 1961. – 400 с.

102. *Мусин, А. Е.* Milites Christi Древней Руси. Воинская культура средневековья в контексте религиозного менталитета / А. Е. Мусин. – СПб.: Петерб. востоковедение, 2005. – 368 с.

103. *Никитина, Ю. И.* Рисунки-граффити из Софии Киевской / Ю. И. Никитина // Сов. археология. – 1990. – № 3. – С. 220–232.

104. *Николаева, Т. В.* Древнерусская мелкая пластика из камня XI–XV вв. / Т. В. Николаева. – М.: Наука, 1983. – 163 с. – (САИ, Е1–60).

105. *Нікалаева, Т. В.* Скарбы мастацтва / Т. В. Нікалаева // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. – 1972. – № 1. – С. 59–60.

106. *Новгородские* грамоты на бересте / В. Л. Янин, А. А. Зализняк, А. А. Гиппиус // Рос. акад. наук, отд-ние истории. – М., 2004. – 286 с. – Т. 11: Из раскопок 1997–2000 гг.

107. *Новосёлов, Н. В.* От Благовещения до Благовещения: Строительное производство Новгородской земли в период сложения местной архитектурной школы / Н. В. Новосёлов. – СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2002. – 196 с.

108. *Орлов, А. С.* Библиография русских надписей XI–XV вв. / А. С. Орлов. – М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1936. – разд. паг.

109. *Орлов, А. С.* Библиография русских надписей (доп. М. П. Сотниковой) / А. С. Орлов. – М.: Изд-во АН СССР, 1952. – 239 с.

110. *Происхождение* русской обсценной лексики [Электронный ресурс] / Обсценная лексика / Википедия. – Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/. – Дата доступа: 23.10.2007.

111. *Очерки* по археологии Белоруссии: в 2 ч. / под ред. Г. В. Штыхова, Л. Д. Поболя. – Минск: Наука и техника, 1972. – Ч. 2. – 248 с.

112. *Петрухин, В. Я.* Об особенностях славяно-скандинавских отношений в раннефеодальный период / В. Я. Петрухин // Сб. науч. ст. – М., 1983. – Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования. 1981. – С. 174–181.

113. *Пех, Г. И.* Отчет о работе Слонимской археологической экспедиции с 08.06.1959 г. по 27.07.1959 г. / Г. И. Пех // НАА ГНУ ИИ НАН Беларуси. – Д. 134.

114. *Пех, Г. И.* Раскопки древнего Слонима / Г. И. Пех // Древности Белоруссии: мат-лы конф. по археологии Белоруссии и смежных территорий / АН БССР, Отд-ние общественных наук, Ин-т истории; под ред. В. Ф. Исаенко [и др.]. – Минск, 1966. – С. 278–279.

115. *Поболь, Л. Д.* Древнерусский меч из Полоцка / Л. Д. Поболь. – Вес. акад. навук БССР. Сер. грамад. навук. – 1960. – № 1. – С. 150 –151.

116. *Полный* православный молитвослов на всякую потребу. –2-е изд. – СПб.: О-во святителя Василия Великого, 1999. – 688 с.

117. *Полный* церковно-славянский словарь. – М.: Отчий дом, 2000. – 1120 с. (Репринтное воспроизведение издания 1900 г.)

118. *Псалтирь.* – М.: Междунар. издат. центр правосл. лит., 1995. – 254 с.

